УДК 94(476)“1939”(082)
ББК 63.3(4Беи)622я43
В76

Навуковы рэдактар:
доктар гістарычных навук *Аляксандр Смалянчук*.

Рэцэнзенты:
доктар гістарычных навук, прафесар *Захар Шыбека*,
доктар гістарычных навук, прафесар *Вячаслаў Швед*,
доктар гістарычных навук *Аляксандр Краўцэвіч*.

На вокладцы выкарыстаны фотаздымак Юліі Ваўчок:
*Барысевіч Лідзія Іларыёнаўна (1912 г. н.) і Ірына Раманава*
*падчас інтэрв'ю 08.07.2012 г. (в. Губіна, Лепельскі р-н, Віцебская вобл.).*

В76 **Восень** 1939 года ў гістарычнай традыцыі і вуснай гісторыі / Пад рэд. д-ра гіст. н. А. Смаленчука. – Мінск : Зміцер Колас, 2015. – 288 с., [8] л. іл. : іл.
ISBN 978-985-6992-61-5.

Асновай зборніка сталі матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі, прысвечанай адлюстраванню падзеяў восені 1939 г. у вуснай гісторыі, а таксама ў даследаваннях апошняга часу, заснаваных на архіўных крыніцах. Падрыхтаваныя даследчыкамі тэксты прапануюць яшчэ раз задумацца пра значэнне падзеяў 75-гадовай даўніны для гістарычнага лёсу Беларусі і яе народаў. Асобны раздзел зборніка прапануе асэнсаванне вуснай гісторыі як адметнага накірунку гуманістычных даследаванняў.

**ББК 63.3(4Беи)622я43**
**УДК 94(476)“1939”(082)**

**ISBN 978-985-6992-61-5**

# ЗМЕСТ

# ПРАДМОВА

Гэты зборнік з'яўляецца адным з першых вынікаў навуковага праекту «1939 год у вусных успамінах жыхароў Беларусі» (2012–2014) Беларускага архіва вуснай гісторыі.

Юбілеі важных гістарычных падзей часта становяцца каталізатарам правядзення новых даследаванняў і пераасэнсавання веды пра мінулае. 75-годзе вайсковай аперацыі Чырвонай арміі супраць Польшчы ў верасні 1939 г., якое прывяло да аб'яднання беларускіх земляў у межаў сталінскага Савецкага Саюза, таксама прымушае яшчэ раз задумацца пра значэнне гэтай падзеі. Дадатковую актуальнасць гэтай праблеме надае дыскусія вакол гэтай тэмы, якая перыядычна аднаўляецца ў беларускім грамадстве і сведчыць пра адсутнасць пэўнага кансэнсусу датычна значэння пераменаў восені 1939 г., а таксама іх наступстваў для айчыннай гісторыі.

Савецкая гістарыяграфія, чые ацэнкі для гістарычнай палітыкі ў Беларусі ўсё яшчэ застаюцца пэўным арыентырам, характарызавала верасень 1939 г. як «уз'яднанне братніх народаў». А многія еўрапейскія даследчыкі пісалі пра «акупацыю» і «чацвёрты падзел Польшчы».

Перасэнсаванне мінулага – непазбежны этап у станаўленні Рэспублікі Беларусь. Імкненне ўпарта трымацца ідэалогіі камуністычнай краіны, якая ўжо не існуе, і тым больш апраўдваць дзеянні яе крамлёўскага кіраўніцтва, не адпавядае дзяржаўным інтарэсам Беларусі. Прыйшоў час адмовіцца ад савецкіх стэрэатыпаў трактоўкі мінулага.

Датычна ацэнкі падзеяў восені 1939 г. і іх наступстваў варта зразумець, як стасуецца бясспрэчная важнасць «уз'яднання» для гісторыі Беларускай дзяржавы з ацэнкай гэтых падзей з пункту гледжання агульначалавечых каштоўнасцяў? Адказ на гэтае пытанне між іншым патрабуе ад даследчыкаў новага прачытання трады-

цыйных гістарычных крыніц і выкарыстання новых. Важную ролю ў гэтым працэсе павінны адыграць дыскусіі з гісторыкамі з іншых краін і, у першую чаргу, з польскімі калегамі. Цікавыя вынікі таксама дае спроба выйсці па-за межы архіваў і бібліятэк і звярнуцца да вусных успамінаў сведкаў тагачасных падзей.

Аснову гэтага зборніка склалі матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі «Верасень 1939 г. у гістарычнай традыцыі і вуснай гісторыі», якая адбылася 26–27 верасня 2014 г. у Менску. Яе арганізатарамі з'яўляліся Беларускі архіў вуснай гісторыі (Менск), Інстытут славістыкі Польскай Акадэміі навук (Варшава) і Лятучы ўніверсітэт (Менск). Важную ролю ў правядзенні канферэнцыі таксама адыграў Польскі Інстытут у Менску.

Зборнік утрымлівае матэрыялы вуснагістарычных даследаванняў, якія дазваляюць убачыць той вобраз сацыяльных і палітычных пераменаў восені 1939 – вясны 1941 г., які захавала памяць непасрэдных сведкаў і ўдзельнікаў тых падзей. Іх дапаўняюць артыкулы, падрыхтаваныя ў рамках дамінуючай гістарычнай традыцыі. Суаднясенне розных накірункаў гістарычных даследаванняў у рамках вывучэння палітычных і сацыяльных трансфармацый 1939 г. у Заходняй Беларусі спрыяе іх навуковаму пераасэнсаванню і дазваляе вывесці дыскусіі пра «ўз'яднанне беларускага народу» на больш высокі ўзровень.

Іншай важнай часткай зборніка з'яўляюцца тэксты, прысвечаныя тэарэтычным і практычным аспектам вуснагістарычных даследаванняў, якія адлюстроўваюць развіццё гэтага накірунку гуманістыкі ў Беларусі.

Праблема асэнсавання падзей восені 1939 г. як месца памяці беларусаў закранаецца ў артыкуле Аляксандра Смаленчука. Прафесар Рыгор Лазько (Гомель) паспрабаваў ахарактарызаваць ваенна-палітычныя перамены восені 1939 г. у кантэксце тагачаснай геапалітычнай сітуацыі і палітыкі сталінскага кіраўніцтва СССР. Асвятленню падзеяў восені 1939 г. у Заходняй Беларусі (Паўночнаўсходніх ваяводствах Польскай Рэспублікі) з выкарыстаннем вуснагістарычных крыніцаў прысвечаныя артыкулы Сяргея Токця (Гародня), Таццяны Касатай (Варшава) і Андрэя Вашкевіча (Гарод-

ня), Адама Даброньскага і Яна Ежы Мілеўскага (абодва Беласток), Анатоля Трафімчыка і Вольгі Івановай (абое Менск). Анатоль Вялікі, Ігар Мельнікаў, Ніна Стужынская (усе Менск) і Аляксандр Вабішчэвіч (Берасце), раскрываючы важныя старонкі гісторыі восені 1939 г., грунтаваліся пераважна на архіўных дакументах, успамінах і навуковай літаратуры.

Таксама ў зборніку атрымала адлюстраванне праблематыка беларускага ўзброенага супраціву польскім уладам у 1920-я гг. (Пётр Ціхарацкі, Вроцлаў) і элементы штодзённага жыцця насельніцтва Заходняй Беларусі ў міжваенны час (Ала Захарэвіч і Руслан Бугаевіч, Варшава).

Канкрэтна-гістарычная праблематыка дазваляе яшчэ раз ацаніць эўрыстычныя магчымасці вуснай гісторыі. Аднак апошняе таксама немагчыма без паглыблення ў тэарэтычныя аспекты вуснагістарычных даследаванняў і біяграфічнага наратыву. Менавіта гэтаму прысвечаныя тэксты Аляксея Ластоўскага і Ірыны Махоўскай (абое Менск), матэрыялы дыскусіі «Вусная гісторыя ў Беларусі: перспектывы ў кантэксце міждысцыплінарнага ўзаемадзеяння» (мадэратар Таццяна Вадалажская). Напрыканцы дыскусіі, дзе закраналіся вельмі важныя праблемы вуснай гісторыі як навуковага метаду, Т. Вадалажская прапанавала сябрам Беларускага архіва вуснай гісторыі і ўсім ўдзельнікам канферэнцыі падумаць пра вусную гісторыю не толькі як пра навуковую дысцыпліну, а таксама як пра пэўную гуманітарную практыку, якую можна засвоіць і рэалізаваць. На думку каардынатара адукацыйнай праграмы «Лятучы ўніверсітэт», такое практыкаванне для многіх можа стаць пэўным крокам да гісторыі наогул, да выхаду з палону падручнікавай версіі мінулага.

Артыкулы Юрася Бачышчы (Вільня), Ірына Кашталян (Менск) і Таццяны Касатай дэманструюць магчымасці вуснай гісторыі на прыкладзе канкрэтна-гістарычных даследаванняў. Таксама варта звярнуць увагу на артыкул вядомага гісторыка Ігара Кузняцова (Менск), прысвечаны праблеме інтэрніравання польскага насельніцтва з заходніх абласцей СССР у 1944–1947 гг. Тэкст Зарыны Канапацкай (Менск) датычыць удзелу татар у беларускім нацыянальным

руху ў міжваенны час і з'яўляецца пэўнай данінай памяці вайскоўцу і палітыку Гасану Канапацкаму (1879–1953).

Напрыканцы зборніка публікуецца праца вучаніцы Белавежскай сярэдняй школы (Камянецкі раён Берасцейскай вобл.) Паліны Гурыновіч, якая стала пераможцай конкурсу для школьнікаў «1939 год у памяці жыхароў Беларусі» (2014).

*Аляксандр Смалянчук*

# ВОСЕНЬ 1939 Г. У ПАМЯЦІ І ГІСТОРЫІ

## Верасень 1939 года як месца памяці беларусаў

*Аляксандр Смалянчук,*
*доктар гіст. навук (Варшава)*

Цікавасць да праблематыкі ваенна-палітычных падзеяў восені 1939 г. невыпадковая. Сярод беларускай культурніцкай эліты ўсё яшчэ працягваюцца дыскусіі вакол пытання, чым былі тыя падзеі ў беларускай гісторыі? Дыяпазон адказаў на гэтае пытанне даволі шырокі – ад трактоўкі 17 верасня 1939 г. як «свята нацыянальнага вызвалення і ўз'яднання» да іх ацэнкі як «савецкай акупацыі» Заходняй Беларусі.

Гэтая дыскусія, якая перыядычна аднаўляецца штогод на пачатку восені, з'яўляецца толькі адным з эпізодаў сучасных «баёў за памяць». Апошнія ўжо з канца мінулага стагоддзя выразна прысутныя ў беларускай культуры і палітычным жыцці. Памяць як галоўны інструмент стварэння сацыяльнай сувязі, калектыўнай і індывідуальнай ідэнтычнасці ператварылася ў важны элемент барацьбы за будучыню краіны.

Актуалізацыя праблематыкі памяці ў культурным і палітычным жыцці Беларусі супала з агульнасусветным трэндам. Ужо напрыканцы мінулага стагоддзя стаў відавочным актыўны зварот прадстаўнікоў розных гуманітарных навук да феномена памяці, які прынамсі ў заявах вядомага французскага даследчыка П'ера Нара (Piere Nora) ператварыўся ў рэальную альтэрнатыву гістарыяграфіі. Адной з прычынаў гэтага звароту стаўся выразны крызіс нацыянальных наратываў мінулага. Адбыўся разрыў пары паняццяў «гісторыя»/»памяць», якія звычайна трактаваліся як люстраныя адбіткі.

Цэнтральным у працах таго ж П. Нара стала паняцце «месца памяці» як пэўнага «следу» мінулага[1]. Ён ініцыяваў шэраг даследаванняў месцаў памяці, напр., у Францыі. Падчас іх адбывалася ўдакладненне ключавога паняцця. Сёння яно часцей трактуюцца як феномен матэрыяльнага ці ідэальнага кшталту, які воля людзей і час ператварылі ў **сімвалічны элемент памяці пэўнай супольнасці**[2]. Фактычна, месцы памяці сталі вызначацца як месцы сустрэчы памяці і гісторыі, як свайго роду дыскурсіўная практыка, якая спрыяе ідэнтыфікацыі суб’екта з той альбо іншай супольнасцю. Месцам памяці можа быць нейкая дата, рытуал, назва, тэкст школьнага падручніка па гісторыі, нарэшце, пэўная гістарычная падзея.

Каб зразумець верасень 1939 г. як месца памяці беларусаў варта таксама звярнуцца да паняццяў «культурнай» і «камунікатыўнай памяці», прапанаваных вядомымі нямецкімі даследчыкамі Алеідай і Янам Асманамі (Aleida i Jan Assmann)[3]. Звычайна, пад культурнай памяццю разумеюць форму трансляцыі і актуалізацыі культурных сэнсаў. Адначасова гэта абагульняючая назва для ўсіх тых «ведаў», што кіруюць жыццёвай практыкай людзей і рэтранслююцца наступным пакаленням. Формы культурнай памяці («пункты фіксацыі») – гэта тэксты, выявы, помнікі, рытуалы ды інш.

Культурная памяць асабліва ў посткамуністычным рэгіёне ў вялікай ступені вызначаецца г. зв. «гістарычнай палітыкай». Апошнюю звычайна разумеюць як набор дзеянняў палітычнай улады дзеля ўмацавання ў грамадстве пэўнай інтэрпрэтацыі гісторыі ў якасці дамінуючай. Пры гэтым актыўна выкарыстоўваюцца адміністратыўныя і фінансавыя магчымасці дзяржавы.

А вось асновай камунікатыўнай памяці, паводле Яна Асмана, з’яўляецца вусная традыцыя або свайго роду «жывыя ўспаміны», якія звычайна існуюць на працягу трох пакаленняў (дзяды – бацькі – дзеці).

Камунікатыўная памяць стала галоўным аб’ектам цікавасці з боку вуснай гісторыі. Якраз гэты накірунак гістарычных даследаванняў дазваляе ўбачыць тую вялізную разбежнасць, якая сёння існуе паміж гістарычнай палітыкай і камунікатыўнай памяццю. Сучасная сітуацыя прымушае заявіць, што жыхарам Беларусі навязваец-

ца гісторыя, якую ніколі не перажывалі іх продкі. Гэта непасрэдна датычыць трактоўкі найважнейшых падзеяў беларускай гісторыі XX ст., у тым Другой сусветнай вайны.

Падмуркам дамінуючай інтэрпрэтацыі верасня 1939 г. у сучаснай культурнай памяці і гістарычнай палітыцы застаюцца пэўныя варыянты яго трактоўкі часоў СССР і БССР. Аднак 75-годдзе гістарычных падзеяў восені 1939 г. прайшло цалкам незаўважаным дзяржаўнымі сродкамі масавай інфармацыі. Магчыма, ігнараванне гэтага юбілею падалося кіраўнікам «ідэалагічнага фронту» найлепшым спосабам пэўнай нейтралізацыі тых дыскусій, якія б непазбежна закранулі беларускае грамадства. Зрэшты, «неафіцыйная Беларусь» таксама не шмат увагі надала гэтай падзеі. У гэтай сітуацыі наша канферэнцыя ператвараецца ў найбольш значную падзею 75-годдзя.

Дамінуючы варыянт трактоўкі падзеяў верасня 1939 г. у гістарычнай палітыцы відавочны ў тэксце школьных падручнікаў па гісторыі. Тут дамінуе тэндэнцыя да пэўнай мадэрнізацыі вядомай савецкай версіі. Так, у падручніку для 11 класа[4] (2009, руская мова) аўтар тэксту прафесар Яўген Новік сцвярджаў «*миролюбивую политику СССР*», імкненне Англіі і Францыі накіраваць нямецкую агрэсію на Усход, іх нежаданне прыняць прапанову СССР пра стварэнне сістэмы калектыўнай бяспекі ў Еўропе, вымушаны характар савецка-германскіх пагадненняў жніўня 1939 г., у т. л. сакрэтнага пратаколу. Пры гэтым аўтар адмовіўся даваць яму ацэнку (с. 150).

Агрэсія Чырвонай арміі (у тэксце: «освободительный поход») тлумачылася клопатам савецкага ўраду пра «защиту населения Западной Беларуси». Адзначалася, што гэты «поход» распачаўся толькі пасля акупацыі нямецкімі войскамі тэрыторыі карэннай Польшчы, што «*большинство населения ЗБ встречало советских солдат с радостью, цветами, хлебом-солью*». «Освобождение» завяршылася да 25 верасня. Пры гэтым «*большинство польских солдат и офицеров сдавались без боя*» (с. 150). Аўтар упершыню прыгадаў Катынскую трагедыю, але толькі дзеля таго, каб заявіць, што ўстанавіць вінаўнікаў злачынства немагчыма.

Савецка-германская дамова ад 28 верасня 1939 г. атрымала неадназначную ацэнку. Аўтар пазітыўна выказаўся за ўстанаўленне

новай мяжы, якая, паводле Я.Новіка, амаль што вызначыла сучасную польска-беларускую мяжу. Затое асудзіў «сяброўства» СССР і Германіі, якое нанесла *«огромный ущерб международному авторитету СССР, дезориентировало антифашистские силы...»* (с. 153).

Напрыканцы адзначалася, што *«сбылась извечная мечта белорусского народа жить в едином белорусском национальном государстве»* (с. 154). Менавіта так трактуецца БССР у сучаснай дзяржаўнай ідэалогіі. Рэпрэсіі супраць насельніцтва і непапулярныя сацыяльна-эканамічныя пераўтварэнні не згадваліся. Такім чынам, паводле сучаснай гістарычнай палітыкі, верасень 1939 г. з'яўляецца ***сімвалам нацыянальнай (?) перамогі беларускага народа, якая стала магчымай дзякуючы савецкаму ўраду***.

Многія беларускія гісторыкі выдатна ўсведамляюць, які надзвычай высокі кошт заплаціла Беларусь за «ўз'яднанне» ў выніку змовы Сталіна і Гітлера. Перасэнсаванне значэння падзеяў 1939 г. у беларускай гісторыі ў вялікай ступені грунтуецца на перакананні, што нацыянальныя інтарэсы не павінны уступаць у канфлікт з агульначалавечымі і хрысціянскімі каштоўнасцямі, а падзеі Другой сусветнай вайны ў Беларусі трэба разглядаць у кантэксце еўрапейскай і сусветнай гісторыі. Важнае значэнне таксама мае ўсведамленне таго, што ў верасні 1939 г. Беларусь уступіла ў вайну, якая аказалася самай жахлівай у яе гісторыі, бо яна стала арэнай змагання двух таталітарызмаў – камуністычнага і нацысцкага. Прычым першыя ахвяры гэтых рэжымаў загінулі ўжо ўвосень 1939 г.

Надзвычай важную ролю ў гэтым усведамленні коштаў «з'яднання» можа адыграць менавіта вусная гісторыя, якая дае магчымасць выказацца тым, хто звычайна быў пазбаўлены права голасу і дазваляе разглядаць падзеі мінулага ў кантэксце пэўнай агульначалавечай перспектывы.

Беларускі архіў вуснай гісторыі (БАВГ) на працягу трох апошніх гадоў працаваў над праектам «1939 год у вуснай памяці жыхароў Беларусі». Яго сутнасцю стаў запіс вусных успамінаў у форме біяграфічнага інтэрв'ю ў рэспандэнтаў старэйшага веку, што пражываюць уздоўж колішняй савецка-польскай («Рыжскай») мяжы з абодвух яе бакоў. Фактычна, вывучалася камунікатыўная памяць той

катэгорыі насельніцтва, якая ніколі не чытала савецкіх падручнікаў і збольшага не прыняла афіцыйную трактоўку падзеяў.

Экспедыцыі БАВГ праводзіліся ў 2012–2014 гг. на тэрыторыі Палесся ўздоўж р. Случ (Жыткавіцкі раён Гомельскай вобл. і Лунінецкі раён Брэсцкай вобл.), на Міншчыне (Стоўбцаўскі і Нясвіжскі раёны Мінскай вобл.), а таксама ў Віцебскай вобл. (Глыбоцкі, Мёрскі і Докшыцкі раёны).

Усяго было апытана каля 200 чалавек. Запісваліся аўдыё і відэё ўспаміны. Сярод рэспандэнтаў дамінавала вясковае насельніцтва 1920-х – пачатку 1930-х гг. нараджэння. Прычым адпаведна дэмаграфічнай сітуацыі пераважалі жанчыны, якія амаль усё жыццё пражылі ў сваёй вёсцы. Адукацыя большасці рэспандэнтаў – некалькі класаў польскай школы або пачатковая савецкая школа. Большасць з іх былі вернікамі праваслаўнай царквы, хоць звычайна наведвалі яе толькі ў нядзелю і на святы. У даследаваннях выкарыстоўваўся метад біяграфічнай нарацыі.

Падчас аналізу ўлічваўся толькі адзін аспект, а менавіта месца пражывання рэспандэнта – Усходняя ці Заходняя Беларусь. (Іх папранейшаму дзеліць колішняя мяжа, якая сёння праходзіць па межах калгасаў, раёнаў і абласцей і ўсё яшчэ існуе ў памяці і ў сучасных уяўленнях людзей пра жыццё суседзяў).

Які ж вобраз верасня 1939 г. малююць гэтыя ўспаміны?

Савецкую ўладу, якая разам з Чырвонай арміяй прыйшла ў Заходнюю Беларусь у верасні 1939 г., людзі сталага ўзросту называюць «першымі саветамі», адрозніваючы ад той улады («другія Саветы»), што ўсталявалася ў 1944 г. пасля нямецкай акупацыі. Таксама фігуравалі назвы «бальшавікі» і «рускія». Ужо самыя гэтыя тэрміны сведчаць пра дыстанцыяванне нашых рэспандэнтаў ад новай улады. Слова «нашыя» ў характарыстыцы Чырвонай арміі амаль не ўжывалася.

Успаміны перадаюць тагачасныя надзеі многіх беларусаў на змены да лепшага ў выніку замены польскай улады на савецкую. Здалёк ад мяжы на гэта ўплывалі аповеды старэйшага пакалення, колішніх бежанцаў Першай сусветнай вайны, якія яшчэ памяталі багатую даваенную Расіі з «малочнымі рэкамі і кісельнымі берагамі», а таксама

праваслаўных расейцаў, якія ў 1915 г. гасцінна сустрэлі бежанцаў з Заходняй Беларусі. Жахі сталінскага рэжыму з ягонымі лагерамі і расстрэламі, з гвалтоўнай калектывізацыяй звычайна лічыліся вымыслам польскай прапаганды.

Характэрна, што згадка пра пачатак вайны ў нязмушанай частцы аповеду «ўсходнікаў» практычна не сустракалася, а ў «заходнікаў» яна прысутнічала заўсёды. Калі для першых вайна пачалася ў чэрвені 1941 г. нападам гітлераўскай Германіі на СССР, то для другіх – у верасні 1939 г. наступленнем Чырвонай арміі.

Адказваючы на пытанне пра прычыны паходу Чырвонай арміі супраць Польшчы, «усходнікі» звычайна паўтаралі савецкую версію, але з выразнай дыстанцыяй да яе адносна «панскага прыгнёту».

● *Чырвоная Армія освобождала од полякоў. Она освободзіла і стала ўжэ гэта белоруска земля. І Беларусь стала сушчэствоваць. Народ жэ ж просіў [...] Я знаю, шо всегда казалі на сабраніі: Мы подамо брацкую руку. Там жэ беларусы ж булы.* (мужчына, 1929 г. н., в. Града, Жыткавіцкі раён).

● *Ну, пайшлі освобождаць Белорусію, так оні говорылі, Западну Белорусію освобождалі. [...] Што зменілось?! [...] Говорáць, што пры пану плохо было, а старые людзі расказвалі, што это непраўда, што [...] ім было неплохо жыць пры Польшчы* (мужчына, 1929 г. н., в. Браніслаў Жыткавіцкі раён).

● *Польшчу ў 39-м году освободзілі… од полякаў. Ну, у Польшчы была власць другая [...] Шчытайце, нашы пошлі войною освободзіць. Ну, оні [палякі] большая часць былі недовольные, шо нашые освободзілі. Оні казалі: «От, большавікі да в лапцях, рваные…» Цётка моя да говорыт: «Ох, мы так жылі пры Польшчы! І булечко, і мулечко, і смятана, всё. А, – кажа, – эці ў лапцях прышлі большовікі» [...] Большынство такіе. [...] Бацькі казалі, полякі жылі крэпко, цяпер яны побачаць нашу жызнь...* (мужчына, 1921 г. н., в. Вільча Жыткавіцкі раён).

Памяць «заходнікаў» звычайна не ўтрымлівае сюжэтаў пра вялікую радасць беларускага народу або пра ўрачыстыя сустрэчы. Падобна, што яны ладзіліся там, дзе раней дзейнічалі камуністычныя групы, а паблізу мяжы іх не было.

● *Рускія асвабадзілі Польшч... Значыць, прагналі палякаў. Асваба-*

*дзілі [...] І ён [бацька] пайшоў у салдат пытацца: Як [у вас]? Ці добра? А яны сказалі: Калхозы!* (жанчына, 1927 г. н., в. Чаркасава, 2014)

Пытанне пра тое, як сустракалі Саветаў, часта выклікала жаданне параўнаць Польшчу і СССР. Напрыклад, рэспандэнтка з в. Мокрава Лунінецкі р. (1927 г. н.) не магла прыгадаць нейкай радасці і заўважыла:

● *Пры Польшчы тожэ богато заставлялі робіць, налогі накладалі вялікія. Але ж людзі попрывыкалі, да і жылі. [...] Помню, шо вспомінаў бацько, хоць, кажа, мы робілі, але нас цэнілі.*

Найбольш ахвотна людзі разважалі пра перамены.

● *А шо змянілося? Ну, ужэ ж не дзержалі столько худоб, да коні, да поле. Ужэ мой бацько продаваў поле. Людзі куплялі, у которых не было. Попродалі поле. [...] То ўжэ нам [маладым] лягчэй было. Гэта поле не засевалі богато, потроху. [...] Горш стала для старых, потому што оні прывуклі робіць. [...] Неколі жыта як насее бацько, то такіе стогі поставіць тые...* (жанчына, 1927 г. н., в. Мокрава Лунінецкі р.).

● *Беларусам яшчэ хужэй стала [...] Пры Польшчы заплаціў налог, дзеньгі. Всё, ніхто мяне не касаецца. А так ты будзеш даваць зерно і яйца, і молоко, і всё, і сразу...* (мужчына, 1927 г. н., в. Ленін Жыткавіцкі р.).

● *А пры Польшчы не колхозы, а собственно свое загоны былі. [...] Прыйшлі рускія ў каждой дзерэвне магазін построілі. Завалілі водкою... А яшчэ былі бочкі сырца [спірта] [...] Чого яшчэ оні прывязлі нам? Чуні эта разінавые. Казалі: «Слава Сталіну-грузіну, што обуў нас у разіну». [...] Началі ў нас мужыкі і гарэлку эту піць. А папірос валом! [смяецца] [...] Прыйшлі рускія да і всё. Як оні говорылі: освободзілі от польского ерма. Это што на волоў ермо надзевалі* (мужчына, 1930 г. н., в. Ленін).

● *А.С.: А Вы чулі пра польскі панскі гнёт?*

*М.П.: [5 сек. маўчання]*

*А.С.: Мы на адным помніку прачыталі: «польскі панскі гнёт», чулі пра такое?*

*М.П.: А чого панскі гнёт буў?*

*А.С.: Так напісана было.*

*М.П.: Ай-ой-ой.*

*А.С.: Ну, так напісана «польскі панскі гнёт».*

*М.П.: [смяецца] Не, так не можа быць.*

*А.С.: Не можа быць?*

*М.П.: [смяецца] Панскі гнёт не буў. Не буў. […]* (жанчына, 1931 г., в Парэчча Пінскага р.). (Палеская экспедыцыя ў жніўні 2012 г.).

● *Не баюся я марозаў, не баюся холаду, А баюся я Саветаў, каб не здохнуць з голаду!...* (прыпеўка, запісаная ў в. Глінная ўлетку 2014 г.)

Хуткае расчараванне ў новай уладзе – выразная рыса амаль усіх успамінаў. Суразмоўцы казалі, што прыйшлі зусім «не тыя рускія». Ужо першыя мерапрыемствы новай улады, якая дазваляла рабаванне памешчыцкіх маёнткаў, падштурхоўвала да гвалту супраць леснікоў, памешчыкаў, асаднікаў і польскіх службоўцаў, шмат каго прымусілі задумацца. Актыўны пошук, выяўленне і расправы з «ворагамі народу», прымусовыя высяленні сотняў тысяч людзей на Поўнач Расіі або ў Казахстан нарадзілі страх, якога не ведалі «за польскім часам».

● *Первымі выселялі ў мороз (в 40-м году мороз быў 40 градусоў). А там у лапцях некоторые, ой! Дзецей [везлі] [...] А бацьку забралі яшчэ в январэ, на Крэшчэніе как раз, 19-го. А нас ужэ в апрэлі.* (мужчына, 1927 г. н., в. Ленін). Дарэчы, рэспандэнт быў вывезены з маці ў Казахстан. Бацька, які да вайны быў падатковым інспектарам, аказаўся «польскім шпіёнам» і знік без следу.

● *В 40-м году давай их теребить. Лучших хозяев в эти кулаки [записали]. И я вам скажу, тогда люди в испуге были. Даже разговаривать боялись, баялісь большевіков [...] Лучшіх хозяев, труженніков унічтожілі. А почему? А зачем?...* (мужчына, 1931 г. н., в. Вялікае Малешава).

Некаторыя сцвярджалі, што савецкія рэпрэсіі працягваліся і падчас нямецкай акупацыі:

● Пра тых каго не паспелі вывезці органы НКУС: «*Не справіліся вывезці, то забілі партызаны...* (жанчына, 1927 г. н., в. Псуя).

Нечаканай нават для гісторыкаў стала інфармацыя пра тое, што былая мяжа так і засталася мяжой. Свабоднае перамяшчэнне было забаронена. Савецкія памежнікі заставаліся на старых заставах.

● *Пасля 39-га года ўжэ тада зразу [хадзіць за граніцу] нельзя*

*было, усё раўно не пускалі. Так і была граніца. А ўжэ в 40-х гадах немец прыйшоў, тада можаш на все стораны ехаць, куды хаціш. Ужэ тада открыто ўжэ было.* (мужчына, 1929 г. н., в. Браніслаў).

● *Оні это граніцу дзержалі полносцю, покуля немцы не прыйшлі… Зрэзалі на Случэ[...] польскіе столбы пограні́чные, а рускіе не зрэзалі. [...] А прыйшлі рускія, мы короў к рацэ пагналі. І ў рацэ купаемся. А з Ново-Леніно сено робяць этые колхознікі, мы ж не зналі што там. І оні не пойдуць воды набраць в рэку, як мы коло рэкі [...] А потом як ужэ немцы прыйшлі, то ідуць з-за рэкі ўжэ этые родственнікі [...]* (мужчына, 1930 г. н., в. Ленін).

«Рыжская мяжа» канчаткова знікла толькі пасля нямецкай акупацыі Беларусі.

Нашыя спробы выклікаць пэўнае параўнанне суразмоўцамі «першых саветаў» з польскай уладай або «другімі саветамі», іншым разам выклікалі іранічныя адказы, маўляў, «першыя саветы» былі лепшымі чым «другія», бо былі нядоўга, прыйшлі і хутка зніклі...

Відавочна, што сярод «заходнікаў» увосень 1939 г. пачалі з'яўляцца настроі чакання, што польская ўлада вернецца, што «першыя саветы» – гэта ненадоўга... Так і аказалася. Вось толькі замест польскай улады прыйшла нямецкая акупацыйная адміністрацыя...

Падчас апошняй экспедыцыі ў Глыбоцкім раёне (ліпень 2014 г.) былі зафіксаваныя выразныя сімпатыі да Польшчы, прыналежнасць да якой фактычна трактавалася як знак культурнай (цывілізацыйнай) вышэйшасці над усходнімі суседзямі з Полацкага раёна. Былі запісаныя шматлікія аповеды пра «героя Палчынскага». Гэты польскі афіцэр быў начальнікам памежнай заставы. 17 верасня ён прыкрываў адыход сваіх салдат і, паводле рэспандэнтаў, забіў з кулямёту да 100 чырвонаармейцаў. Пра гэта распавядалі з выразным гонарам! Таксама прыгадвалі, што прыходзіў на танцы да мясцовых дзяўчат. Размаўляў па-беларуску і г. д. Можна казаць, што адбываецца пэўны працэс беларусізацыі* «героя».

---

* Магчыма, памяць пра Палчынскага, якая жыла ўвесь пасляваенны час, актуалізавалася ў выніку перазахаванне ягоных парэшткаў на могілках у Глыбокім у 2010 г. з удзелам прадстаўнікоў Пасольства Польшчы ў Беларусі.

Дадзеныя вуснай гісторыі сведчыць, што для непасрэдных сведкаў гісторыі з заходняга боку былой мяжы верасень 1939 г. стаўся сімвалам моцнага расчараванне ў новай уладзе («першыя Саветы»), якая так і не стала «нашай». Яшчэ і зараз адчувальны страх перад рэпрэсіямі, ад якіх ніхто не быў гарантаваны, незадавальненне пераменамі ў жыцці. Апошняе выразна адлюстравалася ў цалкам негатыўным вобразе «ўсходніка», які часцей ўспамінаецца, як «галодны калхознік». Таксама варта адзначыць адсутнасць у гэтым месцы памяці нацыянальных аспектаў. Выразна дамінуе сацыяльнае.

Можна сцвярджаць, што верасень 1939 г. у памяці сучаснай Беларусі – гэта не адно, а два супрацьлеглыя месцы памяці. Адно застаецца сімвалам перамогі беларусаў, якой паспрыяла палітыка СССР. Нягледзячы на маўчанне ўлады ў гэтым годзе, яно з'яўляецца элементам гістарычнай палітыкі і дзяржаўнай ідэалогіі, дамінуе ў школьных падручнікаў і сродках масавай інфармацыі. А другое, што жыве ў камунікатыўнай памяці, застаецца сімвалам трагедыі, напамінам пра пачатак вайны і памяццю пра бяссілле чалавека перад магутнай і бязлітаснай уладай, застаецца сацыяльнай траўмай, якая пакуль не мае шансаў быць прагаворанай і пераадоленай...

Пра што сведчыць наяўнасць у беларускім грамадстве гэтых двух вобразаў адной гістарычнай падзеі? Магчыма пра тое, што падзел Беларусі, сімвалам якога стала «Рыжская мяжа», захоўваецца і па сённяшні дзень? Прычым грунтуецца ён не на розных версіях камунікатыўнай памяці «ўсходнікаў» і «заходнікаў», бо першыя таксама не ўспрымаюць яго як «свята», а на рэліктах савецкай ідэалогіі.

Праблема «ўз'яднання» застаецца актуальнай для Беларусі, вось толькі сучасная «Рыжская мяжа» праходзіць ужо не праз рэкі і лясы, а праз памяць і свядомасць.

Што можа і павінен зрабіць гісторык у гэтай сітуацыі? У першую чаргу, нельга ігнараваць сведчанні тых, каго звыкліся лічыць «маўклівай большасцю гісторыі». Трэба прызнаць іх кампетэнтнымі ў ацэнках мінулага і зразумець, што гісторыя не з'яўляецца маналогам аднаго аўтара, што яна складаецца з шматлікіх інтэрпрэтацыяў. Пра адны і тыя ж падзеі можна распавядаць па-рознаму і рабіць калектыўную памяць больш адкрытай для дыскусій і спрэчак.

Можа першасная задача гісторыка – гэта сумнявацца ў тым, што гістарычная палітыка і культурная памяць лічыць несумненным і спрыяць талеранцыі да іншадумцаў.

### *Заўвагі*

1 Нара П. Всемирное торжество памяти // Неприкосновенный запас. 2005. № 40–41 (http://www.nz-online.ru).

2 Гл., напрыклад, Франция-память / П. Нора, М. Озуф, Ж. де Пюимеж, М. Винок. – СПб.: Изд-во С.-Петерб. ун-та, 1999. С. 17–50.

3 Гл., напрыклад, Jan Assmann. Das kulturelle Gedächtnis. Schrift, Erinnerung und politische Identität in frühen Hochkulturen. München 1999 (2 Aufl.); Aleida Assmann. Erinnerungsräume. Formen und Wandlungen des kulturellen Gedächtnisses. München 1999; Ассманн Я. Культурная память. Письмо, память о прошлом и политическая идентичность в высоких культурах древности. М.: Языки славянской культуры, 2004.

4 История Беларуси. XIX – начало XXI в. Учебное пособие для 11 класа общеобразовательных учреждений с русским языком обучения. Под ред. Е. К. Новика. Минск: БГУ, 2009.

# Нас аб'ядналі – хто? – Чужаніцы…

## *Аб гістарычных умовах аб'яднання Беларусі ў верасні 1939 г.*

*Рыгор Лазько,*
*доктар гіст. навук (Гомель)*

Калі мы разглядаем знешнюю палітыку савецкай дзяржавы ў першыя гады яе існавання, то заўважаем неадпаведнасць у адносінах да яе паняцця «дзяржаўныя (нацыянальныя) інтарэсы», які звычайна з'яўляецца галоўным рухавіком знешняй палітыкі кожнай дзяржавы. Справа ў тым, што бальшавікі прыйшлі да ўлады, усведамляючы сябе ў якасці міжнароднай сілы, пакліканай выкарыстаць сам факт здзейсненага імі перавароту ў інтарэсах міжнароднай сацыялістычнай рэвалюцыі. Гэта факт агульнавядомы. Але гісторыкі, прынамсі беларускія, мала звяртаюць увагі на наяўнасць таксама нацыянальных элементаў у бальшавіцкай палітыцы ўжо ў першыя гады савецкай улады. Хоць відавочна, што на пачатку яны мелі інструментальны, тактычны характар.

Нацыянальнае праяўлялася ў барацьбе за выхад Расіі з вайны ва ўмовах, калі яе працяг паглыбляў сістэмную катастрофу, выхад нават шляхам заключэння «ганебнага» Брэсцкага міру. Яно адчувальнае ў імкненні вярнуць страчаныя тэрыторыі, хоць зноў жа пад сцягам сусветнай рэвалюцыі. Па меры таго, як ілюзіі блізкай сусветнай рэвалюцыі знікалі, нацыянальны расійскі кампанент у знешняй палітыцы Савецкай Расіі непазбежна павялічваўся. Калі Брэсцкі мір быў вымушаным заходам у палітычны «хлеў» (так яго ацэньваў У. Ленін), то серыя мірных дагавораў 1920 г. з нядаўна ўзнікшымі суседнімі дзяржавамі была свядома абранымі крокамі ў палітыцы «мірнай передышкі».

Польшча была першай з дзяржаў-лімітрофаў, якой ленінскі ўрад прапанаваў далучыцца да гэтай палітыкі, але яна па розных пры-

чынах на працягу амаль двух гадоў ухілялася ад гэтага «гонару». Урэшце рэшт давялося згадзіцца, калі падчас польска-савецкай вайны восенню 1920 г. узнікла сітуацыя, калі працяг вайны стаў небяспечным для абодвух бакоў, але ж у рознай ступені. Тады Польшча і атрымала частку Беларусі, хоць вясной 1919 г. магла атрымаць нават большую тэрыторыю[1].

Так узнікла праблема падзеленай Беларусі, важным кампанентам якой быў лёс Заходняй Беларусі, якая апынулася ў складзе Польшчы. Лёс гэтай часткі нашага краю вырашаўся ў сувязі з працэсам пераходу бальшавікоў на пазіцыі расійскіх дзяржаўных інтарэсаў і ў выніку гэтага пераходу. Пераконвае ў гэтым экскурс у гісторыю Рыжскага міру.

Бальшавікі балюча развітваліся з догмай сусветнай рэвалюцыі ў сваёй палітыцы. Першы крок у гэтым накірунку – заключэнне Брэсцкага міру – справакаваў у партыі востры крызіс, узнікла нават пытанне аб адхіленні Леніна ад кіраўніцтва. Але ўжо падрыхтоўка міра з Польшчай менш чым праз тры гады выклікала толькі тактычныя разыходжанні, разбор памылак, дапушчаных падчас наступлення Чырвонай Арміі на Варшаву. Сам мір ужо не разглядаўся як прынцыпова непрымальны. Ленін паспеў да таго часу прывучыць сваіх таварышаў па партыі глядзець на такога кшталту крокі, як на часовую «мірную перадышку» ў стратэгічным наступленні на сусветны капіталізм.

Пасля няўдачы першай рэальнай спробы пераносу рэвалюцыі ў Еўропу, якой быў паход на Варшаву, Ленін у верасні 1920 г. супакойваў дэлегатаў IX канферэнцыі РКП (б) сцвярджэннем, што палітыка Савецкай Расіі прынцыпова не змянілася: «*Мы выкарыстоўваем кожную магчымасць, каб перайсці ад абароны да наступлення. Мы ўжо надарвалі Версальскі дагавор і дарвем яго, як толькі надарыцца зручны момант*»[2].

Падрыхтоўка гэтага моманту стала стратэгічнай мэтай савецкай палітыкі мірнага суіснавання. Калі нельга перамагчы двух сваіх ворагаў, гаварыў Ленін, то «*трэба ўмець паставіць сілы так, каб яны пабіліся паміж сабой […] але, як толькі мы будзем моцнымі настолькі, каб перамагчы ўвесь капіталізм, мы не марудзячы схопім яго*

*за каўнер»*[3]. У гэтай сувязі Ленін адкрыта гаварыў аб неабходнасці нацкоўваць капіталістычныя групоўкі адна на другую, нават падштурхоўваць іх да вайны паміж сабой на карысць сацыялізму.

Выпрацаваны пад кіраўніцтвам Леніна курс міжнароднай палітыкі савецкай улады пры ўсіх яго тактычных паваротах заставаўся нязменным на працягу ўсяго міжваеннага часу. Праз 15 год Сталін, звяртаючыся да членаў Палітбюро, казаў пра фарміраванне ў Еўропе дзвюх новых груповак дзяржаў замест ранейшай Антанты і амаль што цытаваў Леніна: *«Чым мацнейшай будзе бойка паміж імі, тым лепш для СССР. Мы можам прадаваць хлеб і тым і другім, каб яны маглі біцца […] Нам выгадна, каб бойка ў іх была як мага даўжэйшай, без хуткай перамогі адной над другой»*[4]. Заўважым, што ў гэты час афіцыйная савецкая дыпламатыя адстойвала ідэю сістэмы калектыўнай бяспекі ў Еўропе.

У межах акрэсленай антыверсальскай знешнепалітычнай стратэгіі Савецкай Расіі (далей СССР) пытанне аб лёсе Заходняй Беларусі (як і Заходняй Украіны) было для першай толькі пытаннем часу і сродкаў. Да сярэдзіны 1920-х гг., пакуль у бальшавіцкай партыі панавала перакананне, што сусветная рэвалюцыя выспявае з дня на дзень, меркавалася, што гэта пытанне будзе вырашана, адпаведна з поглядамі Леніна, г. зн. шляхам унутранай барацьбы на захопленай Польшчай тэрыторыі[5] і з дапамогай СССР. З гэтай мэтай савецкія ўлады спрыялі радыкалізацыі беларускага і ўкраінскага нацыянальных рухаў у Польшчы, аказваючы ім узброеную падтрымку. Перад імі ставілася задача *«расшыць па нацыянальных швах сучасную польскую дзяржаву, не даючы ёй часу асесці і набыць устойлівасць […]»*[6]. Такую задачу ад імя Выканкаму Камінтэрна вызначыў Дзмітрый Мануільскі на III з'ездзе Кампартыі Польшчы (студзень 1925 г.).

У межах гэтага курса неабходна разглядаць і г. зв. «мангольскі праект» непрамога, двухступеньчатага варыянта саветызацыі Заходняй Беларусі пасля перамогі ў ёй нацыянальнага паўстання. Аб гэтым праекце, на жаль, беларускім гісторыкам мала што вядома[7]. Не нашмат болей вядома і аб рэакцыі заходнебеларускіх нацыянал-камуністаў на адмову савецкага кіраўніцтва ад яго рэалізацыі, аб г. зв. «сэцэсіі» (расколе) у КПЗБ[8].

Адмова савецкага кіраўніцтва ад узброенай падтрымкі нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі і Заходняй Украіне (рашэнне Палітбюро ЦК РКП(б) аб згортванні «актыўнай разведкі» ад 25 лютага 1925 г.[9]) была звязаная з перамогай у бальшавіцкай партыі прыхільнікаў курсу на будаўніцтва сацыялізму ў адной краіне, што патрабавала наладжвання нармальных усебаковых адносін з суседнімі дзяржавамі.

Аднак дзейнасць, накіраваная на «расшыванне» Польскай дзяржавы па нацыянальных швах, у той час не спынілася. Змяніліся толькі яе метады. Беларускі і ўкраінскі філіялы кампартыі Польшчы атрымалі дырэктыву згарнуць узброеную барацьбу і перайсці да стварэння масавага легальнага сялянскага руху. У Беларусі ўзнікла Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада (БСРГ), а ў Заходняй Украіне – «Сельроб». Абедзве арганізацыі здолелі ў хуткім часе заваяваць давер і падтрымку мясцовага сялянства. Аднак, калі польскія ўлады прыступілі да разгрому «Грамады» ў пачатку 1927 г., Масква фактычна адмежавалася ад яе[10]. Яна быццам прадэманстравала з’яўленне новых прыярытэтаў у савецкай палітыцы, звязаных з арыентацыяй на працяглае суіснаванне з капіталістычным акружэннем.

З гэтага часу Заходняя Беларусь і Заходняя Украіна пераўтварыліся ў закладнікаў еўрапейскай палітыкі СССР, а вартасць адпаведных нацыянальных рухаў як сродкаў гэтай палітыкі істотна знізілася. Зменшылася і роля камуністычнага руху ў Заходняй Беларусі як сродку «расшывання» польскай дзяржавы.

Новы паварот у стаўленні СССР да заходнебеларускай праблемы пачаў вымалёўвацца ў пачатку 30-х гг., не выпадкова супаўшы з пагаршэннем міжнароднага становішча СССР. Яно праявілася перш за ўсё ў адыходзе Германіі ад «Рапальскай палітыкі», якая да таго часу была важным сродкам аслаблення Версальскай сістэмы. Для самога СССР каштоўнасць гэтай палітыкі таксама знізілася ў сувязі з узнікненнем пагрозы японскай агрэсіі на Далёкім Усходзе. Сітуацыя дыктавала неабходнасць спакою ўздоўж заходніх межаў савецкай дзяржавы, і перш за ўсё на польска-савецкай мяжы. А падтрымліваць заходнебеларускі нацыянальны рух і адначасо-

ва мецъ пэўнасць наконт бяспекі мяжы з Польшчай савецкі ўрад і асабіста Сталін з яго вядомым антыпольскім псіхалагічным комплексам не маглі. Выспела рашэнне ахвяраваць заходнебеларускім нацыянальным рухам.

Пэўнае значэнне мелі таксама прычыны ўнутранага парадку. Калі ў СССР пагоршылася ўнутраная сітуацыя ў выніку масавага супраціўлення сялянства палітыцы суцэльнай калектывізацыі, то ў Польшчы назіралася стабілізацыя рэжыму санацыі. Гэты комплекс фактараў прымусіў савецкі ўрад ізноў, прычым больш энергічна, чым у час стварэння «Грамады», шукаць паразумення з Польшчай, ахвяруючы дзеля яго і беларускім нацыянальным рухам.

Ужо восенню 1930 г. савецкі паўнамоцны прадстаўнік у Польшчы Уладзімір Антонаў-Аўсеенка зандзіраваў магчымасць аднаўлення перамоваў наконт дагавора аб ненападзе, якія вяліся ў сярэдзіне 20-х гг., і сустрэў прыхільнае стаўленне Пілсудскага да гэтай ідэі. А ў чэрвені 1931 г. пленум ЦК КПЗБ адмовіўся ад апошняй часткі лозунга аб праве «працоўных Заходняй Беларусі на самавызначэнне аж да аддзялення ад Польшчы і далучэння іх да БССР». Ведаючы поўную залежнасць камуністычнага руху ад Палітбюро ЦК ВКП(б), можна ўпэўнена сцвярджаць, што гэта рашэнне было прынятае па распараджэнні Масквы. Яно палегчыла заключэнне дагавора аб ненападзе з Польшчай у 1931 г.

Дагавор аб ненападзе быў аплачаны Масквой вывядзеннем беларускага пытання са сферы міждзяржаўных адносін з Польшчай. Калі мы глянем дакументы па гісторыі польска-савецкіх адносін пачатку 1930-х гг., то не знойдзем там нават следу выступленняў савецкага ўрада ў абарону правоў заходнебеларускага насельніцтва. Дарэчы, такая магчымасць грунтавалася на артыкуле 7 Рыжскага дагавора, да якога Масква неаднойчы звярталася ў папярэднія гады. І гэта нягледзячы на тое, што якраз у гэты час санацыйны ўрад разгарнуў жорсткае наступленне на гэтыя правы. Калі ўзгадаць рэпрэсіі ў СССР супраць дзеячаў беларускага нацыянальнага Адраджэння на пачатку 1930-х гг., то давядзецца пагадзіцца з Уладзімерам Самойлам, які сцвярджаў, што ў гэты час польская палітыка ў беларускім пытанні вялася пад лозунгам *«З Масквой супраць Беларусі»*[11].

Выкарыстоўваючы атмасферу, створаную ратыфікацыяй дагавора аб ненападзе ў лістападзе 1932 г., польскае дыпламатычнае прадстаўніцтва ў Маскве патрабавала ад савецкага ўрада спыніць выступленні савецкай прэсы на традыцыйную для яе тэму аб «польскай акупацыі» Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны. Пратэст выклікала нават ужыванне ў савецкім друку саміх паняццяў «Заходняя Беларусь» і «Заходняя Украіна» на той падставе, што гэта *«не адпавядае прынцыпу маральнага раззбраення»*, якое павінна стаць адной з мэтаў заключанага дагавора[12]. Націск аказаўся паспяховым.

На пачатку 1933 г. пасланнік Польшчы Юліўш Лукасевіч з задавальненнем паведамляў у Варшаву, што першыя месяцы мінулага года на «ўкраінскай і беларускай дзялянках» былі адзначаны *«паступовым зніжэннем даўняй занепакоенасці, падазронасці і сумненняў»*[13]. У такой атмасферы польскі пасланнік па запрашэнні ўрада БССР у пачатку чэрвеня 1933 г. наведаў Мінск, дзе, як сам адзначаў, правёў два дні *«ў цалкам прыстойнай атмасферы»*. Пытанне пра лёс Заходняй Беларусі гаспадарамі не ўздымалася.

Заходнебеларуская праблема як адзін з другарадных элементаў еўрапейскай палітыкі СССР у сярэдзіне 1930-х гг. была падпарадкаваная яе чарговаму павароту, менавіта пераходу савецкага ўрада да палітыкі калектыўнай бяспекі. Урад СССР быў вымушаны перайсці да гэтага курса, калі страціў «рапальскую апору» сваёй еўрапейскай палітыкі і шукаў магчымасць забяспечыць сабе актыўную ролю ў справе новага еўрапейскага ўладкавання, перспектыва якога рабілася ўсё больш блізкай.

На гэтым новым павароце яго замежная беларуская палітыка была цалкам згорнута на бліжэйшыя 5 гадоў. Адбылося гэта ў сувязі з уступленнем СССР у Лігу Нацый восенню 1934 г. Пераадольваючы перашкоды, якія стварала на гэтым шляху польская дыпламатыя, савецкі ўрад фактычна адмовіўся ад ролі пратэктара славянскіх нацыянальных меншасцяў у Польшчы. Гэта было зроблена ў форме адмовы карыстацца нормамі міжнароднага права і трыбунай Лігі Нацый для абароны правоў гэтых меншасцяў[14]. З гэтага часу аж да восені 1939 г. беларуская тэма знікла са сферы савецкай дыпламатыі, хоць і засталася на некаторы час адной з дзялянак дзейнасці Камінтэрна.

Аднак і новая тактыка («палітыка калектыўнай бяспекі»), нягледзячы на яе асобныя поспехі, не прывяла да пераўтварэння СССР у адзін з вядучых суб'ектаў еўрапейскай палітыкі, роўны Англіі, Францыі ці Германіі. Восенню 1938 г. заходнімі дзяржавамі было праігнаравана жаданне СССР прыняць удзел у міжнароднай канферэнцыі, на якой фактычна рашаўся лёс Чэхаславакіі[15].

У наступным годзе, напалоханыя агрэсіўным дынамізмам Германіі, Англія і Францыя пераарыентаваліся на супрацоўніцтва з СССР. Аднак, стаўшы на гэты шлях, яны не пайшлі настолькі далёка, каб даць савецкаму ўраду карт-бланш для дзеянняў ва Усходняй Еўропе. Такая сітуацыя ўзнікла ў ходзе летніх перамоваў 1939 г. у сувязі з пытаннем аб ускоснай агрэсіі[16]. Версальская сістэма развальвалася, Еўропа перабудоўвалася, а СССР не меў аніякіх дывідэндаў ад гэтага працэсу. Даводзілася зноў спадзявацца на сітуацыю, у якой ворагі сацыялізму пабіліся б паміж сабой.

Стварыць такую сітуацыю ў канцы 1930-х гг. можна было толькі адным спосабам, менавіта ўступіўшы ў пагадненне з Германіяй, якая рыхтавалася да нападзення на Польшчу. Супрацоўніцтва з ёю ў 1920-я гг. дапамагло СССР выйсці з міжнароднай ізаляцыі і пачаць з яе дапамогай пераўтварэнне савецкай краіны ў магутную сацыялістычную крэпасць. Цяпер гэта «крэпасць» адчувала сябе здольнай прыняць удзел у развале Версальскай сістэмы, а дакладней яе ўсходнееўрапейскага сектара, да якога належала і Заходняя Беларусь.

Характэрна, што наркам Георгій Чычэрын яшчэ ў пачатку 1920 г. прадбачыў варыянт супрацоўніцтва з Германіяй супраць Польшчы ў тым выпадку, калі Польшча будзе весці наступленне на Маскву[17]. У 1930-я гг. Польшча ў прамым сэнсе не вяла такое наступленне. Аднак яна вяла актыўную палітыку, імкнучыся стварыць ва Усходняй Еўропе бар'ер для пашырэння ўплываў СССР. Для Масквы гэтага было дастаткова, каб ацэньваць Польшчу як стратэгічнага праціўніка.

Падпісаўшы 23 жніўня 1939 г. дагавор аб ненападзе з Германіяй з яго сакрэтным дадаткам, савецкі ўрад адпаведна з ленінскай устаноўкай паспрыяў вайне паміж заходнімі дзяржавамі. Адзін

з аўтараў дагавора Вячаслаў Молатаў назваў яго *«паваротным пунктам у гісторыі Еўропы, ды і не толькі Еўропы»*[18]. Гэта сапраўды было так, бо цяпер Гітлер набыў упэўненасць, што будзе ваяваць толькі на адным фронце, менавіта заходнім, абапіраючыся пры гэтым на савецкую сыравіну. Але і савецкія кіраўнікі, нарэшце, атрымалі магчымасць выканаць ленінскі запавет і пашырыць сацыялізм на ўсходнія тэрыторыі Версальскай сістэмы.

Праз тыдзень пасля пачатку вайны Сталін у прысутнасці Молатава і Жданава даваў Георгію Дзімітраву інструкцыі аб арганізацыі дзейнасці Камінтэрна ў новых умовах. *«Вайна ідзе паміж дзвюма групамі капіталістычных краін […], – казаў ён. – Мы можам манеўраваць, падштурхоўваючы адзін бок супраць другога, каб добра пабіліся»*[19]. Выгада такога развіцця падзей для СССР бачылася ў аслабленні абедзвюх груповак, што стварала для яго магчымасць самому перайсці ў палітычнае і стратэгічнае наступленне. Гэтак жа ацэньваў дагавор і Варашылаў, спасылаючыся пры гэтым на Леніна: *«Мы іх будзем умела заахвочваць, сутыкаць і г. д., і ў зручны момант, паводле ленінскай формулы, самі пяройдзем у наступленне»*[20]. У выніку разгрому Польшчы, якая б стала першым аб'ектам такога наступлення, па словах Сталіна, *«мы б пашырылі сацыялізм на новыя тэрыторыі і насельніцтва»*[21]. Ні адзін з савецкіх кіраўнікоў не бачыў ні маральных, ні палітычных перашкод у рэалізацыі гэтых намераў.

У святле сталінскай заявы аб пашырэнні тэрыторыі сацыялізму, якая прагучала ўжо 7 верасня, відавочна, што г. зв. «пазіцыю чакання», занятую савецкім кіраўніцтвам у тыя дні, неабходна разглядаць толькі як праяву пэўнай тактыкі, звязанай з несупадзеннем мэтаў СССР і Германіі ў вайне.

Гітлер не здолеў ізаляваць Польшчу. У вайну ўступілі Францыя і Англія. Германія імкнулася як мага хутчэй разграміць свайго польскага праціўніка. Вырашэнне гэтай задачы аблегчыла б ваеннае ўзаемадзеянне Германіі з СССР. Яно таксама дало б магчымасць падзяліць з савецкім партнёрам палітычную і маральную адказнасць за агрэсію. Германія пачала ціснуць на СССР ужо з 4 верасня, схіляючы заняць тэрыторыю Польшчы, аднесеную да савецкай сфе-

ры інтарэсаў[22]. А Сталін марудзіў, бо настроены быў на зацягванне вайны, каб праціўнікі «добра пабіліся,» перш чым у яго з'явіцца доўгачаканая магчымасць «кінуць вырашальную гіру на вагі» барацьбы[23].

Нельга не ўлічваць таксама і звычайную непадрыхтаванасць савецкай дзяржавы да такой маштабнай аперацыі, якая выявілася ўжо падчас мабілізацыі, што пачалася 7 верасня. Гаворка ідзе не толькі аб матэрыяльнай складаючай. Савецкаму кіраўніцтву даводзілася ўлічваць і псіхалагічную непадрыхтаванасць савецкага народа да ваенных дзеянняў. Усё гэта спрыяла фашысцкай Германіі, «галоўнаму падпальшчыку вайны», як раней характарызавала яе савецкая прапаганда[24].

Неабходна было таксама даць час і насельніцтву Заходняй Беларусі, каб яно зарыентавалася ў намерах савецкага кіраўніцтва, што было няпроста пасля пяцігадовага маўчання Масквы наконт лёсу беларусаў у Польшчы, а таксама пасля разгрому па ініцыятыве Сталіна незадоўга да вайны Камуністычнай партыі Польшчы.

Рашэнне аб уводзе войск было прынята з улікам гэтых фактараў не пазней 9 верасня. Акрамя прыведзенай вышэй спасылкі на дырэктывы Сталіна Камінтэрну, яшчэ адным пераканаўчым аргументам на карысць гэтага сцвярджэння з'яўляецца варыянт дырэктывы наркома абароны К. Варашылава і начальніка генштаба РККА Б. Шапашнікава ваеннаму савету Беларускай асобнай вайсковай акругі ад 9 верасня 1939 г. Яна прадугледжвала ўвод савецкіх войск у Польшчу ўжо ў ноч з 12 на 13 верасня[25]. На прыняцце такога рашэння паўплывала інфармацыя ад 8 верасня пра захоп нямецкімі войскамі Варшавы. Яна не пацвердзілася, і 14 верасня дырэктыва была выпраўлена.

«Вызваленчы паход» пачаўся 17 верасня. Загад аб уступленні на тэрыторыю Польшчы – у Заходнюю Беларусь і Заходнюю Украіну – быў зачытаны ў войсках напярэдадні ў 16 гадзін[26]. Болей адцягваць паход было нельга, бо стваралася рызыкоўная сітуацыя, у якой давялося б прымаць Заходнюю Беларусь і Заходнюю Украіну з рук Германіі[27].

Далейшы лёс Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны пасля ўступ-

лення савецкіх войск быў вырашаны Палітбюро ЦК ВКП(б) адпаведна з савецкай геапалітычнай канцэпцыяй, вядомай з 1920 г. Гэтыя дакументы апублікаваны і вядомыя даследчыкам[28]. У рашэнні Палітбюро «Пытанні Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны» ад 1 кастрычніка распісана ўсё, у т.л. працэдура правядзення выбараў у Народныя сходы Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны, план першачарговых пераўтварэнняў і нават кошты на соль, газу і запалкі.

У выніку адбылося тое, што і ў 1921 г., але з адваротным вынікам. Тады, як сказаў наш класік, «нас падзялілі – хто? Чужаніцы, цёмных дарог махляры»[29]. Цяпер жа «чужаніцы» нас аб'ядналі. Калі не грашыць супраць праўды, то немагчыма аспрэчваць таго факта, што аб'яднанне было праведзена ў выніку змовы двух дыктатараў Гітлера і Сталіна, якія менш за ўсё клапаціліся аб інтарэсах беларускага народа. Яно стала падзеяй – адной з цэлага іх комплексу – звязаных з пачаткам Другой сусветнай вайны. Сярод гэтых падзей быў і падзел Польскай дзяржавы.

Як жа ў гэтым кантэксце нам, беларусам трактаваць аб'яднанне? Ці павінны мы комплексаваць па гэтай прычыне? Падставаў для гэтага няма, акрамя павярхоўнага асэнсавання праблемы. Неабходна ўсвядоміць, што, не маючы сваёй паўнавартаснай дзяржавы[30], беларускі народ не з'яўляўся суб'ектам міжнародных адносін. Ён быў толькі іх аб'ектам.

Аб'яднанне Беларусі стала лагічным наступствам развалу Версальскай сістэмы, у якім актыўна ўдзельнічаў СССР. У гэтай сувязі паставім перад сабой пытанне: ці быў магчымы іншы варыянт аб'яднання ў тых гістарычных умовах, якія склаліся напрыканцы 1930-х гг.? Заўважым, што да таго часу рэпрэсіі супраць беларускага руху, паралельна разгорнутыя аўтарытарным санацыйным і таталітарным сталінскім рэжымамі істотна аслабілі яго ў Заходняй Беларусі і вынішчылі ў савецкай Беларусі.

У БССР былі знішчаны беларускія нацыянал-камуністы, прыхільнікі аб'яднання Беларусі адпаведна з «мангольскім» праектам. Нельга выключыць, што яны якраз і былі аўтарамі беларускага варыянта гэтага праекта. У 1930-я гг. вызначаць сябе як беларуса было небяспечна ў абедзвюх частках Беларусі. Даследчык

# «Заходнікі» і «ўсходнікі» ва ўспамінах жыхароў былога савецка-польскага пагранічча

*Вольга Іванова,*
*канд. гіст. навук (Менск)*

«Вы сапсаваныя даўняй польскай нянавісцю да Расіі! Вас пранізаў класавы, сацыяльны страх перад рэвалюцыяй! Вы не хочаце сацыялістычнага ладу жыцця, калгасаў! Вы – прыватнікі, аднаасобнікі з ног да галавы! […] Вас трэба доўга яшчэ перавыхоўваць, каб вы сталі нармальныя савецкія людзі».

*З рамана Генрыха Далідовіча «Заходнікі».*

Выбраны для даследавання аб’ект – паняцце і вобраз «заходніка» і «ўсходніка» на былым савецка-польскім пагранічччы – дастаткова складаны для аналізу і мае цэлы шэраг аспектаў, якія могуць разглядацца ў кантэксце дасягненняў розных дысцыплін: лінгвістыкі, сацыялогіі, культурнай антрапалогіі, псіхалогіі ды інш. У традыцыйнай беларускай гістарыяграфіі гэтыя паняцці не выкарыстоўваюцца ці амаль не выкарыстоўваюцца. Іх можна сустрэць у мастацкай літаратуры[1], публіцыстыцы і сучаснай журналістыцы, а таксама ў побыце і вуснай традыцыі. Дадзеныя вуснагістарычных крыніц даюць магчымасць уключыць гэтыя паняцці ў навуковы кантэкст, а таксама зрабіць спробу іх ацэнкі ў міждысцыплінарнай перспектыве.

Адразу трэба адзначыць, што паняцці маюць «памежнае» паходжанне, і таму адлюстроўваюць у сабе спецыфіку «памежжа»*.

* У вусных аповедах жыхароў былога савецка-польскага пагранічча выяўляецца значная розніца паміж паняццямі «мяжа» і «граніца». Калі першае магло успрымацца як паняцце абстрактнае і не заўсёды ідэнтыфікавалася рэспандэнтамі, то апошняе звычайна разумелася як спецыяльна абста-

У значэнні, прапанаваным прафесарам Эльжбетай Смулковай, памежжа – гэта месца сутыкнення, пранікнення, накладання розных народаў ці этнічных груп, іх культур і моваў.

У залежнасці ад часу ўзнікнення і гісторыі вылучаюцца г. зв. «рэліктавае» (згладжанае) і «актуальнае» памежжа. У першым выпадку згаданыя рысы памежжа праяўляюцца менш выразна. Да іншых значных характарыстык памежжа, якія могуць істотна паўплываць на методыку і вынікі даследавання належаць: змешаная свядомасць жыхароў памежжа і адсутнасць рэфлексіі над «іншасцю» ва ўласнай культуры; сімвалічны характар памежжа; тэрытарыяльная расцягнутасць памежжа, якое не можа быць зведзена да паняцця «пагранічча»; дынамічны характар свядомасці жыхароў, які мае ўласцівасці змяняцца пад уплывам знешніх фактараў; сціранне межаў паміж «сваім» ды «іншым»; культурная інтэграцыя, і, нарэшце, немагчымасць пабудовы «памежных універсаліяў»[2].

Апошняе слушна і ў дачыненні да большасці вуснагістарычных даследаванняў, якія, як правіла, не выяўляюць пэўных заканамернасцяў і не будуюць універсальныя схемы, але выкрываюць гістарыяграфічныя, сацыяльныя, лінгвістычныя праблемы з пункту гледжання актуальнай сучаснасці і перспектываў развіцця навукі і грамадства.

Яшчэ адным кантэкстам вызначэння паняццяў і вобразаў «заходнікаў» і «ўсходнікаў» з’яўляецца катэгорыя «сваіх / чужых», якая найбольш грунтоўна прадстаўлена ў даследаванні «Памежжы Беларусі ў міждысцыплінарнай перспектыве», што праводзілася ў 2003–2005 гг. пад кіраўніцтвам прафесара Эльжбеты Смулковай на ўсходнім і заходнім паграніччах сучаснай Беларусі. Тут вартыя

---

ляваны кавалак тэрыторыі, які аддзяляў адну дзяржаву ад іншай, адну групу людзей ад другой. У межах дадзенага артыкула пад «паграніччам» і «граніцай» будзе разумецца тэрыторыя ўздоўж былой савецка-польскай мяжы. Пад «памежжам» – тэарэтычная сацыялінгвістычная катэгорыя з уласнымі прыкметамі і характарыстыкамі, прапанаванымі Эльжбетай Смулковай. «Савецка-польская граніца» падзяліла Беларусь на Усходнюю і Заходнюю, і гэты падзел у вызначаным кантэксце з’яўляецца асноўнай прыкметай паняццяў «Заходняя Беларусь» і «Усходняя Беларусь».

ўвагі публікацыі Эдуарда Мазько (дзе праблема разглядаецца ў межах падыходаў культурнай антрапалогіі), а таксама Алеся Смаленчука і Вольгі Шаталавай (у межах вуснагістарычнага падыходу). На іх падставе вымалёўваецца шматступенёвая градацыя: «свае» – «свае-іншыя» – «іншыя» – «чужыя» – «ворагі».

Крытэрыямі аднясення да пэўнай катэгорыі звычайна з'яўляюцца мова, месца пражывання, вера, нацыянальнасць, культура, сацыяльны статус. Да «сваіх» як правіла адносяцца крэўныя родзічы, аднавяскоўцы ці пераехаўшыя да сваякоў; да «сваіх-іншых» – аднавяскоўцы іншай веры ці някрэўныя родзічы; да «іншых» – жыхары суседніх вёсак (з іншай гаворкай, іншага сельсавета / прыхода / калгаса), а таксама прыехаўшыя ў вёску, што не маюць сваякоў; да «чужых» – прадстаўнікі іншых нацыянальнасцяў і культур, грамадзяне іншых дзяржаў, прадстаўнікі іншага сацыяльнага статусу ці сацыяльнай ролі (габрэі, цыганы, немцы, настаўнікі, святары, інтэлігенцыя, знахары, памерлыя)[3].

Варта адзначыць таксама катэгорыю «чужы сярод сваіх» – гэта «свой» чалавек, які страціў павагу і давер «сваіх» праз ненарматыўныя для дадзенай супольнасці паводзіны, але можа іх вярнуць шляхам ачышчэння, пакаяння ці праходжання пэўных абрадаў[4]. Што тычыцца вобразу ворага, то ён, як правіла дэгуманізаваны, не мае чалавечага твару і чалавечых якасцяў[5].

Усе гэтыя катэгорыі з'яўляюцца дастаткова рухомымі і часам неадназначнымі, асабліва ва ўмовах г. зв. «рэліктавага памежжа», аднак задаюць пэўную рамку для аналізу ўспамінаў і вызначэння паняццяў «заходнікі-ўсходнікі» ў вуснагістарычнай і гістарыяграфічнай перспектывах.

Што тычыцца спробаў антрапалагічна-вуснагістарычнага аналізу паняцця «заходнікі», то Эдуард Мазько ў згаданым артыкуле на падставе аналізу ўспамінаў жыхароў Горацкага р-на Магілёўскай вобл. адзначыў выразную «іншасць» ці нават «чужынскасць» «заходнікаў» для жыхароў Усходняй Беларусі, што тлумачылася, як правіла, іх матэрыяльным статусам (большай заможнасцю), узроўнем культуры, гаспадарлівасцю. Часам яны вызначаліся з пункту гледжання іх былой дзяржаўнай прыналежнасці як «палякі».

Параўнанне ацэнкі падзеяў 1939 г. «заходнікамі» і «ўсходнікамі», а таксама вызначэнне пэўных аспектаў свядомасці ў судачыненнях прапануецца ў працы Алеся Смаленчука[6].

У 2012–2014 гг. у межах праекта «Беларускі архіў вуснай гісторыі» праводзіліся экспедыцыі ўздоўж былога савецка-польскага пагранічча. На поўдні даследаванні праводзіліся на Палессі (Жыткавіцкі р-н Гомельскай вобл., Лунінецкі і Столінскі р-ны Брэсцкай вобл.), у цэнтральнай частцы – на Міншчыне (Стоўбцаўскі р-н), а на поўначы – на Віцебшчыне (пераважна Глыбоцкі і Полацкі р-ны). Усяго было сабрана больш 220 успамінаў, агульнай працягласцю каля 250 гадзін.

Большасць рэспандэнтаў складалі жанчыны 1920 – першай паловы 1930-х гг. нараджэння. Колькасць рэспандэнтаў-мужчын не перавышала 30 %. Звычайна рэспандэнтамі з'яўляліся старэйшыя жыхары вёсак. Гараджане ў складзе рэспандэнтаў амаль адсутнічалі. Канфесійны склад у розных рэгіёнах меў свае асаблівасці: на Палессі – больш за 90 % рэспандэнтаў – праваслаўныя, аднак значнай была колькасць пратэстантаў, на Міншчыне больш 35 % – каталікі, на Віцебшчыне – каля 80 % – праваслаўныя, 20 % – каталікі. Такім чынам, пры вызначэнні рэгіянальных асаблівасцяў, найбольш значнай прыкметай можа быць канфесійная прыналежнасць рэспандэнтаў.

Падчас даследаванняў дамінавала біяграфічнае інтэрв'ю з дадатковым блокам пытанняў па тэме пераменаў 1939 г. Спецыяльнае пытанне, якое тычылася розніцы паміж «заходнікамі» і «ўсходнікамі» было сфармуляванае толькі ў экспедыцыі на Віцебшчыну ў 2014 г.

Цяжка вызначыць, калі пачалі фармавацца і актыўна выкарыстоўвацца назвы «заходнікі» і «ўсходнікі». Магчыма, гэта адбылося неўзабаве пасля ўсталявання самой мяжы. Аднак у іншых кантэкстах і значэннях гэтыя назвы існавалі і раней, а таксама паралельна з фармаваннем саманазваў у дачыненні да жыхароў Заходняй і Усходняй Беларусі. Людзей, якія жылі на захад ад мяжы называлі выкарыстоўваючы расійскамоўны эквівалент – «западнікі», этнічную і канфесійную прыналежнасць – «палякі» ці зняважлівы варыянт апошняга – «пшэкі».

– Так мы іх «западнікамі» […] А оні на нас кажуць: «восточнікі».

*(Ева Комар, 1929, в. Малы Малешаў, Жыткавіцкі р-н (УБ). // БАВГ. 20(1)–428–1120, #00:28:02-6# ).*

– Т.К.: Калі Вы сюды прыехалі вас не называлі западніцай?

М.Т.: Пшэчка… А я і не абіжалася. Падумаеш! Хай завуць, чым хочуць. *(Марыя Тамук, 1928, в. Папкі, Дзяржынскі р-н (УБ). // БАВГ. 40(1)–666–243. #00:35:00-4#, #00:37:00-5# ).*

Большы спектр паняццяў ужываўся для пазначэння жыхароў Усходняй Беларусі (БССР). «Усходнікамі» ў самой Усходняй Беларусі маглі таксама называць кіраўнікоў розных узроўняў, што прызначаліся зверху і прыязджалі з Расіі. Ужываўся гэтаксама расійскамоўны варыянт «васточнікі», і размоўна-дыялектнае вытворчае ад яго «вастыкілы» (г. Дзісна, Віцебская вобл.).

Слова «калгаснікі» ў шэрагу аповедаў, асабліва з Віцебшчыны, не насіла зняважлівага акцэнту, а выкарыстоўвалася ў якасці вызначэння сацыяльнага і працоўнага статусу людзей, якія працавалі ў калгасе. Па гэтым жа крытэры жыхары Заходняй Беларусі часам назваліся «шляхтай», «шляхцюкамі». Выразную зняважлівую канатацыю, трэба меркаваць, гэтыя саманазвы атрымоўвалі пазней пад уздзеяннем верыфікацыі вобразаў «заходнікаў» і «ўсходнікаў» пасля 1939 г. Выкарыстанне гэтых слоў у нейтральным ці жартаўлівым кантэксце, з іншага боку таксама можа тлумачыцца імкненнем пазбегнуць канфрантацыі, пазбыцца супярэчнасцяў ці не выносіць іх за межы супольнасці.

– Я.К.: «Калхознікі» – усё яны [*жыхары Заходняй Беларусі*] звалі. Калхознікі! [*смяецца*] Ну, мы ў калхозе, а яны не калхознікі былі. Вот.

Н.Х.: А вы іх як звалі?

Я.К.: Ну, западнікі і западнікі. *(Яўгенія Кляпец, 1931, в. Пруды, Ушацкі р-н (УБ). // БАВГ. 46(1)–842–3461. #00:31:12-2#).*

– Вот мы на этой старане считаліся васточнікі. А тые, на той старане, ужо ў Волме, ужо западнікі. Ані к нам атнасіліс как-то недружэлюбно. Называлі «калгаснікі» […] Так яны ненавідзелі этых калгасаў […] А гэта шляхта сабе считае прэвышэ нашых калгаснікаў. *(Мікалай Севярын, 1922, в. Кавальцы, Дзяржынскі р-н (УБ). // БАВГ. 40(1)–673–2457. #00:32:00-6# ).*

Тэрмін «тарбэшнікі» таксама з'явіўся пасля 1939 г., калі жыхары Усходняй Беларусі падаліся «у старцы» у Заходнюю з «торбамі». На Палессі сустракалася зняважлівае азначэнне «вошыўцы».

– Стуля з Восточной Беларусі ў нашую Беларусію ходзілі. К нам ходзілі, попоходзілі ў старцы *[па прадукты]*… І мы дарылі іх, дарылі. *(Марыя Вярэніч, 1927, в. Намакрава, Лунінецкі р-н (ЗБ). // БАВГ. 20(1)–323–854. #01:03:05-0#).*

Хоць оні казалі на Совецкі Союз: «А вы вошыўцы, вошыўцы». *(Ева Комар, 1929, в. Малы Малешаў, Жыткавіцкі р-н (УБ). // БАВГ. 20(1)–428–1120. #00:28:02-6# ).*

Называлі таксама жыхароў Усходняй Беларусі «бальшэвікамі», часам прыпісваючы ім нечалавечыя рысы. Дэгуманізаваны вобраз «бальшэвіка», створаны польскай прапагандай, адклаўся ў памяці тагачасных дзяцей. Тым не менш, сустракаліся і выразныя спробы апраўдання, маўляў, бальшавікі таксама людзі.

– Мы не бачылі большовікоў. А ніколі. Пока не прышлі оні к нам большовікі. […] Як прогналі полякаў, да большовікі тут. *(Паўліна Лінкевіч, 1924, в. Сцяблевічы, Жыткавіцкі р-н (ЗБ). // БАВГ. 20(1)–412–1073. #00:39:02-1# #00:46:00-1#).*

Часам, можна было сустрэць атаясамліванне жыхароў Усходняй Беларусі з «рускімі», «Расіяй», а Заходняй – з «палякамі», «Польшчай», асабліва ў тых рэспандэнтаў, якія выразна не праяўлялі беларускай свядомасці.

– А я не знаю, дзе тая была Беларусь. Мы толькі зналі, што там Расія. *(Антаніна Анашкевіч, 1929, в. Шо, Глыбоцкі р-н (ЗБ). // БАВГ. 46(1)–814–3318. #01:10:39-5# ).*

Фарміраванне вобразаў «заходнікаў» і «ўсходнікаў» і ўзгадаванне «іншасці-чужынскасці» ў 1920–1930-х гг. адбывалася шляхам прапаганды, рэпрэсій, высяленняў, правакацый з абодвух бакоў[7]. Савецкі бок працаваў у гэтым сэнсе больш «паспяхова». Прапаганда імкнулася стварыць вобраз шчаслівага савецкага жыцця. Дзеля гэтага ладзіліся паказальныя мерапрыемствы, якія памятаюць як «усходнікі», так і «заходнікі».

– Як первы май ілі окцябрска, так всех этых вучняў на ногі ў колону. І, значыць, эты красные флагі ў рукі. І аж у Вільчу. А там жэ ж

Вільча дзерэвня на самой граніцы. І ўжэ по-над граніцой водзяць нас. І на машыне [...] уключаць эты паціфон, накруцяць ручкой. І: »стальною грудзью врагоў граміла 27-я». А там ужэ відно людзі на дзерэв'я позалазілі і наблюдаюць за намі. *(Мікалай Ахоценка, 1928, в. Града, Жыткавіцкі р-н (УБ). // БАВГ. 20(1)–449–1219. #00:49:05#).*

У значнай колькасці аповедаў прысутнічае сюжэт аб забароне «ўсходнікам» размаўляць з «заходнікамі», што было для некаторых падзеленых сем'яў вельмі трагічным, а для іншых стварала істотныя падставы для абразы і фарміравання «чужынскасці».

– І вот за граніцай, было ж так, шо за граніцою маці, а тутака замужам дочка [...] Маці говорыць, а дочка, шоб не отозвалася. Бо дочку заберуць. Нашые, нашые не давалі. А полякі розрэшалі говорыць [...] То она кажа: «Шо ты, дочэчка, занямела, шо ты не отзываешся проці мяне». Да голосіць. А дочка ж сама плача нічком, но не отзовецца. *(Ева Комар, 1929, в. Малы Малешаў, Жыткавіцкі р-н (УБ). // БАВГ. 20(1)–428–1120. #00:25:02-1# ).*

Многія рэспандэнты ўключалі ў свае ўспаміны вобразы, створаныя прапагандай і дзеяннямі ўлады, таму іх аповеды часта аказваліся супярэчлівымі. Напрыклад, калі «ўсходнікі» казалі пра шчырую дапамогу ежай, вопраткай, а таксама пра праяўленні гасціннасці адкрытасці да камунікацыі з боку «заходнікаў», у іх аповедах адчувалася пэўная адчужанасць і дыстанцыя. Пры гэтым яны ўспрымалі сітуацыю як натуральную і не бачылі асаблівых прычын для праяўлення ўдзячнасці. З іншага боку, частымі былі спробы развянчання міфаў прапаганды і крытычнай ацэнкі ўмоваў жыцця па абодвух баках мяжы.

– «Ха, а дзе лучшэ жывуць? Дзе стожкі стояць!» У нас жэ стожкоў то не было. [...] Западнікі ставілі стожкі з хлебом. [...] У 29-м году наша дзерэвня загорэлося [...] то з того Малешава прыбеглі к мостам, это граніца проходзіла. [...] Оні беглі помогаць, а іх не пусцілі. *(Віктар Варвановіч, 1927, в. Малы Малешаў, Жыткавіцкі р-н (УБ). // БАВГ. 20(1)–432–1145. #00:25:00-6#, #00:26:00-1#).*

– Як ужо граніцу адкрылі, дажэ прыезжалі к нам гароды пахаць на сваім кані. У нас не даюць дужа коней у калхозе [...] *(Яўгенія*

*Кляпец, 1931, в. Пруды, Ушацкі р-н (УБ). // БАВГ. 46(1)–842–3461. #00:31:12-2#).*

– Говораць, што пры пану плохо было, а старые людзі расказвалі, што это непраўда. [...] Ім было неплохо жыць пры Польшчы… *(Юльян Гарбар, 1929, в. Браніслаў, Жыткавіцкі р-н (УБ). // БАВГ. 20(1)–380–954. #00:12:00#).*

– Там *[ва Усходняй Беларусі]* нааборот хужэй было, а не лепш. Тут было много лучшэ. Тут свабодные людзі. Свабодного слова. Што хоч говоры, ніхто цябе не прыцесняў. У нас во то ў Леніне толькі было 6 ілі это 7 поліцыянтоў на весь раён. *(Міхаіл Катовіч, 1924, в. Цімашэвічы, Жыткавіцкі р-н (ЗБ). // БАВГ. 27(1)–456–1263. #00:10:01-7# ).*

Розніца паміж «заходнікамі» і «ўсходнікамі» праяўлялася таксама ў прынцыпах вядзення гаспадаркі, асаблівасцях гаворкі, выкарыстанні пэўных моўных абаротаў, папулярных песнях, адзенні, пабытавай упарадкаванасці. Для «заходнікаў» і «ўсходнікаў» існавалі свае «героі», пра якіх часта не ведалі па іншы бок граніцы. Але адным з самых значных адрозненняў было стаўленне да веры, Бога і царквы.

– Там калхоз! Дзе ж там лепшай будзеш жыць?! Там разам зямля была. У нас палоскі. А ў іх жнуць разам. Усе. Бабы. Чаму? А што калхоз ніхто не знаў. Толькі чаму разам? А яны, як увідзяць, што ўжэ гэтыя нашыя папрыходзяць бабы і начнуць гаварыць. Тады яны ўцекалі. А не маглі дагадацца, чаму яны разам жнуць? Чаму у іх зямля не падзеленая. *(Антаніна Анашкевіч, 1929, в. Шо, Глыбоцкі р-н (ЗБ). // БАВГ. 46(1)–814–3318. #01:10:39-5# ).*

– У нас пры Польшчы кажам «дзень добры». А мы гэто «здравствуйце» не чулі. Да кажам: «Абы што яны кажуць на нас». *(Лахвіч Зінаіда, 1924, в. Беразнякі, Жыткавіцкі р-н (ЗБ). // БАВГ. 20(1)–414–1079. #00:27:01-6# ).*

– А так, як 3 май, дык мы ідзём на граніцу [...] спяваем песню: «Witej maj, Trzeci Maj, u polaków blogi raj!» – спяваем, што ў нас рай! Аааа, яны: «Саюз нерушымый рэспублік...» Эээй, нам не нравіцца эта. Але ж всё адно пабудзем там. *(Антаніна Арцішэўская, 1922, в. Сверынава, Стаўбцоўскі р-н (ЗБ). // БАВГ. 40(1)–584–1827. #00:07:57#).*

– Як прыйдуць сюды да нас, то ўжо: «Ай, калхознік пайшоў, калхознік». А ў іх юбкі нейкія атрэчныя ў зборкі, а маладая дзяўчына, а такая надзетая. А ў нас так трошку спрытней было. [...] Дак, я б сказала, культурнейшыя былі. Нейкая і мода праглядалася троху. А там калхоз, беднота… *(Антаніна Анашкевіч, 1929, в. Шо, Глыбоцкі р-н (ЗБ). // БАВГ. 46(1)–814–3318. #01:12:39-5#).*

– Да, пры поляках было... Нідзе на вуліцы смеціночкі не пабачыш. А ў нас нельго было перэступіць. Грязі было столько. Да, у ніх чыстота была. [...] А тут дажэ туалетаў не зналі... *(Ева Хмяльніцкая, 1927, Валянціна Клімовіч, в. Малы Малешаў, Жыткавіцкі р-н (УБ). // БАВГ. 20(1)–433–1149. #00:51:02-7# ).*

– Залючыцкіе *[в. Новыя Залюцічы, Жыткавіцкі р-н (УБ)]* мужчыны, гэ, стояць… А моя маці подышла, да перэхрысцілася, так бы ў цэркоў ідзе. А этые солдаты кажуць: «А што гэто за цётка? Мо, это она нека ненормальна». [...] А гэто была Польшча, гэто была цэрква, гэто прызнавалі Бога. А там не, там сатана. *(Вольга Крышэўская, 1923, в. Новыя Мілевічы, Жыткавіцкі р-н (ЗБ). // БАВГ. 20(1)–411–1066. #01:09:00-1# ).*

Унікальнасць сітуацыі аб’яднання Беларусі і сцірання адрозненняў паміж «усходнікамі» і «заходнікамі», якое адбывалася, пачынаючы з 1939 г., заключаецца ў тым, што яно праводзілася «іншымі» ці «чужымі». З прыходам «першых» і «другіх» Саветаў, з прыходам немцаў[8], потым з пачаткам прымусовай калектывізацыі, разбурэннем цэркваў і касцёлаў, пра што рэспандэнты таксама ўзгадваюць як пра дзеянні, што ажыццяўляліся звонку. Адносіны да гэтых працэсаў выяўляюць характэрныя рысы свядомасці «заходнікаў» і «ўсходнікаў».

Калі для «ўсходнікаў» Заходнюю Беларусь вызвалялі «свае» ад «чужых», то для «заходнікаў», сітуацыя была нашмат больш складанай і неадназначнай. На Міншчыне сустракаліся дастаткова рэзкія ацэнкі ў дачыненні да г.зв. «аб’яднання», з якім звязваўся пачатак вайны. Ва ўспамінах пра новую ўладу выкарыстоўваліся вызначэнні – «першыя Саветы», «другія Саветы», «першыя рускія», «другія рускія», «бальшавікі» і «таварышы». Прычым у першым і другім выпадках адлюстроўваліся, як правіла, станоўчыя ці нейтральныя

адносіны да прыйшоўшых. Затое «рускія» ўжо траплялі ў катэгорыю «іншых». Пры выкарыстанні двух апошніх тэрмінаў праяўлялася ўжо адмоўнае стаўленне да новай улады.

Як ужо адзначалася, часам новая ўлада і азначэнні, якія выкарыстоўваліся пры яе характарыстыцы, атаясамліваліся з жыхарамі Усходняй Беларусі.

– Польшчу ў 39-м году освободзілі… од полякаў. [...] Шчытайце, нашы пошлі войною освободзіць. Ну, оні *[палякі]* большая часць былі недовольные, шо нашые освободзілі… *(Адам Кулакевіч, 1921, в. Вільча, Жыткавіцкі р-н (УБ). // БАВГ. 20(1)–384–959. #00:34:04#).*

– «Свае» прыйшлі? Я не магу сказаць. Я заўсёды чула, што эта рускія прыйшлі. *(Эва Парэцкая, 1933, г. Канберра, Аўстралія (нар. за 7 км ад мяжы у в. Даўгінава, Вілейскі р-н, Мінская вобл. // БАВГ. 42(1)–721–2642. #00:28:30-7#).*

– Да какое з'еднанне! Захват! Якое з'еднанне?! Хто та даваў якое з'еднанне! Напалі на сонных, пастрэлялі всех. [...] Вайна настаящча была. *(Сузанна Варанецкая, 1926, в. Рубяжэвічы, Стоўбцаўскі р-н (ЗБ). // БАВГ. 40(1)–598–1881. #01:19:02#).*

– Сразу было трудно, людзі (западнікі) не хацелі іці ў калхоз. Не хацелі раставацца са сваім хазяйством. [...] І нам прышлося, учыцелям, работаць агітатарамі. [...] Просто тут смешывалі западных і беларусов. Паэтаму нас сюда ў Баранавічскую обласць і пасылалі. *(Ганна Радзько, в. Кавальцы, Дзяржынскі р-н (УБ). (настаўніца, якая пераехала з Магілёўскай вобл.) // БАВГ. 40(1)–672–2455. #00:08:00-5#).*

На «заходнікаў» і «ўсходнікаў» жыхары памежжа падзяляюцца і сёння. У залежнасці ад рэгіёну гэтыя вобразы могуць адрозніваццa і ўключаць дадатковыя характарыстыкі. Напрыклад, на Віцебшчыне з усходняга боку былой граніцы праяўляецца імкненне сцерці «іншасць» у стаўленні адных да другіх. Можна меркаваць, што афіцыйнае «аб'яднанне» тут пэўна дало свае вынікі.

– Ну гэткія ж самыя людзі *[пра жыхароў Усходняй Беларусі]*… Толькі што – калхоз. Вядома ж, як калхоз. [...] І цяпер. Вот, як былі яны калхознікі, дык і цяпер калхознікі. А яны нас «пшэкі». [...] Паехала пляменіца ва Ушачы, медсястрой работаець, [...] дык яе паль-

цам ледзь не запаролі, што пшэчка… *(Антаніна Анашкевіч, 1929, в. Шо, Глыбоцкі р-н (ЗБ). // БАВГ. 46(1)–814–3318. #01:16:44-2#).*

– Яны такія *[усходнікі]*,у Бога яны ня верацць. [...] Яны любяць выпіць. [...] Мы атлічаемся ад іх. [...] А яны як былі калхознікі так і асталіся. Мы былі ў калхозе, але ж мы не такія як яны. [...] Каб устрэцілі вы нашага чалавека і іхнага, вы б самі панялі, што яны не такія як мы. *(Любоў Хрол, 1922, в. Хралы, Глыбоцкі р-н. (ЗБ). // БАВГ. 46(1)–812–3312. #00:36:20-3# ).*

– А такія ж самыя людзі! *[пра жыхароў Заходняй Беларусі]* Але ўсё роўна самі сабой. [...] Вроде яны ужо багацейшыя, лепшыя ужо там. [...] Мы ужо ў калхозе, а ў іх не знаю колькі гадоў было без калхозаў. [...] Сваіх дзевак замуж звалі. З нашага боку ні адну дзеўку замуж не ўзялі. Усё роўна яны самі сабой там. Усё роўна калхознікі. Уродзе і хацелі і ўсё, але ўсё роўна аддзяляліся. *(Яўгенія Кляпец, 1931, в. Пруды, Ушацкі р-н (УБ). // БАВГ. 46(1)–842–3461. #00:35:18-1#).*

На Міншчыне праявы «іншасці», а нават «чужынскасці» больш істотныя. Гэта тлумачыцца, як першапачатковай розніцай у канфесійным складзе і захаваннем пэўнага ўплыву з боку каталіцкага касцёла, так і істотнай актывізацыяй яго дзейнасці пасля 1990 г.

– Р.Ш.: І цяпер во гэных людзей з ейнага боку тожэ мы толькі «калхознікамі» і завём. Гэна калхознікі, а мы не калхознікі. [*смяюцца*]

Э.Ж.: А яны нас завуць «пшэкі». [...] Злуецца мужык, дык ты «пшэчка». Ааа, ўжо «пшэчка». *(Эмілія Жданюк, 1920, Рамуальда Шакалік в. Рудзевічы, Стаўбцоўскі р-н (ЗБ). // БАВГ. 40(1)–625–2248. #00:25:00-6# ).*

– Т.К.: А вось адчувалася розніца паміж людзьмі, вось хто з Вашай вёскі і хто адсюль?

М.Т.: Неа. Неа. Вось я асталася сюды, ну з усімі дружылі, усюды хадзілі. Дзе ў каго свадзьба, дзе ў каго хрысціны. Усюды хадзілі. *(Марыя Тамук, 1928, в. Папкі, Дзяржынскі р-н (УБ). // БАВГ. 40(1)–666–2433. #00:35:00-4#, #00:37:00-5# ).*

Што тычыцца Палесся, то яго можна разглядаць як культурна цэласны рэгіён, дзе было больш складана сфармаваць выразную адметнасць паміж усходняй і заходняй часткамі. Жыхары гэтага рэ-

гіёну і сёння часам ідэнтыфікуюць сябе як «палешукі». Тут, аднак, прысутнічае заўважны ўплыў пратэстанцкіх супольнасцяў, а адрозненні «заходнікаў» і «ўсходнікаў» часцей грунтуюцца на такой якасці, як жаданне і ўменне працаваць і весці гаспадарку. У жыхароў Усходняй Беларусі, згодна успамінаў, гэтыя якасці праяўляюцца менш выразна. Найбольшая розніца ў цяперашнім матэрыяльным дабрабыце, якая выяўляе кантраст паміж усходняй і заходняй часткамі, назіраецца ў раёне вёсак Вялікі і Малы Малешаў.

– Сюды к Пінску – гэто Полесье. От гэтой во сюды скрозь – гэто Полесье. У нас дажэ полякі казалі «полешукі». *(Міхаіл Катовіч, 1924, в. Цімашэвічы, Жыткавіцкі р-н (ЗБ). // БАВГ. 27(1)–456–1263. #01:02:01-1# ).*

– А цяперака оні дома повыстрайвалі тамака – страх. [...] А шо іх подняло? Этые парнікі. То яны багатые людзі сталі. А это так мы, шо оні за граніцою. *(Ева Комар, 1929, в. Малы Малешаў, Жыткавіцкі р-н (УБ). // БАВГ. 20(1)–428–1120. #00:28:02-6# ).*

– Вот у нас уся дзерэвня заросла. А ў том Малешаве пошлі, там бы, ой! Там на двор выкінеш што-небудзь, да табе штраф дадуць. *(Ева Хмяльніцкая, 1927, Валянціна Клімовіч, в. Малы Малешаў, Жыткавіцкі р-н (УБ). // БАВГ. 20(1)–433–1149. #00:51:02-7# ).*

Можна сцвярджаць, што вобразы «заходніка» і «ўсходніка» ў дачыненні да насельніцтва былога савецка-польскага пагранічча фармаваліся як да восені 1939 г., так і пазней. Пасля 1939 г. гэтыя вобразы сталі больш дакладнымі, з’явілася магчымасць іх «праверкі» і выпрацоўкі ўласнага погляду, пераадолення стэрэатыпаў прапаганды.

«Заходнікі» як жыхары тэрыторыі на захад ад былой савецка-польскай граніцы надзяляюцца рысамі культурнай адметнасці, гаспадарлівасці, пабожнасці. Яны і сёння лічацца больш заможнымі. «Усходнікі» звычайна вызначаюцца як менш культурныя, матэрыяльна бяднейшыя і, як правіла, няверуючыя. Гэтая розніца і сёння ў большай ці меншай ступені праяўляецца ў розных рэгіёнах Беларусі. Паводле шкалы «свае–чужыя», такая адметнасць можа ацэньвацца як «іншасць». «Чужынскасць» праяўляцца ў асноўным у тых выпадках, калі «заходнікі» і «ўсходнікі» атаясамліваюцца

з «палякамі», «рускімі», «бальшавікамі», «Саветамі». «Іншасць» можа прымаць зняважлівыя канатацыі (напрыклад, «пшэкі», «калгаснікі»), якія аднак не выходзяць за межы суседскіх ці сваяцкіх адносінаў.

Адкрытым застаецца пытанне аб прычынах дастаткова доўгага існавання гэтых вобразаў і паняццяў у памяці і свядомасці «заходнікаў» і «ўсходнікаў» у параўнанні з не настолькі працяглым часам існавання самой савецка-польскай граніцы міжваеннага часу. Адказ на яго можа быць знойдзены шляхам дадатковых гістарычных, культуралагічных і сацыялагічных даследаванняў.

### *Заўвагі*

[1] Далідовіч Г. Заходнікі. Мінск: Юнацтва, 1994; Дорская А., Сцебуракa У., Каляда Ю. «Усходнікі» vs «заходнікі». Рэжым доступу: http://budzma.org/country/usxodniki-vs-zaxodniki.html. Дата доступу: 25.08.2014.

[2] Смулкова Э. Думаючы пра Памежжа… // Acta Albaruthenica. 2005. Т. 5. С. 26–30; Smułkowa E. Wokół pojęcia pogranicza. Wschodnie i zachodnie pogranicze Białorusi w ujęciu porównawczym // Pogranicza Białorusi w perspektywie interdyscyplinarnej = Памежжы Беларусі ў міждысцыплінарнай перспектыве / red. Elżbieta Smułkowa i Anna Engelking. Warszawa, 2007. S. 5–9; Straczuk J. Cmentarz i stół. Pogranicze prawosławno-katolickie w Polsce i na Białorusi. Wroclaw: Wyd. Uniwersytetu Wrocławskiego, 2006.

[3] Мазько Э. Падарожжа па-за лакальнасць: «нашыя» людзі паміж «сваім» і «чужым» светам // Pogranicza Białorusi… S. 179–208.

[4] Белова О. В. Свой–чужой. // Славянская мифология. Москва: Международные отношения, 2002. С. 425–426.

[5] Гасанов И. Б. Национальные стереотипы и «образ врага». Москва: Российская академия управления, 1994. С. 24.

[6] Смалянчук А. 1939 год у беларускай гісторыі і памяці (паводле вусных успамінаў жыхароў былой савецка-польскай мяжы). Даклад на III Мінскай канферэнцыі Інстытута «Палітычная сфера». «Войны ў палітычнай і культурнай традыцыі Беларусі і іншых краін Цэнтральна-Усходняй Еўропы». Мінск. 30.05.2014 (неапублікаваны).

[7] Раманава І. Жыццё ва умовах савецкага пагранічча. Беларускае пагранічча па савецкі бок дзяржаўнай мяжы ў 1930-я гг. // Pogranicza Białorusi… S. 73–101; Смалянчук А. 1939 год у беларускай гісторыі…

[8] Падрабязней пра гэтыя аспекты гл.: Смалянчук А. Другая сусветная вайна у памяці насельніцтва заходняга і ўсходняга памежжа Беларусі // Pogranicza Białorusi… S. 122–156; Смалянчук А. 1939 год у беларускай гісторыі…

# Успаміны «заходнікаў» пра першыя савецкія выбары ў Ганцавіцкім раёне Брэсцкай вобл.

*Анатоль Трафімчык,*
*канд. гіст. навук (Менск)*

У другой палове верасня 1939 г. Заходняя Беларусь стала савецкай. Каб легалізаваць сваю ўладу, бальшавікі правялі выбары ў Народны сход Заходняй Беларусі (29 кастрычніка 1939 г.), а таксама ў Саветы розных узроўняў – ад дэпутатаў Вярхоўных Саветаў СССР і БССР (24 сакавіка 1940 г.) да дэпутатаў саветаў мясцовых – абласных, раённых і сельскіх (15 снежня 1940 г.).

Дадзенае даследаванне рэпрэзентуе сістэмны аналіз успамінаў жыхароў палескай глыбінкі, пражыванне якіх лакалізавана створаным у снежні 1939 г. Ганцавіцкім раёнам. Успаміны, што сталіся аб'ектам аналізу, захоўваюцца ва Усходнім архіве Цэнтра «Карта» ў Варшаве. У дадзенай крыніцы адлюстравалася ўспрыняцце савецкіх выбараў жыхарамі заходнебеларускай вёскі. Даследчыкі гэтага аспекту функцыянавання савецкай улады ў Заходняй Беларусі могуць параўнаць аналітыку з сітуацыяй у іншых мясцовасцях і на новапрыдбанай тэрыторыі ў цэлым, выявіць рэгіянальную спецыфіку.

Аднак варта заўважыць, што ўспаміны належаць, як правіла, тым асобам, якія падверглiся рэпрэсіям з боку савецкай улады. Іх аўтары былі дэпартаваны на Поўнач ці за Урал. Ужо падчас вайны згодна з савецка-польскімі пагадненнямі яны, прызнаўшы сябе палякамі, атрымалі амністыю, а пасля яе заканчэння перабраліся ў Польшчу ці далей на Захад. З гэтай прычыны ўспаміны эмацыйна афарбаваныя не на карысць савецкай улады. Тым не менш аповеды ўтрымліваюць паведамленні пра рэальныя падзеі ў акрэсленай мясцовасці, а таксама інфармацыю пра асабістыя перажыванні людзей стасоўна, як выбараў, так і новай улады ў цэлым.

Сам факт існавання вялікай колькасці падобных успамінаў (а ў названым архіве – Archiwum Wschodnie przy Ośrodku «KARTA» w Warszawie – геаграфія крыніц *oral history* пакрывае ці не кожны куток Заходняй Беларусі) дае магчымасць убачыць маштабы незадаволенасці сацыяльна-палітычнымі працэсамі. Прычым маштабы, якія супастаўляльныя са station станоўчай рэцэпцыяй тагачасных падзей, сабранай за савецкім часам. Да таго ж носьбіты цытаваных успамінаў прадстаўляюць шырокае кола заняткаў і прафесій, якія ўказваюцца побач з імем і прозвішчам, месцам пражывання. Дарэчы, прозвішчы ў большасці мясцовага паходжання, а гэта значыць, што апісаныя настроі і ўражанні належаць не «польскім каланістам усходніх крэсаў», а карэнным беларусам.

Да таго ж выкарыстаны даследчыкамі біяграфічны метад грунтуецца на перакананні, што сацыяльныя з'явы трэба ўспрымаць праз прызму тых значэнняў, якія былі пашыраны сярод удзельнікаў гістарычных падзей[1].

Нелегітымнасць і недэмакратычнасць выбараў на г. зв. Народны сход Заходняй Беларусі, пра што сведчаць многія сёння даступныя матэрыялы[2], як і потым у Саветы розных узроўняў, выклікаюць сумненні толькі ў пэўнай часткі беларускіх гісторыкаў, якія засталіся ў палоне савецкіх ідэалагічных установак. Дзіўна і нават смешна становіцца пры суаднясенні абгрунтаванняў такіх навукоўцаў, якія з аднаго боку сцвярджаюць пра амаль што 100 % актыўнасць электарату, а з іншага, імкнучыся паказаць катастрафічна нізкі ўзровень адукацыі «заходнікаў», кажуць пра тое, што непісьменнасць пры Польшчы даходзіла да 70 % (прынамсі на Палессі). Якім жа чынам здолелі прайсці працэдуру выбараў людзі, што і чытаць не ўмелі? Адказ у дадзеным выпадку адзін: іх рукою настойліва вадзіла ўлада.

У свой час Уладзімір Ленін таму і задумваў палітыку поўнай ліквідацыі непісьменнасці, абгрунтоўваючы гэта неабходнасцю палітычнай асветы масаў[3], бо разумеў, што іначай іх не ахапіць бальшавіцкім уплывам і тым больш не дабіцца суцэльнае падтрымкі. Але ён жа і папярэджваў, што *«скачками здесь завоевать можно меньше всего, особенно среди масс, стоящих на низком культурном уровне»[4], што «мы ни в коем случае не должны спешно нести комму-*

*ністические идеи напрямую в деревню», «поспешность и размашистость наиболее вредны»*[5]. Такім чынам, нават логіка савецкага правадыра абвяргае магчымасць зафіксаваных паказчыкаў падтрымкі савецкае ўлады на выбарах у Заходняй Беларусі.

Новая ўлада, акрамя пастаноўкі спектакля па юрыдычным афармленні далучэння зямель, паралельна выяўляла іх антысавецкі патэнцыял. Месцамі было заўважана, што тэхналогія выбараў дазваляла вылічыць тых, хто не галасаваў за адзінага ў бюлетэні кандыдата[6]. Да таго ж савецкія «выбары» на Заходняй Беларусі, як сведчаць адрасаваныя ўладам пытанні бескампраміснай моладзі, адбываліся пад пагрозай савецкай зброі[7]. У навуковы зварот ужо ўведзеныя матэрыялы, якія паказваюць, як тысячы чырвонаармейцаў дыктавалі саветызуемаму народу «яго» ж волю[8]. А ў снежні 1940 г. на выбарах дэпутатаў у мясцовыя Саветы не толькі навязвалі сваіх кандыдатаў, але пры гэтым адхілялі вылучаных ад народа. У Столінскім раёне такіх аказалася ажно 76[9].

Са старых часоў на некаторых выбарчых участках захаваўся надпіс: «*Пакіньце адно прозвішча, а астатнія выкрасліце*». Не дзіўна, што непрывыклых да безальтэрнатыўнасці выбаршчыкаў новы падыход бянтэжыў і абураў[10].

Цытаваныя ніжэй успаміны, як правіла, не звяртаюць увагі на фармальную мэту выбараў. Толькі як выключэнне можна спаткаць згадкі пра тое, у які орган выбіраліся дэпутаты. Гэта значыць, што для ўдзельнікаў быў галоўным не сэнс грамадска-палітычнай акцыі, а – як вынікае з успамінаў – яе правядзенне. Наймацнейшыя ўражанні ва ўспамінах тычацца восені 1939 г. Перманентныя арышты з прыходам бальшавікоў, хвалі дэпартацый лютага 1940 г. значна скарацілі колькасць сведак, якія маглі пакінуць такія ўспаміны. Затое апісваецца безальтэрнатыўнасць выбараў, прымус галасаваць, увогуле ненармальнасць і маразм таго, што адбывалася. Гэтыя рысы нашы продкі ўбачылі яшчэ пры арганізацыі Часовых камітэтаў як органаў улады, што былі створаны неўзабаве пасля 17 верасня 1939 г.

«*Выдалі пастанаўленне выбраць камітэт. Камітэты тыя былі выбраныя з такіх людзей, якія былі толькі-толькі пасля турмаў, якія*

*не мелі добрай характарыстыкі за Польшчай*»[11], – гаворыць селянін з вёскі Сукач Язэп Бальцэвіч. Яго словы сведчаць, што не сацыяльнае паходжанне было вызначальным у ацэначных адносінах да тагачасных палітычных працэсаў, а элементарны розум. Калі чалавек мысліў, то ён добра разумеў, што адбывалася.

Улічваючы, што звычайны селянін выказаўся нелаяльна да новай улады, то тым больш ёй не сімпатызавалі інтэлігенты. Арганіст з мястэчка Ганцавічы, які пазначаны крыптонімам К. К., успамінаў: «...*Часова на нізшых пасадах былі пакінуты ранейшыя польскія супрацоўнікі, паступова, аднак, на ўсе органы ўлады пастаўлены былі людзі, якія прыехалі з Савецкага Саюза, ці тыя з мясцовых, якія мелі давер акупацыйнай улады, як колішнія крыміналісты ці вядомыя дзеячы на карысць Савецкага Саюза* (так часта казалі пра шпіёнаў. – *А. Т.*). *Паступова, аднак, усе органы ўлады запоўнілі людзі, прысланыя з Савецкага Саюза, а польскія служачыя былі арыштаваны ці высланы ў глыб Расіі*»[12].

Дапаўняе карціну дзяніскавец, як пазначана, без прафесіі (хутчэй за ўсё селянін) Барыс Глеб: «*У кастрычніку 1939 г. быў у вёсцы Дзяніскавічы-1* (да яе адносілася цэнтральная частка сучасных Дзяніскавіч. – *А. Т.*) *Лунінецкага павета Палескага ваяводства. 17 верасня 1939 г. Чырвоная армія ўвайшла ў нашу вёску. Пасля свайго ўваходу знялі ўсіх з пасадаў і пасадзілі на тыя пасады такіх, якія не хацелі працаваць, а толькі абкрадалі гаспадароў, хацелі, каб гаспадары аддалі збожжа. Арыштоўвалі і садзілі ў турму ўсіх надляснічых, ляснічых і стражнікаў (леснікоў.* – А. Т.*) і такіх, якія нешта казалі супраць іх намераў. У вёсцы цэлы час сядзеў палітрук, праводзіў сходы і падгаворваў людзей да калхозаў. Пасля пастанаўлення праводзіць выбары казалі ўсім, каб кожны меў чырвоную стужку*»[13].

«Заходнікаў» вельмі здзівіла, што кандыдатаў на выбары прызначала ўлада. Значная іх частка, нярэдка больш за палову, была людзьмі прыезджымі – «вясточнікамі». Самі людзі мелі такое права толькі на паперы, і калі даходзіла да вылучэння ад сялян, то такіх кандыдатаў адхілялі, не рэгістравалі.

А найбольш уразіла тое, што выбіраць трэба было… з аднаго чалавека! Альтэрнатывы не прадугледжвалася: «*Кандыдат у кож-*

*най акрузе быў устаноўлены толькі адзін і то прапанаваны агітатарамі. У складзе выбарчай камісіі ў першым радзе сядзелі ўсе агітатары і іншыя імі пастаўленыя*»[14], – канстатаваў С. Карпеня.

«*У якасці кандыдата быў вылучаны адзін Дмітровіч Даніла, упарты неплацёжнік падаткаў у казну польскай дзяржавы, які не плаціў належнага за выпас скаціны на тэрыторыі надлясніцтва Малькавічы. У красавіку 1939 г. падчас пасадкі дубняку на паляне дзяржаўных лясоў мясцовымі супрацоўнікамі, за якімі наглядаў я і стражнік Кашаноўскі Міхал, [Дмітровіч Д.] кінуўся на мяне і Кашаноўскага з віламі, крычаў і клікаў свайго сына Уладзіміра: «Валодзя, бяры сякеру, мы ім пакажам, тым лясным сабакам, чаго яны тут прыйшлі і садзяць дрэвы, бо гэта мая паляна». Падкрэслю, што паляна, вышэйзгаданая, належыць да дзяржаўнага лесу*»[15].

Да гэтага ўспаміну малькавіцкага стражніка Юрыя Чайкоўскага можна дадаць яшчэ некалькі фрагментаў прадстаўнікоў іншых сацыяльных груп: «*Кандыдаты былі зверху прызначаныя, і былі гэта два бальшавікі і адзін быў турэмшчык (бандыт)*»[16], – сведчыў Мечыслаў Крукоўскі з Людвікова, тады вучань гімназіі. «*Кандыдатам быў непісьменны цёмны вясковец, які быў асуджаны польскай уладай за напад на польскіх салдатаў*»[17], – прыгадаў колішні бухгалтар Уладзімір Махцевіч з Ганцавіч.

Шырокая геаграфія цытаваных згадак (ахоплены людзі з розных куткоў раёна) сведчыць, што іх тоеснасць невыпадковая і так, як падаюць успаміны, рабілася насамрэч. Звычайна вылучалі аднаго, ды і не самага дастойнага. Кандыдат часта не меў пашаны сярод людзей, яго лічылі за злыдня ці бандыта.

Падрыхтоўка да выбараў суправаджалася прэсінгам насельніцтва з боку рознага роду агітатараў, палітрукоў і прадстаўнікоў рэпрэсіўнага апарату НКУС. Па звестках гісторыка Паўла Дайліда, якія грунтуюцца на матэрыялах Дзяржаўнага архіва Брэсцкай вобл., нават у такім невялікім раёне, якім быў Ганцавіцкі, дзейнічала больш за 300 агітатараў[18]. «*Перадвыбарчую агітацыю праводзілі спецыяльна прыбыўшыя з Расіі, на кожную вёску па два. (Пасля выбараў тыя самыя, якія праводзілі агітацыю, знаходзіліся ў раённым камітэце партыі.) Спіс насельніцтва складваўся мясцовымі, але пад строгім*

*кантролем членаў камуністычнай партыі. Сходы адбываліся штодзень па некалькі разоў*»[19], – успамінаў кваліфікаваны рабочы, токар Сымон Карпеня з вёскі Дзяніскавічы-2 (ёю з'яўлялася частка сучасных Дзяніскавіч, размешчаная паміж цэнтрам і Еськавічамі). Варта звярнуць увагу на пралетарскае ці сялянскае паходжанне некаторых інфарматараў, якія па разліках бальшавікоў павінны былі выступіць на іх баку, аднак, расчараваныя ў новай уладзе, не сімпатызавалі Саветам.

Многія выказванні гучаць ва ўнісон. Са слоў жыхара Вялікіх Круговіч Мікалая Блінкоўскага, «*у хуткім часе прыступілі да правядзення перадвыбарных сходаў. Такія сходы адбываліся амаль штодзённа і заўсёды пад надзорам палітрукоў. На тыя сходы мусілі хадзіць усе, бо пагражалі жорсткімі рэпрэсіямі*»[20].

Нярэдка гучалі простыя пагрозы. Прычым не толькі за адмову галасаваць за прызначанага кандыдата (ён жа быў адзіным!), але нават за дазволеную канстытуцыяй адсутнасць на выбарах, г. зн., што чалавека маглі рэпрэсаваць толькі за тое, што ён выбары праігнараваў. Малькавец Карп Сенюковіч так апісаў тыя працэсы: «*Каля двух тыдняў перад галасаваннем прыехала НКВД і пачалі намаўляць, як будзеце галасаваць, каго вам камісія пакажа выбраць, то будзеце дома, а як не будзеце за ўказанага галасаваць, то ваша месца будзе на Поўначы*»[21]. Паспрабуй пасля гэтага не прагаласуй!

«*Перадвыбарчая агітацыя праводзілася некалькі тыдняў перад выбарамі шляхам арганізацыі саветаў і сходаў, на якіх прадстаўнікі кампартыі вылучалі кандыдатаў, гарантуючы іх лаяльнасць адносна Савецкага Саюза. Сходы і саветы адбываліся ў прысутнасці наймена некалькіх асоб з НКВД. У такой атмасферы, канешне, не магло быць і гаворкі пра выказванне нават асабістых заўваг. Усе галасавалі за аднаго кандыдата, абы не нарвацца на «апеку» з боку абсалютных акупантаў. Тыя, якія не былі на зборышчах, лічыліся контррэвалюцыянерамі*»[22], – гэтая апісаная ганцаўскім бухгалтарам У. Махцевічам карціна, як бачым, пераклікаецца з папярэднім успамінам, што пацвярджае тыповасць дзеянняў улады ў яе агітацыйных захадах.

«*Не галасаваць ці не падпісваць карткі ніхто не мог, бо ведаў до-*

*бра, што чакае яго. Пагражала за гэта турма або высылка*»[23], – дзяліўся ўспамінамі тагачасны школьнік Тадэвуш Блажэвіч з Малькавіч. І ён быў не адзіны з такім меркаваннем: «*На тое галасаванне мусіў кожны падпісацца з 18 гадоў, нават такія старыя, якія былі сляпыя, то пасылалі машыны. І прыходзілі пад прымусам, кожнага забіралі з дому да таго галасавання*», – сведчыў вышэйзгаданы Б. Глеб.

Даходзіла да пагрозаў зброяй. Такі выпадак здарыўся з цытаваным ужо М. Блінкоўскім: «*У дзень выбараў з'явіўся ў мяне ў хаце ўзброены забраным у мяне папярэдне наганам Купайчык Станіслаў у таварыстве Зайца Андрэя, загадваючы мне пайсці на галасаванне*»[24].

Іншыя распавядалі пра недарэчнасці, якіх, напэўна, зусім не чакалі ад новай улады: «*Здараліся выпадкі, што хворыя ці старыя не маглі прыйсці сваімі сіламі, тады прывозілі машынай, толькі б галасаваць. Так, прывезлі Рымашэўскага Баляслава, які быў хворым, прыкаваным да ложка. Манцэвіч Марыю, кабету 76 гадоў, яна сказала, што зусім старая, гэтаксама пасадзілі на машыну і прывязлі, такіх выпадкаў магу прывесці больш*»[25], – паведамляў пра выбары ў вёсцы Малькавічы стражнік Юрый Чайкоўскі.

Не менш дзіўным бачылася нашым землякам тое, што адбывалася на самім выбарчым участку. «*Пры ўваходзе ў выбарчае памяшканне ў першым пакоі граў грамафон і ўваходзячым на галасаванне давалася яблыка, зрабаванае з маёнтка*»[26], – успамінаў кругавец М. Блінкоўскі. Яе прыклад сведчыць, што савецкая ўлада не толькі заганяла на выбары бізуном, але і прыманьвала пернікам. Але бізун усё-такі займаў першаснае месца. Гэта вынікае і з далейшых слоў М. Блінкоўскага: «*У другім пакоі заўважыў некалькі палітрукоў і прадстаўнікоў НКВД. Уручылі мне там картку, задрукаваную незнаёмымі зусім прозвішчамі, і сказалі кінуць яе ў скрынку, якая стаіць на зэдліку ля сцяны. Падчас галасавання прыехалі на дзвюх машынах некалькі прадстаўнікоў НКВД, якія былі ўзброеныя. Адны з іх засталіся на месцы правядзення выбараў, іншыя выязджалі па такіх жыхароў, якія ў выніку старасці ці хваробы не маглі прыбыць да выбарчага ўчастка. Галасавалі амаль усе, бо былі папярэджаны пра жорсткія рэпрэсіі, якімі пагражалі перад выбарамі*»[27].

У лаканічным паведамленні колішняга паліцыянта, а ў той час пенсіянера, які пражываў у вёсцы Шашкі, Андрэя Ставера адлюстраваўся ўвесь працэс выбараў, пачынаючы ад агітацыі: «*Выбары ў Народны сход Заходняй Беларусі суправаджаліся папярэдне вялікай агітацыяй, а падчас выбараў міліцыя і ўсе сімпатыкі савецкага ладу выцягвалі людзей да галасавання, выбаршчык атрымліваў картку, на якой былі ўжо выстаўлены невядомыя кандыдаты, і пад наглядам яго праводзілі да ўрны, якая стаяла на стале. Выбарчая камісія складалася пераважна з асобаў незнаёмых і асуджаных за польскім часам*»[28].

Неаднаразова ва ўспамінах звярталася ўвага на тых, хто прадстаўляў савецкую ўладу ці з'яўляўся кандыдатам ці членам выбарчай камісіі. Вось што распавёў пра апошніх Барыс Глеб: «*У склад той камісіі ўваходзіў Зялёнка Даніла, які не хацеў плаціць падаткаў пры Польшчы, залез у доўг і чакаў на Чырвоную армію, ён стаў камендантам міліцыі, Дзенісеня Мікалай, які сядзеў цэлы час у турме і г. д., і два савецкія камісары. У дзень галасавання пабудку насельніцтва рабілі званком, які быў для пажарнай трывогі, я не галасаваў, з увагаю на гады мяне не маглі да таго прымусіць* (адсюль можна зрабіць выснову, што быў маладзей 18 гадоў. – *А. Т.*). *Пасля таго галасавання праходзілі праз вёску са сваімі сцягамі. І калі нас вывезлі 10 лютага 1941 г.* (тут, па ўсёй верагоднасці, памылка: першая хваля дэпартацый адбылася 10 лютага, але 1940 г. – *А. Т.*)*, не ведаю, што далей рабілася*»[29].

Успаміны – рэч вельмі суб'ектыўная. Да іх трэба ставіцца асцярожна, звяртаючы ўвагу на канстатацыю падзей, фактаў, пераправяраючы іх і адкідваючы эмоцыі, якія могуць скажаць рэчаіснасць. Аднак нават душэўны стан – гэта таксама факт, бо з'яўляецца паказчыкам успрымання той рэчаіснасці. Свае настроі некаторыя не баяліся выяўляць і тады. Гэта адразу бралася на ўлік карнымі органамі. Па Ганцавіцкім раёне такія выпадкі таксама зафіксаваны[30]. Яны яшчэ раз пацвярджаюць праўдзівасць прыведзеных у гэтым артыкуле ўспамінаў.

Прыведзеныя звесткі ўтрымліваюць дастатковую фактуру, якая выкрывае сапраўды варварскае аблічча савецкай улады ў вачах

многіх «заходнікаў». На прыкладах правядзення дэпутацкіх выбараў быў відавочным фарс і выбарчай кампаніі, і «першых Саветаў». Людзі бачылі, што адбываецца насамрэч, менавіта панавала несправядлівасць, жорсткасць і знявага. Якраз таму яны і пакінулі ўспаміны, каб у будучым нашчадкі не памыляліся і адрознівалі нармальныя выбары ад здзекаў і падману.

## *Заўвагі*

[1] Высоцкі А. Вынікі саветызацыі беларускіх і ўкраінскіх земляў ІІ Рэчы Паспалітай у 1939–1941 гг. // Беларускі гістарычны агляд. Том 18, Сшыткі 1–2 (34–35). Снежань 2011. С. 143.

[2] Гл., напр.: Хоміч С. Беларускія скарбы Гувера // Спадчына. 2003 № 4–5. С. 69.

[3] Ленин В. И. Полное собрание сочинений. Т. 44. М.: Государственное издательство политической литературы, 1974. С. 170–174.

[4] Ленин В. И. Полное собрание сочинений. Т. 37. М.: Государственное издательство политической литературы, 1974. С. 464.

[5] Цыт. паводле: Жыжак С. Лавіце момант: ленінская спадчына // ARCHE Пачатак, 2004, № 4. С. 94.

[6] Польское подполье на территории западных областей Беларуси (1939–1954): Монография / С. А. Ситкевич, С. А. Сильванович, В. В. Барабаш, Н. А. Рыбак. Гродно: ГГАУ, 2004. С. 137–138.

[7] Gnatowski M. Niepokorna Białostocczyzna. Opór społeczny i polskie podziemie niepodległościowe w regionie białostockim w latach 1939–1941 w radzieckich źródłach. Białystok, 2001. S. 80.

[8] Grzelak Cz. Rola Armii Czerwonej w wyborach na zajętym terytorium Polski północno-wschodniej w 1939 roku // Polska i jej wschodni sąsiedzi w XX wieku. Studia i materiały ofiarowane prof. dr. hab. Michałowi Gnatowskiemu w 70-lecie urodzin / redakcja naukowa: Hanna Konopka, Daniel Boćkowski. Białystok: Wydawnictwo Uniwersytetu w Białymstoku, 2004. S. 247–261.

[9] Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Столінскага р-на. Мінск: БЕЛТА, 2003. С. 181.

[10] Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Іванаўскага р-на. Мінск: БЕЛТА, 2000. С. 152.

[11] Archiwum Wschodnie przy Ośrodku «KARTA» w Warszawie. Sygnatura 132/162, № 6647 Balcewicz Józef, K. 22. (У далейшым будзе пазначацца толькі нумар, прозвішча, імя, нумар старонкі.)

[12] № 1033 К. К., К. 23
[13] № 6109 Gleb Borys, К. 77.
[14] № 8996 Karpienia Szymon, К. 78.
[15] № 10550 Czajkowski Jerzy, К. 7.
[16] № 7453 Krukowski Mieczysiaw, К. 29.
[17] № 11129 Machciewicz Włodzimierz, К. 25.
[18] Дайлід П. Выбары-1940 у Ганцавіцкім раёне // Рэха Берасцейшчыны [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://reha.of.by/index.php?newsid=67. Дата доступу: 13.10.2012.
[19] № 8996 Karpienia Szymon, К. 78.
[20] № 3310 Blinkowski Mikołaj, К 76.
[21] № 3104 Sieniukowicz Karp, К. 25.
[22] № 11129 Machciewicz Włodzimierz, К. 25.
[23] № 5045 Błażewicz Tadeusz, К. 32.
[24] № 3310 Blinkowski Mikołaj, К 77.
[25] № 10550 Czajkowski Jerzy, К. 7.
[26] № 3310 Blinkowski Mikołaj, К 77.
[27] № 3310 Blinkowski Mikołaj, К 77.
[28] № 2350 Stawiarz Andrzej, К. 76.
[29] № 6109 Gleb Borys, К. 78.
[30] Дайлід П. Выбары-1940 у Ганцавіцкім раёне // Рэха Берасцейшчыны [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://reha.of.by/index.php?newsid=67. Дата доступу: 13.10.2012.

# Вайна і мір 1939–1940 гг. ва ўспамінах жыхароў Гародні і ваколіцаў

*Андрэй Вашкевіч,*
*мгр (Гародня),*
*Таццяна Касатая,*
*мгр (Варшава)*

Падзеі 1939–1941 гг. традыцыйна прадстаўленыя ў беларускай гістарыяграфіі як своеасаблівая «адтэрміноўка» вялікай вайны, перыяд мірнай стваральнай працы, што быў перарваны фашысцкім нападам на СССР. У характарыстыках гэтага перыяда найбольш увагі заўсёды надаецца статыстычным лічбам ліквідацыі беспрацоўя ў Заходняй Беларусі, стварэнню новых прадпрыемстваў, з'яўленню калгасаў. Чалавек, просты жыхар былой Польскай дзяржавы застаецца, як правіла, па-за ўвагай.

Гэты матэрыял заснаваны на вусных успамінах[1] пра 1939–1941 гг. жыхароў Гародні і бліжэйшых ваколіц. Ён не прэтэндуе на ўсебаковае асвятленне тых падзей, але, як падаецца аўтарам, дае магчымасць вылучыць некаторыя агульныя тэндэнцыі.

Трэба сказаць, што на фоне пераважна вясковай і местачковай Заходняй Беларусі Гародня вылучалася даволі моцна. Гэта быў адзін з найбольшых гарадскіх цэнтраў, у дадатку размешчаны ў этнічна разнастайным рэгіёне з шматлікім праваслаўным насельніцтвам, якое адносіла сябе да беларусаў, а таксама аўтахтонным каталіцкім насельніцтвам, якое ў хатнім ужытку карысталася беларускай мовай, аднак лічыла сябе палякамі і ставілася да Польскай дзяржавы як да сваёй. Хоць і яно ў значнай ступені не ўспрыняло верасень 1939 г. як трагедыю. У самой Гародні да гэтых груп насельніцтва дадаваліся рускія (былыя царскія чыноўнікі, а таксама эмігранты з Расіі ды іх сем'і), габрэі, немцы, татары, украінцы ды іншыя. Даволі шмат было этнічных палякаў – чыноўнікаў, кваліфікаваных рабочых, вайскоўцаў.

Подых вайны адчуваўся гарадзенцамі яшчэ напярэдадні 1 верасня 1939 г. У самым горадзе адчуць яго было цяжэй, аднак тыя, хто выязджаў у Варшаву або іншыя вялікія гарады, паўсюль бачылі прыкметы вайны. Вось што ўспамінала колішняя гарадзенская гімназістка Леакадзія Мерцалава: «*Однажды от гимназии мы поехали на экскурсию в Гдыню. Подъезджая к Гданьску мы начали петь из вагона: «Ешчэ Польска не згинэла». Немцы выбегали из домов, грозили кулаками, а мы пели всё громче. А на Балтике мы уже отдыхали и плавали, кто как мог. Гдыня была очень молодым и интересным городом тогда. Были и в Сопоте. Уже война чувствовалась и разговоры были только про войну, мать молилась, чтобы мы нормально приехали*»[2].

І тым не менш пачатак вайны стаў нечаканасцю, як для гараджан, так і для вяскоўцаў. Пры гэтым людзі адразу адчулі суровую розніцу паміж дзяржаўнай прапагандай аб неперамажнасці польскай арміі і рэаліямі: «*Первого сенцябра. А гэта было ў 39-м. Божа! Прышлі мы дахаты. Усё грыміць і грыміць. А дзе тут грыміць, хмары няма, а грыміць [...] А яна ўжэ тады зачалася. Тутака ждалі на рускіх. Было радыё. Там ужэ ходзім мы на радыё тое слухацца. А палякі ўсе: «Немец злончыўся з чырвоно шмато, а мы гвіжджым, гвіжджым на то». Вот табе і нагвіздалі палякі. Да. «А мы гвіжджым, гвіжджым на то». То ўсё хадзілі мы слухацца, яшчэ тут у нас не было ні фронта, нічога. І такое было, знаеце, было даволі страшно*»[3].

Калі ранкам 1 верасня над горадам з'явіліся самалёты, жыхары горада, здавалася, падрыхаваныя пастаяннымі вучэннямі Лігі супрацьпаветранай абароны, проста не паверылі ў тое, што самалёты могуць быць не польскімі: «*Мы выйшлі з дома і бачым як самалёты пікіруюць на вуліцу Дзяржынскага. А пан Банкевіч кажа: «Гэта нічога, гэта наша, гэта значыць польскае лётніцтва манеўры робіць». І тут самалёты скінулі бомбы. Адна папала каля будынку цяперашняга факультэта мастацтваў, там яшчэ на куце каланіяльная крама Касмандэля была, другая – у драўляны дом насупраць, ну, той і згарэў*»[4].

Пасля 1 верасня наступіла зацішша. Рэгулярныя войскі пайшлі на фронт, і горад апынуўся ў глыбокім тыле. Але 17 верасня стала

зразумела, што драма Польшчы набыла новы паварот. Гарадзенцы даведаліся пра ноту Вячаслава Молатава амаль адразу, паколькі слухалі і польскае і савецкае радыё. І навіну гэту сустрэлі паразнаму. Былыя беларускія актывісты і нават тыя, у каго ў СССР загінулі блізкія сваякі, сустрэлі навіну радасна: *«У 1939-м годзе, калі бацька пачуў па радыё выступленне Молатава, то выбег на вуліцу, танцаваў, плакаў і крычаў «ура». Пасля аднак паспеў яшчэ стаць ледзь не ворагам савецкай улады»*[5].

Католікі, якія ў пераважнай большасці прыпісвалі сябе да ліку палякаў, асабліва тыя, хто жыў у гарадах, а таксама прадстаўнікі патрыятычна выхаванай моладзі, спрабавалі дапамагчы польскай арміі: *«И когда началась война я ночами переписвала каким-то военным целые тетради, старалась помогать. Мы страшно боялись Советов. Они так страшно были одеты, серо-чёрные рубашки. И на первый танк, который въезжал в Гродно бросили нашего студента. И стреляли, конечно»*[6].

Дарэчы, найбольш баяліся прыходу бальшавікоў прадстаўнікі эміграцыі з былой Расійскай імперыі, якіх даволі шмат жыло ў Гародні. Сярод іх панавала пачуццё няўхільнасці лёсу, якое стала знаёмым іншым гарадзенцам толькі ў чэрвені 1941 г.: *«Калі ў 1939 г. ішлі бальшавікі, то было адчуванне, што ідзе чума. Адзін мой знаёмы застрэліўся з пісталета. У Гродне шмат жыло былых расійскіх афіцэраў, там у Расіі яны былі гвардыяй, а тут працавалі чорнарабочымі»*[7].

Якую тактыку выбралі гарадзенцы падчас падзей другой паловы верасня 1939 г.? Збольшага тактыку выжывання. Але тым не менш і тыя, што не хацелі ўдзельнічаць у баях ні на чыім баку, маглі стаць ахвярамі. Напрыклад, Віктар М. 21 верасня 1939 г. аказаўся ва ўласным доме на гарадзенскім Падоле ў самым пекле баёў за горад: *«А эта [...] стрэльба всё не сціхае і не сціхае. Аказваецца з занеманскай стараны падашло чатыры танка савецкіх [...] Эці адступаюшчыя і гімназісты там розныя акапаліся [...] дзе зараз тэатр, на этам узгорку. А мы ніжэй жылі тэатра. Тут жа былі [...] кляштар гэты быў, Барысаглебская царква, манастыр. Так вот, і ані імелі там пару аружэй всего, адно проціватанкавае, адно проціvазенітнае,*

*паставілі [...] І велі бой. Тые білі з танкаў па этай [...] акраіне, па этаму месту, дзе мы жылі. В наш дом папала [...] пара снарадаў, там разарвалася. Так што мы в 39-м годзе ўжэ бачылі стратэгічную значымасць маста, баёв за этат прытулак, вот»*[8].

Аднак некаторая частка насельніцтва Гарадзеншчыны актыўна ўдзельнічала ў супрацьстаянні па абодва бакі фронта. Нават у знакамітай бітве каля в. Кодзеўцы прынялі ўдзел мясцовыя жыхары: «*... Яны адступалі этые Польска, польскія... на эту вёску на Кодзеўцы... Ну, і тут людзі памагалі. Тут во майго мужыка сястра... Яны ў нас паналівалі бутэлькі і кідалі ў чолкі этые, рускія як яны адступалі.... А ўжэ іх гэты Сміглы, ужэ няма, выехалі ў Францыю. А яны яшчэ тут валакліся [...] Гэты білі з этой вёскі, вёска зачала гарэць. Там спалілася хата. Тут чолк разбілі [...] за Раманчыковай хатай [...] Людзі этые самые ўжэ памагалі. Што там дадуць рады? Калі там цьма войска ішло»*[9].

Рэспандэнты вельмі часта ўзгадвалі падзеі верасня 1939 г. праз прызму вайны і баявых дзеянняў. Яркім прыкладам з'яўляецца Скідзельскае паўстанне і яго наступствы. «*Ну, і тут многа ў Скідзелі тагда была 22, па-моему, чалавека ўбіта была. [...] І многа очэнь забралі і велі, значыць, в сторану Гродна арэстованых [...]. То мы ўжэ сем'ёй убегалі, значыць, атсюда […], із дзерэвні убегалі на хутар, і патом на Бубны[...] Ну, я ўжэ ўвідзеў [...] флаг красны. І гавару маці, там наверна ўжэ савецкія вайска, патаму што красны флаг. Мы зайші ў Бубны, гавораць, ужо ўсё, савецкія вайска прыйшлі. То мы немнога пабылі і абратна прышлі. Ну, і тут ужэ прышлі дамой. То ў нас ужэ прашлі танкі[...] І тут вайска ўжэ ўбегалі беспарадачна, […] польскія, значыць. Дажэ адзін афіцэр [...] без сядла, значыць, паехаў ужэ. Ну, ісцерыка такая ўжэ, паніка, значыць*»[10].

Грамадзянскае супрацьстаянне выкрыла ўсе тыя праблемы, што былі ў даваеннай Польшчы. Адносіны сапсаваліся нават паміж суседзямі. Вядома, напрыклад, што камуністычнага актывіста Мікалая Берцеля спалілі ў сваім доме ягоныя суседзі. Сярод тых сем'яў, якія не ўдзельнічалі ў баях, канфлікт пачаўся ўжо на побытавым узроўні: «*Вы знаете, нам не было [страшно]. А почему? Потому что мама моя русская, с Сибири. [...] Во всяком случае мы в школу уже ходили.*

*И груши были, то мы угощали этих солдат грушами […]На Ожешко, что там танк какой-то подожгли. Ну, мои нихто не ходили смотреть это, бо мы ещё дети были, вот. Мужчины там с улицы, то говорили, что напротив […] почты згорел танк. […] Не было никакого страха. Только эта пани Матлоска, Стасина мама сказала: «Поведь Клаве, жебы она до нас не пшыходила, бо она хцяла жебы советы пшышли, то они пшышли». Ну, и я уже не ходила там до них»*[11].

Аднак усе гарадзенцы, незалежна ад стаўлення да пераменаў, былі ўражаныя знешнім выглядам савецкіх салдат: *«Ой! Даже неудобно говорить этих слов. […] Солдаты были в ботинках, обмётки на эти [смяецца] как сапоги, [...] гимнастёрка. Обмундирование то стало, когда [...] стали американцы, англичане помогать во время войны»*[12]. Або таксама: *«И смотрим, идут, значит, Советы эти вот. Солдаты, Боже мой, такие уставшие, такие изнеможённые, такие, ну, просто жаль было смотреть. Эта одежда на них, ай, длинные эти шинели, не подшитая, а просто так, обрезанная, там и обтёпканная, всё. Ну, на голове эти вот шапки такие с этим таким пикульцем. Ну, ружьё там»*[13].

Трэба адзначыць, што сапраўды мабілізаваныя для «вызваленчага паходу» савецкія рэзервісты былі забяспечаны значна горш, чым савецкія салдаты тэрміновай службы. Нават пасля 17 верасня можна было сустрэць савецкіх салдат у грамадзянскай вопратцы і без належнага абутку[14].

Усталяванне савецкай улады нашымі рэспандэнтамі, якія ў тыя часы былі дзецьмі або вельмі маладымі людзьмі, адчувалася ў пераменах у сферы адукацыі.

Большасць пайшла вучыцца ў рускія або беларускія школы, хаця недзе пачатку 1940 г. у Гародні з’явілася магчымасць вучыцца і папольску: *«У 1939 г. усіх нас направілі вучыцца ў рускую школу на вуліцы Батанічнай, там, дзе раней была гімназія каралевы Ядвігі. Мы асабіста ўмелі гаварыць па-руску, але ні чытаць, ні пісаць не ўмелі. Вось нас цэлы год вучылі адразу ўсяму. А калі прыйшлі немцы, то тыя адразу вучыцца забаранілі»*[15].

Канешне, школьная адукацыя была ідэалагізаванай. У школах

падкрэслівалася няздатнасць Польшчы як дзяржавы: «*Я ведаю ўжэ пасля вызвалення, так называемага, да, пра эту падзею 39-га года. Я магу вам прачытаць. На рускай мове: Зайграй гормонь, баян-гормошка наш походный инструмент, пропоём с тобой немножко про теперешний момент. Панской Польши нету больше, хитрой ведьмы нет в живых. Не захватит она в лапы наших братьев трудовых. Украинцы, беларусы час возмездия настал, ваши недруги затрусив разбежались по кустам. Мы усталому народу мир и счастье принесём, дадим народу и так далее… Вот в таком духе уже мы выховаліся в 13-й школе*»[16].

Некаторыя бацькі наогул не аддавалі сваіх дзяцей у школу: «*У польскую школу (нашай школай была цяперашняя школа № 4) я павінна была ісці ў 1939 г., але не пайшла, хаця мы хадзілі яшчэ перад пачаткам вучобы на нейкія «клясувкі»*»[17].

А паколькі ў 1941 г. немцы, далучыўшы Гародню да Усходняй Прусіі, забаранілі ў горадзе і ваколіцах усялякае навучанне не на нямецкай мове (за выключэннем двух школ), то склалася ўнікальная сітуацыя, калі амаль шэсць гадоў цэлае пакаленне не атрымлівала ніякай сістэматычнай адукацыі. Гэта мела цікавыя наступствы асабліва сярод вясковага насельніцтва. Напрыклад, маладзейшыя рэспандэнты лепш ведаюць беларускія традыцыйныя песні, чым іх старэйшыя аднавяскоўцы, якія паспелі павучыцца ў польскай школе і з большай ахвотай спяваюць песні пра Пілсудскага ды інш.

Прыход савецкай улады абярнуўся таксама сацыяльна-бытавымі зменамі. Гарадзенцы пераказваюць шматлікія трагікамічныя гісторыі, звязаныя з усталяванем новай улады: «*І ў 1939 анекдатычныя случаі былі. Спачатку пака панаехалі там розные чыноўнікі, то вайскоўцы былі. Ну, грошы ўжэ пайшлі савецкія, всё. А крамы яшчэ былі прыватныя. Ну, вот прыходзіць, 12 штук начных сарочак куплялі. Смеялісь з эціх «кацюш». «Кацюшамі» называлі жонак афіцэрсікіх, вот. Што ані в начных сарочках в тэатр прыходзілі. Вот, такія, што даходзіла да мяне, да дзіцячага вуха*»[18].

Змяніліся кошты на некаторыя тавары. Напрыклад, таннымі сталі газа (керасін), запалкі, тытунь – тое, чаго было шмат у СССР. Рэшта тавараў стала дэфіцытам: «*Бядота приехала. Хлынула в эти*

*магазинчики остатка. Брали, покупали до основания... Что появилось в магазинах? Подушечки, водка и чулки голубые и коричневые с хлопка, всё. Остальное всё исчезло. И только кто что имел донашивали. И началась спекуляция. Где привозят с Прибалтики [...] И начались облавы. Ловят этих спекулянтов. Всё на моих глазах. [...] Продавали. Самогонку надо гнать. Дрожжи продавали. Начали ловить. И они эти дрожжи кинули в этот, в туалет. Итог – начал туалет бушевать [смяецца]. И всё вылилось на базар [Сянны рынак]. Город хохотал до слёз»*[19].

Асабліва востра змены з усталяваннем савецкай улады адчулі домаўласнікі. Паводле савецкага заканадаўства, кожны дом, які меў два паверхі, падлягаў частковай нацыяналізацыі. А паколькі ў 1930-х гг. нават на ўскраінах горада ўжо было забаронена будаваць аднапавярховыя дамы (дабудоўвалася хаця б мансарда), то атрымалася, што нацыяналізацыі падлягала большасць жылых будынкаў, нават узведзеных людзьмі выключна ўласнай працай: *«Бацька ўвесь час працаваў рабочым на Станіслравоўскай цагельні на сучаснай вуліцы Дзяржынскага. Каля 1938 г. бацькі скончылі будаўніцтва новага дома па вуліцы Грандзіцкай, 22. Гэта быў дом з так званай «салькай», другім паверхам, дзе былі тры пакоі. На першым паверсе было шэсць пакояў. Перад 1941 г. у нас нацыяналізавалі дом, на першым паверсе зрабілі 3-х, 2-х і 1-пакаёвую кватэру. Мы ж перасяліліся туды толькі ў 1938 ці 1939 гг. перад вайной таксама, да гэтага жылі ў ранейшым часовым доміку, а пакоі ў вялікім доме здавалі галоўнаму касіру польскага дзяржаўнага банка»*[20].

Канфіскацыя кватэр у такіх вось «багацеяў» была фактычна адзіным спосабам палепшыць жыллёвыя ўмовы бяздомных гарадзенскіх працоўных, бо на працягу 1940–1941 гг. было пабудавана толькі некалькі двухпавярховых цагляных дамоў для рабочых Станіслравоўскай цагельні[21].

Як выглядаў сам працэс нацыяналізацыі, прыгадала жыхарка вул. Адама Міцкевіча ў Гародні, бацька якой да вайны пабудаваў дом, дзе знаходзілася кватэра і мясная крама: *«Никто ничего не говорил. Пришли, вот, ко мне: «Гражданка, ваш дом национализировали, и, пожалуйста, освободите квартиру. Потому что нам начальнику*

*надо, а вы идите туда». Вот всё. Так, как можно быть уверенным, что это будет хорошо, правда?»*[22]

Паступова распачаліся рэпрэсіі. Сёння шмат напісана пра мэтанакіраваныя савецкія рэпрэсіі, найперш г. зв. «вывазы». Аднак нашым рэспандэнтам заўсёды найбольш хацелася адзначыць абсалютную нематываванасць і выпадковасць рэпрэсій: «*Мать вывезли в Акмолинскую область. Вывозили вообще эшелонами. Мать забрали ночью. Тогда достаточно было простого доноса, и её выслали на год. Она спрятала кольцо и платок очень красивый, которые ей помогли выжить после. Я носила матери передачи, с вечера готовила что-то для неё и занимала очередь в том самом месте, где и теперь передачи передают. Мама скоро откликнулась, написала нам письмо, и я уже туда посылала передачи*»[23].

Найбольш уразіў аповяд рэспандэнткі пра свайго 19-гадовага брата, які выйшаў з хаты літаральна на некалькі хвілін, нават не даеўшы суп, аднак ніколі туды ўжо не вярнуўся: «*Была рэмізія, эта там, дзе танцавалі... А мой брат быў 19-го року. Ён такі быў шутлівы ўсе. А гэта ўжо былі Саветы. Ужэ ён на шутку тому, а ён бы дзесятнік. Ён таму дзесятніку падставіў ногу. Той упаў, пераходзіў. Замельдаваў той у сельскі савет, павестку прыслаў гэты прэдседацель, што быў сусед, каб явіўся мой брат ім у школу, ужэ там у сельсавет. Пашоў ён і ўсё, і няма дахаты, і няма, і няма. Прыходзіць якісьці пасланец, кажа: «Вашага Чэську (ён Чэсік называўся) павязуць у Сапацкін судзіць». На суд адразу, першого дня, ніякіх не даходзення, ні свядкаў, нічога. Тут мой ойцец і матка запраглі каня… І мае радзіцелі паехалі на той суд. Яго адразу асудзілі на рок цюрмы за тую шутку. І вывезлі яго аж у Архангельск. Перша пасядзеў тут, мо, не помню, ужэ знаеце, усяго не ўпомніш, мо, які месяц у Гродне. Вывезлі аж у Архангельск. Ён потым прыслаў пісьмо, што «мой дом Архангельск». Ну, і ўсё. Стала вайна, то [...] якісьці быў такі, што іх забіраў з цюрмы ў Польш, ці далей. І яго там вывезлі далёко, і он там і голову положыў, памёр там. Дожыў до старосці, памёр. І там яго пахаранілі. І мы яго не відзелі, о! Того брата*»[24].

Распавядаючы пра парадак, які ўсталяваўся пасля прыхо-

ду Саветаў, рэспандэнты ацэньвалі яго ў большасці выпадках негатыўна – *«не добры»*[25], *«надто кепскі парадок быў»*[26].

Такім чынам, успаміны пра падзеі верасня 1939 г. жыхароў Гародні і яе ваколіц звязаныя пераважна з пачаткам Другой сусветнай вайны і баявымі дзеяннямі. Найчасцей фігуруюць Скідзельскае паўстанне, баі ў Гародні, бітва ў в. Кодзеўцы. Яны засталіся ў памяці як пераломныя моманты ў жыцці большасці рэспандэнтаў. Пры гэтым змены, якія ўзгадваюць жыхары Гародні і бліжэйшых вёсак, звязаныя ў большасці са штодзённасцю – забеспячэнне прадуктамі, жыллёвыя праблемы, школьная адукацыя, напружаныя адносіны паміж «палякамі» і «беларусамі/рускімі». З гэтым рэспандэнты сутыкаліся кожны дзень.

Вобраз новай улады ва ўспамінах вельмі цесна звязаны з вобразам савецкіх вайскоўцаў. Менавіта яны найбольш ярка зафіксаваныя ў памяці. Іх неахайны выгляд экстрапаліраваўся на ўспрыняцце ўсёй савецкай улады. Для тых, хто наўпрост не сутыкнуўся з рэпрэсіямі, прадстаўнікі новай улады асацыяваліся з трагічна-камічнымі вобразамі вайскоўца ці «кацюшы».

Для шматлікіх жыхароў Гарадзеншчыны адкрыліся новыя жыццёвыя перспектывы – стала больш працы ў гарадах, з’явілася магчымасць паехаць на заробкі на ўсход. Але ў большасці ўспамінаў *несправядлівасць* высылак і арыштаў вызначылі пераважна негатыўную ацэнку падзеяў верасня 1939 г. і дзейнасці савецкай улады ў 1939–1940 гг.

## *Заўвагі*

1 Успаміны былі сабраны аўтарамі на працягу 2001–2014 гг. У артыкуле выкарыстаны аповеды 14 сведкаў з г. Гродна і Гродзенскага р-на.

2 Успаміны Мерцалавай Леакадыі, 1922 г.н. г. Гродна // Асабісты архіў аўтараў.

3 Успаміны Стэфаніі М., 1922 г.н., в. Лойкі, Гродзенскі р-н // Асабісты архіў аўтараў.

4 Успаміны Рымарчука А.С., 1928 г.н. // Горад Святога Губерта. Краязнаўчы альманах. 2008. Выпуск IV. С. 48.

5 Успаміны Леаніда Салаўя, 1918 г.н., сына Рамана Салаўя, беларускага настаўніка і фатографа // Асабісты архіў аўтараў.

[6] Успаміны Мерцалавай Леакадыі, 1922 г.н. г. Гродна.
[7] Успаміны Шаўчэнкі Варвары Мікалаеўны, 1918 г. н. // Горад Святога Губерта. Краязнаўчы альманах. 2008. Выпуск IV. С. 47.
[8] Успаміны пра стары Гродна. М-ко Віктар Мікалаевіч (1928 г. н.) // Горад Святога Губерта: альманах лакальнай гісторыі. Выпуск 7 (2013). Гродна, 2013. С. 30.
[9] Успаміны Феліцыі Т., 1922 г. н., в. Кодзеўцы, Гродзенскі р-н // Асабісты архіў аўтараў.
[10] Успаміны жыхара в. Гліняны, Гродзенскі р-н // Асабісты архіў аўтараў.
[11] Успаміны Клаўдзіі Н., 1926 г. н., Гродна // Асабісты архіў аўтараў.
[12] Успаміны Салявесюка Казіміра Якубавіча, 1922 г. н., Гродна // Асабісты архіў атараў.
[13] Успаміны Антаніны М, 1919 г., Гродна // Асабісты архіў аўтараў.
[14] Люцік Зміцер. Беларускі фронт // ARCHE. 2009, №9. С. 164.
[15] Успаміны Клаўдзіі Н., 1926 г.н., Гродна.
[16] Успаміны пра стары Гродна. М-ко Віктар Мікалаевіч (1928 г. н.)... С. 33.
[17] Успаміны Валканоўскай К.С. // Горад Святога Губерта. Выпуск 6 (2012). Гродна, 2012. С. 133
[18] Успаміны пра стары Гродна. М-ко Віктар Мікалаевіч (1928 г. н.)... С. 33
[19] Успаміны Чарнашовай Веры Фёдараўны, 1928 г. н., Гродна // Асабісты архіў аўтараў.
[20] Успаміны Валканоўскай К. С. С. 132
[21] Вашкевич А., Чернякевич А. Переулок Дзержинского, № 12, 14: первые советские дома в Гродно // Вечерний Гродно. 2012, 21 марта. С. 8.
[22] Успаміны Антаніны М. 1919 г., Гродна.
[23] Успаміны Мерцалавай Леакадыі, 1922 г.н. г. Гродна.
[24] Успаміны Стэфаніі М., 1922 г.н., в. Лойкі, Гродзенскі р-н.
[25] Тамсама.
[26] Успаміны Надзеі Дз., г. Скідзель, Гродзенскі р-н // Асабісты архіў аўтараў.

# Wystąpienia zbrojne w województwach północno-wschodnich II Rzeczypospolitej w pierwszej połowie lat 1920

*Piotr Cichoracki,*
*dr hab. (Wrocław)*

Pierwsza połowa lat 1920 była bez wątpienia najbardziej burzliwym okresem w dziejach województw północno-wschodnich II Rzeczypospolitej. Na ów stan składało się kilka czynników. Można wymienić tu gwałtownie rozwijające się życie polityczne, zainicjowane w tej skali wyborami do parlamentu I kadencji jesienią 1922 r., postępujący proces repatriacji setek tysięcy mieszkańców wyewakuowanych do Rosji w 1915 r., a także pierwszą fazę odbudowy ze zniszczeń wojennych, które dotknęły ten obszar przede wszystkim w latach I wojny światowej, kiedy przez długi czas tędy właśnie biegła – mniej lub bardziej ustabilizowana – część linii frontu wschodniego.

Najbardziej jednak spektakularną emanacją niepokoju, jaki panował na interesującym tu terytorium były brak stabilizacji bezpieczeństwa wewnętrznego, objawiający się przede wszystkim bardzo dużym natężeniem ostrych form przestępczości kryminalnej, a także incydentami zbrojnymi warunkowanymi politycznie. Ta ostatnia kategoria wypadków miała wiele implikacji społecznych. Jak się wydaje, wystąpił wówczas zestaw zjawisk, które zapowiadały problemy charakterystyczne dla Wileńszczyzny, Nowogródczyzny i Polesia tak w okresie pokojowego istnienia II RP, jak i w chwili jej klęski we wrześniu 1939 r. W obu tych momentach mamy w każdym razie do czynienia z ostrą sytuacją kryzysową, co uprawnia do postawienia pytania o istnienia analogii i różnic w postawie mieszkańców i aparatu państwowego wskazanego obszaru, a także ich wzajemnych relacji.

Skala zajść zbrojnych w latach 1921–1925, które można opisać z całą pewnością jako mające genezę polityczną jest obecnie trudna do określe-

nia. Wynika to przede wszystkim ze specyfiki bazy źródłowej, w zasadniczym stopniu składającej się z materiałów wytworzonych przez miejscową administrację cywilną i wojskową, a także z wielu braków w funkcjonowaniu owych władz. Ponieważ stanowiły one tylko jedną stronę konfliktu (konfliktów), którego emanacją były interesujące nas zajścia, a strona przeciwna (a ściślej strony: litewska, białoruska, sowiecka) dokumentacji o zbliżonej wartości wytworzyć nie mogła, bądź nie jest ona dostępna.

W efekcie na dzień dzisiejszy można podejmować próby globalnego oszacowania liczby zajść z użyciem przemocy (zwłaszcza broni palnej). Ponieważ jednak najbardziej spektakularne wypadki tej kategorii można bez trudu określić jako mające podłoże polityczne, ich konsekwencje jak się wydaje stwarzają szansę analizy społecznych aspektów tego rodzaju niepokojów. Biorąc pod uwagę intensywność incydentów określanych jako «przestępstwa dokonane w grupach», apogeum miało miejsce w 1922 r.[1] Natomiast najjaskrawsze i o największej skali przypadki miały miejsce w 1924 r. (ataki na Wiszniewo i Stołpce oraz napady na pociągi pod Łowczą i pod Leśną)[2].

Wkład w destabilizację sytuacji na obszarach włączonych w skład państwa polskiego w wyniku traktatu ryskiego, a także tzw. «buntu Żeligowskiego» miało kilka ośrodków. Na pierwszym miejscu wskazać należy instytucje sowieckie, ponieważ to one z oczywistych względów dysponowały największym możliwościami, one podtrzymywały wskazaną aktywność najdłużej, wreszcie one są odpowiedzialne z najbardziej jaskrawe incydenty. Swój udział miały także władze litewskie, z jednej strony zainteresowane rewizją status quo i rewindykacją Wileńszczyzny, z drugiej zaś zaangażowane we wsparcie emigracyjnego ośrodka białoruskiego podtrzymującego ciągłość BNR (Białoruskiej Republiki Ludowej). Ten ostatni można określić jako trzeci podmiot, prowadzący działania mające utrudnić funkcjonowanie państwa polskiego na spornych obszarach.

Kwestią najważniejszą wydaje się określenie stosunku poszczególnych grup mieszkańców do wskazanej kategorii wypadków, przy czym za kryterium podziału można przyjąć klucz narodowościowy. Należy więc mówić o grupie białoruskiej[3], polskiej i żydowskiej. Rzecz jasna jakiekolwiek uogólnienia przy określaniu stosunku całych tak wyodrębnionych społeczności powinny być stosowane nadzwyczaj ostrożnie. Niemniej zebra-

ny materiał źródłowy pozwala na wychwycenie zjawisk charakterystycznych przynajmniej dla części tak wydzielonych kategorii mieszkańców województw północno-wschodnich II RP. Zaznaczyć przy tym trzeba, że pominięte tu zostaną enuncjacje stronnictw i środowisk politycznych. Za wyjątkiem organizacji białoruskich, miały one najczęściej charakter ponadregionalny i zajmowane stanowisko warunkowane było bardzo często ogólnopolską sytuacją polityczną.

Sądząc z akt administracji państwowej incydenty, które zyskiwały echo nie tylko w skali lokalnej (zwłaszcza te z lata-jesieni 1924 r.), przekładały się zapewne na nastroje dużych grup społecznych. Zarówno w ocenie wojska jak i władz cywilnych podobne wypadki dawały okazję do manifestowania nastrojów przychylnych napastnikom, wszak przecież nieznanych szerszym kręgom. Skalę tego poparcia określić trudno, istotne wydaje się jednak to, że z punktu widzenia administracji był to duży problem, będący ważnym elementem sytuacji uznawanej z zdestabilizowaną. Mogło mieć to wymiar lokalny, kiedy to mieszkańcy wsi swoim zachowaniem utrudniali siłom policyjnym i wojskowym prowadzenie kontrakcji przedsiębranych po zaistnieniu konkretnego incydentu. Podobna postawa mogła przybrać z jednej strony postać udzielania – wg władz polskich dobrowolnie – wsparcia sprawcom incydentów w postaci schronienia i żywności, z drugiej odmawiania współdziałania z władzami czy przekazywaniem siłom pościgowym fałszywych informacji[4].

Latem 1924 r. władze uznawały, że – jakkolwiek nie dochodzi do otwartego buntu – to incydenty zbrojne korespondują ze wzrostową tendencją jeśli chodzi o nastroje nieprzychylne państwu polskiemu[5]. Szczególnie niebezpieczna wydawała się w związku z tym sytuacja w pasie nadgranicznym[6]. Inną kwestią pozostaje, że także dla ówczesnej administracji państwowej nie pozostawiało wątpliwości, iż na genezę «nieprzychylnego usposobienia do państwowości polskiej», które intensyfikowały się w wypadków zaistnienia mniej lub bardziej spektakularnych incydentów w sferze porządku publicznego, składał się cały kompleks zagadnień będących pochodną polityki władz na terenie województw wschodnich. Czy to w dziedzinie gospodarczej, kulturalnej, religijnej, czy wreszcie personalnej jeśli chodzi o dobór kadr urzędniczych[7].

Przychylny stosunek części ludności białoruskiej do incydentów, jak-

kolwiek bezwzględnie istniejący, trudno uznać za trwały w swej pierwotnej formie. Szukając przyczyn pewnego zwrotu, który się wszak dokonał pod koniec omawianego okresu, nie można oczywiście abstrahować od konsekwencji zaistnienia okoliczności, zewnętrznych w efekcie których sytuacja na omawianym obszarze w sferze bezpieczeństwa wewnętrznego uspokoiła się. Na pierwszym miejscu wskazać zapewne należy reorientację polityki sowieckiej. Swój udział miała zapewne polska kontrakcja, która przez dłuższy czas była naznaczona brakiem realnych efektów, ale z czasem zaczęła przynosić wymierne owoce. Sam fakt utrwalenia się polskiej państwowości także miał sprzyjać pewnej rewizji nastrojów. Jakiś wpływ miała postępująca, choć zapewne w tempie niewystarczającym, ale jednak przynosząca efekty odbudowa zniszczeń wojennych, która musiała przecież odbywać się przy udziale państwa.

Pod koniec 1924 r. zdawano sobie we władzach centralnych sprawę, że kluczem do poprawy sytuacji jest nie tylko i nawet nie przede wszystkim zaostrzanie siłowych środków bezpieczeństwa, ale realizacja programu obliczonego na zaspokojenie najbardziej palących bolączek ludności, za które uznano intensyfikację pomocy ludności na rzecz rekonstrukcji warunków bytowania i przyspieszenie zmian w strukturze posiadania ziemi[8].

Wydaje się zresztą, że już wyjściowo istniał tu dla wskazanej zmiany jakiś potencjał. Świadczyć zdaje się o tym duże poparcie uzyskane dla polskich – jakkolwiek zarazem lewicowych i operujących radykalna retoryką – partii w wyborach dla parlamentu I kadencji, jakie odbyły się w listopadzie 1922 r. Niejednoznaczne były też konsekwencje doświadczeń będących konsekwencją «bieżeństwa». Jakkolwiek widziany w Rosji przewrót społeczny dla wielu był pociągający, także jako swoista recepta na bolączki zastane po powrocie, to nie sposób mówić tu o całej wyewakuowanej w 1915 r. społeczności. Być może wskazany podział nakładał się do różnice pokoleniowe, młodzież bywała bowiem uznawana za bardziej radykalną[9]. Owo pokoleniowe zróżnicowanie w odniesieniu do wyobrażeń na temat tego, co dzieje się za wschodnią granicą, było zapewne charakterystyczne dla całego okresu międzywojennego.

Należy wreszcie pamiętać o stanach pośrednich, nie będących ani afirmacją aktów przemocy, ani deklaracjami wobec nich niechętnymi. Odnotowywane w źródłach «podniecenie i zdenerwowanie» mieszkańców

przybierało rozmaity kształt, także w zależności od przebiegu poszczególnych wypadków. Rozmaicie też zapewne można je interpretować[10]. Poza tym zapewne przeważały postawy na zewnątrz całkowicie bierne, choć ich skala zależała od lokalnych uwarunkowań, np. bliskości granicy z ZSRS[11].

Na podstawie informacji dotyczących odbioru opisywanych incydentów można sformułować przypuszczenie, że już w pierwszej połowie lat 20. dla części ludności białoruskiej pożądaną perspektywą był konflikt zbrojny, który – jak zakładano – doprowadzi do zmiany istniejących stosunków społecznych, a nawet do ich przewrotu. Owo zainteresowanie wszelkimi formami destabilizacji na arenie międzynarodowej okazało się trwałe i cyklicznie przybierało formy zintensyfikowane, a i nie pozbawionej pewnej egzotyki, jak w wypadku zauważalnego echa, jaki wywołała japońska interwencja w Mandżurii w 1931 r. czy wojna włosko-abisyńska[12].

Zmiany nastrojów na tym tle punktowo wprowadzały miejscowe władze w stan bardzo poważnego zaniepokojenia. Tak było jesienią 1938 r., kiedy wzmacniana szeroko odbieraną tu sowiecką propagandą radiową upowszechniające się przekonanie o nadciągającym konflikcie polsko-sowieckim w ocenie administracji mogła nawet zaburzyć ewentualną mobilizację[13]. Zwraca uwagę, że zarówno w pierwszej połowie lat 20., jak i pod koniec okresu międzywojennego rozpowszechniane bywały wezwania do odmawiania służby w Wojsku Polskim, co mogło generować gwałtowne incydenty[14]. W 1939 r. zarówno marcowa mobilizacja alarmowa, jak i sierpniowa powszechna została przeprowadzona bez najmniejszego problemu, ale jej kontekst stanowił konflikt polsko-niemiecki.

W kontekście Września warto zwrócić uwagę, że 15 lat wcześniej jako najważniejsze źródło negatywnego ustosunkowania się do państwa na tle kryzysu bezpieczeństwa wewnętrznego, były z punktu widzenia administracji przede wszystkim czynniki zewnętrzne, a nie np. rodzimi komuniści, choć z drugiej strony trudno tu przecież wyznaczyć precyzyjne granice[15]. W każdym razie wydaje się, że również w realiach stworzonych 17 IX 1939 r. sowiecką agresją, za eskalację nastrojów wrogich państwu polskiemu były w znacznie większej mierze działania prowadzone bezpośrednio zza wschodniej granicy, aniżeli «autonomiczna» aktywność ludzi

formalnie związanych do 1938 r. z KPZB, zresztą wówczas już przecież unicestwioną decyzją sowieckiego kierownictwa.

Jeśli chodzi o ludność polską, stosunek do najjaskrawszych wypadków zagrożenia bezpieczeństwa wewnętrznego był zapewne w zasadniczym stopniu negatywny, choć być może nawet w tej grupie nie była to jedyna spotykana postawa[16]. Można założyć, że państwo było traktowane w tej grupie etnicznej jako własne, stąd reakcja nie mogła być inna. Polacy, szczególnie mocno reprezentowani w ośrodkach miejskich, niekiedy bywali podatni na plotki będące efektem incydentów omawianego typu.

Dziś wiemy, że przeceniano w nich bezpośrednie konsekwencje zajść i kreowano zagrożenie, które w «przewidywanej» skali nie miało zaistnieć, zarówno jeśli chodzi o intensywność jak i geograficzny zasięg[17]. Grupą podatną na podobne nastroje był także korpus urzędniczy związany z administracją w tym osoby sprawujące newralgiczną funkcję starosty, co należy traktować jako zjawisko szczególnie niebezpieczne z punktu widzenia państwa[18]. Rzecz jasna nie należy tej konstatacji dotyczącej nastrojów wśród Polaków traktować w kategorii zarzutu, który byłby wszak ahistoryzmem. Niezaprzeczalnym faktem pozostaje, że ofiarami zajść po stronie atakowanej byli nie tylko policjanci czy żołnierze, ale także przedstawiciele ludności cywilnej, których niekiedy nie sposób uznać za pozbawianych życia przypadkowo[19]. W każdym razie skłonność do alarmistycznych postaw być może należy traktować jako świadectwo niepewności polskiej grupy narodowej, wynikającej ze świadomości bycia na opisywanym obszarze mniejszością.

Szybkość, z jaką rozwijały się wypadki we wrześniu 1939 r., zwłaszcza od agresji sowieckiej powoduje, że w odniesieniu do ludności polskiej trudno silić się na analogie z zagrożeniem bezpieczeństwa z pierwszej połowy lat 20. Upadek państwa, jaki dokonywał się dosłownie w ciągu dni zdawać się musiał w jej oczach czymś nieoczekiwanym i wyjątkowym. Być może należy ewentualnie postawić pytanie o postawę administracji w województwach wschodnich, a tym samym jej jakość i zmiany na tym polu, jakie dokonały się przez kolejne 15 lat. Mimo szybkiego biegu wypadków we Wrześniu, nie ulega jednak wątpliwości, że nawet w sytuacji skrajnej scenariusze zachowania się przedstawicieli władz mogły być różne. Wydaje się, że sprawa ta dopiero wymaga badań.

Zebrano mało informacji na temat odbioru wskazanej kategorii wypadków z pierwszej połowy lat 20. przez ludność żydowską. Jakaś – choć zapewne niewielka – jej część, która była podatna na wpływy komunistyczne mogła okazać się na tyle zdeterminowana, aby nawet pośrednio zamanifestować poparcie dla zaistnienia incydentów, a tym samym niechętny stosunek do państwa polskiego[20].

W wypadku ludności żydowskiej na tym obszarze wątpliwym byłoby tworzenie paraleli pomiędzy jej – słabo zresztą uchwytnym w świetle zebranego materiału – zachowaniem w kontekście niepokojów pierwszej połowy lat 20., a zachowaniem we wrześniu 1939 r. Fakt w dużej mierze pozytywnego stosunku do sowieckiego agresora bądź obojętnej postawy odnośnie upadku II RP był bowiem zapewne warunkowany także czynnikami, które w takiej postaci nie występowały w pierwszych latach okresu międzywojennego, a pojawiły pod jego koniec, jak np. ostre uliczne wystąpienia antyżydowskie (Grodno 1936 r., Brześć 1937 r.).

Oddzielnym zagadnieniem jest diagnoza stanu instytucji odpowiadających za bezpieczeństwo. W pierwszej połowy lat 20. w ogniu bardzo ostrej krytyki znalazła się Policja Państwowa. Tu wydają się istotne nie tyle organizacyjne aspekty jej funkcjonowania, co wyłaniający się obraz korpusu osobowego. O ile np. w wypadku wspomnianych wyżej napadów na pociągi całkowicie zrozumiała jest bierna postawa cywili, to zwraca uwagę, że w sytuacji zagrożenia brak woli oporu wykazywali funkcjonariusze policji. Postawę odmienną w sytuacji nagłego zagrożenia można określić jako wyjątkową. Policjanci byli podobne jak urzędnicy podatni na nastroje zawierające w sobie elementy paniki[21]. Nieprzypadkowo też latem 1924 r. podjęto decyzję o zastąpieniu policji przez Korpus Ochrony Pogranicza jako instytucji odpowiedzialnej za strzeżenie granicy wschodniej.

Należy jednak zaznaczyć, że morale policjantów z czasem rosło. Ostatni z najjaskrawszych incydentów, jakim był napad na pociąg pomiędzy Leśną i Domanowem wykazał ów progres wyraźnie, bowiem jeśli w ogóle uznać działania strony polskiej za sukces, to dzieje się m.in. właśnie dzięki zaangażowaniu funkcjonariuszy Policji[22].

Dzieje policji w województwach północno-wschodnich bez wątpienia wymagają dalszych badań. Można jednak zakładać, że kryzys, w ja-

kim – z punktu widzenia państwa – znalazła się ta formacja w pierwszej połowy lat 20. został przełamany. Wypadki lat 30. sugerują, że w obliczu bezpośredniego zagrożenia policjanci wytrzymywali sytuacje opresyjne na powierzonych im posterunkach (Nowosiółki, pow. kobryński 1933 r.) i wypełniali rozkazy przełożonych, co w pojedynczych przypadkach mogło oznaczać utratę życia (pow. koszyrski, 1932 r.)[23].

Policjant cieszył się w oczach mieszkańców swoistym autorytetem, zapewniającym mu szanse efektywnego, codziennego utrzymywania ładu. Jego fundamentem nie było raczej jednak zaufanie, ale przekonanie o sile reprezentowanego przez policjanta państwa i zdecydowanie, a niekiedy brutalność, w działaniu. Bez wątpienia dla jakiejś jej części była wręcz najbardziej jaskrawym instrumentem ucisku, demonstrowanego np. w trakcie działań sekwestracyjnych, kiedy to policjanci byli używani jako asysta funkcjonariuszy aparatu skarbowego[24].

Wspomniano, że efektem zagrożenia bezpieczeństwa wewnętrznego było stworzenie KOP. Przez kolejne 15 lat odgrywała ona bardzo poważną rolę, często nie zawsze wprost związaną z ochroną granicy. Była instrumentem politycznym, a jej interakcje z mieszkańcami można określić jako zróżnicowane i intensywne.

Tutaj w kontekście Września możemy policje i KOP potraktować zbiorczo. Obie instytucje, powołane bądź przekształcone w wyniku kryzysu jaki dotknął sferę porządku wewnętrznego w pierwszej połowy lat 20. stały się trwałym elementem krajobrazu społeczno-politycznego województw północno-wschodnich. Jako odpowiedzialne za utrzymanie bezpieczeństwa po 1 września, a następnie 17 września znalazły się w zbliżonej sytuacji. O ile wybuch wojny polsko-niemieckiej nie zakłócił procesu wypełniania przez nie nominalnych obowiązków, to atak sowiecki postawił je w położeniu zazwyczaj beznadziejnym, bądź jak w wypadku Polesia bardzo trudnym. Zagrożeniu za strony sowieckiej niejednokrotnie bowiem towarzyszyło niebezpieczeństwo starcia z własnymi obywatelami. W wypadku, gdy do nich dochodziło, nabierały one z obu stron bezwzględnego charakteru.

Jeśli podjąć próbę konkluzji w odniesieniu do problemu ewolucji wpływu zagrożenia destabilizacją wewnętrzną na nastroje społeczne, stan aparatu administracyjnego i wypełnianie przezeń obowiązków w za-

kresie zapewnienia bezpieczeństwa na obszarach województw północno-wschodnich II RP, to ocena wydaje się ambiwalentna. Z jednej strony, obserwując jedynie zewnętrzne emanacje życia społecznego i politycznego można było dojść do wniosku, że sytuacja pod koniec lat 30. jest z punktu widzenia państwa polskiego opanowana, jakość aparatu urzędniczego poprawia się, a miejscowe, niepolskie w większości społeczeństwo pogodziło się z istniejącym *status quo*. Należy jednak zgodzić się z twierdzeniem, że efekty przyjętych rozwiązań dawały jedynie «złudne» poczucie wyboru przez władze właściwej drogi[25]. Przynajmniej w takiej perspektywie, jaką stworzył kryzys czechosłowacki, a przede wszystkim 17 września 1939 r.

## *Uwagi*

1 W. Śleszyński, *Walka instytucji państwowych z białoruską działalnością dywersyjną 1920–1925*, Białystok 2005, s. 42.

2 Na temat tych konkretnych incydentów: P. Cichoracki, *Stołpce – Łowcza – Leśna 1924. II Rzeczpospolita wobec najpoważniejszych incydentów zbrojnych województwach północno-wschodnich*, Łomianki 2012, passim; A. Ochał, *Napad na Wiszniew (19 VII 1924)*, [w:] «Dzieje Najnowsze» 2014, nr 1. Niektóre polskie dokumenty związane z nimi opublikował Wojciech Śleszyński, idem, *Walka instytucji państwowych* …, s. 86–89, 114–118, 126–128, 141–144.

3 Ze względów narracyjnych pojęcie to będzie w niniejszym tekście używane także w stosunku prawosławnych mieszkańców województwa poleskiego, w jakiejś części nie posiadających poczucia przynależności do żadnej z uznawanych wówczas narodowości, w zasadniczym stopniu przynależnych pod względem językowym do grupy białoruskiej i – na Polesiu – ukraińskiej.

4 Państwowe Archiwum Obwodu Brzeskiego (PAOB), f. 67, o. 1, d. 773, k. 18, Meldunek dowódcy szkoły podoficerskiej 9 Samodzielnej Brygady Kawalerii (SBK) dla dowództwa 9 SBK z 9 VIII 1924; ibidem, k. 24, Raport por. S. Michalickiego dla dowództwa 9 SBK z 9 VIII 1924; Telegram podinspektora Kaweckiego do por. S. Zaćwilichowskiego – referenta informacyjnego Inspektoratu Armii nr 1 z 3 X 1924, [w:] W. Śleszyński, *Walka instytucji państwowych*…, s. 126.

5 PAOB, f. 67, o. 1, d. 769, k. 14–16, Protokół nadzwyczajnego zjazdu starostów województwa nowogrodzkiego z 19 VIII 1924.

6 PAOB, f. 67, o. 1, d. 596, k. 31, Meldunek sytuacyjny nr 136 komendy Okręgu XIV PP z 3 X 1924.

[7] PAOB, f. 67, o. 1, d. 769, k. 14–16, Protokół nadzwyczajnego zjazdu starostów województwa nowogrodzkiego z 19 VIII 1924; Raport Oddziału II Sztabu Generalnego [marzec/kwiecień 1923], [w:] W. Śleszyński, *Walka instytucji państwowych z …*, s. 55.

[8] Protokół 93 posiedzenia KPRM z 1 X 1924, [w:] *O Niepodległą i granice*, t. 5, s. 302; J. Tomaszewski, *Trzy projekty Władysława Grabskiego*, «Kwartalnik Historyczny» 1959, nr 4, passim.

[9] *Rocznik Poleski*, Brześć 1923, s. 32–33.

[10] Archiwum Akt Nowych (AAN), Komenda Wojewódzka Policji Państwowej w Brześciu (KWPPB), sygn. 5, k. 94, Sprawozdanie z ruchu zawodowego i społeczno-politycznego komendy Okręgu XIV PP za wrzesień z 16 X 1924; PAOG, f. 551, o. 1, d. 987, k. 16, Meldunek funkcjonariusza PP – asp. Wiszniewskiego [listopad 1924].

[11] PAOB, f. 67, o. 1, d. 769, k. 16, Protokół nadzwyczajnego zjazdu starostów województwa nowogrodzkiego z 19 VIII 1924.

[12] Opracowanie «Polski stan posiadania na Polesiu», [w:] *Polesie w polityce rządów II Rzeczypospolitej*, oprac. W. Śleszyński, A. Jodzio, Białystok-Kraków 2009, s. 227.

[13] P. Cichoracki, *Sytuacja w województwie poleskim od kryzysu zaolziańskiego do mobilizacji alarmowej w marcu 1939 r.*, [w:] «Przegląd Historyczno-Wojskowy» 2009, nr 3, s. 207–211.

[14] PAOB, f. 67, o. 1, d. 769, k. 14–16, Protokół nadzwyczajnego zjazdu starostów województwa nowogrodzkiego z 19 VIII 1924; AAN, UWP, sygn. 31, k. 101, Sprawozdanie ze stanu bezpieczeństwa za lipiec z 13 VIII 1938.

[15] PAOB, f. 67, o. 1, d. 769, k. 14, Protokół nadzwyczajnego zjazdu starostów województwa nowogrodzkiego z 19 VIII 1924. W ówczesnej prasie, a także na poziomie administracji lokalnej można było natknąć się także na sądy odmienne, PAOB, f. 2001, o. 4, d. 1627, k. 45, Sprawozdanie sytuacyjne starosty pińskiego za listopad z 7 XII 1924; *Napad na pociąg pod Leśną dziełem mińskiej organizacji*, «Dziennik Wileński» 1924, nr 254 z 7 XI.

[16] PAOB, f. 67, o. 1, d. 769, k. 15, Protokół nadzwyczajnego zjazdu starostów województwa nowogrodzkiego z 19 VIII 1924; *Sprawy kresowe*, «Dziennik Wileński» 1924, nr 224 z 2 X.

[17] *Szczegóły napadu na Stołpce*, «Kurier Wileński» 1924, nr 34 z 5 VIII. *List z Wilna*, «Gazeta Warszawska» 1924, nr 216 z 8 VIII.

[18] AAN, Komenda Główna Policji Państwowej (KGPP), sygn. 2164, k. 440, Raport Sytuacyjny nr 187 Wydziału V KGPP z 18 VIII 1924. PAOB, f. 67, o. 1, d. 773, k. 26, Meldunek dowódcy OK IX dla inspektora Armii nr 1 z 22 VIII 1924.

[19] Centralne Archiwum Wojskowe, Oddział II Sztabu Generalnego, sygn. I

303.4.2544, k. 166, Odpis meldunku Komendy Okręgu XIV PP z 1 X 1924; С. Крапивин, *Ударники. Чекистская и атаманская «партизанка» 1920-х годов в Западной Беларуси*, «Труд – 7», cz. I, nr z 8 VIII 2002.

[20] *Przegląd prasy*, «Dziennik Wileński» 1924, nr 292 z 23 XII.

[21] PAOB, f. 67, d. 779, k. 110, Meldunek sytuacyjny [Samodzielnego] Referatu Informacyjnego DOK IX z 17 VIII 1924.

[22] *Działalność Policji. Kresy. Nowogródek*, «Na Posterunku» 1924, nr 46.

[23] P. Cichoracki, *Polesie nieidylliczne. Zaburzenia porządku publicznego w województwie poleskim w latach trzydziestych XX w.*, Łomianki 2007, s. 37, 144.

[24] Józef Obrębski, *Polesie*, red. A. Engelking, Warszawa 2007, s. 312, 313; S. Wysłouch, *Stosunki narodowościowe na terenie województw wschodnich*, red. M. Iwanow, Warszawa 2013, s. 214, 215.

[25] W. Śleszyński, *Bezpieczeństwo wewnętrzne w polityce państwa polskiego na ziemiach północno-wschodnich II Rzeczypospolitej*, Warszawa 2007, s. 330.

# Баўленне вольнага часу вясковай моладдзю на «польскай» і «савецкай» частках Беларускага Падзвіння ў 1920–1940-я гг.

*Ала Захарэвіч,*
*мгр (Варшава)*

18 сакавіка 1921 г. у Рызе быў падпісаны мірны дагавор, паводле якога Польшча атрымала заходнюю частку Беларусі з насельніцтвам каля 4 млн. чалавек. «Рыжскі мір» вельмі моцна паўплываў на жыццё беларускіх вяскоўцаў з абодвух бакоў ад новай мяжы. Амаль у кожнага засталіся родныя і сябры на іншым баку, і жылі яны ўжо па-іншаму: «*Граніца ж была радам, і не маглі паняць, як там. У нас жа кусочкамі была зямля падзелена, палосачкамі, а ў іх саўхозная ж зямля, дык разам. Кажуць, чаго бабы разам жнуць, чаму яны гэдак? У нас жа паасобку жнуць, а там усе разам. А дагадацца ніхто не мог, што гэта калхоз, што гэта не гэткае*»[1].

Самай актыўнай часткай грамадства з'яўляецца моладзь. Менавіта яна найбольш востра рэагуе на рознага кшталту змены. Паглядзім, як гэтыя змены адбіліся на тым, як вясковая моладзь бавіла вольны час. Адной з найбольш распаўсюджаных формаў баўлення былі «вячоркі». Першапачаткова яны падзяляліся на працоўныя і святочныя. Аднак з цягам часу працоўныя «вячоркі» пачалі знікаць і на пачатку 1950-х гг. цалкам згубілі сваё прамое назначэнне.

Асноўныя прынцыпы арганізацыі вечарынак (вячорак, танцаў) былі аднолькавымі для вёсак як «польскай», так і «савецкай» Беларусі. Папулярнасцю карысталіся адны і тыя ж танцы і гульні, абавязковай была прысутнасць дарослых і г. д. Аднак былі і асаблівасці.

Ладзіліся вечарынкі звычайна ў суботу і нядзелю. Арганізацыяй на «польскім баку» звычайна займаліся хлопцы. Яны шукалі памяшканне і разлічваліся з музыкамі. На «савецкім» баку пра арганізацыю клапаціліся часцей за ўсё разам: «*Адно васкрасенне*

*ці суботу дзеўкі спраўляюць, а другое – мальцы. Плаціць жа нада музуканту! Ён жа дарма іграць не будзе! Сабіралі яйкі, кралі ў матак. Снімаю, схаваю к субоце. І ты, і я, і другая. Сабярэм 10–15 яіц. А мальцы ці бутэльку самагонкі ці грашыма»*[2]. За карыстанне хатай не плацілі. Дзяўчаты маглі памыць падлогу пасля танцаў, калі ў хаце не было дзяўчыны-гаспадыні.

У некаторых вёсках увесь час збіраліся ў хаце кагосьці з аднавяскоўцаў, у іншых – у кожнай з дзяўчат па чарзе. На «савецкім баку» з пачатку 1920-х гг. актыўна вялося будаўніцтва клубаў і хатчытальняў, але былі пабудаваны яны далёка не ў кожнай вёсцы.

Моладзь хадзіла на танцы і ў суседнія вёскі: *«Хадзілі ў чужую дзярэўню. Вы прыйшлі к нам, а тады ў следующчую суботу мы к вам. А жылі на хутарах, не ў пасёлку. Як зімой снягі былі! Штаны ж не насілі, гэта цяпер ходзяць. А мы ў рубашке, юбке. Зімой ідзеш, лытку патрэш і пайшоў далей»*[3]. Больш заможныя хлопцы і дзяўчаты на танцы ехалі на веласіпедах, якія каштавалі вельмі дорага і былі не ў кожнага. Інфарманты распавядаюць, што маладыя людзі з Заходняй Беларусі, каб купіць веласіпед, хадзілі ў Латвію на сезонныя работы. Трэба адзначыць, што сезонная эміграцыя з Браслаўскага і Дзісенскага пав. Віленскага ваяводства была распаўсюджанай з'явай. Напрыклад, у 1935 г. на працу ў Латвію выехала 4,14 % і 1,9 % ад усяго насельніцтва. Прычым 61 % выехаўшых складалі маладыя людзі ад 20 да 29 год[4]).

Аб тым, калі і дзе будзе вечарына, дамаўляліся ў царкве і на фэстах (Заходняя Беларусь), кірмашах, перадавалі запіскі (на ўсёй разглядаемай тэрыторыі).

Часам перад вечарынкай хлопцы ўжывалі гарэлку (самагонку). Аднак ужывалі няшмат, бо гарэлка дорага каштавала і да таго ж лічылася непрыстойным прыйсці на танцы на моцным падпітку: *«Выпівалі мальцы на танцах, але чацвяртушку якую, бутылку ў дваіх. Гэта ж не было віна, водка белая ж была дарагая, а бацька ж не дасць грошы: калі ён прадаў пуд зерна, нада ж купіць сыну бацінкі ці касцюм, дачка сёлета замуж пойдзе. Болей сваю гналі з хлеба, з зерна. Даўней п'янага не ўбачыш, толькі запах пачуеш. Сколькі ён там выпіць, чацвяртушку на дваіх – герой»*[5].

Ужыванне алкаголю звычайна спрыяла бойкам: «*Бяруць водку з сабой, выпіваюць, бываець, што біцца завядуцца. Было ж сколькі разоў, што і біліся. Было як раз, што ў нас. Былі ўжо ўскочыўшы ў хату і кірпіч ужо адбівалі, ужо драка была добрая. Тады ўжо выскачылі жэншчыны і прасілі іх. І была далей вечарына*»[6].

Часам на вечарыне хлопцы біліся «вёска на вёску»: «*Бывала, завядуцца хлопцы. Там Парэчча, дык з парэцкімі завёўшыся былі. Даўней вінтоўкі, нажы з сабой бралі. З сітчанамі завёўшыся былі, аднаму кінжал, багнэт, у плечы ўсадзіў, дык сагнуўшыся прыляцеў ён да суседа, кроў аж на абразы. Ён жоўты хадзіў, гэта як цяпер, можа, кроў бы яму ўвадзілі, а тады выхадзіўся і памёр раньшэ*»[7].

З-за бойкі вечарыну маглі спыніць, гаспадары наступны раз маглі не пусціць у хату.

Музыкі звычайна ў вёсцы былі свае – хлопцы ці старэйшыя мужчыны, якія ўмелі іграць на цымбалах, скрыпцы, гармоніку ці балалайцы. Разлічваліся з музыкамі грашыма ці гарэлкай («*сколькі вып'е, але каб не перапаіць, каб іграў*»). Рэдка ў каго ў хаце быў прайгравальнік для пласцінак.

Сярод танцаў самымі распаўсюджанымі былі полька, вальс, кракавяк, кадрыль, падыспань ды інш. Трэба адзначыць, што танцаваць умелі амаль усе хлопцы і дзяўчаты, бо вучыліся з маленства (глядзелі, як танцуюць старэйшыя, гулялі «ў танцы», трэніраваліся ў пуні ці на полі са снапамі). Добрых танцораў у калектыве паважалі. Напрыклад, дзяўчыну, якая добра танцуе, хлопец запрашаў танцаваць падчас спаборніцтва паміж парамі і музыкамі («*ці музукант пераіграіць, ці пары ператанцуюць*»), што было ганаровым для дзяўчыны.

Танцы звычайна суправаджаліся прыпеўкамі. Таксама спявалі прыпеўкі, калі гулялі ў карагоды. Музыку (ці музыкаў) у гэты час хлопцы, якія былі арганізатарамі вечарынкі, запрашалі павячэраць.

На вечарынах гулялі ў разнастайныя гульні, напрыклад, у «цотка ці лішка», «перстэнэчак, да мяне», «ці любіш свайго саседа», фанты ды інш.

Пасля вечарыны хлопцы праводзілі дзяўчат дадому.

У разгляданы перыяд на вечарынкі, фэсты, у касцёл ці ў царк-

ву дзяўчаты і хлопцы стараліся апранацца па-святочнаму. Хлопцы ў такіх выпадках таксама надзявалі сваю лепшую вопратку і абутак. Аднак усё ж большасць апраналася вельмі проста, бо не мела магчымасці набываць сабе ўпрыгожванні ці палатно на абноўкі ў краме. Гэта было звязана з цяжкім матэрыяльным становішчам сялян, працай у калгасах за «палачкі – працадні», а не за грошы («савецкая» Беларусь), высокімі падаткамі («польская» Беларусь) і іншымі неспрыяльнымі фактарамі.

Старажылы ўспамінаюць: «*Канешне, хацелася прыгажэй, але ж не выхадзіла. Маеш якую кофтачку, дык беражэш, каб была ў пашанку. Вечарына, а ў касцёл хадзіць – гэта яшчэ лепшае плацейка якое ў цябе, туфлікі якія. І ў гэтых туфліках не йдзеш у касцёл, ідзёш басяком, тут абуёшся, ідзёш у касцёл. З касцёлу выходзім, туфлікі падпаху, ідзём басяком. У нас, у папы чатыры дачкі было, дзе ж было ўзяць*»[8].

На вечарынах абавязкова прысутнічалі дарослыя – бацькі, бабулі, пары, якія ўжо пабраліся шлюбам. Гэта быў нефармальны сацыяльны кантроль як з боку родных і сваякоў, так і ўсёй вясковай грамады: «*Вот еслі складковая, і прыйдуць і старыя. І мама, і саседкі прыдуць. А тады як за стол браць, дык толькі красней – а вдруг мяне не вазьмуць. У вугалок дзе-небудзь сядуць і глядзяць, як танцуюць, хто з кім шпацыруець, хто што. І яшчэ бывала і сваю п'янку адкрыюць. Яшчэ і разрашаць ім станцаваць, сыграюць для іх. Усё польку заказывалі. Жэншчыны, а было, што і мужчыны прыхадзілі, вот тады і закажуць, што для старэйшых будзець полька. Ну, вот тады яны танцуюць адны. Троху патанцуюць і прыглашаюць: «Памагайце нам!» Ну і хто хочэць тады пойдзець. Было і гэдак*»[9].

Таксама старажылы распавядаюць пра правядзенне на тэрыторыі Заходняй Беларусі так званых «белетовых вечарынак»: «*Пры Польшчы для багатых танцы былі, белетовыя называліся. Па белету, па запрушэнню. Паны, гэта ўжо, як гэта сказаць, высшыя, багатыя, але ж хто трошку багацейшы, той тады падмажыцца і таго па запрашэнню пазавуць*»[10] (Глыбоцкі раён Віцебскай вобл., былы Дзісенскі павет Віленскага ваяводства).

У Мёрскім раёне (былыя Дзісенскі і Браслаўскі паветы Віленскага ваяводства) вечарыны такога тыпу называліся «складковымі».


Приглашение
Афонченко Женю имею честь пригласи[ть]
вечорку складковую которая состоится
в дер. Путинове в доме Аржаника Андрея
в субботу – 5 часов вечера 22/XI-41г.

*Запрашэнне на вячорку. З фондаў Музея радзімазнаўства ў в. Лявонпаль Мёрскага р-на Віцебскай вобл.*

Арганізатарам выступаў адзін ці некалькі хлопцаў, яны шукалі памяшканне, дамаўляліся з музыкамі і рассылалі запрашэнні сярбам.

Без запрашэння прыйсці было нельга. Напрыканцы вечара, пасля танцаў быў «складковы» стол, для якога дзяўчаты прыносілі закуску, а хлопцы гарэлку. Хлопцы запрашалі за стол дзяўчат, але часам бывала і наадварот: *«А тады аб'явіць музыкант, што ўжо за стол будзем садзіцца, і скажыць: «Выбірайце, парні, дзевак». А было, што скажуць дзеўкам выбіраць парняў, дык тады яшчэ хужэ. Думаеш, можа, падайду я, вот тот мне нравіцца, да таго, а ён, можа, ня хочэць са мной. Дык яшчэ і пераживай. А як так, стаіш і ўсё. Падойдзець хто, з тым і пойдзеш. Ухажор ёсць, дык гэта ўжо надёжна, а нет ухажора, дык тады стой, пакуль хто возьмець. Але было, што такія складковыя мальцы самі праўлялі, ну, дзеравенскія. І самі гэтыя мальцы не садзяцца за стол, пакуль усіх дзевак разберуць. А каторыя дзеўкі астаюцца, каб ім стыду не наробіць, тады гэты мальцы бяруць гэтых дзевак»*[11].

Прыведзены прыклад з'яўляецца яскравым сведчаннем існавання своеасаблівага моладзевага этыкету. Сюды ж можна аднесці забарону, якая бытавала на ўсёй тэрыторыі Беларусі, менавіта дзяўчына не мела права адмовіць хлопцу, які запрашаў яе на танец, каб не пакрыўдзіць, не паказаць, што ён нечым горшы за іншых.

У іншым выпадку дзяўчыне маглі «стыду нарабіць» («даць фігу ў нос», абразіць, прагнаць з вечарынкі): «*Не, нада ісці, а то фігу*

*дасць пад нос. Ужо дамоў ты можаш з ім не ісці, калі не захочаш, каб ён цябе праважаў, а ў танцы хоць ты яго не любіш, а пойдзеш. Мне самой… Я танцавала дужа добра, лёгка, мяне бралі мальцы добрыя, каторыя дзейсцвіцельна танцуюць, а прыйшоў во гэты Вусенька, а ён блага танцаваў. І кальцо ж было, колэчко называлася. Танцуюць-танцуюць, тады кальцо, гэта дзеўка ідзе к гэтаму мальцу, а гэта к гэтаму. Дзевачкі ўпярод, а тады ўжо з другім танцуеш. І я з гэтай колэчкі, мне з ім нада было танцаваць. Пайшла і стала, не пайшла з ім. А ён прыйшоў, як жа ён на мяне ўсяк стаў гаварыць. Дык Марылевіч за мяне заступіўся: «А ты, танцэр гэткі, чаго прычапіўся?!» А так бы даў фігу ў нос. Хоць які бярэць – далжна ісці»*[12].

Адной з асаблівасцей вечарынак у памежных вёсках быў прыход салдат-памежнікаў. Але пасля апоўначы ўсе павінны былі разысціся. Калі не атрымлівалася знайсці хату, моладзь магла звярнуцца да памешчыка: *«Прасіліся, каб пусціў у вазоўню патанчыць»*[13].

Важнай падзеяй у жыцці моладзі Заходняй Беларусі былі фэсты. У некаторых раёнах пасля набажэнства ў царкве моладзь ладзіла вечарынку (а часам нават дзве, калі прыход быў вялікі). Шукалі памяшканне, запрашалі музыкаў і танцавалі. Тут таксама адчынялі «Domy ludowe», дзейнічалі моладзевыя арганізацыі (напрыклад, «Koło młodej wsi»).

На «савецкім баку» бальшавікі пачалі паступова ўсталёўваць поўны кантроль над усімі сферамі жыцця людзей. Акрамя іншага, іх палітыка была накіравана на знішчэнне рэлігіі і царквы. Так, на пачатку 1920-х гг. стала актыўна ўкараняцца г. зв. «чырвоная абраднасць». «Чырвонымі» павінны былі стаць ключавыя падзеі ў жыцці чалавека: нараджэнне, вяселле, смерць. Замест хрэсьбінаў прапаноўвалася праводзіць «акцябрыны», змест вяселляў – «чырвоныя вяселлі», замест пахаванняў – «чырвоныя пахаванні»[14].

Вячоркі таксама трапілі пад увагу бальшавікоў, бо з'яўляліся асноўнай формай баўлення вольнага часу моладзі. Прапаноўвалася *«старыя вячоркі з п'янымі разгуламі і спаннём у пару замяніць чырвонымі камсамольскімі вячоркамі, з цікавымі і карыснымі гульнямі, з бадзёрымі калектыўнымі спевамі, з вырашэннем балючых сённяшніх*

*пытанняў»*[15]. Прыкладна так Саветы бачылі «правільную» вечарыну. Для яе папулярызацыі ў выдавецтвах Мінска, Масквы і Ленінграда масава друкаваліся такія кнігі, як «Камсамольскія вячоркі» З. Паваротнага, «Комсомольские посиделки» В. Смірнова, «Летняя гулянка» А. Зелянко ды інш. У іх можна было знайсці прыкладны сцэнар свята, варыянты перарobленых на новы лад песень, прыпевак ды інш.

Такім чынам, хоць беларусы казалі «Не выбірай дзеўку на йгрышчы, а выбірай на ржышчы», усё ж знаёмілася і наладжвала адносіны моладзь на кірмашах, фэстах і вечарынах. Асноўныя прынцыпы арганізацыі вечарын былі аднолькавымі для вёсак як «польскай», так і «савецкай частак» Беларускага Падзвіння. Папулярнасцю карысталіся адны і тыя ж танцы і гульні, абавязковай была прысутнасць дарослых і г. д. Аднак былі і свае асаблівасці. Так, у Заходняй Беларусі ладзіліся «складковыя» вечарынкі, праводзіць якія дазваляла лепшае, чым на іншым баку мяжы, матэрыяльнае становішча сялян, фэсты, прыходы на вечарынкі памежнікаў. Ва Усходняй Беларусі такімі былі г. зв. «камсамольскія вячоркі», хаты-чытальні і клубы.

## *Заўвагі*

1 Запісана аўтарам у 2010 г. ад Анашкевіч Антаніны Іосіфаўны, 1929 г. н., у в. Шо Глыбоцкага раёна.

2 Запісана аўтарам у 2008 г. ад Балуцінай Еўфрасінні Афанасьеўны, 1921 г. н., у в. Княжыца Віцебскага раёна.

3 Запісана аўтарам у 2008 г. ад Балуцінай Еўфрасінні Афанасьеўны, 1921 г. н., у в. Княжыца Віцебскага раёна.

4 Ormicki W. Struktura demograficzna wychodźtwa sezonowego z ziemi wileńskiej do Łotwy w roku 1935. Wilno, 1938. S. 17.

5 Запісана аўтарам у 2010 г. ад Раслевіч Любові Уладзіміраўны, 1932 г. н., у в. Стуканы Глыбоцкага раёна.

6 Запісалі Бугаевіч Р. Г., Захарэвіч А. Б., Шрубок А. У. у 2014 г. ад Курузы Алы Іларыёнаўны, 1931 г. н. у в. Узмёны Мёрскага раёна.

7 Запісаў Бугаевіч Р. Г. у 2007 г. ад Грыгаровіча Аляксандра Іванавіча, 1920 г. н., у в. Курдзекі Докшыцкага раёна.

[8] Запісана аўтарам у 2009 г. ад Беззубёнак Марыі Феліксаўны, 1926 г. н. у в. Празарокі Глыбоцкага раёна.
[9] Запісалі Бугаевіч Р. Г., Захарэвіч А. Б., Шрубок А. У. у 2014 г. ад Курузы Алы Іларыёнаўны, 1931 г. н. у в. Узмёны Мёрскага раёна.
[10] Запісана аўтарам у 2010 г. ад Анашкевіч Антаніны Іосіфаўны, 1929 г. н., у в. Шо Глыбоцкага раёна.
[11] Запісалі Бугаевіч Р. Г., Захарэвіч А.Б., Шрубок А.У. у 2014 г. ад Курузы Алы Іларыёнаўны, 1931 г. н. у в. Узмёны Мёрскага раёна.
[12] Запісана аўтарам у 2010 г. ад Пахілка Еўфрасінні Васілеўны, 1930 г. н., у в. Шо Глыбоцкага раёна.
[13] Запісаў Бугаевіч Р. Г. у 2007 г. ад Альхімёнак Леанарды Паўлаўны, 1919 г. н., у в. Кіякова Докшыцкага раёна.
[14] Захарэвіч А. Б. Спробы ўкаранення «чырвонай абраднасці» ў рытуалах сямейнага цыклу на тэрыторыі Беларускага Падзвіння і БССР у цэлым у 20-я гг. XX ст. // Беларускае Падзвінне: вопыт, методыка і вынікі палявых і міждысцыплінарных даследаванняў. Зборнік навуковых артыкулаў II міжнароднай навуковай канферэнцыі (да 20-годдзя археалагічных і этнаграфічных экспедыцый ПДУ). У 2 ч. Ч. 2. Наваполацк: ПДУ, 2014. С. 194–196.
[15] Паваротны З. Камсамольскія вячоркі. Мінск: Бел. дзярж. выд-ва, 1927. С. 166.

# Функцыянаванне паштова-тэлеграфных установ Віленскай дырэкцыі пошт і тэлеграфаў у міжваеннай Польшчы
## (*на прыкладзе Браслаўскага павета*)

*Руслан Бугаевіч,*
*мгр (Варшава)*

Яшчэ да падпісання мірнай дамовы паміж Польшчай і Савецкай Расіяй у сакавіку 1921 г., на тэрыторыі, занятай польскімі войскамі, пачалося аднаўленне працы паштовай службы. Так, 18 чэрвеня 1919 г. была створана Дырэкцыя пошт і тэлеграфаў у Вільні. У склад Віленскай дырэкцыі ўвайшлі землі Віленшчыны, Навагрудчыны, Гродзеншчыны і Палесся. У сувязі з наступленнем Чырвонай арміі ў 1920 г. Дырэкцыя была эвакуавана ў Лодзь, а пасля адступлення чырвонаармейцаў і ўтварэння Сярэдняй Літвы аднавіла працу 12 кастрычніка 1920 г. у Гродне. Да канца лютага 1921 г. працавала ўжо 77 паштовых аддзяленняў (у т. л. аддзяленне ў Браславе) і 6 паштовых агенцтваў[1].

На пачатку былі цяжкасці з забеспячэннем неабходным паштовым інвентаром. Не хапала вагаў, паштовых скрынак, пломбаў, штампаў, сумак для паштальёнаў ды інш. У сувязі з гэтым Дырэкцыя накіроўвала мясцовым органам улады і паліцыі прашэнні аб выданні загадаў насельніцтву аб абавязковым вяртанні паштова-тэлеграфнага інвентару пад пагрозай крымінальнай адказнасці[2].

У першай палове 1922 г. Віленская дырэкцыя пошт і тэлеграфаў выдала загад *«аб найхутчэйшым прадстаўленні інфармацыі старостамі аб мясцовасцях, дзе неабходна адкрыць паштовае аддзяленне ці агенцтва (у залежнасці ад патрэб насельніцтва), а таксама прадстаўленні характарыстыкі населенага пункта (адлегласць ад бліжэйшага аддзялення ці чыгуначнай станцыі, якасці дарог, а так-*

*сама аб магчымасці гміны бясплатна выдзеліць на год будынак пад пошту)»*[3]. Пасля ліста з Гродна ў Браслаўскім павеце гмінныя рады пачалі хадайнічаць аб адкрыцці паштовых устаноў у сваіх гмінах. Так, на пасяджэнні рады Дрысвяцкай гміны было прынята рашэнне аб адкрыцці ў Дрысвятах паштовага аддзялення. Прычым гміна абавязалася прадставіць у карыстанне памяшканне з ацяпленнем і асвятленнем, а таксама бясплатную перавозку карэспандэнцыі[4].

У траўні 1922 г. у выніку ўключэння Сярэдняй Літвы ў склад Польшчы Дырэкцыя была пераведзена ў Вільню, былі ўстаноўлены новыя межы паштовай акругі[5]. Віленская дырэкцыя пошт і тэлеграфаў складалася з Віленскага, Навагрудскага, Палескага (за выключэннем Камень-Кашырскага павета) ваяводстваў, а таксама Гродзенскага і Ваўкавыскага паветаў Беластоцкага ваяводства. Плошча Дырэкцыі складала 94 694 км² (насельніцтва каля 2,6 млн. чалавек). Адно паштовае аддзяленне ці агенцтва прыходзілася на 7200 чалавек[6].

Згодна з арганізацыйнай структурай тэрыторыя Дырэкцыі была падзелена на паштова-тэлекамунікацыйныя вобласці. Усе абласныя паштовыя ўпраўленні размяшчаліся ў павятовых гарадах, адпаведна ў Браславе была ўтворана паштова-тэлекамунікацыйная вобласць[7].

Паштовыя паслугі аказваліся паштовымі аддзяленнямі, агенцтвамі і пасярэдніцтвамі. Міністэрства пошт і тэлеграфаў яшчэ ў канцы 1919 г. выдала загад аб стварэнні ва ўсходніх ваяводствах паштовых агенцтваў. Адкрыццё і ўтрыманне такіх адзінак абыходзілася дзяржаве значна танней чым «звычайныя» паштовыя аддзяленні (агенцтвы ствараліся там, дзе паштовы абарот быў нязначны).

Функцыі паштовых пасярэдніцтваў заключаліся ў тым, каб прымаць і выдаваць звычайныя і заказныя лісты, а таксама прадаваць знакі паштовай аплаты[8]. Для выканання функцый паштовага агента неабходна было працаваць ва ўласным памяшканні, не менш за 4 гадзіны ў суткі. Заробак складаў 4 тыс. польскіх марак за месяц і мог быць павялічаны па меры развіцця агенцтва. Каб распачаць працу агентам, трэба было прайсці кароткую практыку ў паштовым аддзяленні[9].

Браслаўскае паштовае аддзяленне размяшчалася ў адным будынку са шпіталем 28 Мытнага батальёну (Baonu Celnego)[10]. Кіраўнік

аддзялення Маргевіч скардзіўся ў Дырэкцыю аб немагчымасці такога суседства двух розных па прызначэнню ўстаноў: *«Ізба хворых» ноччу 10 студзеня выставіла ў супольны перадпакой начны гаршчок хворых у той час, калі пачалі прыходзіць кліенты ў паштовае аддзяленне. […] Апошнім часам з'явіліся хворыя на сыпны тыф, нават некалькі вайскоўцаў памерла. Жывучы і працуючы ў адным будынку з хворымі на сыпны тыф, мы, працаўнікі пошты, рызыкуем захварэць такой страшнай хваробай, асабліва тут, у глухім закутку без добрых лекараў і шпіталяў*[11]*. […] Так далей працягвацца не можа. У гэтым будынку павінна застацца ці «ізба» ці пошта. Трэба браць пад увагу тое, што мы зрабілі прыгожы рамонт паловы дома, менавіта зашклілі вокны, залаталі дзіры ў даху, пабялілі жалезныя рашоткі, карацей, абсталявалі будынак для паштовых мэтаў. Пошта тут месцілася ўжо 35 год»*[12].

На пачатку 1920-х гг. кошты на паштовыя паслугі амаль штотыдзень змяняліся з-за вялікай інфляцыі. З пераходам на польскі злоты, кошты на перасылку заставаліся амаль нязменнымі. Так, даслаць ліст вагой да 20 г. у межах краіны ў 1925 г. каштавала 15 гр.[13], у 1931 – 25 гр.[14], у 1932 – 15 гр.[15], у 1937 – 15 гр[16].

Пасля рэформы і ўтварэння дзяржаўнага прадпрыемства «Польская пошта, тэлеграф і тэлефон» (1928 г.) працаўнікі прадпрыемства сталі дзяржаўнымі службоўцамі[17]. Паштовыя аддзяленні падзяляліся на 6 класаў. Клас залежыў ад спіса паслуг, месца аддзялення ў паштовай сетцы, а таксама ад колькасці кліентаў.

Значную ролю ў паштовай сетцы мелі агенцтвы. Агенцтва звычайна ахоплівала невялікую тэрыторыю, і яе асноўным значэннем было забяспечыць паштовымі паслугамі нават невялікія населеныя пункты. Калі попыт на паштовыя паслугі ўзрастаў, агенцтва пераводзілася ў лік паштовых аддзяленняў, калі попыт падаў – аддзяленне ператваралася ў агенцтва. Акрамя паштовых аддзяленняў і паштовых агенцтваў існавалі паштовыя пасярэдніцтвы, якія дапаўнялі паштовую сетку. Іх функцыі заключаліся ў прыманні і выдачы карэспандэнцыі, продажы паштовых марак і іншай друкаванай прадукцыі[18].

Не заўсёды агенцтвы поўнасцю задавальнялі сваіх кліентаў. Жы-

хары мястэчка Відзы і гміннае ўпраўленне скардзіліся ў Віленскую дырэкцыю аб неадпаведнасці статусу іх паштовага агенцтва і вялікага абароту паштовых аперацый, які нават быў большым, чым у павятовым горадзе Браславе ці ў Опсе[19]. У хуткім часе агенцтва было пераведзена ў статус паштовага аддзялення V класа[20].

У другой палове 1933 г. пасля праверкі паштова-тэлеграфных аддзяленняў і агенцтваў Віленскай дырэкцыі міністр пошт і тэлеграфаў Эміль Каліньскі заявіў, што ў паштовых адзінках Віленскага ваяводства даходы нізкія, і яны не пакрываюць выдаткаў на іх утрыманне. Для аптымізацыі выдаткаў Дырэкцыя або пераводзіла нізкадаходныя агенцтвы ў катэгорыю пасярэдніцтваў, або зачыняла іх. У тых мясцовасцях, дзе зачынялася паштовая адзінка, мясцовым уладам прапаноўвалася частку расходаў пакрываць з уласнага бюджэту (прадставіць памяшканне і транспартныя сродкі для перавозкі пошты)[21]. Калі ж закрыццё закранала інтарэсы войска, напрыклад КОПа (Корпуса аховы памежжа), то ў «барацьбу» за аднаўленне пошты ўключалася староства. Напрыклад, браслаўскі стараста пісаў у Дырэкцыю, што зачыняць паштовае агенцтва ў Межанах немэтазгодна, бо яно ў першую чаргу абслугоўвае камандаванне роты КОПа. Пошту прыйшлося б дастаўляць кур'ерам з Браслава за 20 км ці са Слабодкі за 30 км, на што ў памежнікаў няма сродкаў. Староства прапанавала заключыць дамову з жыхаром Мяжан Мікалаем Карповічам аб паштовым пасярэдніцтве за невялікую аплату і выдзяленне жылля[22].

У 1935 г. адбылася яшчэ адна паштовая рэформа, менавіта акругі пошт і тэлеграфаў падзяляліся на паштова-тэлекамунікацыйныя вобласці і тэлекамунікацыйныя раёны. Колькасць абласцей у акрузе раўнялася колькасці паветаў на дадзенай тэрыторыі. Прычына для ўтварэння тэлекамунікацыйных раёнаў заключалася ў тым, каб весці нагляд над будаўніцтвам і эксплуатацыяй тэлетэхнічнай сеткі і абсталявання. Аддзяленні мелі 5 класаў, агенцтвы – 3 ступені. У залежнасці ад паслуг, якія прадстаўляліся ў канкрэтным аддзяленні, агенцтве ці пасярэдніцтве, паштовыя адзінкі падзяляліся на паштовыя, паштова-тэлекамунікацыйныя, тэлекамунікацыйныя і радыётэлеграфічныя[23].

Дастаўка паштовай карэспандэнцыі ажыццяўлялася падводамі і цягнікамі. Для забеспячэння бесперабойнай дастаўкі пошты ў часы снегападаў, калі вузкакалейная чыгунка Дрысвяты–Друя не працавала, Дырэкцыя хадайнічала аб выдзяленні фурманак для перавозкі карэспандэнцыі[24].

У верасні 1923 г. Браслаў не меў тэлефоннай сувязі з Вільняй. Праблема заключалася ў адсутнасці меднага кабелю. Набыццё неабходных матэрыялаў для наладжвання сувязі было магчымым толькі за кошт прыцягнення замежных валютных крэдытаў[25].

Паступова тэлефонная сувязь з'яўлялася ў органах мясцовай улады, паліцыі, паштовых аддзяленнях і агенцтвах. Усталяванне асабістага тэлефоннага апарата абыходзілася ўсяго ў 20 зл. плюс абаненцкая плата, якая штомесяц складала ад 6 да 48 зл. Размовы каштавалі дорага. Тарыфікацыя была 3 хвіліны, кошт размовы разлічваўся ў залежнасці ад адлегласці паміж дзвюма тэлефоннымі станцыямі. Напрыклад, трэба было заплаціць 2 зл. за троххвілінны званок з Браслава ў Глыбокае. Датэлефанавацца да патрэбнага абанента можна было толькі ў вызначаны час. У Браславе тэлефонная станцыя працавала цэлыя суткі, у меншых мясцовасцях – з 8 да 12 і з 15 да 18, у святочныя дні з 9 да 11 і з 15 да 18 гадзін[26].

На працу тэлефоннай станцыі ў Опсе скардзіўся камендант Дзяржаўнай паліцыі Браслаўскага павета ў лістах да Дырэкцыі пошт і тэлеграфаў у Вільні і да старасты павета. Яго не задавальняла немагчымасць звязацца з неабходнымі абанентамі ў абедзенны і пасляпрацоўны час, што вымушала накіроўваць конных кур'ераў на вялікія адлегласці і не дазваляла своечасова вырашаць справы[27]. У сваю чаргу, дырэкцыя паведамляла, што не можа змяніць гадзіны працы станцыі ў Опсе таму, што там працуе толькі адзін спецыяліст, а наняць на працу яшчэ аднаго не дазваляюць сродкі[28].

Такім чынам, паштовыя адзінкі пачалі аднаўляць дзейнасць у канцы 1919 – пачатку 1920 гг. Паступова пашыралася сетка паштовых устаноў. Аснову складалі паштовыя аддзяленні і агенцтвы. Паслугі паштовай сувязі былі даступныя для большасці насельніцтва. Таксама будаваліся новыя тэлефонныя лініі, якія звязалі Браслаў з Вільняй, Глыбокім і іншымі часткамі павета. Аднак паслугамі

тэлефоннай сувязі з-за высокіх коштаў магла карыстацца толькі невялікая частка людзей (дзяржаўныя службоўцы, уладальнікі прадпрыемстваў, крам, памежнікі).

### *Заўвагі*

[1] Sprawozdanie Ministerstwa Poczt i Telegrafów z czynności w okresie od 1 lipca do 30 kwietnia 1921. Warszawa, 1921. S. 3.
[2] Занальны дзяржаўны архіў у г. Маладзечна (ЗДАМ). Ф. 436, воп. 1. адз. з. 432. Арк. 142.
[3] ЗДАМ. Ф. 436, воп. 1, адз. з. 432. Арк. 4 адв.
[4] Тамсама. Арк. 8.
[5] Państwowe Przedsiębiorstwo «Polska Poczta, Telegraf i Telefon» 1928–1991 / [aut. opracowania: Janusz Giera, Andrzej Cz. Żak]. Warszawa, 1993. S. 9.
[6] Brzozowski B. Wileńska Dyrekcja Poczt i Telegrafów w latach 1919–1939: zarys historyczny oraz sieć pocztowa. Wrocław, 2011. S. 66.
[7] Ibidem. S. 68.
[8] Sprawozdanie Ministerstwa Poczt i Telegrafów. S. 33.
[9] ЗДАМ. Ф. 436, воп. 1, адз. з. 432. Арк. 67.
[10] Тамсама. Арк. 127.
[11] Тамсама. Арк. 129.
[12] Тамсама. Арк. 129 адв.
[13] Wileński kalendarz. Kolejarz Polski na rok 1925. Wilno, 1925. S. 208.
[14] Spis Abonentów Państwowych i Koncesjonowanych Sieci Telefonicznych w Polsce (z wyjątkiem m. st. Warszawy) 1931/32 r. Warszawa, 1931. S. 32.
[15] Ibidem. S. 28.
[16] Wilno i Województwo Wileńskie. Informator społeczno-gospodarczy i księga adresowa m. Wilna i Województwa Wileńskiego. Wilno, 1937. S. 16.
[17] Państwowe Przedsiębiorstwo «Polska Poczta, Telegraf i Telefon» 1928–1991. S. 17.
[18] Ibidem. S. 20.
[19] Tutejszy. Z prowincji. Widze. Pow. Brasławski // Dziennik Wileński. Nr. 285, 19.12.1923. S. 4.
[20] Brzozowski B. Wileńska Dyrekcja Poczt i Telegrafów. S. 138.
[21] ЗДАМ. Ф. 51, воп. 7, адз. з. 667. Арк.275.
[22] Тамсама. Арк. 268.
[23] Państwowe Przedsiębiorstwo «Polska Poczta, Telegraf i Telefon» 1928–1991. S. 39.

[24] ЗДАМ. Ф. 436, воп. 1, адз. з. 432. Арк. 20 адв.
[25] Budowa nowych linii telefonicznych w 1924 r. // Dziennik Wileński. Nr. 208, 18.09.1923. S. 3.
[26] Spis Abonentów Państwowych i Koncesjonowanych Sieci Telefonicznych w Polsce (z wyjątkiem m. st. Warszawy) 1931/32 r. Warszawa, 1931. S. 72.
[27] ЗДАМ. Ф. 436, воп. 1, адз. з. 432. Арк. 47.
[28] ЗДАМ. Ф. 436, воп. 1, адз. з. 432. Арк. 45 адв.

# Дзейнасць аператыўна-чекісцкіх груп у Заходніх абласцях Беларусі ў верасні-кастрычніку 1939 г.

*Анатоль Вялікі,*
*канд. гіст. навук (Менск)*

Адной з найменш даследаваных праблем гісторыі савецкіх спецслужб на тэрыторыі заходніх абласцей Беларусі ў верасні-кастрычніку 1939 г. з'яўляецца праблема дзейнасці аператыўна-чэкісцкіх груп (АЧГ), якія разам з перадавымі часткамі Чырвонай арміі ўваходзілі ў гарады і мястэчкі Заходняй Беларусі і разгортвалі там сваю дзейнасць.

Савецкія спецслужбы пачалі рыхтавацца да «работы» ў заходніх абласцях БССР толькі ў верасні 1939 г. 1 верасня 1939 г. Іосіф Сталін правёў нараду з кіраўніцтвам Чырвонай арміі і НКУС СССР, а 8 верасня наркам унутранных спраў Лаўрэнці Берыя падпісаў загад аб стварэнні пяці аператыўна-чэкісцкіх груп у Кіеўскай і чатырох – у Беларускай асобных вайсковых акругах[1].

У БССР АЧГ фарміраваліся з супрацоўнікаў НКУС Беларусі. Акрамя гэтага для ўзмацнення іх дзейнасці кожнай групе выдзялялася па 300 вайскоўцаў-памежнікаў. Усё рабілася ў таямніцы. Адпаведную дырэктыву Л. Берыі на рукі атрымалі толькі наркам НКУС УССР Іван Сяроў і наркам НКУС БССР Лаўрэнці Цанава. А вось першы сакратар ЦК Кампартыі Беларусі Панцеляймон Панамарэнка і камандуючы Заходняй асобнай вайсковай акругай Д. Кавалёў даведаліся пра змест гэтага дакумента ад Л. Цанавы толькі напярэдадні ўступлення войскаў Чырвонай арміі ў Заходнюю Беларусь[2].

Задачы аператыўных груп вызначаліся дырэктывай НКУС СССР № 20177 ад 15 верасня 1939 г., у адпаведнасці з якой планавалася заняць усе ўстановы сувязі, усе дзяржаўныя і прыватныя банкі,

сховішчы каштоўнасцяў, архівы, перш за ўсё жандармерыі і філіялаў 2-га аддзела Генеральнага штаба, турмы. У турмах «аператыўнікі» пасля праверкі ўсяго складу зняволеных павінны былі вызваліць арыштаваных за рэвалюцыйную і антыўрадавую дзейнасць, прызначыць кіраўнікамі надзейных людзей на чале з супрацоўнікам НКУС і забяспечыць строгі рэжым утрымання.

Дырэктыва прадугледжвала садзейнічанне палітработнікам у заняцці друкарань, рэдакцый газет, запасаў паперы і наладжванні выдання газет. Планавалася таксама арыштаваць «*найбольш рэакцыйных прадстаўнікоў папярэдняй улады, а таксама кіраўнікоў контррэвалюцыйных партый, кіраўнікоў і актыўных удзельнікаў белагвардзейскіх эміграцкіх манархічных арганізацый; разгарнуць следства па справах арыштаваных удзельнікаў контррэвалюцыйных арганізацый, у ходзе якога выкрываць арганізацыі, групы і асобы, якія ставяць мэтай арганізацыю тэрору, дыверсій, паўстанняў і контррэвалюцыйнага сабатажу*».

Сярод асноўных задач таксама фігуравалі арышты супрацоўнікаў органаў спецслужбаў, ахова «грамадскага парадку» і аб’ектаў жыццезабеспячэння, арганізацыя пажарнай аховы, канфіскацыя зброі, выбуховых рэчываў, радыёперадатчыкаў[3].

Акрамя гэтага пасля заняцця войскамі Чырвонай арміі тэрыторыі Заходняй Беларусі ва ўсіх гарадах і мястэчках трэба было ствараць органы НКУС з складу АЧГ, якія б узначальвалі раённыя, гарадскія і абласныя аддзелы НКУС. У далейшым так і адбылося. Пасля расфармавання апергрупаў (загад Л. Берыі ад 2 лістапада 1939 г.) многія супрацоўнікі ўзначалілі мясцовыя аддзелы спецслужбаў.

Адзначым, што ў АЧГ падбіраліся супрацоўнікі з усіх галоўных аддзелаў, якія існавалі ў НКУС. У прыватнасці, гэта былі аддзел аховы кіраўнікоў партыі і ўрада рэспублікі, кіраўнікоў абласцей); сакрэтна-палітычны аддзел (СПА); контрвыведка; аддзел праца за мяжой; шыфравальны і ВЧ сувязі; улікова-архіўны спецаддзел; эканамічны аддзел; фінансавы аддзел ды інш.[4] У выніку супрацоўнікі АЧГ займаліся тым самым, што і да верасня 1939 г., але з улікам спецыфікі баявых дзеянняў і сітуацыі, якая складвалася на тэрыторыі Заходняй Беларусі.

Падборам кадраў для АЧГ займаўся начальнік аддзела кадраў НКУС БССР капітан дзяржбяспекі Павел Строкін. Вось як характарызавала яго кіраўніцтва: «*Строкин Павел Алексеевич, начальник отдела кадров НКВД БССР, капитан госбезопасности, член ВКП(б) с 1930 г. В органах НКВД с 1927 г. Тов. Строкин уделял особое внимание вопросам комплектования и подбора кадров для оперативно-чекистских групп Западной Белоруссии, сыгравших решающую роль в обеспечении выполнения задач стоящих перед оперативно-чекистскими группами, в части выявления и ликвидации контрреволюционных формирований и контрреволюционного элемента. Являясь начальником отдела кадров НКВД БССР своим энтузиазмом, преданностью делу, с большевистской настойчивостью, присущей чекисту-коммунисту, сумел быстро подобрать кадры для оперативно-чекистских групп Западной Белоруссии. Правильный подбор и расстановка кадров обеспечили хорошую работу оперативно-чекистских групп. Представлен к ордену «Трудового Красного Знамени» […]*»[5].

Аднак на практыцы ў заходніх абласцях было створана значна болей АЧГ. Так, 18 верасня Лаўрэнці Цанава і Віктар Бачкоў[6] дакладвалі Л. Берыі, што «*пасля заняцця тэрыторыі часткамі РСЧА былі арганізаваныя і прыступілі да працы часовыя ўпраўленні Дзісны, Глыбокага, Вілейкі, Маладзечна, Валожына, Стоўбцаў. У гэтых гарадах таксама арганізаваныя аператыўна-чэкісцкія групы з вайсковымі злучэннямі колькасцю 20–30 чалавек, якія прыступілі да выканання Вашых даручэнняў*»[7].

18 верасня таксама былі створаны АЧГ у Радашковічах, Наваградку, Ваўкавыску, Клецку, 20 верасня – у Свянцянах і Вільні[8]. Пазней АЧГ пачалі дзейнічаць таксама ў іншых гарадах Заходняй Беларусі. Стварэнне такой вялікай колькасці АЧГ можна патлумачыць тым, што запланаваныя 4 групы аб'ектыўна не маглі ахапіць усю тэрыторыю Заходняй Беларусі, дзе пражывала больш за 4 млн. чалавек, і выканаць ускладзеныя на іх задачы.

У Заходняй Беларусі аператыўна-чэкісцкія групы ўзначалілі: у Ваўкавыску – Вячаслаў Грыднеў, у былым Палескім ваяводстве – капітан дзяржбяспекі Сяргей Духовіч, у Гродне – палкоўнік памежных

войскаў Уладзімір Вараб'ёў, у Маладзечне – лейтэнант дзяржбяспекі Яўген Фёдараў, у Брэсцкім раёне – капітан дзяржбяспекі Аляксандр Прыдарогін, у Сувалках – сяржант дзяржбяспекі Іван Голікаў, у Ломжы – лейтэнант дзяржбяспекі Міхаіл Дзмітрыеў, у Лунінецкім раёне – сяржант дзяржбяспекі Мікалай Голдыраў, у – Лідзе – лейтэнант дзяржбяспекі Павел Легаеў, у Камень-Кашырскім раёне – лейтэнант дзяржбяспекі Павел Родзін, у Пінску – лейтэнант дзяржбяспекі Аляксандр Сцяпанаў, у Нясвіжскім раёне – Аляксей Шыла[9].

Адзначым, што задоўга да ўступлення на тэрыторыю Заходняй Беларусі ў НКУС БССР пачалі складаць спісы тых, каго трэба было «*изъять*» у першую чаргу як «контррэвалюцыйны элемент». Гэта работа вялася, у прыватнасці, у ІІ і ІІІ аддзелах НКУС БССР, якія ўзначальвалі адпаведна капітаны дзяржбяспекі Аляксей Сяргееў і Барыс Ачасаў. Вось фрагменты іх службовых характарыстык:

*«Сергеев Алексей Андреевич, начальник 2-го отдела УГБ НКВД БССР, капитан госбезопасности, член ВКП(б). В органах НКВД работает с 1930 г. Являясь начальником 2-го отдела УГБ НКВД БССР принимал активное участие в разработке, выявлению и аресте контрреволюционного элемента. Еще до вступления частей РККА на территорию Западной Белоруссии проявил большую инициативу и энергию по подбору материалов на контрреволюционных элемент Западной Белоруссии, этим самым дал возможность арестовать в самом начале военных действий значительную часть агентов, разведчиков филиалов 2-го отдела польглавштаба. В процессе продвижения частей РККА в организации оперативно-чекистских групп принимал активное участие в выявлении и ликвидации контрреволюционных гнезд, особенно тов. Сергеев проявил инициативу в части выявлении и ликвидации руководства и актива политических партий […]. Представлен к ордену «Знак Почета»*[10].

*«Ачасов Борис Александрович начальник 3-го отдела УГБ НКВД БССР, капитан безопасности, член ВКП(б) с 1926 г., русский, 1903 г. рождения. В РККА с 1922 г., в погранвойсках НКВД с 1925 г., во внутренних войсках НКВД с 1937 по 1939 гг. Окончил нормальную пехотную школу РККА и Высшую пограничную школу старшего курса. […] Являясь начальником 3-го отдела УГБ НКВД БССР до вступле-*

*ния частей РККА на территорию Западной Белоруссии проявил большую инициативу по подбору материалов на контрреволюционный элемент Западной Белоруссии, что дало возможность изъять часть контрреволюционных элемента в самом начале военных действий. В процессе продвижения частей РККА и организации оперативно-чекистских групп тов. Ачасов принимал непосредственное участие по выявлению и разгрому контрреволюционных формирований и агентуры бывших польских разведорганов. По представленным им материалам была изъята основная часть из арестованных по Западной Белоруссии участников белогвардейских контрреволюционных организаций и агентов филиалов 2-го отдела польглавштаба»*[11].

Арышты «контррэвалюцыйных элементаў» пачаліся літаральна з першых дзён. Так, Л. Цанава ў дакладной запісцы, накіраванай 21 верасня 1939 г. Л. Берыі, І. Сталіну, В. Молатаву і К. Варашылаву, паведамляў, што *«праведзена арыштаў: па гораду Валожыну – 22 чалавекі, у тым ліку стараста Валожынскага ўезда і агенты выведкі. Па гораду Нясвіжу арыштавана 15 чалавек. Арыштавана па гораду Стоўбцы – 59 чалавек, у тым ліку кіраўнік горада Стоўбцы, камендант стоўбцаўскага пастарунка паліцыі, паліцэйскія, агенты польскай выведкі ды інш. Па гарадах Баранавічы, Валожын, Нясвіж і Клецк арыштаваны 73 чалавекі, у тым ліку 5 буйных памешчыкаў і 15 агентаў паліцыі»*[12].

28 верасня 1939 г. Л. Цанава і В. Бачкоў падсумавалі вынікі дзейнасці АЧГ на тэрыторыі былога Віленскага і Беластоцкага ваяводства: *«Аператыўна-чэкісцкія групы Заходняй Беларусі паўсюдна разгарнулі агентурна-следчую работу на тэрыторыі былога Віленскага ваяводства. На 25 верасня 1939 г. арыштавана: 1) 17 чалавек былых князёў, памешчыкаў і іншых дваран, усе яны абвешчаны закладнікамі; 2) 9 чалавек рэакцыйных прадстаўнікоў былой польскай адміністрацыі, кіраўнікоў мясцовых органаў паліцыі, жандармерыі, КАП (корпуса аховы памежжа – аўт.), работнікаў філіяла 2-га аддзела польгалоўштаба; 3) 4 чалавекі ваявод, іх намеснікаў і бурмістраў; 4) 3 чалавекі кіраўнікоў партыі ППС, 1 – «Строніцтва Нарадовэ», 3 – «Строніцтва Працы», уся-*

*го па палітпартыях – 8 чалавек; 5) 29 чалавек правакатараў жандармерыі, 14 – правакатараў паліцыі і 11 – правакатараў 2-га аддзела польгалоўштаба; 6) 27 чалавек бандытаў і 24 чалавекі іх саўдзельнікаў. У г. Ваўкавыску 27 верасня арыштаваны правакатар Латунь Арсен Іосіфавіч, які на допыце паказаў, што з 1934 г. па 1935 г. з'яўляўся сакратаром гарадской арганізацыі КПЗБ, у 1936 г. быў арыштаваны польскай паліцыяй і выдаў трох членаў КПЗБ. Быў завербаваны ў агенты паліцыі пад мянушкай «Карскі». Следства працягваем»*[13]. Такім чынам, за тыдзень было арыштавана 149 чал.

Кіраўнікі АЧГ бралі непасрэдны ўдзел у арыштах. У Ваўкавыску аператыўна-чэкісцкай групай кіраваў Вячаслаў Грыднеў. Вось, як характарызавала яго кіраўніцтва: *«Гриднев Вячеслав Васильевич, 1898 г. рождения, майор РККА, член ВКП(б), в органах работает с 1921 г., работает начальником оперативно-чекистской группы Волковысского уезда. Являясь руководителем оперативно-чекистской группы гор. Волковыска сколотил работоспособный апарат группы, с которым вскрыл и ликвидировал значительное количество актива контрреволюционных политических партий, агентуры и официальных работников филиалов 2-го Отдела польглавштаба, чем обезглавил контрреволюционные формирования и обеспечил государственную безопасность в уезде. В частности им были вскрыты и изъяты руководители «ОЗОН» Изеломский, Козубский и Пылинский, руководители организации «Строництвэ народовэ» Цимлянский и другие, руководитель ППС в г. Барановичи – Берносик. 18 сентября 1939 г. под его руководством в г. Несвиже был взят князь Радзивил и его свита около 30 человек. Представлен к ордену «Трудового красного Знамени»*[14].

У Вільні і Вілейцы дзейнічаў начальнік агентурнага аддзялення апергрупы Георгій Аксюцін: *«Аксютин Георгий Федорович, член ВКП(б) с 1937 г., 1903 г. рождения, в погранвойсках с 1924 г. Старший уполномоченный экономотделения УНКВД по Вилейской области. Работая начальником агентурного отделения опергруппы г. Вильно, а затем г. Вилейка, своей настойчивостью и энтузиазмом обеспечил разворот агентурной работы по г. Вильно и Вилейка и сумел выявить до 3000 чел. контрреволюционных элемента. Лично разыскал*

*и арестовал ярых контрреволюционеров братьев Пилсудских – Пилсудского Яна, бывшего министра финансов и Пилсудского Казимира, бывшего министра общественных работ. Создал сеть закордонной агентуры, из них значительное количество в г. Вильно. Непримирим к врагам народа. Представлен к ордену «Красное Знамя»*[15].

У лік «контррэвалюцыйных элементаў» папалі і дзеячы беларускага нацыянальнага руху. Так, у «Аператыўнай зводцы» № 52 ад 25 кастрычніка 1939 г. адзначалася, што ў Вільні быў арыштаваны Уладзімір Самойла, а 13 кастрычніка – Антон Луцкевіч, якія *«знаходзяцца ў турме Беластока пад следствам»*[16].

Арышт А. Луцкевіча непасрэдна праводзіў намеснік начальніка апергрупы па былому Віленскаму ваяводству Аляксей Сакалоў: *«Соколов Алексей Иванович – капитан госбезопасности, чл. ВКП(б) с 1920 г. В органах НКВД работает с 1922 г. Являясь заместителем начальника оперативной группы по бывшему Вилейскому воеводству (так в документе. – аўт.), в настоящее время начальник УНКВД по Вилейской области показал образцы непримиримости в борьбе с врагами народа и высокую преданность делу партии Ленина-Сталина. Тов. Соколов принимал самое активное участие в выявлении и разоблачении контрреволюционного элемента, агентов полиции, польглавштаба, руководителей и актив контрреволюционных политических партий и организаций. […]. Были подвергнуты аресту б. журналист Залесский, который выпускал нелегальный контрреволюционных бюллетень, видный национал-фашист Луцкевич Антон, жена и сын Островского, крупного провокатора, вербовщика 2-го отдела б. польглавштаба, руководителя белорусских националистов-фашистов, организаторов повстанческих групп, польских студентов, офицеров Гладыш В. и Гладыш С., которые были связаны с генералом Вербицким. В период эвакуации г. Вильно обеспечил хорошую работу местного автотранспорта и железной дороги, в результате чего ценные грузы и имущество были вывезены в кратчайшие сроки. Представлен к ордену «Знак Почета»*[17].

АЧГ займаліся не толькі брутальнымі рэпрэсіямі. Важнае значэнне адводзілася захопу банкаў і нацыяналізацыі валюты, золата і іншых каштоўнасцей. Напачатку кастрычніка першы сакратар ЦК

КП(б)Б П. Панамарэнка накіраваў шыфратэлеграму І. Сталіну, у якой паведамляў, што *«вклады помещиков, капиталистов, крупных государственных чиновников и осадников стали достоянием народа»*, што дзейнасць прыватных банкаў пасля выдачы дробных крэдытаў прыпыненая, а функцыянуе толькі Дзяржбанк[18]. Многія кіраўнікі банкаў адмаўляліся выдаваць ключы ад сейфаў прадстаўнікам новай улады. Аднак для «спецыялістаў» з аператыўна-чекісцкіх груп ускрыццё сейфаў не было вялікай праблемай.

У прыватнасці, выдатным «спецыялістам» па сейфам быў Анатоль Багачук: *«Богачук Анатолий Алексеевич, лейтенант погранвойск, оперуполномоченный экономического отдела по Вилейской области. Участвуя в оперативных операциях активно и самоотверженно выявлял и арестовывал контрреволюционных элемент г. Вильно, в частности членов «БРП» Егорова, Нядаматова, Минаева и др. Работая в группе, показал образцы энтузиазма и преданности делу партии Ленина-Сталина. В течении короткого срока обеспечил полное изъятие ценностей из б. польских банков, принадлежавших буржуазии. Вскрыл 1180 сейфов, обеспечил учет, охрану и доставку ценностей в правительственный пункт. Представлен к ордену «Знак Почета»*[19].

Да цяперашняга часу адкрытым застаецца пытанне, колькі ж валюты, золата ды іншых каштоўнасцяў у адначассе стала «достоянием народа».

Наркам унутраных справаў БССР Лаўрэнці Цанава ў пачатку кастрычніка 1939 г. падвёў папярэднія вынікі дзейнасці АЧГ. Ён паведаміў П. Панамарэнку, што *«за папярэдні час дзейнасці аператыўна-чэкісцкіх груп у Заходняй Беларусі ў галіне аператыўнай працы галоўную ўвагу мы надавалі выяўленню праз агентуру хаваючыхся афіцыйных работнікаў і агентаў 2-га аддзела польскага галоўнага штаба, польскай паліцыі і іншых карных органаў, найбольш рэакцыйных прадстаўнікоў польскіх улад, памешчыкаў і вышэйшых чыноўнікаў, якія падазраюцца ў шпіянажы, а таксама кіраўнікоў існаваўшых у Польшчы контррэвалюцыйных партый, бандгруп, асоб, якія аказвалі актыўнае ўзброенае супраціўленне наступаючым часткам РСЧА, ды іншага кантррэвалюцыйнага элемента. У сучас-*

*ны момант, разам з тым, што рабоце агентуры ў вышэйазначаным накірунку надаецца важнае значэнне, мы азадачваем яе таксама на мэтавыя распрацоўкі ў гэтым накірунку і праводзім новыя вярбоўкі»*[20].

Напрыканцы кастрычніка 1939 г. Л. Цанава прадставіў П. Панамарэнку ўжо колькасныя дадзеныя аб арыштаваных з пачатку вераснёўскай кампаніі. Так, па стану на 22 кастрычніка *«было арыштавана 4315 чалавек. З іх: 1) буйных прадстаўнікоў памешчыкаў, князёў, дваран і капіталістаў, якія падазраваліся ў шпіянажы – 500 чалавек; 2) рэакцыйных прадстаўнікоў урадавай адміністрацыі: а) ваявод і стараст з іх намеснікамі, бурмістраў і іх бліжэйшых памочнікаў – 401; б) кіраўнікоў мясцовых органаў паліцыі, жандармерыі, памежнай аховы і 2-га аддзела польгенштаба – 716; 3) кіраўнікоў і актыўных членаў контррэвалюцыйных партый – 640; 4) бандытаў – 125; 5) кулакоў, якія збеглі з СССР у Польшчу і былі звязаныя з польскай разведкай – 90; 6) агентаў польскай разведкі і правакатараў – 512; 7) белагвардзейцаў, удзельнікаў белагвардзейскай манархічнай арганізацыі – 28; 8) агентаў паліцыі і жандармерыі – 595; 9) агентаў германскай разведкі – 3; 10) асаднікаў, якія былі звязаны з польразведкай – 117; 11) абвінавачваемых ў шпіянажы – 323; 12) іншы контррэвалюцыйны элемент – 265»*[21].

Нягледзячы на тое, што ў загадзе Л. Берыі ад 8 верасня 1939 г. у сферу дзейнасці АЧГ не ўваходзіла фільтрацыя ваеннапалонных, яны былі вымушаны займацца і гэтай справай. Асаблівую актыўнасць у гэтым праявіў начальнік АЧГ па Брэсцкаму раёну Аляксандр Прыдарогін: *«Придорогин Александр Николаевич, капитан госбезопасности Брест-Литовского уездного отдела НКВД. Член ВКП(б). Работая начальником оперативно-чекистской группы пограничного Брест-Литовского уезда в короткий срок выявил и разгромил руководство политических партий, контрреволюционных организаций, участников вооруженного сопротивления частям РККА. Возглавил работу по фильтрации военнопленных в Брест-Литовском обменочном пункте – организовал четкость в работе и глубокую агентурно-оперативную работу, в результате чего за последнее время из числа переданных с территории занятой немца-*

*ми военнопленных – 16 человек выявлены и разоблачены как агенты германской разведки. Умело организовал агентурно-следственную работу в группе, позже в уездном отделе, в результате чего своевременно вскрываются и ликвидируются серьезные контрреволюционные повстанческие и шпионские формирования»*[22].

Вельмі важнае значэнне ў дзейнасці АЧГ надавалася пошуку і ўзяццю на захаванне архіўных матэрыялаў, перш за ўсё польскай разведкі і спецслужбаў. Беларускія чэкісты правяралі «*усе складскія памяшканні, склады, двары, сады, у якіх размяшчаліся і з якімі мелі дачыненне былыя польскія разведвальныя і карныя органы*». Так, на пачатку кастрычніка 1939 г. у будынку Віленскага КАП знайшлі «*сакрэтныя дакументы, у тым ліку фотаздымкі савецкіх пашпартоў, фотакопіі штампаў савецкіх устаноў і шэраг фотаздымкаў невядомых асоб»*[23]. Асноўныя архівы спецслужбаў Польшчы, якія размяшчаліся ў Вільні, органы НКУС напачатку кастрычніка 1939 г. хутка пагрузілі ў вагоны і перавезлі ў Вілейку, бо Вільню перадалі літоўцам[24].

Прыкладам выяўлення архіваў з'яўляецца дзейнасць начальніка АЧГ па былому Палескаму ваяводству С. Духовіча, які ў верасні 1939 г. «*обеспечил выявление и изъятие ценных архивных материалов филиалов 1-го отделения Польского главного штаба и других контрреволюционных организаций»*[25].

Не менш важныя архіўныя матэрыялы былі знойдзеныя і перададзеныя ў архіў НКУС БССР аператыўнай групай у Камень-Кашырску на чале з П. Родзіным, які «*в октябре лично задержал на станции Камень-Каширска два вагона с архивами, принадлежавшие министерству иностранных дел бывшего польского правительства»*[26].

Такім чынам, аператыўна-чэкісцкія групы НКУС БССР амаль цалкам захапілі польскія архіўныя матэрыялы. У гэтым не было нічога дзіўнага, бо архівы СССР з 1938 г. знаходзіліся ў падпарадкаванні НКУС.

Дакументальны матэрыял з польскіх архіваў быў выкарыстаны, перш за ўсе, у аператыўна-чэкісцкай рабоце. Архіўныя дакументы спатрэбіліся для правядзення рэпрэсій на працягу 1939–1941 гг. Так, пры «распрацоўцы» архіва Слоніма было выяўлена

108 паліцэйскіх, 8 следчых, 4 «правакатараў» і 25 афіцэраў. Акрамя гэтага ў Слонімскім архіве былі выяўлены спісы членаў арганізацый «Стралец», «АЗОН», «Млода Польска», ППС ды іншых, якія існавалі ў Слоніме і ў павеце. Валожынскай аператыўнай групай былі выяўлены спісы агентаў паліцыі па Івянецкай і Пяршайскай валасцях на 70 чалавек, з якіх па стану на 22 кастрычніка 1939 г. было арыштавана 20 чалавек, а астатнія вышукваліся органамі НКУС[27].

Па стану на май 1941 г. супрацоўнікамі архіўнага ўпраўлення НКУС Брэсцкай вобласці было складзена *«57 856 картак на контррэвалюцыйны элемент, у т. л. на 9 097 агентаў і афіцыйных супрацоўнікаў агентуры, дэфензівы, тайнай палітычнай паліцыі і іншых разведак, на 13 345 канфідэнтаў-інфарматараў, 4000 канфідэнтаў-правакатараў, 35 000 супрацоўнікаў дзяржпаліцыі Палескага і іншых ваяводстваў (Беластоцкага, Наваградскага і Віленскага) і 27 635 кіраўнікоў і членаў фашысцкіх і белагвардзейскіх палітычных партый, саюзаў і таварыстваў. […] Усе адзначаныя картатэкі сістэматызаваны ў строгім алфавіце. Прыведзены ў парадак і ўзяты на ўлік фотакарткі палітычных і крымінальных асоб, сфатаграфаваныя следчым аддзелам Брэсцкай павятовай паліцыі. Разбітая строга па алфавіце картатэка 2-га аддзела польгалоўштаба пры ДОК IX Брэста. Колькасць картатэк № 1 і № 2 – 130 картак. Разбітая строга па алфавіту картатэка № 3 14 паліцэйскага ўчастка ў колькасці 32 500 картак. […] Агульная колькасць усёй картатэкі, якая ўтрымліваецца ў архіўным аддзеле упраўлення НКУС па Брэсцкай вобласці, складае 220 086 картак, якія ўключаюць 3500 картак на агентаў і канфідэнтаў, якія праходзяць толькі пад мянушкамі без дакладных дадзеных. Агульная колькасць усіх фотаздымкаў і негатываў, выяўленых толькі ў распрацаванай частцы матэрыялаў, складае 11 000»*[28].

Гэтыя картатэкі аказалі вялікую паслугу чэкістам. Так, начальнік архіўнага аддзела УНКУС па Брэсцкай вобласці Нікішын у справаздачы аддзела адзначаў, што *«па матэрыялах 2-га аддзела польгенштаба пры ДОК IX Брэста ўстаноўлены і распрацаваны контррэвалюцыйныя разведвальныя арганізацыі «Нацыянальны працоўны саюз маладога пакалення» і «Інстытут навуковага даследавання*

*камунізму», што дало магчымасць органам Галоўнага упраўлення дзяржаўнай бяспекі (ГУДБ) адносна лёгка ўстанавіць месца жыхарства і працы некаторых кіраўнікоў і членаў вышэйазначаных арганізацый»*[29].

Таксама адзначыліся супрацоўнікі архіўнага аддзялення Беластоцкага ўпраўлення НКУС, якімі была складзена картатэка на 350 тыс. картак, на «падазроных асоб»[30]. У першую чаргу для аператыўна-чэкісцкай працы былі ўзятыя на аператыўны ўлік 10 033 чал. і складзеныя спісы на 10 540 чал.[31] Архіўным аддзяленнем Вілейскага НКУС былі ўзятыя на ўлік 4369 чал., на картатэчны – 2941 чал.[32]

Адзначым, што гэтыя картатэкі выкарыстоўвалі не толькі спецслужбы БССР. Напрыклад, архіўнае аддзяленне УНКУС Брэсцкай вобл. распрацавала і *«склала па ўсяму картачнаму ўліку спісы для ўсесаюзнага вышуку агентаў і канфідэнтаў польскай і іншых разведак на 11 000 чал. Спісы былі перададзены ў адпаведныя аддзелы УДБ НКУС БССР і іншыя саюзныя рэспублікі па тэрытарыяльнасці для аператыўнага выкарыстання і вышуку асобаў, што хаваюцца»*.

Як гэта выглядала на практыцы сведчыць ліст Л. Цанавы, накіраваны П. Панамарэнку ў кастрычніку 1939 г. у якім адзначалася, што ў гэтым жа месяцы ў Баранавіцкай вобласці ў Лідзе органамі НКУС БССР была выяўлена паўстанцкая арганізацыя «Саюз польскіх патрыётаў», якой кіраваў былы капітан польскай арміі М. Баркоўскі. Гэтая арганізацыя мела сувязных у розных гарадах Заходняй Беларусі, а таксама падтрымлівала кантакты з Львоўскім падпольным польскім цэнтрам. Л. Цанава накіраваў гэтую інфармацыю наркаму НКУС Украіны І. Сярову, а таксама ўсім начальнікам абласных упраўленняў НКУС Украіны[33].

Можна выказаць меркаванне, што дзейнасць аператыўна-чэкісцкіх груп, а потым і органаў НКУС па выяўленню і арышту, у прыватнасці, афіцэрскага складу ўсіх узроўняў, як кадравай арміі, так і рэзервістаў, падводзіць нас да праблемы беларускага Катынскага спісу.

29 снежня 1939 г. Л. Цанава накіраваў першаму сакратару ЦК КП(б)Б П. Панамарэнку ліст, у якім, у прыватнасці, адзначалася,

што *«ў выніку праведзенай аперацыі па «изъятию» кадравага афіцэрства і афіцэраў рэзерву былой польскай арміі, на якіх меўся кампраметуючы матэрыял, было арыштавана па заходніх абласцях Беларускай рэспублікі 581 чал., з якіх кадравых афіцэраў – 270, а афіцэраў рэзерву – 311. […] Арыштаванае кадравае афіцэрства […] былой польскай арміі размяркоўваецца наступным чынам: генералаў – 1, палкоўнікаў – 2, падпалкоўнікаў – 4, маёраў – 5, капітанаў – 30, паручнікаў – 53, падпаручнікаў – 55, харунжых – 12, падхарунжых – 3, старшых сяржантаў і сяржантаў звыштэрміновай службы – 105»*[34].

Да цяперашняга часу ні польскія, ні беларускія даследчыкі нават не спрабавалі высветліць прозвішчы і імёны гэтых людзей і іх далейшы лёс. Калі ж іх прозвішчы знойдуцца сярод расстраляных польскіх афіцэраў у расійскім Катынскім спісе, то менавіта з яго трэба пачынаць беларускі Катынскі спіс. Неабходна сумесная праца беларускіх і польскіх гісторыкаў па высвятленні лёсу гэтых людзей.

Аператыўна-чэкісцкія групы перасталі існаваць у лістападзе 1939 г. 2 лістапада наркам НКУС Л. Берыя выдаў загад № 001337 «Аб стварэнні органаў НКУС Заходняй Беларусі», у адпаведнасці з якім былі створаныя Упраўленні НКУС па Беластоцкай, Наваградскай (13 снежня была перайменаваная ў Баранавіцкую вобл), Пінскай і Вілейскай абласцей. 29 лістапада было створана Упраўленне НКУС па Брэсцкай вобл.[35]

Адзначым, што для многіх супрацоўнікаў аператыўна-чэкісцкіх груп вераснёўская кампанія 1939 г. стала своеасаблівым трамплінам у службовай кар’еры. Многія з іх узначалілі абласныя, гарадскія і раённыя аддзелы НКУС. Так, начальнікам УНКУС па Палескай вобласці стаў Сяргей Духовіч, які да лістапада 1939 г. узначальваў АЧГ па былому Палескаму ваяводству[36]. УНКУС па Вілейскай вобл. узначаліў намеснік начальніка АЧГ па былому Віленскаму ваяводству Аляксей Сакалоў[37], Стоўбцаўскі раённы аддзел НКУС – Сяргей Сяроў, які з 17 верасня 1939 г. з’яўляўся начальнікам Стоўбцаўскай АЧГ[38]. З верасня 1939 г. рэзка пайшла ў гору службовая кар’ера будучага міністра ўнутраных спраў БССР Сяргея Бельчанкі, які з верас-

ня па снежань 1940 г. з'яўляўся выконваючым абавязкі начальніка УНКУС па Беластоцкай вобл.[39]

Актыўная дзейнасць супрацоўнікаў аператыўна-чэкісцкіх груп не засталася незаўважанай. Так, бюро ЦК КП(б)Б 20 лістапада 1939 г. прыняло рашэнне, хадайнічаць перад ЦК ВКП(б) аб узнагароджанні «*супрацоўнікаў НКУС і памежных войскаў, якія вылучыліся ў баях за вызваленне Заходняй Беларусі*». Усяго было прадстаўлена да розных урадавых узнагарод 89 афіцэраў і сяржантаў НКУС[40].

У чым прычына поспеху АЧГ? Па-першае, задоўга да ўступлення на тэрыторыю Заходняй Беларусі Чырвонай арміі НКУС БССР, асабліва яго 2-гі і 3-ці аддзелы актыўна рыхтаваліся да «зачыстак». Складаліся спісы «контррэвалюцыйнага варожага элемента», чыноўнікаў польскага дзяржапарату і агентаў спецслужбаў. Аператыўнікі звычайна ведалі дзе знаходзіліся паліцэйскія пастарункі, органы суда і пракуратуры, архівы і г. д. Па-другое, яны мелі шыроказразгалінаваную сетку агентуры па ўсёй тэрыторыі Заходняй Беларусі. Па-трэцяе, многія члены Кампартыі Заходняй Беларусі, калі не з'яўляліся агентамі НКУС, то актыўна супрацоўнічалі з беларускімі чэкістамі і забяспечвалі іх усёй неабходнай інфармацыяй. Па-чацвёртае, спецслужбы Польшчы літаральна «праспалі» ўварванне Чырвонай Арміі на тэрыторыю Польшчы і не былі падрыхтаваныя да такога сцэнару. Па-пятае, АЧГ былі ўкамплектаваныя вопытнымі чэкістамі, якія пачыналі свае службовыя кар'еры яшчэ ў 1920-я гг. і з'яўляліся спецыялістамі ў сваіх накірунках дзейнасці.

Напрыклад, вось як характарызаваўся ў ходзе верасьнёўскай кампаніі будучы міністр МУС БССР Сяргей Бельчанка: «*Бельченко Сергей Саввич, 1902 г. рождения, из крестьян, член ВКП(б) с 1925 г., в Красной Армии с 1924 г. В погранвойсках с 1927 г. Окончил военно-политическую школу в 1927 г. и высшую пограничную школу в 1933 г. Заместитель начальника УНКВД по Белостокской области. На территории Западной Белоруссии работает с момента вступления частей РККА. Под его руководством в Молодечненской и Лидской оперативных группах была организована чекистская работа. Принимал непосредственное участие в вскрытии и ликвидации акти-*

*ва и руководства политических партий, участников вооруженного сопротивления, шпионов и других контрреволюционных элементов в гор. Белостоке и Гродно. В частности в г. Гродно им были арестованы и разоблачены бывший офицер врангелевской армии Крыжановский – один из организаторов вооруженного сопротивления частям РККА, бывший полковник деникинской армии Квятковский – один из руководителей контрразведки деникинской армии. Под его руководством вскрыты и арестованы руководители и актив контрреволюционных организаций ППС – Капитулко, Богдановский, Савицкий и другие агенты 2-го отдела польглавштаба, крупный агент германской разведки Маняк Иван Иванович. В 1931 г. будучи на границе в Средней Азии, в районе Калай-Хумба под его руководством была ликвидирована группа басмачей в количестве 55 человек. В том же 1931–1932 гг. принимал участие в изъятии контрреволюционного элемента среди басмачей. Участвовал в ряде операций по ликвидации банд Ушан Бека, Ибрагим Бека и других. Представлен к награждению орденом « Красная Звезда».*

Такім чынам, з пачатку наступу Чырвонай арміі разам з ёй разгарнулі шырокамаштабную дзейнасць спецыяльна створаныя аператыўна-чэкісцкія групы НКУС БССР, якім удалося правесці шырокамаштабныя арышты «контррэвалюцыйнага элемента», не дапусціць арганізацыі масавага супраціву савецкай уладзе, наладзіць агентурна-асведамляльную дзейнасць і г. д. Прэвентыўныя арышты найбольш актыўнай часткі польскага грамадства – вайскоўцаў, грамадскіх і палітычных дзеячаў, дзяржаўных служачых, патрыятычна настроенай часткі насельніцтва мелі катастрафічныя наступствы для нараджаючага польскага падполля.

### ***Заўвагі***

[1] Зданович А. А. Западный поход НКВД // Военно-исторический журнал. 2011. № 6. С. 47.

[2] Тамсама.

[3] Христофоров В. С. История страны в документах архивов ФСБ России: Сборник статей и материалов / В. С. Христофоров. М.: Издательство Главного архивного управления Москвы, 2013. С. 259.

[4] НКВД-МВД СССР в борьбе с бандитизмом и националистическим подпольем на Западной Украине, в Западной Белоруссии и Прибалтике (1939–1956) / Сборник документов. Составители Владимирцев Н. И., Кокурин А. И. М: Объединенная редакция МВД России, 2008. С. 418.

[5] НАРБ. Ф. 4п, воп. 1, адз. зах. 13587. Арк. 200.

[6] Бачкоў Віктар Міхайлавіч (1900–1981) – старшы маёр дзяржаўнай бяспекі, у 1938–1940 гг. начальнік Асобага аддзелу ГУДБ НКУС СССР. З верасня 1935 г. кантраляваў дзейнасць АЧГ на тэрыторыі Заходняй Беларусі, да 1959 г. намеснік начальніка Галоўнага упраўлення турмаў МУС СССР.

[7] Щит и меч Отечества / под ред. В. И. Дементея; фото А. В. Стрех. Минск: Обществ. пресс-центр Дома прессы, 2006. С. 124

[8] Тамсама.

[9] НАРБ. Ф. 4п, воп. 1, адз. зах. 13587. Арк.. 200–223.

[10] Тамсама. Арк. 225.

[11] Тамсама. Арк. 205.

[12] Польское подполье на территории Западной Украины и Западной Белоруссии. 1939–1941 гг. // Федеральная служба Российской Федерации-Министерство внутренних дел и администрации Республики Польша. Варшава-Москва, 2001. С. 150.

[13] Польское подполье на территории Западной Украины и Западной Белоруссии. 1919–1941 гг. С. 160

[14] НАРБ. Ф. 4п, воп. 1, адз. зах. 13587. Арк. 201.

[15] Тамсама. Арк. 207.

[16] Тамсама. Адз. зах. 14616. Оперсводки НКВД. Октябрь 1939 г.

[17] Тамсама. Адз. зах. 13587. Арк. 217.

[18] Тамсама. Адз. зах. 14755. Арк. 65.

[19] Тамсама. Адз. зах.13587. Арк. 220.

[20] Тамсама. Адз. зах. 14616. Арк. 220. Оперсводки НКВД. Октябрь 1939 г.

[21] Тамсама. Арк. 221. Оперсводки НКВД. Октябрь 1939 г.

[22] Тамсама. Адз. зах. 13587. Арк. 215.

[23] Тамсама. Адз. зах. 14616. Арк. 224. Оперсводки НКВД. Октябрь 1939 г.

[24] Тамсама. Арк. 225. Оперсводки НКВД. Октябрь 1939 г.

[25] Тамсама. Адз. зах. 13587. Арк. 204.

[26] Тамсама. Арк. 231.

[27] Тамсама. Адз. зах. 14616. Арк. 226-227.

[28] Тамсама. Ф. 249, воп.4, адз. зах 48. Арк. 8–10. Отчеты архивных отделений УНКВД Белостокской, Брестской, Пинской областей о работе за 1-й квартал 1941 г., докладные записки и сведения о разработке и использовании документов в оперативно-справочных целях. Приказ наркома

внутренних дел БССР № 293 от 14 июня 1941 г. по личному составу.

[29] Тамсама. Арк. 10.

[30] Тамсама. Арк. 38–39.

[31] Тамсама. Арк. 47.

[32] Тамсама. Арк. 76.

[33] Тамсама. Ф. 4п, воп.1, адз. зах. 16932. Арк. 27. Спецсообщения, докладные и справки органов НКВД. Июль-август 1940.

[34] Тамсама. Адз. зах. 14615. Арк. 127-128. Сводки и сообщения Управления Рабоче-Крестьянской Милиции НКВД БССР о важнейших происшествиях по БССР. Декабрь 1939 г.

[35] НКВД-МВД СССР в борьбе с бандитизмом и националистическим подпольем на Западной Украине, в Западной Белоруссии … С. 416.

[36] НАРБ. Ф. 4п, воп. 1, адз. зах. 13587. Арк. 203.

[37] НКВД-МВД СССР в борьбе с бандитизмом и вооруженным националистическим подпольем на Западной Украине, в Западной Белоруссии ... С. 217.

[38] НАРБ. Ф. 4п, воп. 1, адз. зах. 13587. Арк. 212.

[39] НКВД-МВД СССР в борьбе с бандитизмом и националистическим подпольем на Западной Украине, в Западной Белоруссии … С. 416.

[40] НАРБ. Ф. 4п, воп. 1, адз. зах. 13587. Арк. 196–281.

# Да гісторыі эвакуацыі актываў Банка Польскага з Заходняй Беларусі ў верасні 1939 г.

*Ігар Мельнікаў,*
*канд. гіст. навук (Менск)*

Падзеі пачатку Другой сусветнай вайны да гэтага часу маюць шмат недаследаваных аспектаў. Асаблівую цікавасць выклікае гісторыя вызвольнага паходу Чырвонай арміі ў Заходнюю Беларусь і Заходнюю Украіну ў верасні 1939 г. і звязаная з ім ліквідацыя крэдытна-фінансавай інфраструктуры Банка Польскага ва ўсходніх ваяводствах Другой Рэчы Паспалітай. Акрамя гэтага, да сённяшняга дня практычна недаследаваным айчыннымі гісторыкамі застаецца эпізод, звязаны з арганізацыяй эвакуацыі польскага залатога запасу, які захоўваўся ў Банку Польскім ў Варшаве. Між тым адзін з маршрутаў вывазу золата з ахопленай вайной Польшчы праходзіў праз заходнебеларускія тэрыторыі, што робіць гэты гістарычны сюжэт таксама часткай нашай нацыянальнай гісторыі.

У 1924 г. у адроджанай Польшчы было створана найбуйнейшая крэдытна- фінансавая ўстанова – Банк Польскі. 20 студзеня 1924 г. прэзідэнтам Польшчы Станіславам Вайцяхоўскім быў падпісаны статут гэтай установы[1]. Тады ж Банк Польскі атрымаў права эмісіі новай польскай валюты – злотага[2]. Да гэтага часу асноўным плацежным сродкам была польская марка. Эмісія злотага ажыццяўлялася на аснове сістэмы залатога стандарту (Gold Exchange Standard). 1 злоты ўтрымліваў у сабе 1/3, 444 гр. чыстага золата, а за адзін амерыканскі долар ў 1924 г. давалі 5,18262 злотых[3] .

Статутны фонд Банка Польскага ў момант яго стварэння складаў 100 млн. злотых. 15 красавіка 1924 г. адбыўся сход акцыянераў, а ўжо 28 красавіка галоўная фінансавая ўстанова Польшчы пачала працу ў будынку былога Рускага дзяржаўнага банка, які знаходзіўся ў Варшаве на вул. Бялянскай[4].

У наступныя гады на тэрыторыі Польшчы было створана 50 філіялаў Банка Польскага. На тэрыторыі Заходняй Беларусі яны знаходзіліся ў Лідзе, Гродне, Баранавічах, Брэсце, Ваўкавыску, Слоніме, Пінску і Кобрыне[5]. Калі адной з галоўных задач Банка Польскага ў Варшаве была эмісія злотага і рэгуляванне грашовага звароту ў краіне ў цэлым, то на месцах, і ў прыватнасці, у заходнебеларускіх ваяводствах, галоўны польскі банк канцэнтраваў сваю дзейнасць на крэдытаванні менш буйных банкаў і ашчадных кас, а таксама фінансаванні дзейнасці прадстаўнікоў бізнесу. Акрамя гэтага, філіялы Банка Польскага ажыццяўлялі грашовыя пераводы, продаж замежнай валюты і каштоўных металаў у злітках і манетах[6]. Напрыклад, у адным толькі Гродне ў 1927 г. філіял галоўнага банка краіны ажыццявіў аперацый на 8 190 тыс. злотых[7].

Калі казаць пра сферу крэдытавання, то значныя сродкі меркавалася вылучыць на фінансаванне гарадской інфраструктуры Віленскага і Навагрудскага ваяводстваў. Прадстаўнікі бізнесу Вільні і Навагрудка падчас сваіх сходаў неаднаразова адзначалі неабходнасць выкарыстання доўгатэрміновых крэдытаў Банка Польскага для развіцця гарадоў рэгіёну[8]. Важнасць гэтага ў адной са сваіх публікацый, датаванай 1934 г., таксама падкрэсліваў дырэктар Гандлёва-прамысловай палаты ў Вільні Уладзіслаў Баранскі[9]. Паводле дадзеных «Гадавіка статыстыкі Рэчы Паспалітай за 1929 год», сума крэдытаў, прызначаных для гарадоў Віленскага і Навагрудскага ваяводстваў, складала на 31 сакавіка 1928 г. 18 373 тыс. злотых[10]. Варта таксама падкрэсліць, што стаўкі па крэдытах у Банку Польскім былі ніжэй, чым у іншых банках.

На 1 студзеня 1939 г. актывы Банка Польскага складалі 2 млрд. тагачасных злотых. Акрамя гэтага, банк меў замежныя вэксалі і закладныя паперы на суму 200 млн. злотых. Нарэшце, у 1939 г. у сховішчах Банка Польскага ў Варшаве знаходзілася больш за 60 тон золата ў злітках і манетах[11]. Некаторая колькасць каштоўных металаў знаходзілася ў філіялах банка, у т. л. у Заходняй Беларусі.

2 верасня 1939 г. былі ўнесены змены ў статут Банка, якія дазвалялі павялічыць фінансаванне вайсковых патрэб. Але ўжо

4 верасня 1939 г. было прынята рашэнне аб эвакуацыі са сталіцы гэтай установы, а таксама Міністэрства фінансаў. Першапачаткова планавалася вылучыць асобны чыгуначны састаў для перавозкі супрацоўнікаў і іх сем'яў, а таксама транспарт для перавозкі дакументацыі і каштоўных папер са сховішчаў. Але ўжо 5 верасня план быў зменены. Чыноўнікам загадалі пакінуць Варшаву самастойна і адправіцца ў Люблін, куды пераязджала кіраўніцтва Міністэрства фінансаў і Банка Польскага[12]. Зрэшты, фронт рухаўся настолькі хутка, што польскія фінансісты неўзабаве вымушаны былі пераехаць у заходнеўкраінскі Луцк.

З эвакуацыяй дакументацыі паўстала досыць шмат праблем. Адзін з відавочцаў тых страшных дзён успамінаў, што транспарту для вывазу архіваў і каштоўных папер, супрацоўнікі Банку не дачакаліся. Ім даводзілася бегаць па вуліцах, «лавіць» сялянскія брычкі і фурманкі і загружаць на іх найкаштоўнейшую дакументацыю[13]. Не дзіва, што пазней, у ваеннай завірусе ўсе гэтыя дакументы бясследна зніклі.

Але галоўнай праблемай для польскага кіраўніцтва была арганізацыя вывазу залатога запасу са сховішчаў Банка Польскага. Адным з чыноўнікаў, які адказваў за эвакуацыю польскага золата за мяжу, быў былы кіраўнік Дэпартамента авіяцыі Войска Польскага Людаміл Райскі. Разам з віцэ-міністрам фінансаў і па сумяшчальніцтву экс-старшынёй праўлення Банка Польскага (у 1936 г.) Адамам Коцам Райскаму даручылі арганізаваць закупку ўзбраення для польскай арміі за мяжой. Аплатай за ваенныя пастаўкі павінна было стаць золата, якое захоўвалася ў Банку Польскім.

У хуткім часе Варшава стала прыфрантавым горадам. Міністр фінансаў Польшчы Эўгеніюш Квяткоўскі прапаноўваў ажыццявіць эвакуацыю золата з дапамогай самалётаў кампаніі «Лёт». Паводле першапачатковага плану, зліткі хацелі вывезці ў Вільню, а адтуль – у нейтральную Швецыю. Але Людаміл Райскі выступіў супраць гэтай ідэі, сцвярджаючы, што за адзін рэйс новы транспартны «Локхід» можа вывезці толькі 1,5 тоны золата, а для таго, каб вывезці ўсё золата прыйдзецца здзейсніць больш за 50 вылетаў[14]. І гэта ў той час, калі ў небе над Польшчай пануе германская авіяцыя.

У выніку было прынята рашэнне эвакуіраваць золата ва ўсходнім кірунку па сушы. 3,5 тоны каштоўнага металу былі вывезены варшаўскімі гарадскімі аўтобусамі ў Замосьце (паўднёвая Польшча) і размешчаны ў казематах крэпасці[15]. Каля 30 тон было адпраўлена ў Брэсцкую крэпасць пад ахову польскага вайсковага гарнізона[16]. Магчыма, рашэнне аб эвакуацыі золата ў заходнебеларускую цытадэль было прынята ў сувязі з тым, што 7 верасня 1939 г. у Брэст разам са сваім штабам эвакуіраваўся і галоўнакамандуючы польскай арміяй маршал Эдвард Рыдз-Сміглы.

Сітуацыя на польска-нямецкім фронце станавілася катастрафічнай. Людаміл Райскі ў жорсткай форме патрабаваў ад камандуючага гарнізонам Брэсцкай крэпасці генерала Францішка Клеэбэрга арганізацыі вывазу золата з Брэста. У адказ Клеэбэрг заявіў, што ніякай эвакуацыі не будзе, пакуль не праясніцца сітуацыя на фронце. Заручыўшыся падтрымкай міністра замежных спраў Польшчы Юзафа Бека, Райскі дамогся аўдыенцыі ў Рыдз-Сміглага і распавёў маршалу пра сітуацыю з золатам. Галоўнакамандуючы прыняў рашэнне аб эвакуацыі зліткаў, загадваючы міністру Беку звязацца з польскім пасольствам у Румыніі і даручыць амбасадару арганізацыю транспартнага калідора для «залатога цягніка»[17]. Румынія пагадзілася на транзіт польскага золата праз сваю тэрыторыю, але кіраўнікі гэтай краіны прасілі палякаў паспяшацца. У Бухарэсце не без падставы асцерагаліся, што аб сакрэтнай аперацыі даведаюцца немцы, бо Румынскае каралеўства была літаральна нашпігаваная агентамі абверу.

12 верасня 1939 г. у Снятын на польска-румынскую мяжу прыбыў і быў схаваны ў лесе «залаты» транспарт з Луцка. На наступны дзень да мяжы даехаў цягнік з Брэста. Заставалася дачакацца калоны з Замосьця, але яна затрымлівалася. Звестак ніякіх не было, а канвой мог патрапіць пад бамбёжку ці мясцовыя «ліхія людзі» з прычыны ўцечкі інфармацыі маглі арганізаваць на яго напад. Зрэшты, неўзабаве калона дабралася да месца прызначэння. Праўда, высветлілася, што ў Дубне яе начальнік маёр Вражея атрымаў загад са Стаўкі маршала Рыдз-Сміглага пакінуць 70 скрынь золата на агульную суму 22,6 мільёна злотых. Гэтая частка залатога запасу

павінна была паступіць у распараджэнне галоўнага камандавання на бягучыя выдаткі[18].

У ноч з 13 на 14 верасня 1939 г. усё золата было перагружана ў спецыяльны чыгуначны састаў, які неўзабаве перасёк польска-румынскую мяжу. Так, быў выратаваны ад Гітлера залаты запас Другой Рэчы Паспалітай.

Аднак частка польскіх золатавалютных рэзерваў працягвала знаходзіцца ў філіялах Банка Польскага ў рэгіёнах, у т. л. у Заходняй Беларусі. Іх лёс вырашыўся пасля пачатку паходу Чырвонай арміі. 5 кастрычніка ў савецкай газеце «Праўда» быў апублікаваны матэрыял «Камуністы ў баі», які распавядаў аб уступленні Чырвонай арміі ў г. Ліду. У ліку савецкіх трафеяў аказаўся чыгуначны эшалон, у складзе якога меліся два вагоны з каштоўнымі металамі, карцінамі ды іншымі прадметамі мастацтва, якія раней ўтрымліваліся ў сховішчах Банка Польскага[19]. Зрэшты, частку актываў банка ў Лідзе ўсё ж удалося эвакуіраваць. Так, наяўную замежную валюту, якая знаходзілася ў банкаўскім сховішчы вывезлі ваенным эшалонам, які «без прыгод» дабраўся да Гродна[20].

Віцэ-стараста Навагрудка Вацлаў Чайкоўскі ў салоне службовага аўтамабіля эвакуіраваў у Вільню частку сродкаў, якія захоўваліся ў аддзяленні Банка Польскага. Пасля гэтыя грошы былі перададзеныя польскаму падполлю. Іншы службовец з Баранавічаў Караль Ваньковіч таксама спрабаваў ўратаваць фінансавыя сродкі, якія захоўваліся ў Банку Польскім. Аднак, калі сітуацыя стала безвыходнай, значную частку тых грошай ён раздаў прадстаўнікам мясцовага дваранства, асаднікам і дзяржаўным служачым, якія спрабавалі выехаць з ахопленай вайной Польшчы[21].

Польскім уладам не ўдалося эвакуіраваць грашовыя сродкі, якія захоўваліся ў аддзяленні Банка Польскага ў Брэсце. Усведамляючы, што транспарту для вывазу актываў няма, супрацоўнікі банка сапсавалі папяровыя банкноты, якія знаходзіліся ў сховішчы.

Пра гэта ў кастрычніку 1939 г. у дакладной запісцы, накіраванай сакратару ЦК КП(б)Б Надзеі Грэкавай пісаў адзін з чыноўнікаў аддзела кадраў ЦК. Прывядзём вытрымку з гэтага дакумента: *«Калі Часовае кіраванне прыступіла да працы, у Банку не аказалася ні*

*капейкі грошай, за выключэннем 12 млн. злотых, якія палякі прабілі, г. зн. сапсавалі. Часовае кіраванне прыняло ўсе неабходныя меры да набыцця сродкаў для пакрыцця неабходных выдаткаў. Набыццё сродкаў ішло рознымі шляхамі. Работнікі Часовага кіравання ездзілі па памешчыцкіх маёнтках, у іншыя гарады (якія зараз адышлі да Германіі) і такім чынам назбіралі да 2 млн. рублёў, якія і ўклалі ў Банк. Па прыездзе таварыш Леановіч, камісар банка, спыніў ўсялякую выдачу грошай, матывуючы тым, што грошы, якія знаходзяцца ў банку, з'яўляюцца трафейнымі і павінны ўвайсці ў бюджэт дзяржавы. У цяперашні час рахункі як абласнога, так і павятовага Часовага кіравання адкрытыя. Акрамя таго, усімі трафейнымі грашыма распараджаецца не камісар банка, а старшыня абласнога Часовага кіравання. Аднак неабходна ўказаць, што кіраўнікі Палескай вобласці слаба разгарнулі работу па спагнанні падаткаў з купцоў, гандляроў і іншых асоб»*[22].

Палякам удалося выратаваць сродкі, якія захоўваліся ў дэпазітарыі віленскага аддзялення Банка Польскага. 20 верасня 1939 г. савецкія часткі ўступілі ў Вільню. Супрацоўнікі НКУС убачылі пустымі банкаўскія сховішчы і запатрабавалі ад кіраўніка філіяла Яна Асскваркі-Сераслаўскага паведаміць ім, дзе захоўваюцца каштоўнасці. Гутарка ішла пра амаль тону золата і значную колькасць ювелірных вырабаў. Усё гэта багацце знаходзілася ў Фондзе нацыянальнай абароны (FON) і павінна было пайсці на закупку ўзбраення для польскага войска. Але перад самым уступленнем частак Чырвонай арміі ў Вільню ваявода Артур Марушэўскі разам з супрацоўнікамі Другога аддзелу Генеральнага штабу Войска Польскага схаваў каштоўнасці.

Неўзабаве, пры нявысветленых абставінах дырэктар банка Я. Аскварка-Сераслаўскі скончыў жыццё самагубствам, скочыўшы з акна другога паверха. Супрацоўнікі НКУС шукалі «панскае золата» па ўсёй Віленшчыне, але так нічога і не знайшлі[23]. У пачатку 1940 г. пасля таго, як Віленскі край быў перададзены Літве, польскім контрвыведнікам Лешаку Дашкевічу і Міхалу Рыбікоўскаму пры дапамозе віцэ-консула Японіі ў Коўне Чыўна Сігіхары ўдалося арганізаваць эвакуацыю каштоўнасцяў у Швецыю[24].

Падводзячы вынік, варта адзначыць, што крэдытна-фінансавая дзейнасць Банка Польскага аказвала значны ўплыў на развіццё як у цэлым Польшчы, так і яе ўсходніх рэгіёнаў. Праца філіялаў Банка Польскага на тэрыторыі Заходняй Беларусі была спыненая пасля далучэння гэтых тэрыторый да СССР у верасні 1939 г. Асноўную частку актываў (перш за ўсё, залаты запас Польшчы, які захоўваўся ў Варшаве) палякам удалося паспяхова эвакуаваць. Але некаторая частка каштоўнасцяў, што знаходзіліся ў Банку Польскім на тэрыторыі заходнебеларускіх і заходнеўкраінскіх ваяводстваў, апынулася пасля 17 верасня 1939 г. у руках савецкіх уладаў і была імі нацыяналізаваная.

### *Заўвагі*

[1] Leszczyńska C. Zarys historii polskiej bankowości centralnej. Warszawa: Narodowy Bank Polski, 2010. S. 85.

[2] Флейтерский С. История банковского дела в Польше до 1989 г. // Банковское дело в Польше: проблемы и перспективы развития / Под ред. М. Жуковского. Люблин: Издательство Университета Марии Кюри-Складовской в Люблине, 2005. С. 17–31.

[3] Polska XX wieku. 1914–2003. Pod red. Marek Derwich, Adam Żurek. Wrocław: Wydawnictwo Dolnośląskie, 2004. S. 44.

[4] Morawski W. Słownik historyczny bankowości polskiej do roku 1939. Warszawa: Muza, 1998. S. 57.

[5] Mały rocznik statystyczny 1939 r. Warszawa: Nakładem Głównego Urzędu Statystycznego, 1939. S. 12.

[6] Karpiński Z. Bank Polski, 1924–1939: przyczynek do historii gospodarczej okresu międzywojennego. Warszawa: Polskie Wydawnictwo Gospodarcze, 1958. S. 26.

[7] Operacje bankowe. Bank Polski w Grodnie. Ogólne dane o operacjach bankowych w roku 1927 // Kronika m. Grodna. Z. 1. Rok 1928 / Pod redakcją Stanisława Kołeckiego. Grodno: Wydawnictwo Magistratu m. Grodna, 1928. S. 64.

[8] Koło miast województw Wileńskiego i Nowogródzkiego. Wilno: Wydawnictwo Magistratu m. Wilna, 1930. S. 15.

[9] Barański Wł. Akcja gospodarcza na ziemiach Północno-Wschodnich. Wilno: Nakładem Izby Przemysłowo-Handlowej w Wilnie, 1934. S. 4.

[10] Rocznik Statystyki Rzeczypospolitej Polski za 1929. Warszawa: Główny Urząd Statystyczny, 1930. S. 12.
[11] Rojek W. Odyseja skarbu Rzeczypospolitej. Losy złota Banku Polskiego 1939–1950. Kraków, 2000. S. 59.
[12] Karpiński Z. Losy złota polskiego podczas Drugiej wojny światowej. Warszawa: PWN, 1958. S. 24.
[13] Kirkor S. Ewakuacja ministerstwa skarbu w 1939 r. // Zeszyty historyczne. Nr 20. 1971. S. 112.
[14] Rayski L. Złoto polskie // Zeszyty historyczne. 1971, Nr 20. S. 116.
[15] Wróbel J. Wojenne losy polskiego złota // Biuletyn Instytutu Pamięci Narodowej. 2002, № 8–9. S. 56.
[16] Karpiński Z. O Wielkopolsce, złocie i dalekich podróżach. Wspomnienia. Warszawa, 1971. S. 68.
[17] Rayski L. Złoto polskie. S. 117.
[18] Rojek W. Odyseja skarbu Rzeczypospolitej… S. 93.
[19] Верховский В. Коммунисты в бою // Правда. 5.10.1939. № 276. С. 2.
[20] Łaszczewski T. Blumski Zygmunt Izydor // Zeszyty Historyczne WiN. 1999, Nr 12. S. 248.
[21] Kopeć K. Co stało się z aktywami II RP po napaści sowieckiej na Polskę w 1939 r. // Krzysztof Kopeć [Электронны рэсурс]. – 2000–2012. – Рэжим доступа : http://www.krzysztofkopec.pl/podstrony/historia/kresy.html. – Дата доступу: 01.11.2011.
[22] Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь. Ф. 4п, воп. 1, адз. з. 13348. Арк. 163–165.
[23] Liszewski K. Wojna polsko-sowiecka 1939 r. Warszawa: Neriton, 1995. S. 58.
[24] Pałasz-Rutkowska E. Wizy życia // Kombatant. Czerwiec 2007. Nr 6. S. 19.

# 1939 год у лёсе паўстанца і балахоўца Данііла Іванова

*Ніна Стужынская,*
*канд. гіст. навук (Менск)*

***Крыніцы***

Гістарычны жыццяпіс пра шлях змагання і асабісты лёс аднаго з кіраўнікоў антысавецкай партызанкі Данііла Іванова склаўся на падставе ўспамінаў яго сына, запісаных аўтарам у г. Баранавічы Брэсцкай вобл. у лютым 2013 г., і трох крымінальных спраў, копіі і выпіскі з якіх захоўваюцца ў сямейным архіве нашчадкаў атамана.

З'яўленне Данііла Іванова ў галерэі герояў антысавецкай Беларусі стала магчымым дзякуючы актыўнаму інтарэсу нашчадкаў да яго таямнічага мінулага. Пасля развалу СССР, у часы разбурэння ідэалагічных і архіўных забаронаў людзі кінуліся шукаць сляды сваіх рэпрэсаваных сваякоў. Сярод іх былі не толькі бязвінныя ахвяры, але і людзі з багатым спісам антысавецкіх дзеянняў.

*«Данііл Якаўлевіч Іваноў, пачынаючы з 1919 г. вёў актыўную барацьбу з савецкай уладай, з'яўляўся актыўным удзельнікам паўстання ў Горацкім павеце, потым кіраўніком банды, членам «Народнага Саюза Абароны Радзімы і Свабоды», з'яўляўся тайным агентам 2-га аддзела Польскага Генеральнага штабу»*, – зрабіў выснову суд ужо незалежнай Беларусі 18 снежня 1998 г. у выніку разгляду хадайніцтва сям'і аб рэабілітацыі бацькі і дзеда. З прычыны мноства «заслуг» перад неіснуючым ужо на момант суда СССР Даніілу Іванову ў ёй было адмоўлена. Але потым высветліцца, што былы сялянскі верхавод ні разу не быў асуджаны ні польскім, ні савецкім судом. «Бандыцкі» імідж партызану надалі гісторыкі і літаратары, абмежаваныя ідэалагічнымі рамкамі і адсутнасцю крыніц.

Бурная пошукавая дзейнасць сына атамана Лангіна Даніілавіча Манько, а потым і ўнука Генадзя мела ў выніку добры плён.

У аснову гэтага артыкула пакладзены матэрыялы архіўна-следчых спраў членаў сям'і Івановых за 1924–1940 гг.:

● следчая справа архіва Упраўлення Камітэта Дзяржаўнай Бяспекі (КДБ) па Магілеўскай вобл. Д. Я. Іванова (разам з К. А. Пруднікавым) № 16532 у 2-х тамах 1939–1940 гг.;

● следчая справа Упраўлення Федэральнай Службы Бяспекі (ФСБ) па Смаленскай вобл. Івановай (Осіпавай – па мужу) В. Я., сястры Д. Я. Іванова, 1924 і 1937 гг.;

● следчая справа Аршанскага аддзела Дзяржаўнага Палітычнага Упраўлення (ДПУ) Беларусі 1924 г. у адносінах да Івановай Е. С., маці Д. Я. Іванова. А таксама следчыя справы ўдзельнікаў паўстанцкага і партызанскага руху, паплечнікаў Іванова братоў Мікалая і Пракопа Піменавых за 1927 і 1937 гг. (архіў КДБ, Мінск).

***Тыповы беларускі атаман***

Данііл Іваноў – тыповы прыклад лідэра сялянскага антыбальшавіцкага супраціву, які шырока разгарнуўся ў пачатку 1920-х гг. на беларускіх землях. Крыніцы падаюць больш за паўтары сотні імёнаў вядомых рэгіянальных кіраўнікоў паўстанняў.

Партрэт атамана тыповы па многіх паказчыках. Па ўзросту – на момант Гарадзішчанскага паўстання (1919 г., Гомельская губ.) Іванову, аднаму з камандзіраў «зялёнай» паўстанцкай арміі крыху больш за 20 год, як і большасці арганізатараў «малых войнаў» супраць Саветаў на сваіх тэрыторыях. Па паходжанні – вясковы хлопец са шматдзетнай працавітай сялянскай сям'і сярэдняга дастатку. Ён, як і пераважная большасць кіраўнікоў паўстанняў і партызанкі, герой Першай сусветнай вайны, георгіеўскі кавалер, афіцэр, які прабіўся з нізоў. Статус вельмі важны для прызнання лідэрства ў вясковай супольнасці. Па палітычных перакананнях – праціўнік Савецкай улады, прыхільнік ідэі Установчага сходу, які павінен быў, на думку ідэйных носьбітаў сялянскай антысавецкай рэвалюцыі, вырашыць надзённыя пытанні сялянскай грамады. Актывіст антыбальшавіцкіх арганізацый.

Па нацыянальнасці і ментальнасці – беларус, хаця і з распаўсюджаным рускім прозвішчам. У шматлікіх анкетах у графе «нацыянальнасць» першапачатковае «рускі» закрэслена і выпраўлена на «беларус». Іваноў – тыповы патрыёт малой Радзімы, моцна ўкаранёны ў сваю зямлю. Удзельнічаў у праекце пабудовы незалежнай Беларусі ў шэрагах арміі генерала Булак-Балаховіча і ўзначальваў партызанскі атрад у родным Горацкім пав. да сярэдзіны 1920-х гг. Як і большасць яго паплечнікаў, меў цесныя стасункі з выведкай Польшчы.

Пісьменны, цікавіўся палітычнымі пытаннямі, чытаў па-беларуску, па-руску, па-польску. Адчуваў сябе роўным у асяродку адукаваных людзей. Моцны духам і целам, мужны, як сведчаць матэрыялы допытаў, не губляў годнасці ў самых складаных сітуацыях.

Доўгі час ён быў невядомы, як і большасць іншых народных лідэраў. Зрэдку згадваўся ў савецкай літаратуры ў звязку з імёнамі арганізатара антысавецкага руху Барыса Савінкава і баевіка Сяргея Паўлоўскага, а таксама ў гісторыях пра «доблестных чекистов», якія зліквідавалі замежныя апазіцыйныя цэнтры (аперацыя «Трэст» ды інш.).

***Шлях ад вайны да вайны***

Што не тыпова ў біяграфіі Данііла Іванова, так гэта тое, што ён здолеў пазбегнуць савецкай турмы і расстрэлу да пачатку Другой сусветнай вайны. Захаваць жыццё і працягнуць змаганне Іванову ўдалося знайшоўшы прытулак у Баранавіцкім пав., які адышоў па Рыжскай дамове 1921 г. пад гаспадарства Польшчы. Калі надышоў 1939 год, Іванову было 44 гады. Час баявога актывізму, здавалася б, мінуў. Тым не менш з пачаткам ваенных дзеянняў Іваноў з’явіўся ў органы выведкі з прапановаю арганізаваць партызанскі аддзел для барацьбы з акупантамі.

З 1919 г., калі пачаўся яго баявы шлях, да 1939 г. прайшло два дзесяцігоддзя. Гэта былі гады ўпартага супраціву Саветам са зброяй у руках, удзелу ў розных антысавецкіх арганізацыях. Да 1925 г. Іваноў узначальваў адзін з партызанскіх аддзелаў (разам са знакамітым Карпам Пруднікавым), падтрымліваў стасункі з антысавецкімі цэнтрамі ў Варшаве – Беларускім Палітычным камітэтам на чале

з вядомымі бацькам і сынам Адамовічамі, Народным саюзам барацьбы за радзіму і свабоду Б. Савінкава. З Булак-Балаховічам, як вынікае з гісторыі ягоных камунікацый з генералам, звязвалі прыхільныя асабістыя адносіны.

Няма сумневу, што «палявы» камандзір (згодна сучаснай тэрміналогіі) удзельнічаў у г. зв. «супрацьпартызанскай вайне» (па іншай тэрміналогіі – актыўная выведка) на тэрыторыі Заходняй Беларусі. З савецкага боку аддзеламі, якія рабілі рэйды за мяжу, кіравалі вядомыя партызаны-чэкісты Арлоўскі, Ваўпшасаў, Корж ды інш. Ім супрацьстаялі партызаны-зялёнадубцы. Якраз гэты фронт з'яўляўся праявай сапраўднай грамадзянскай вайны, арганізаванай на беларускіх тэрыторыях варагуючымі акупацыйнымі бакамі.

Адзін з такіх дыверсійных цэнтраў у вёсцы Калбовічы каля станцыі Лясное, які стаўся месцам актыўных сутычак і баёў паміж партызанамі, узначальваў Данііл Іваноў. Галоўную сілу аддзелу складалі яго баявыя паплечнікі, удзельнікі Гарадзішчанскага паўстання, каму пашчасціла выжыць у ранейшым жорсткім супрацьстаянні.

Калі патрэба ў такіх фармаваннях у Масквы і Варшавы знікла, Іваноў уладкаваўся на працу ў маёнтак графа Варанцова – Югалін (зараз Івацэвіцкі раён Брэсцкай вобл.). Да верасня 1939 г. ён выконваў абавязкі ляснічага і кіраўніка службы аховы графа.

Да асобы атамана мела трывалы доўгатэрміновы інтарэс савецкая выведка. Неаднаразова за гэты час з Масквы рабіліся захады яго вярбоўкі.

У 1924 г. была расстраляная маці атамана Еўдакія Сямёнаўна Іванова па загаду маскоўскага кіраўніцтва АДПУ. Здзейсніў карную акцыю супраць сям'і атамана і яго аднавяскоўцаў вядомы чэкіст Рыгор Сыраежкін, які адмыслова быў накіраваны з Лубянкі ў Горацкі пав. для знішчэння аддзела Іванова.

1924 год у гісторыі спецслужбаў Расіі вядомы паспяховай аперацыяй «Сіндыкат-2» па выманьванню з-за мяжы Барыса Савінкава і яго гучнага арышту. Сям'я Івановых трапіла ў павуцінне гэтай чэкісцкай распрацоўкі. Данііл Іваноў, які шмат каго з сяброў замежных антысавецкіх цэнтраў ведаў асабіста і шмат з кім падтрымліваў адносіны, на думку чэкістаў уяўляў пагрозу для аперацыі. Дзве

старэйшыя сястры Іванова, Кацярына і Вольга былі арыштаваны і пасля допытаў і катавання ў Воршы, вывезены ў маскоўскую Бутырскую вязніцу. Вольга, не вытрымаўшы здзекаў, дала згоду на супрацоўніцтва са спецлужбамі СССР. Гісторыя яе вярбоўкі, засылкі ў Польшчу, кантактаў з польскай выведкай, вяртання ў СССР і гібелі ў 1939 г. вартая асобнага артыкула. Аднак угаворы сястры не мелі вынікаў. Спроба вярбоўкі Іванова не ўдалася. Ці была другая спроба падчас яго знаходжання на Лубянцы ў 1940 г., невядома.

Пасля зыходу з палітычнай сцены антысавецкіх арганізацый, атаман заставаўся за рамкамі арганізаванай апазіцыі. Інтарэс да палітыкі не страціў, падтрымліваў сувязі з былымі паплечнікамі. Былы партызанскі лідэр атрымліваў прапановы аб далучэнні да розных антысавецкіх аб'яднанняў. Баранавіцкі актывіст антысавецкай арганізацыі «Братства русской правды» капітан Шклярэўскі прапаноўваў уступіць у тайнае баявое злучэнне. Сваіх агентаў пасылалі таксама іншыя расійскія эмігранцкія арганізацыі. Перад пачаткам Другой сусветнай вайны Данііла Іванова настойліва запрашаў у Расійскі агульнавайсковы саюз (РОВС) кіраўнік яго варшаўскага аддзялення С. Вайцахоўскі.

Іваноў падтрымліваў сувязі з генералам Булак-Балаховічам. Менавіта з ім і былым паплечнікам Карпам Пруднікавым ён планаваў партызанскі супраціў нямецкім захопнікам.

Як ўспамінаў Л. Манько, чэкісты вельмі цікавіліся знаёмымі атамана, якія былі людзьмі са статусам і мелі сувязі высокага ўзроўню. Данііл Якаўлевіч сябраваў з гаспадаром маёнтку графам Варанцовым. Граф і ляснічы карысталіся аднымі і тымі ж крыніцамі інфармацыі, гаспадар выпісваў еўрапейскія газеты. У маёнтку бурна дыскутавалі наконт будучыні Еўропы.

Сяброўскія адносіны звязвалі Іванова і са шваграм графа – былым паручнікам «Белай арміі», сынам ваеннага пракурора і сябрам РОВС баронам Мікалаем Аляксеевічам Тызэнгаўзэнам. Некаторы час барон працаваў правадніком міжнародных вагонаў на маршруце Парыж–Берлін і Парыж–Варшава і прывозіў свежыя навіны з жыцця еўрапейскіх сталіц і расійскіх эмігрантаў. Амаль кожнае лета ў Варанцовых гасцявала жонка французскага мільянера



*Данііл Іваноў. Вёска Югалін. Фотаздымак 1937 г.*

Дэпрэ Марыя Бурман. І з французам у Іванова завязаліся добрыя стасункі. Барон Гардон і яго жонка графіня Мусіна-Пушкіна (з роду паэта Аляксандра Пушкіна) запрашалі яго да сябе ў маёнтак у Слонімскім пав. Гэтыя ды іншыя знаёмыя Данііла Якаўлевіча мелі шырокае кола знаёмстваў у еўрапейскіх сталіцах.

Вагу падследнаму надавалі і ягоныя былыя паплечнікі, што затрымаліся ў Варшаве і Берліне. Генералы С. Булак-Балаховіч, В. Новікаў, палкоўнікі Леда, Раждзественскі і Брандт, былы кіраўнік савінкаўскай выведкі капітан Шаўчэнка гатовыя былі рэкамендаваць Іванова ў склад кожнай антысавецкай арганізацыі.

***Мяжа жыцця: 1939-й***

З пачаткам Другой сусветнай вайны дзяржаўная мяжа пасунулася на захад. Як сведчыў сын атамана, некаторыя з суседзяў радасна сустракалі Чырвоную армію. З гэтай нагоды начапілі чырвоныя банты. Напярэдадні святочнай сустрэчы Чырвонай арміі чатырохкватэрны дом у Югаліне, дзе жылі Івановы ды іншыя працаўнікі маёнтку графа Варанцова, наведаў савецкі актывіст. Гэты чалавек быў з тых, хто пры падтрымцы савецкага боку ў папярэднія гады арганізоўваў акцыі пратэсту супраць «панов». Ён настойліва прапанаваў сям'і Іванова выйсці на святочную сустрэчу «освободителей». Аднак жонка Данііла Якаўлевіча Соф'я Феліксаўна патрэбнай тканіны для чырвонага банта не знайшла, пашкадавала сваю сукенку адпаведнага колеру, і на сустрэчу чырвонаармейцаў не пайшла.

На фоне катастрофы польскай арміі і пераможнага «освободительного похода» Чырвонай арміі ў кастрычніку 1939 г. Данііл Іваноў быў арыштаваны. У Югалін з'явіліся оперупаўнаважаныя АДПУ. *«На затрыманне, – ўспамінаў Л. Д. Манько, – пад вечар, калі сям'я сядзела за сталом, у кватэру ўваліліся каля двух дзесяткаў узброенай мясцовай басаты і два энкавэдыста ў форме. Гаспадар спакойна зірнуў на «гасцей» і працягваў вячэраць»*.

Прадстаўнік новай улады, свежаспечанага савету, які суправаджаў чэкістаў, сказаў: *«Мы вас шукаем»*. Хаця ніхто не хаваўся. Не было куды бегчы. Перад пачаткам вайны палякі спяшаліся адсяліць нядобранадзейных «усходнікаў» за 101 кіламетр ад мяжы. Іваноў таксама атрымаў загад пакінуць Югалін. Але сітуцыя хутка мянялася. Людзі баяліся пакідаць дамы, заставаліся ў родных мясцінах. У небе ўжо лягалі нямецкія самалёты. У Югалін прыбывалі ўсё новыя хвалі ўцекачоў з захаду. Д. Я. Іваноў тыдзень хаваўся ў суседняй вёсцы, потым вярнуўся дамоў. Суседка папярэдзіла, што за ім ужо прыходзілі людзі ў форме, праўда, хто такія, высветліць не ўдалося.

Паводле ўспамінаў сына, арыштаванага бацьку павялі ў суседняе мястэчка Ямічна, дзе пры паляках быў цэнтр гміны і камера папярэдняга затрымання. Назаўтра жонка з сынам пайшлі да старшыні савета гміны нейкага Кунцэвіча за дазволам аб сустрэчы.

У памяшканні гміны хлопчык убачыў свой ровар, які адабралі

ўчорашнія «госці». Новая савецкая гміна нагадвала цэх па вытворчасці каўбасаў. Гара свіных галоў займала ледзь не палову пакою. Саветы дазволілі сваім актывістам рабаваць маёнтак Варанцова і гаспадаркі г. зв. «кулакоў». «*Прасціну з-пад старой графіні выцягнулі, – абураўся Лангін Даніілавіч, – а яна лячыла людзей, шчыра дапамагала сем'ям*».

Стужка жыцця героя Першай сусветнай вайны і антысавецкага супраціву перарвалася ў Магілёве. У маі 1940 г. крымінальная справа і яе фігуранты – Іваноў і Пруднікаў – былі этапаваныя ў Маскву ў распараджэнне НКУС. На гэтым след атамана губляецца.

Наконт далейшага лесу Д. Я. Іванова існуюць розныя версіі. Унук атамана, які сам у мінулым меў дачыненне да савецкай выведкі (ГРУ) і прымаў удзел ў баявых дзеяннях у Афганістане, лічыць, што нельга адкідаць версію перавярбоўкі. Палітычная і геапалітычная сітуацыя напрыканцы 1939 г. рэзка змянілася. На фоне пагадненняў паміж сталінскім і гітлераўскім рэжымамі ў спецслужбаў з'явіліся новыя аргументы для былых ідэйных і палітычных ворагаў з мэтаю папаўнення сваёй агентуры.



*Данііл Якаўлевіч Іваноў. Фотаздымак з крымінальнай справы. 1939 г.*

Сям'я прыгадвала, што ў сакавіку 1940 г. у Югалін завітаў незнаёмы чалавек, які перадаў прывітанні ад Данііла Якаўлевіча. Ён паведаміў, што быццам быў разам з ім у Баранавіцкай турме, што рэчы Данііла Якаўлевіча згарэлі і папрасіў для яго вопратку. З таго, што прынесла Соф'я Феліксаўна, выбраў самае сціплае і не кідкае ў вочы. Госць адмовіўся ад сала, узяў толькі маленькі кавалачак. Сказаў, што хутка зноў будуць перамены, пачнецца вайна паміж Нямеччынай і Саветамі. Хто быў гэты чалавек, і якія сапраўдныя мэты меў яго візіт – загадка для сям'і і зараз. Дакладна можна сказаць, што ў гэты час Іваноў знаходзіўся ў Магілёўскай турме, літаральна праз месяц ці два яго перавялі ў Маскву.

У 1956 г. у Югалін завіталі прадстаўнікі КДБ, цікавіліся лёсам Д. Я. Іванова, спрабавалі выпытваць у сваякоў, што тыя ведаюць пра мужа і бацьку. Аднак, маючы багатую практыку стасункаў са спецслужбамі, тыя не былі ахвочыя да размоваў. Лангін Даніілавіч узгадваў, што ў бацькі быў архіў, і падчас арышту маці схавала па-




*Лангін Даніілавіч Манько. Вёска Югалін. Фотаздымак 2014 г.*

перы на гарышчы, але потым яны зніклі. Ці не гэтыя дакументы шукалі камітэтчыкі?

У 1947 г. энкавэдысты прыйшлі ўжо па Лангіна Даніілавіча. Савецкія актывісты, што суправаджалі карнікаў прамаўчалі, калі прагучала прозвішча Манько, Іванова не ўзгадалі. Магчыма пабаяліся, бо лёс бацькі Лангіна для суседзяў быў таемным. Але магчыма, што сваю ролю адыграла пачуццё ўдзячнасці. Калі Югалін быў заняты нямецкімі войскамі, да Івановых прыйшлі, бо ведалі, што яны маюць свае парахункі з савецкай уладай. Аднак яны не пажадалі назваць імёны «чырвоных» суседзяў. Вызваліўся Л. Д. Манько толькі пасля смерці Сталіна.

У Лангіна Даніілавіча свая багатая гісторыя змагання з савецкім рэжымам. У студзені 1952 г. ён актыўна ўдзельнічаў у паўстанні ў Экібастузскім лагеры, адным з самых жахлівых у сістэме ГУЛАГу. Беларусы падтрымалі выступленне супраць адміністрацыі лагера, арганізаванае ўкраінцамі. Сын свайго бацькі, ён працягнуў сямейную традыцыю змагання з сістэмай і ў Кенгірскім лагеры, куды трапіў пасля расфарміравання Экібастузлага.

# Пераўтварэнні ў галіне культуры ў заходніх абласцях БССР у 1939–1941 гг. у адлюстраванні партыйных органаў (*на прыкладзе Пінскай вобл.*)

*Аляксандр Вабішчэвіч,*
*доктар гіст. навук (Берасце)*

З уваходжаннем Заходняй Беларусі ў склад БССР восенню 1939 г. беларускі народ аднавіў сваю тэрытарыяльную цэласнасць, аб'яднаўся ў межах савецкай дзяржаўнасці. У заходнебеларускага грамадства з'явіліся надзеі наконт паляпшэння свайго сацыяльна-эканамічнага і культурнага становішча. Людзі спадзяваліся, што савецкая ўлада выправіць ранейшы дыскрымінацыйны стан у галіне культуры, адукацыі, бо ў папярэдні час (1921–1939 гг.) праводзілася палітыка паланізацыі, нацыянальна-культурнага ўціску.

Аднак змены ў адукацыі ажыццяўляліся ў накірунку саветызацыі. Найперш пачалася рэарганізацыя асветы на новых прынцыпах. Прадугледжвалася змяніць усю папярэднюю сістэму адукацыі на савецкую, увесці вывучэнне рускай і беларускай моваў, арганізаваць у кожнай вобласці і вялікіх гарадах па адной рускай ці беларускай школе для дзяцей чырвонаармейцаў і работнікаў часовых упраўленняў, выдаць падручнікі на беларускай, рускай і польскай мовах, а таксама на ідыш і г. д. А ў снежні 1939 г. СНК БССР і ЦК КП(б)Б выдалі пастанову «Аб мерапрыемствах па арганізацыі народнай адукацыі ў заходніх абласцях БССР», якая абавязвала партыйныя і савецкія органы, аддзелы адукацыі разгарнуць прапагандысцкую і агітацыйную работу па ліквідацыі пагардлівых адносін да беларускай мовы ў былой Польскай дзяржаве. Аналагічныя дакументы былі прыняты і на абласным узроўні.

Паспрабуем прааналізаваць ход пераўтварэнняў у межах адной з новых абласцей БССР – Пінскай. Рашэнне аб яе стварэнні (як

і іншых чатырох заходніх абласцей рэспублікі) прымалася на пасяджэннях Бюро ЦК КП(б)Б 19 і 29 лістапада 1939 г., а адпаведная пастанова была зацверджана ў Маскве 4 снежня 1939 г. Часовыя ўпраўленні былі заменены выканкамамі. 15 студзеня 1940 г. замест паветаў былі створаны раёны. У Дзяржаўным архіве Брэсцкай вобл. захоўваюцца дакументы, хоць і не ў поўным аб'ёме, фондаў былога партыйнага архіва Брэсцкага абкама КП(б)Б за 1939–1941 гг., у склад якіх уваходзяць дакументальныя матэрыялы Пінскага абкама КП(б)Б (ф. 7581-п) і падведамасных ім партыйных органаў і арганізацый. Гэтыя дакументы адлюстроўваюць грамадска-палітычную сітуацыю, стан сацыяльна-эканамічнага жыцця, даюць пэўнае ўяўленне пра першыя мерапрыемствы савецкіх улад у галіне культуры ды інш.[1]

Ва ўмовах поліэтнічнага складу насельніцтва злабадзёным стала пытанне аб задавальненні яго нацыянальна-культурных інтарэсаў. У Пінскай вобл. у лютым 1940 г. было 500 беларускіх школ (89,8 % ад агульнай колькасці), 22 рускія (4 %), 18 габрэйскіх (3,2 %), 14 польскіх (2,5 %) і 3 украінскія школы (0,5 %)[2]. Ва ўсіх нацыянальных школах абавязковай з'яўлялася беларуская мова, а з восені 1940 г. – яшчэ і руская. Для дарослых былі арганізаваны курсы па вывучэнні рускай мовы.

У 1940 г. быў адкрыты шэраг навучальных устаноў, у т. л. Настаўніцкі інстытут у Пінску. Яго гісторыя пачалася 16 лютага 1940 г., калі адкрыліся падрыхтоўчыя курсы. У адкрытай навучальнай установе з 250 навучэнцаў (з іх 190 завочнікаў) рыхтавалі настаўнікаў 5–7 класаў на двух факультэтах – прыродазнаўча-геаграфічным і фізіка-матэматычным. Тэрмін навучання быў разлічаны на 2 гады[3].

Разгортванне сістэмы навучальных устаноў суправаджалася аб'ектыўнымі і суб'ектыўнымі цяжкасцямі. Матэрыяльнае забеспячэнне школ было слабым. Не было ў дастатковай колькасці падручнікаў, наглядных дапаможнікаў, пісчага матэрыялу, абсталявання, лямпаў і газы для іх, мэблі. Паводле справаздачы аб выніках 1939–1940 навучальнага года, не былі ахоплены школьным навучаннем у Пінскай вобл. больш за 13 тыс. дзяцей школьнага ўзросту, а 6 тыс. школьнікаў былі выключаны («адсеяны») (як адзначана

партыйнымі органамі, *«па прычыне недастатковага растлумачэння насельніцтву закона аб усеагульным абавязковым навучанні і слабой выхаваўчай працы з бацькамі»*). Таксама прызнавалася недастатковай антырэлігійная праца. Востра адчувалася кадравая праблема, з-за чаго ў вобласці зусім не працавалі 27 школ, а ва ўсіх астатніх навучанне ішло ў дзве змены[4].

Ход падрыхтоўкі да новага 1940–1941 навучальнага года таксама праходзіў з цяжкасцямі. На пасяджэнні бюро Пінскага абкама КП(б)Б 24 жніўня 1940 г. адзначалася, што не быў завершаны рамонт 85 школ, не былі забяспечаны палівам 420 школ, недастатковым было забеспячэнне школ падручнікамі, сшыткамі і нагляднымі дапаможнікамі[5]. Крыху пазней, 23 кастрычніка 1940 г. таксама на пасяджэнні бюро Пінскага абкама партыі канстатавалася, што *«да пачатку заняткаў у школах не былі ахоплены навучаннем 10800 дзяцей школьнага ўзросту, а на 15 кастрычніка не займаюцца ў школах 4887 дзяцей школьнага ўзросту»*. Асабліва кепскай выглядала сітуацыя з наведваннем школ у сельскай мясцовасці. Так, у Ганцавіцкім раёне не наведвалі школы 818 дзяцей (13 %), у Іванаўскім – 703 (11 %). У нацыянальных школах Пінска і Драгічына не былі адкрыты 5–7-я класы, а таксама адсутнічалі прадугледжаныя планам школьныя інтэрнаты (было адкрыта 6 інтэрнатаў пры плане 16). Таксама ў вобласці не хапала 200 настаўнікаў і падручнікаў для нацыянальных школ, асабліва для польскіх. У выніку Бюро Пінскага абкама звярнулася з просьбай у ЦК КП(б)Б уздзейнічаць на Наркамасвет БССР дзеля неадкладнага забеспячэння падручнікамі і настаўнікамі[6].

Аднак разгортванне школьнай сеткі ў Пінскай вобл. і ў 1940–1941 навучальным годзе ішло са складанасцямі. У пачатку 1941 г. там налічвалася 9 сярэдніх школ (176 выкладчыкаў, 5 458 вучняў), 125 няпоўных сярэдніх (1 131 настаўнік, 40 321 вучань) і 450 пачатковых школ (957 вучняў, 44 418 вучняў)[7]. У лютым 1940 г. у Пінскай вобл. школьным навучаннем не было ахоплена 7 764 чал., з прычыны недахопу 596 настаўнікаў пачатковых класаў не працавалі 35 сельскіх школ, а 284 школы былі размешчаны ў прыватных і не прыстасаваных для нармальнай працы памяшканнях[8]. Асабліва

недахоп настаўніцкіх кадраў адчуваўся ў сельскай мясцовасці. Напрыклад, у Давыд-Гарадоцкім раёне замест 246 працавалі толькі 117 настаўнікаў, з іх 63 не мелі педагагічнай адукацыі. Як сведчаць дакументы партыйных органаў, не рэдкасцю станавілася выяўленне «засмечанасці» настаўніцкіх кадраў.

Акрамя таго, далёкай да завяршэння была праблема ліквідацыі непісьменнасці дарослых. Не лепшым было становішча з асветай дапрызыўной моладзі. У пачатку чэрвеня 1941 г. у Пінскай вобл. налічвалася 1835 непісьменных дапрызыўнікоў. «*Звыш 4000 дапрызыўнікоў з адукацыяй 3–7 класаў да 1939 г. вучыліся ў польскай школе і не ўмелі чытаць і пісаць па-руску, хоць 80 % дапрызыўнікоў названых гадоў нараджэння (1920–1922 гг. – А. В.) па нацыянальнасці беларусы*»[9]. Засваенне ў школах складаных савецкіх праграм ішло з цяжкасцямі. Так, Давыд-Гарадоцкі райкам партыі 9 чэрвеня 1940 г. прызнаў слабымі вынікі экзаменаў у школах раёна. Да канца 1939–1940 навучальнага года адсеў склаў 5,2% вучняў, 76,7% былі пераведзены ў наступныя класы, іншых пакінулі на паўторны курс і пераздачу восенню.

Важнай ідэалагічнай задачай з'яўлялася прапаганда сярод насельніцтва заходніх абласцей БССР дасягненняў «культурнай рэвалюцыі». Паўсюдна былі арганізаваны хаты-чытальні, «чырвоныя куткі», дамы культуры. Напрыклад, у Столінскім раёне ў 1940 г. працавала 15 хатаў-чытальняў, дом культуры, кінатэатр «Чырвоная зорка» (на 250 месцаў), раённая бібліятэка (налічвала больш 5,5 тыс. кніг) у Століне, бібліятэка ў в. Белавуша. У Давыд-Гарадоцкім раёне культурнае жыццё канцэнтравалася пераважна ў райцэнтры. Там знаходзіўся дом культуры, кінатэатр (на 200 месцаў), тры бібліятэкі (мелі 12,5 тыс. кніг), будаваўся гарадскі тэатр на 500 месцаў.

Хаты-чытальні ў асобных вёсках сапраўды сталі ачагамі культурнага жыцця. «*У глінкаўскай хаце-чытальні вечарамі збіраюцца сяляне, – паведамлялася ў столінскай раённай газеце. – У вольны ад працы час яны там чытаюць часопісы, газеты, мастацкую літаратуру, гуляюць у шашкі, даміно. На днях у хаце-чытальні ўстанавілі радыё. Насельніцтва з вялікім інтарэсам слухае радыёперадачы*»[10]. Аднак некаторыя хаты-чытальні працавалі нездавальняюча, бо кеп-

ска фінансаваліся, не былі абсталяваны мэбляй, партрэтамі, радыёпрыёмнікамі.

Савецкае кіно стала масавым элементам новага (сацыялістычнага) побыту. Кінаперасоўкі абслугоўвалі жыхароў сельскай мясцовасці. Савецкія гукавыя мастацкія і дакументальныя фільмы (пераважна гісторыка-рэвалюцыйнай тэматыкі) былі накіраваны на прапаганду савецкага ладу жыцця сярод вяскоўцаў і гараджан. Так, 27 жніўня 1940 г. мясцоваму насельніцтву в. Глінка Столінскага раёна паказалі фільм «Ленін у Кастрычніку». Многія, наогул, бачылі кіно ўпершыню.

Дасягненні савецкага тэатральнага мастацтва павінны былі пашыраць тэатры, створаныя ў 1939–1941 гг. у заходніх абласцях рэспублікі. Сярод іх быў і беларускі тэатр, менавіта Палескі абласны драматычны тэатр у Пінску, пераўтвораны з калгаснага тэатра ў Заслаўі. Спачатку пастаяннага памяшкання ў Пінску ён не меў, а потым размясціўся ў тэатральным будынку братоў Гольцман[11].

Важнае значэнне ў савецкай ідэалагічнай рабоце мела мастацкая самадзейнасць. На прадпрыемствах і ва ўстановах ствараліся драматычныя і музычныя гурткі, аркестры. Напрыклад, у красавіку 1940 г. у Століне праводзіўся раённы агляд дзіцячай самадзейнасці. Найлепшы калектыў (аркестр габрэйскай школы з в. Рэчыца) быў накіраваны ў Пінск на абласны агляд. У пачатку 1941 г. у Столінскім раёне існавала 63 агіткалектывы, што аб’ядналі 847 чал. Падчас правядзення агітацыі выкарыстоўваўся патэнцыял мастацкай самадзейнасці. Так, 25 мая 1941 г. у рамках палітмасоўкі ў гарадскім парку культуры і адпачынку ў Століне пасля даклада аб значнасці падпіскі на дзяржаўныя пазыкі навучэнцы мясцовага сельгастэхнікума паказалі п’есу Кандрата Крапівы «Партызаны».

Захады ў напрамку беларусізацыі ў заходніх абласцях БССР у той час мелі выразныя ідэалагічныя рысы, менавіта перакананне ў правільнасці «ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі». Аднак працэс беларусізацыі ішоў марудна. 6 верасня 1940 г. ЦК УКП(б) прыняў пастанову «Аб вывучэнні партыйнымі і савецкімі работнікамі, якія працуюць у саюзных ці аўтаномных рэспубліках, мовы адпаведнай саюзнай ці аўтаномнай рэспублікі». Аналагічная

пастанова была выдадзена 16 кастрычніка 1940 г. у БССР «Аб вывучэнні партыйнымі і савецкімі работнікамі БССР беларускай мовы». Было прызнана няправільным, што *«многія кіруючыя партыйныя і савецкія работнікі, што працуюць у Беларусі, не ведаюць і не вывучаюць беларускую мову»*. Чыноўнікі павінны былі ўзяцца за вывучэнне беларускай мовы. *«Абавязаць абкамы, гаркамы і райкамы КП(б)Б распрацаваць мерапрыемствы па аказанні індывідуальнай дапамогі таварышам у вывучэнні беларускай мовы шляхам арганізацыі кансультацый у школах, сярэдніх і вышэйшых навучальных установах, завочнага навучання»*[12]. Адпаведнае рашэнне было прынята і Пінскім абкамам партыі.

Пасля гэтага пэўныя станоўчыя зрухі ў справе беларусізацыі назіраліся ў Пінскай вобл. Напрыклад, ва ўсіх раёнах былі арганізаваны пры парткабінетах гурткі па вывучэнні беларускай мовы, у асобных раёнах праводзіліся кансультацыі. Беларуская мова атрымала належнае стаўленне з боку цэлага шэрагу партыйных работнікаў. Пра гэта сведчыць дакладная запіска сакратара Пінскага абкама партыі Івана Улазава ад 7 красавіка 1941 г.: *«Цэлы шэраг адказных партыйных і савецкіх работнікаў па-сур'ёзнаму ўзяліся за авалодванне беларускай мовай і ў гэтым дабіліся значных поспехаў. Гэтыя таварышы зараз у сваёй практычнай рабоце больш карыстаюцца беларускай мовай. Напрыклад, т. Саўковіч (загадчык аддзела прапаганды і агітацыі Пінскага райкама КП(б)Б), тав. Усхопаў – заг. аддзела прапаганды і агітацыі Столінскага РК КП(б)Б, тав. Жулега (сакратар Пінскага райкама КП(б)Б) і іншыя таварышы выступаюць з дакладамі і лекцыямі на беларускай мове. Амаль ва ўсіх раёнах вобласці існуюць гурткі па вывучэнні беларускай мовы. Гурткі арганізаваны пры парткабінетах, імі кіруюць лепшыя настаўнікі няпоўных сярэдніх і сярэдніх школ. У Жабчыцкім, Столінскім, Ганцавіцкім раёнах пры парткабінетах арганізаваны і працуюць кансультацыі для самастойна вывучаючых беларускую мову. У Столінскім раёне партыйныя сходы праводзяцца на беларускай мове»*.

Аднак у той жа дакладной запісцы было адзначана, што пастанова ЦК КП(б)Б аб вывучэнні беларускай мовы кіруючымі партыйнымі

і савецкімі работнікамі выконвалася нездавальняюча. «*Да апошняга часу значная частка кіруючых таварышаў яшчэ не прыступіла да сур'ёзнага вывучэння беларускай мовы, яе не ведаюць і ёю не карыстаюцца. Пінскі ГК КП(б)Б прыняў пастанову аб вывучэнні беларускай мовы кіруючымі партыйнымі і савецкімі работнікамі горада. Але далей прыняцця пастановы справа не пайшла. Гурткі і школа для партактыву не арганізаваны. Камуністы беларускай мовы не вывучаюць. А, між тым, у горадзе ёсць вялікая частка камуністаў, якія прыехалі з РСФСР альбо з другіх рэспублік, не ведаюць беларускай мовы і пагэтаму патрабуюць дапамогі ў справе авалодвання ёю, але гэтую дапамогу яны ад ГК КП(б)Б не атрымоўваюць. Дрэнна абстаіць справа з выкананнем пастановы ЦК КП(б)Б аб авалодванні беларускай мовай у раёнах – Давыд-Гарадоцкім, Драгічынскім, Ленінскім*»[13]. Пінская абласная партарганізацыя ў той час мела наступны нацыянальны склад: беларусы – 37,9 %, рускія – 37,1 %, габрэі – 15,2 %, палякі – 0,9[14].

Таксама ў згаданай вышэй запісцы прыведзены звесткі аб сапраўдным стане беларусізацыі ў галіне адукацыі ў Пінскай вобл.: «*Аддзелам прапаганды і агітацыі абкама КП(б)Б была праведзена праверка выканання пастановы ЦК КП(б)Б аб ужыванні беларускай мовы ў вучэбных установах (беларускіх НСШ, СШ, педвучылішчы, настаўніцкім інстытуце, фельчарскай школе). У выніку праверкі аказалася, што амаль ва ўсіх беларускіх вучэбных установах прадметы чыталіся на рускай мове, а не на беларускай. У гэтых установах распараджэнні дырэкцыі і грамадскіх арганізацый, насценны друк, плакаты, лозунгі і нават расклад урокаў пісаліся на рускай мове*».

Былі зроблены адпаведныя захады па выпраўленні такой сітуацыі, менавіта ў Пінскім абкаме склікана нарада дырэктараў, загадчыкаў навучальнай часткі і сакратароў партыйных арганізацый навучальных устаноў, на якой абмяркоўвалася пытанне аб перабудове работы беларускіх навучальных устаноў для выканання згаданай пастановы ЦК КП(б)Б. «*У сучасны момант у радзе вучэбных устаноў выкладанне прадметаў праводзяць на беларускай мове (педвучылішча, 1-я сярэдняя беларуская школа, 15 НСШ у Пінску*

*і інш.). Але яшчэ не ва ўсіх вучэбных беларускіх установах выканана пастанова ЦК КП(б)Б. Абкам партыі намячае ў бліжэйшы час зноў праверыць становішча з ужываннем беларускай мовы ў вучэбных установах, савецкіх, грамадскіх і партыйных арганізацыях»*[15].

Апошнім значным крокам у справе беларусізацыі была пастанова ЦК КП(б)Б ад 24–25 студзеня 1941 г. «Аб вывучэнні беларускай мовы ў ВНУ, тэхнікумах і школах БССР». Былі зроблены захады па ўмацаванні існуючых беларускіх школ. Ва ўсіх школах была разгорнута гуртковая работа па вывучэнні беларускай мовы. Аднак неўзабаве гэтая праца спынілася, бо пачалася вайна.

Для заходнебеларускім зямель важнай з'яўлялася праблема захавання гісторыка-культурных каштоўнасцей. Паводле пастановы СНК БССР «Аб ахове ў заходніх абласцях БССР помнікаў рэвалюцыі, твораў мастацтва і помнікаў даўніны, а таксама захаванні архіваў» ад 22 снежня 1939 г. была ўведзена забарона на разбурэнне помнікаў мінулага, знішчэнне і раскраданне архіваў, вываз мастацкіх і архіўных каштоўнасцей без ведама і дазволу рэспубліканскага ўраду, прадугледжвалася стварэнне абласных камісій па вывучэнні, уліку і ахове твораў мастацтва, помнікаў даўніны, рэвалюцыі і вызвалення Заходняй Беларусі, наладжванне асобнай экспедыцыі ў заходнія вобласці БССР для выяўлення архіваў, арганізацыі аховы і канцэнтрацыі іх у адным ці некалькіх бяспечных месцах, а таксама экспедыцыі для ўліку, рэгістрацыі і вывучэння помнікаў старажытнасці ў заходніх абласцях рэспублікі.

Аднак партыйныя і савецкія органы не праяўлялі належнага клопату аб дакладным выкананні названай пастановы. Пра гэта яскрава сведчыць ліст старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Нікіфара Наталевіча ад 5 лістапада 1940 г., адрасаваны ўсім старшыням абласных і раённых выканкамаў, гарадскіх саветаў, дырэктарам музеяў: *«У апошні час назіраюцца выпадкі вывазу рознымі навуковымі ўстановамі і нават асобнымі прыватнымі асобамі вельмі важных культурна-гістарычных каштоўнасцей, што захоўваюцца ў архівах БССР, музеях, былых палацах, маёнтках і т. п., што адбываюцца без ведама і дазволу ўрада БССР»*[16]. Якраз у 1940–1941 гг. шматлікія агульнасаюзныя навукова-даследчыя

ўстановы арганізоўвалі экспедыцыі ў заходнія вобласці рэспублікі, у выніку якіх былі вывезены каштоўныя артэфакты. Гэта датычыла і кнігазбораў. Так, большая частка фондаў бібліятэкі Пінскай рымска-каталіцкай семінарыі (33 тыс. асобн.) была вывезена ў Цэнтральны антырэлігійны музей у Маскве[17].

Кардынальна змяніліся ў 1939–1941 гг. агульныя падыходы да краязнаўчай працы і музейнай справы. Набыткі і вопыт ранейшых музейных спецыялістаў і краязнаўцаў (у прыватнасці, створанага ў 1924 г. у Пінску Палескага музея) былі незапатрабаванымі. Палескі музей быў спачатку перайменаваны ў Пінскі краязнаўчы музей, а пасля ўтварэння Пінскай вобл. стаў Пінскім абласным гісторыка-краязнаўчым музеем[18]. Аб яго стане і дзейнасці сведчыць запіска сакратара Пінскага абкама партыі І. Улазава ад 20 мая 1941 г., накіраваная ў Мінск сакратару ЦК КП(б)Б Цімафею Гарбунову (копія – наркаму асветы БССР Еўдакіі Уралавай): «*Пінскі абласны гісторыка-краязнаўчы музей быў арганізаваны ў пачатку 1940 года. У музеі неабходна было стварыць наступныя аддзелы: сацыялістычнага будаўніцтва, гісторыі матэрыяльнай культуры, прыродных умоў БССР і Пінскай вобласці. Асноўным і вядучым павінен з'яўляцца аддзел сацыялістычнага будаўніцтва. Музей працуе дрэнна. Фактычна арганізаваны аддзел «Прыродныя ўмовы БССР і Пінскай вобласці», для астатніх 2-х аддзелаў падбіраецца матэрыял. Работа па збору матэрыялаў праходзіць выключна павольна. Асноўнай прычынай надзвычай павольнага разгортвання працы музея з'яўляецца адсутнасць кваліфікаваных кадраў, здольных гэтую працу арганізаваць. У музеі няма ніводнага работніка, які ведае прынцыпы і метадалогію работы гісторыка-краязнаўчага музея. Дырэктар музея тав. Юнгельсон па адукацыі настаўнік і з музейнай справай зусім не знаёмы. Абкам КП(б)Б неаднаразова звяртаўся ў Наркамасветы аб умацаванні музея кваліфікаванымі работнікамі. Аднак да цяперашняга часу нічога не зроблена па яго ўкамплектаванні*».

Пінскі абкам партыі хадайнічаў перад ЦК КП(б)Б аб уздзеянні на Наркамасветы БССР адносна кадравага ўмацавання музея кваліфікаваным работнікам (дырэктарам), аб камандзіраванні ад-

паведных спецыялістаў на 2–3 месяцы для практычнай дапамогі ў арганізацыі ў Пінскім гісторыка-краязнаўчым музеі аддзелаў сацыялістычнага будаўніцтва, гісторыі матэрыяльнай культуры[19]. Аднак істотна сітуацыя ў перадваенныя месяцы не выправілася. Акрамя таго, былы захавальнік Палескага музея Дзмітры Георгіеўскі быў арыштаваны органамі НКУС, вывезены на ўсход і загінуў восенню 1941 г.[20]

Наогул, на працягу такога кароткага прамежку часу (1939–1941 гг.) на тэрыторыі новаўтворанай Пінскай вобласці (як і іншых заходніх абласцей БССР) былі зроблены ў кантэксце саветызацыі пэўныя захады па ліквідацыі непісьменнасці і малапісьменнасці, стварэнні сеткі школ для розных нацыянальных груп, былі адкрыты культурна-асветніцкія ўстановы. Аднак праведзеныя мерапрыемствы ў галіне культуры і асветы не адпавядалі спадзяванням насельніцтва, не ўлічвалі спецыфіку і нацыянальна-культурныя інтарэсы заходне-палескага краю, перакрэслівалі зробленае папярэднімі пакаленнямі мясцовай інтэлігенцыі, суправаджаліся рэпрэсіўнымі дзеяннямі.

### *Заўвагі*

1 Архивные документы Республики Беларусь – сокровищница социальной памяти государства: Государственная архивная служба Республики Беларусь: кратк. справ. / Сост. Т. И. Седляревич; предисл. С. В. Жумаря. Минск, 2005. С. 51-52.

2 Падлічана паводле: Дзяржаўны архіў Брэсцкай вобласці (ДАБВ). Ф. 7581-п, воп. 1, адз. з. 15. Арк. 72.

3 История Пинска [Электронный ресурс]. Рэжым доступу: http://www.pinsk-history.ru. Дата доступу: 12.09.2014.

4 ДАБВ. Ф. 7581-п, воп. 1, адз. з. 16. Арк. 130.

5 Тамсама, адз. з. 17. Арк. 28.

6 Тамсама. Арк. 219-220.

7 Тамсама, адз. з. 70. Арк. 200.

8 Тамсама, адз. з. 15. Арк. 96.

9 Тамсама, адз. з. 71. Арк. 96.

10 Сялянская праўда. 1941. 28 студзеня.

11 История Пинска [Электронный ресурс]. Рэжым доступу: http://www.

pinsk-history.ru. Дата доступу: 10.09.2014; Bernacki B. Teatr i ośrodki kulturalne w okresie okupacji sowieckiej kresów północno-wschodnich II Rzeczypospolitej (1939–1941) w świetle prasy legalnej // Białoruskie zeszyty historyczne. № 17. Białystok, 2002. S. 166.

[12] ДАБВ. Ф. 7580-п, воп. 1, адз. з. 10. Арк. 497.

[13] Тамсама. Ф. 7581-п, воп. 1, адз. з. 70. Арк. 181-182.

[14] Тамсама. Арк. 201.

[15] Тамсама. Арк. 182–183.

[16] ДАБВ. Ф. 282, воп. 1, адз. з. 57. Арк. 238.

[17] Гл.: Вабішчэвіч А.М. Праблемы нацыянальна-культурнага жыцця заходніх абласцей БССР у 1939–1941 гг. // Białoruskie zeszyty historyczne. № 13. Białystok, 2000. S. 128–129; Вабішчэвіч А. Так вырашаўся ў 1940 г. лёс бібліятэкі Пінскай семінарыі // Кантакты і дыялогі. 2000. № 3. С. 8–11; Вабішчэвіч А. «Примите самые решительные меры к недопущению вывоза указанных культурных ценностей…»: аб лёсе гісторыка-культурнай спадчыны ў Заходняй Беларусі ў 1939–1941 гадах // Голас Радзімы. 2000. 30 жніўня.

[18] Лабачэўская В. Захавальнік Палескага музея Дзмітрый Георгіеўскі: Да 75-годдзя адкрыцця музея ў Пінску. Мінск, 2001. С. 56.

[19] ДАБВ. Ф. 7581-п, воп. 1, адз. з. 71. Арк. 32.

[20] Лабачэўская В. Захавальнік Палескага музея Дзмітрый Георгіеўскі... С. 68.

# Интернирование поляков с территории западных областей СССР (1944–1947 гг.)

*Игорь Кузнецов,*
*канд. ист. наук (Минск)*

Самым массовым видом советских репрессий на территориях проживания польского населения после их освобождения от немецкой оккупации стало интернирование. Интернированию подверглись большинство поляков и польских граждан, задержанных в 1944–1945 гг. органами контрразведки «СМЕРШ» Наркомата обороны и внутренними войсками НКВД по охране тыла фронтов, а также органами НКВД и НКГБ Украинской, Белорусской и Литовской ССР на территории Польши в ее нынешних границах, в западных областях Украины, Белоруссии и в Литве. Некоторые из арестованных были сначала задержаны органами Министерства общественной безопасности и милицией послушного Москве Польского комитета национального освобождения (ПКНО) и Временного правительства Польши, а затем переданы в руки НКВД.

26 июля 1944 г., спустя несколько дней после начала освобождения территории Польши (западнее «линии Керзона») от немецкой оккупации и образования в Москве ПКНО, между правительством СССР и ПКНО было заключено Соглашение, согласно которому польское гражданское население в зоне военных действий подлежало юрисдикции советского командования. Несколько позднее эта зона была определена как прифронтовая полоса глубиной в 60–100 км, а фактически она охватывала всю освобожденную территорию Польши. Соглашение стало формальным основанием для широкомасштабных репрессивных действий советских органов в Польше.

В 1944 г. поводом для арестов служили огульные обвинения в диверсионной, террористической и шпионской деятельности, направ-

ленной против Красной армии, а также в агитации против ПКНО и просоветского правительства Польши, в уклонении от призыва в польскую армию или же в сотрудничестве с германскими оккупационными органами. Фактически, основной целью повальных арестов было уничтожение мощного польского некоммунистического антигитлеровского подполья, прежде всего его вооруженных сил. Речь идёт о Армии Краёвой, подчиняющейся «лондонскому» правительству Польши, единственно легитимному по польской конституции 1935 г. Это подполье представляло угрозу установлению в Польше просоветского режима.

В подавляющем большинстве случаев органам НКВД–НКГБ–«СМЕРШ», польской госбезопасности и милиции не удавалось предъявить арестованным обвинений в совершении каких-либо конкретных действий, кроме участия в подпольной организации в период оккупации и в боевых действиях против немцев. Поскольку этого было недостаточно для предания Военному трибуналу, то таких арестованных отправляли в глубь СССР неосужденными, в качестве интернированных в лагеря для военнопленных и в проверочно-фильтрационные лагеря для проведения дальнейшего следствия или так называемой «фильтрации». И лишь некоторых участников подполья осудили на длительные сроки лишения свободы в исправительно-трудовых лагерях системы ГУЛАГа.

В начале 1945 г. кроме участников Армии Краёвой (АК) интернированию подверглись поляки из довоенных западных воеводств Польши, задержанные как члены различных немецких организаций (молодежных, профсоюзных. женских), как служащие органов местной администрации или просто как принявшие германское подданство. Относительно последнего повода арестов следует разъяснить, что после 1939 г. германские власти объявили о включении в состав Рейха обширных польских территорий, а их жителей в последующие годы вынудили по сути автоматически принять германское гражданство[1].

В Государственном архиве Российской Федерации (ГАРФ) хранятся директивные документы НКВД СССР, относящиеся к интернированию задержанных в порядке очистки тыла в 1945 г. Согласно

приказу НКВД № 0016 от 11 января 1945 г., которым «для обеспечения очистки фронтовых тылов Действующей Красной Армии от вражеских элементов» на 2-й и 1-й Прибалтийские, 3-й, 2-й и 1-й Белорусские, 1-й и 4-й Украинские фронты были назначены уполномоченные НКВД СССР с заместителями – начальниками войск НКВД по охране тыла и начальниками фронтовых Управлений контрразведки «СМЕРШ»[2], а также в соответствии с приказами № 0061[3] и 0062[4] от 6 февраля 1945 г., № 00101 от 22 февраля 1945 г.[5], военнослужащие германской армии и других воюющих с СССР стран, члены «Фольксштурма», сотрудники различных военных административных органов подлежали отправке в лагеря для военнопленных. Гражданских лиц, членов различных организаций, а также руководителей местной администрации и антисоветских деятелей ожидали лагеря для интернированных Главного управления по делам военнопленных и интернированных (ГУПВИ) НКВД СССР, а советских граждан – так называемые спецлагеря НКВД СССР (20 февраля 1945 г. переименованные в проверочно-фильтрационные лагеря приказом № 00100 НКВД СССР[6]).

Постановлением Государственного комитета обороны (ГКО) № 7467сс от 3 февраля 1945 г. предписывалось также мобилизовать всех способных носить оружие и годных к физическому труду немцев-мужчин в возрасте от 17 до 50 лет, формировать из них рабочие батальоны численностью 750–1200 человек и отправлять эшелонами под конвоем в Белоруссию (до 150 тысяч человек), на Украину (до 200 тысяч человек) и в следующую очередь – в РСФСР (150 тысяч человек). Их предназначали «для трудового использования по нарядам ГУПВИ НКВД СССР»[7], в соответствии с «Положением о приеме, содержании и трудовом использовании мобилизованных и интернированных немцев», утвержденным Постановлением ГКО № 7252сс от 29 декабря 1944 г., и по приказу НКВД № 0014 от 11 января 1945 г.[8] – для работы на «предприятиях и стройках союзной и местной промышленности, а также в совхозах, нуждающихся в рабочей силе...»[9]

Таким образом, предполагалось отправить в глубь СССР в составе рабочих батальонов до 500 тыс. мобилизованных немцев из

состава гражданского населения (помимо 200 тыс. интернированных). На деле в категорию мобилизованных и интернированных немцев (их стали называть в документах мобилизованными группы «Г» и интернированными группы «Б») в 1945 г. попало много поляков, в том числе женщин, юношей и девушек порою моложе 17 лет. Отличить их в статистической отчетности от немцев очень трудно.

После перехвата и расшифровки 30 января 1945 г. 5-м управлением НКГБ СССР радиограммы руководства Армии Краёвой о ее роспуске и об оставлении небольших законспирированных штабов и радиостанций была издана директива-циркуляр НКВД № 47/14 от 6 февраля 1945 г. Этой директивой нарком внутренних дел Л. Берия предписывал уполномоченным НКВД СССР по 1-му Украинскому, 1-му, 2-му и 3-му Белорусским, 1-му Прибалтийскому фронтам, НКВД и НКГБ УССР, БССР и ЛитССР усилить агентурно-оперативную и следственную разработку польского подполья, обратить особое внимание на вскрытие связей «аковцев» с германской разведкой. Знаменателен третий пункт директивы: *«Всех легализуемых участников белопольского националистического подполья направлять для проверки на фильтрационные пункты, которые вам необходимо создать по договоренности с командованием Войска Польского под видом запасных полков»*[10]. Под легализацией подразумевалась, по-видимому, явка и сдача оружия по призыву польских властей, обещавших безопасность тем, кто добровольно выйдет из подполья.

Приказ № 00315 НКВД СССР от 18 апреля 1945 г.[11] пунктом 5 предписывал прекратить отправку в СССР лиц, арестованных в порядке очистки тылов действующих частей Красной армии (кроме тех, кто подлежал направлению в лагеря для военнопленных, и отдельных арестованных, представляющих оперативный интерес). Пунктом 8 того же приказа предписывалось провести в двухмесячный срок фильтрацию всех арестованных, вывезенных в лагеря НКВД. По результатам фильтрации лиц, не являющихся шпионами, диверсантами, радистами, сотрудниками германских карательных органов, активными членами фашистских партий, требовалось переводить в рабочие батальоны, а больных и инвалидов – отправлять домой.

Циркуляр НКВД № 74/60 от 26 апреля 1945 г.[12], дополняющий приказ № 00315, разъяснял, что поляки в аналогичных случаях (в отличие от немцев – не только больные и инвалиды, но и здоровые тоже) направляются не в рабочие батальоны, а организованным порядком домой. Для остающихся «более опасных» поляков (например, активных членов АК) предписывалось организовать в лагерях военнопленных и интернированных «отдельные лаготделения».

К сожалению, директивных документов о задержании и интернировании польских граждан в 1944 г. известно гораздо меньше. В фондах внутренних войск НКВД СССР, хранящихся в Российском государственном военном архиве (РГВА), Н. Е. Елисеевой обнаружена директива Ставки Верховного Главнокомандования от 3 августа 1944 г. о разоружении отрядов АК, интернировании их офицерского состава и направлении рядового и младшего командного состава в запасные части польской армии под командованием Берлинга[13], а П. А. Аптекарем – две директивы штаба войск НКВД по охране тыла 3-го Белорусского фронта: от 20 июля 1944 г.[14] о задержании лиц, принадлежащих к формированиям польского эмигрантского правительства, и от 24 августа 1944 г.[15] о задержании отрядов Армии Краёвой, направляющихся к Варшаве (по-видимому, для участия в продолжавшемся Варшавском восстании).

В «Особой папке» Сталина имеется довольно много сводок и докладов о широкомасштабных операциях по разоружению и ликвидации формирований Армии Краёвой, по аресту руководителей подполья на местах, массовому изъятию рядовых участников подполья и их отправке из Польши в лагеря на территории СССР (начиная с ноября 1944 г.)[16]. Однако пока не найдено ни одной ссылки на нормативные документы, служившие основанием для этих акций (кроме упомянутой августовской директивы Ставки в отношении руководящего состава). Может быть, такие материалы хранятся в недоступных исследователям архивных фондах органов военной контрразведки «СМЕРШ»? Можно также предположить, что принципиальные решения оформлялись как постановления ГКО. Вероятно, они хранятся в Архиве Президента РФ.

После отправки в глубь СССР интернированные поляки и польские граждане содержались в лагерях НКВД трёх категорий. Во-первых, это лагеря для военнопленных германской и союзных ей армий, подчинявшиеся ГУПВИ НКВД–МВД. В них помещали прежде всего участников Армии Краёвой и других подпольных структур. Во-вторых, это лагеря интернированных, созданные в 1945 г. специально для содержания интернированных и мобилизованных немцев (носящие в основном «пятисотые» номера), а также рабочие батальоны интернированных. И те, и другие подчинялись ГУПВИ. При этом никакой формальной грани между лагерями для военнопленных и интернированных не было (военнопленные содержались и в «пятисотых» лагерях).

И, наконец, проверочно-фильтрационные лагеря (ПФЛ), подчинявшиеся Отделу ПФЛ НКВД, независимому от ГУПВИ. Причем, в нарушение положения о предназначении ПФЛов только для советских граждан, в них поместили большое число граждан Польши. Так, например, в конце 1944 и в начале 1945 г. много интернированных поляков, и среди них большое число участников Армии Краёвой, было отправлено из пределов нынешних границ Польши в ПФЛ № 283 в районе Сталиногорска Московской области и в ПФЛ № 0302 в Молотовской области. Но поляков – жителей Вильнюса и Виленского края советские власти считали гражданами СССР, и поэтому их отправка в ПФЛы не нарушала формального предназначения этих лагерей (в феврале-мае 1945 г. из Вильнюса в ПФЛ № 240 в Сталино и Дзержинск Сталинской области, в упоминавшийся ПФЛ № 283 и в ПФЛ № 0321 в Елшанку Саратовской области было отправлено более 7 тыс. чел.[17], в большинстве своем участников Армии Краёвой).

Особым образом оформили содержание в СССР рядовых «аковцев» – участников боев за освобождение от немцев Вильнюса. 18 июля 1944 г. они были разоружены, помещены во временный лагерь в Медининкай под Вильнюсом и вскоре отправлены оттуда в Калугу, где из них сформировали 361-й запасной стрелковый полк 31-й запасной стрелковой дивизии Красной армии. После их отказа принять советскую присягу до начала 1946 г. использовали на ле-

соразработках, причем они числились военнослужащими Красной армии. Как известно, большинство офицеров виленской группировки АК, в отличие от рядовых, отправили в рязанский лагерь военнопленных № 178.

Местом содержания крупнейшей группы интернированных поляков в СССР до начала 1946 г. оставался лагерь военнопленных № 270 с управлением в Боровичах Новгородской обл., куда в конце 1944 г. было заключено почти 4 900 рядовых участников Армии Краёвой и других подпольных организаций.

Согласно архивным данным ЦХИДК[18], в первой половине 1945 г. рядовые члены АК содержались также в лагерях военнопленных № 41 в Осташкове Калининской области, № 231 в Свердловской области, в упоминавшихся ПФЛ № 283 [весной и летом 1945 г. всех интернированных поляков в этом лагере и в связанном с ним Сталиногорском лагере военнопленных № 388 содержалось даже больше, чем в лагере № 270 в Боровичах] и № 0302 и небольшими группами в некоторых других лагерях. Офицерский и руководящий состав Армии Краёвой и подпольных территориальных государственных органов периода немецкой оккупации (т. н. Делегатур «лондонского» правительства) содержался в рязанском лагере военнопленных № 178 (с января 1946 г. носившем номер 454).

Отчетность ГУПВИ по категории «интернированные участники Армии Краёвой» охватывает только три лагеря военнопленных: № 270, 41 и 178/454, в которые было принято 8 587 членов АК[19]. К этому числу необходимо добавить членов АК, содержавшихся в других лагерях: ПФЛ № 0302 – 644 чел., лагерь № 231 – 439 чел.[20], ПФЛ № 240 – 2 492 чел. и ПФЛ № 0321 – 1 731 чел. (в двух последних ПФЛ число «аковцев» определялось по отметкам в эшелонных списках: «подозревается в принадлежности к польской контрреволюционной националистической повстанческой организации» или «подозревается в причастности к польскому контрреволюционному националистическому подполью»[21]), ПФЛ № 283 – не менее 1 107 человек (прибывших в январе 1945 г. эшелонами из Белостока и Перемышля[22]).

Вероятно, что в ПФЛ № 283 участников АК было больше, однако

отчетность по этому лагерю не обнаружена (как и по ПФЛ № 240 и 0321). Полученная таким образом оценка числа интернированных в СССР членов Армии Краёвой и других подпольных организаций периода немецкой оккупации, составляет не менее 15 тыс. чел. (без учета: а) прибывших в ПФЛ № 283 в феврале 1945 г. из Белостока, Вильнюса и Цеханова[23], о причине интернирования которых документальных данных не обнаружено; б) содержавшихся в других лагерях мелкими группами; в) находившихся в 361-м запасном полку в Калуге, формально не считавшихся интернированными) и может достигнуть 20 тыс. чел., если предположить, что все прибывшие в ПФЛ № 283 в феврале 1945 г. были членами АК.

Сколько всего поляков (не только «аковцев») было интернировано в СССР в 1944–1945 гг.? Максимальное число, встречающееся в архивных документах, приведено в справке МВД СССР 1947 г. – 39 029 «интернированных, арестованных и мобилизованных в рабочие батальоны» польских граждан[24]. Это число меньше оценки в 48 тыс., полученной на основании списка эшелонов с интернированными поляками, отправленными в глубь СССР[25]. Возможно, различие между этими данными в значительной степени объясняется тем, что указанная справка МВД, по-видимому, не учитывает вывезенных в 1945 г. из Вильнюса 7 тыс. интернированных поляков, поскольку их считали гражданами СССР.

Интернированные и вывезенные в Советский Союз попадали в лагерях в условия, которые мало отличались от гулаговских. Пожалуй, самым существенным отличием было отсутствие уголовников в лагерях для военнопленных и интернированных. Питание в лагерях было недостаточным, свирепствовали голод и болезни. Интернированных принуждали к непосильному труду, чаще всего в угольных шахтах, на торфоразработках, земляных и строительных работах, на лесоповале. Относительно лучшими для поляков были условия только в рязанском лагере военнопленных № 178/454. Самая высокая смертность имела место в лагере № 516 в Красноводске Туркменской ССР. С момента прибытия в апреле 1945 г. за пять месяцев здесь умерло 55 % интернированных поляков и около 60 % интернированных немцев[26], после чего лагерь был расформирован.

В лагере № 270 в Боровичах с ноября 1944 г. по июль 1946 г. умерло 12,5 % интернированных поляков[27]. Также среди наиболее страшных лагерей фигурируют № 508 в Белорецке в Башкирии, ПФЛах № 0321 в Саратовской области и № 0331 в Кутаиси. Наиболее распространенные причины смерти интернированных – дистрофия, дизентерия, гемоколит, пневмония, туберкулез легких.

Продолжительность интернирования поляков составляла от нескольких месяцев до пяти лет. Первые освобождения были осуществлены в августе-октябре 1945 г. в соответствии с упоминавшимися апрельским приказом НКВД № 00315 и дополнявшей его директивой № 74/60. Следующая, самая массовая волна освобождения польских граждан, в том числе рядовых участников Армии Краёвой (включая «военнослужащих» 361-го запасного полка), пришлась на январь-март 1946 г. Основанием для нее послужил приказ НКВД СССР № 001301 от 29 октября 1945 г. (со ссылкой на указание Совнаркома Союза СССР)[28].

Следующая, не столь многочисленная группа интернированных поляков из разных лагерей была освобождена и репатриирована в Польшу в июне-июле 1946 г. Основная же часть активных участников Армии Краёвой, офицерского и руководящего состава подполья в целом, а также большая группа силезских горняков польской национальности и других поляков, интернированных в связи с очисткой тыла во время войны, была освобождена и репатриирована в Польшу в сентябре-ноябре 1947 г. на основании Постановления Совета Министров СССР № 2641-816сс от 26 июля и приказа МВД СССР № 00839 от 4 августа 1947 г.[29]

Среди остававшихся после этого в СССР в лагерях интернированных поляков самую крупную группу составляли участники Армии Краёвой – жители Вильнюса и Виленского края, попавшие в 1947 г. в лагеря военнопленных системы ГУПВИ из ПФЛ № 0331 в Кутаиси (куда они были переведены в октябре 1945 г. из саратовского ПФЛ № 0321). Их отправляли в Польшу небольшими группами с декабря 1947 г. по март 1949 г.

Последние интернированные поляки были репатриированы в Польшу в 1950 г.

## *Заўвагі*

[1] Другая часть довоенных польских территорий, завоеванных Германией в 1939 г., имела статус зоны оккупации под управлением администрации так называемого «Генерального губернаторства», образованного немцами.
[2] Государственный архив Российской Федерации (ГАРФ). Ф. 9401, оп. 12, д. 178. Л. 44–48.
[3] Там же. Л. 40–43.
[4] Там же. Л. 36–39.
[5] Там же. Л. 34–34.
[6] Там же. Д. 205. Л. 38–39.
[7] Там же. Д. 178. Л. 34.
[8] Там же. Д. 205. Л. 9–27.
[9] Там же. Д. 178. Л. 36–39
[10] ГАРФ. Д. 205. Л. 58–61.
[11] Там же. Л. 30–32.
[12] Там же. Л. 52–53.
[13] Jelisiejewa N. Polskie podziemie w latach 1944–1947 w oczach oficerow NKWD: Przegląd dokumentów z Rosyjskiego Państwowego Archiwum Wojskowego // NKWD o Polsce i Polakach: Rekonesans archiwalny / Pod red. W. Materskiego i A. Paczkowskiego, Warszawa: Instytut Studiów Politycznych Polskiej Akademii Nauk, 1996. S. 43–52.
[14] ГАРФ. Ф. 32924, оп. 1, д. 20. Л. 18.
[15] Там же. Д. 98. Л. 311.
[16] НКВД и польское подполье, 1944–1945: По «Особым папкам» И. В. Сталина / Отв. ред. А. Ф. Носкова. М.: Институт славяноведения и балканистики РАН, 1994. 306 с.; Kriwienko S. Dokumenty z «Teczki specjalnej» Stalina dotyczace działalności organow NKWD w Polsce w latach 1944–1946 // NKWD o Polsce i Polakach: Rekonesans archiwalny… S. 9–42.
[17] Елисеева Н. Е., Аптекарь П. А., Нагаев И. М., Успенский И. В., Гурьянов А. Э. Каталог эшелонов с интернированными поляками в глубь СССР. М., 1999. С. 112.
[18] Зайцева О. А., Гурьянов А. Э. Документы ЦХИДК об интернировании польских граждан в СССР в 1944–1949 гг. М., 2004.С. 305.
[19] Российский государственный военный архив (РГВА). Ф. 38099, оп. 2, д. 7. Л. 130–131; д. 9. Л. 314-315.
[20] Зайцева О. А., Гурьянов А. Э. Документы ЦХИДК об интернировании польских граждан в СССР в 1944–1949 гг. М., 2004. С. 104.

[21] РГВА. Ф. 38099, оп. 2, д. 7. Л. 53–62; д. 9. Л. 314–315.

[22] НКВД и польское подполье, 1944–1945... С. 56.

[23] Там же. С. 176.

[24] Зайцева О. А., Гурьянов А. Э. Документы ЦХИДК об интернировании польских граждан в СССР в 1944–1949 гг. М., 2004. С. 205–207.

[25] Елисеева Н. Е., Аптекарь П. А., Нагаев И. М., Успенский И. В., Гурьянов А. Э. Каталог эшелонов с интернированными поляками в глубь СССР. М., 1999. С. 16.

[26] Центр хранения историко-документальных коллекций . Ф. 488/п, оп. 1, д. 1. Л. 221.

[27] Согласно банку данных «Индекс Боровичан» о поляках, интернированных в лагере № 270, составленному сотрудниками ЦХИДК и НИПЦ «Мемориал».

[28] ГАРФ. Ф. 9401, оп. 12, д. 182. Л. 92–93.

[29] Там же. Д. 227. Л. 53–62.

# Удзел татар у беларускім нацыянальна-вызваленчым руху ў 1917–1940-х гг. XX ст.

*Зарына Канапацкая,*
*канд. гіст. навук (Менск).*

З даўніх часоў беларускія (літоўскія) татары прыцягваліся ў Расію на вайсковую службу. У XIX стагоддзі ў расійскай арміі служыла некалькі дзесяткаў генералаў і палкоўнікаў з асяроддзя беларускіх татар[1]. Пасля рэвалюцыі 1917 г. яны актыўна ўключыліся ў палітычнае жыццё былых рэгіёнаў Расійскай імперыі. Як прафесіянальныя афіцэры, аказвалі вялікую дапамогу ў стварэнні мясцовых узброеных сіл.

Лепшыя сыны татарскага народу ўдзельнічалі і ў беларускім нацыянальна-вызваленчым руху. Да апошніх належыць Гасан Канапацкі (1879–1953). Ён нарадзіўся ў Менску ў татарскай дваранскай сям'і. Скончыў Полацкі кадэцкі корпус, Пецярбургскую артылерыйскую школу імя князя Канстанціна (1897), удзельнічаў у Расійска-японскай 1904–1905 гг. і Першай сусветнай войнах. У 1917 г. ён у чыне палкоўніка камандаваў 69-й артылерыйскай брыгадай Заходняга фронту. У час вайны быў атручаны газамі, лячыўся, а потым служыў у Менску ў эвакуацыйным пункце (май-кастрычнік 1917 г.). 10 мая 1918 г. у сувязі з расфармаваннем 69-й артылерыйскай брыгады здаў грошы і дакументы Маскоўскаму абласному камісару вайсковых справаў і застаўся ў родным Менску. У той час, пасля абвяшчэння БНР існавала Цэнтральная вайсковая камісія, якая намагалася стварыць беларускае войска.

Нізкая палітычная свядомасць у самой Беларусі не спрыяла стварэнню дзяржаўных вайсковых фармаванняў. Перашкодай сталіся таксама нямецкая акупацыя і Савецка-польская вайна. Беларускі

полк, які размяшчаўся ў Гродне, быў раззброены польскімі вайсковымі ўладамі пасля 27 красавіка 1919 г.*

У жніўні 1919 г. пасля ўступлення палякаў у Менск на сустрэчы з беларусамі Юзаф Пілсудскі абяцаў супольнае змаганне за незалежнасць. Польская ўлада ў Менску з 8 жніўня 1919 г. да 11 ліпеня 1920 г. паспрыяла афармленню паланафільскага накірунку адбудовы Беларусі. Сярод прыхільнікаў саюзу з Польшчай былі Павел Алексюк, Аляксандар Крушынскі, Алесь Гарун, Гасан Канапацкі. Пасля перамоваў з імі Ю. Пілсудскі 22 кастрычніка 1919 г. падпісаў загад, якім дазваляў фармаваць беларускае войска і зацвярджаў Беларускую вайсковую камісію (БВК).

Палкоўнік Гасан Канапацкі быў прызначаны гетманам Беларускіх вайсковых аддзелаў. Беларуская Вайсковая камісія ў выданні, адрасаваным беларускаму жаўнеру, цытавала загад Ю. Пілсудскага: «*Узяўшы пад увагу дэклярацыю Беларускай Рады Віленшчыны і Горадзеншчыны ў справе фармавання беларускага войска пад галоўным польскім камандаваннем, дзеля барацьбы з усходнім захопнікам, якая пададзена мне 28 ліпеня гэтага года, а таксама аналагічныя заявы менскіх Беларускіх грамадзянскіх арганізацыяў, выконваю гэтую просьбу і загадваю фармаванне аддзелаў на гэтакіх асновах: беларускія аддзелы фармуюцца з ахвотнікаў. Дзеля гэтага ў кожным бюро вярбоўкі на абшары Беларускіх зямель павінен быць адзін камісар або афіцэр і адзін пісар – беларусы. Палкоўніка Г. Канапацкага, рэкамендаванага Беларускай Вайсковай Камісіяй, прызначаю камандзірам беларускага войска. Месцам фармавання беларускага войска з'яўляецца г. Слонім.*

*Дзеля арганізацыйнай падрыхтоўчай работы прызначаю Беларускую вайсковую камісію, якая ў паразуменні з Камісарыятам усходніх зямель і камандаваннем Гродзенскай акругі будзе арганізоўваць беларускае войска: 1. даючы адпаведныя наказы палкоўніку Г. Канапацкаму і 2. утвараючы адпаведныя падкамісіі. У склад Камісіі ўваходзяць палкоўнік Г. Канапацкі, С. Рак-Міхайлоўскі, штабс-капітан Ф. Ку-*

---

* Канчатковая ліквідацыя Беларускага палка адбылася 11 чэрвеня 1919 г. (*заўвага рэд.*)

*шаль, П. Аляксюк (старшыня), палкоўнік Д. Якубоўскі, Ю. Мурашка, А. Аўсянік, А. Прушынскі, А. Гарун, штабс-капітан А. Якубоўскі. Месцам працы Камісіі з'яўляецца г. Менск. Беларускай вайсковай камісіі даручаю арганізаваць кваліфікацыйную і (статутную) падкамісіі»*[2].

У газеце «Беларускае жыццё» ад 7 лістапада 1919 г. Гасан Канапацкі наступным чынам фармуляваў канцэпцыю стварэння нацыянальнага войска: «*Пачаткам будаваньня арміі галоўным чынам будзе падрыхтоўка кадраў, як афіцэрскіх, так і падафіцэрскіх. Для гэтага цяпер жа ўсе афіцэры арганізацый Гродзенскай і Віленскай, а таксама зарэгістраваныя ў Менску, па разглядзе іх дакументаў кваліфікацыйнай камісіяй будуць залічаны ў рэзерв і павінны праслухаць паўторныя афіцэрскія курсы і курсы беларусазнаўства, а асабліва беларускую мову і ператлумачаную камандную і вайсковую тэрміналогію; праслухаўшы курсы, кожны з іх атрымае становішча ў фармаваным войску*»[3]. Камандаванне беларускага войска падпарадкоўвалася непасрэдна польскай ваеннай адміністрацыі. Беларуская вайсковая камісія падтрымлівала сувязь з Найвышэйшай Радай БНР. Сярод насельніцтва БВК распаўсюджвала адозвы з заклікамі ўступаць у нацыянальнае войска для барацьбы за «*волю, свабоду, незалежнасць і непадзельнасць нашай Бацькаўшчыны – Беларусі*».

Камісія перакладала на беларускую мову польскія вайсковыя статуты, выдала зборнік «Падарунак беларускаму жаўнеру». У ім былі змешчаны падрыхтаваныя пісьменнікам Змітраком Бядулем (Самуіл Плаўнік) «Дзесяць прыказанняў для беларускага жаўнера».

Гэтыя загады альбо кодэкс паводзін беларускіх вайскоўцаў актуальна гучаць і сёння:

*«1. Калі ты праваслаўны, – ня думай, што ты рускі. Калі ты каталік, – ня думай, што ты паляк. Ведай, што ты беларус, і гавары ўсюды толькі па-беларуску, бо гэта – твая родная мова, мова тваіх бацькоў і дзядоў. Хто саромеецца сваёй роднай мовы, той не сын свайго краю, той нявольнік у чужых і здрайца свайму народу. Твой край, народ і мова ня горшыя за іншыя краі, народы і мовы.*

*2. Шануй гонар і волю Беларусі. Будзь шчырым абаронцам сваёй*

*зямлі. Смела ваюй з тымі, хто хоча забраць тваю гасподу. Калі хочаш сам быць гаспадаром сваёй працы, дык ты павінен, як усе іншыя народы, не баючыся смерці, са зброяй у руках пайсці на ворага, каторы забірае тваю зямлю. А калі пабаішся смерці і пусціш ворага да сябе, дык ён заваюе твой край, і ты ў яго, як парабак, пойдзеш на смерць, бараніць чужыя інтарэсы, як ты і дагэтуль праліваў кроў за чужых.*

*3. Ты павінен зразумець, што воля – гэта ня ёсць рабаваць, адбіраць чужую ўласнасць і ня слухаць разумнейшых людзей. Хто гэтак робіць, – даводзіць свой край да голаду і няшчасця, паганіць сваё імя [...]*

*4. Ты павінен быць горды і шчаслівы тым, што стаіш пад Беларускім Нацыянальным Сцягам, што ты ўзброены дзеле таго, каб стаяць за роўнасць Беларусі з другімі народамі зямлі. Сваю беларускую славу ты павінен бараніць да апошняй кроплі крыві.*

*5. Ты павінен памятаць, што тваё ўласнае шчасце і шчасце ўсяго Беларускага Народу – у тваіх руках. Ты павінен быць шчырым і верыць у сваю правату, у сваю сілу, зразумець, што ты ня горшы за ўсіх і маеш права жыць сваім асобным жыццём. Але гэтага кожны народ дабіваецца сілай, каторая і ёсць у цябе.*

*6. Памятай, што праз доўгія вякі толькі цяпер наступіў момэнт, калі ты можаш называцца Беларускім жаўнерам, калі можаш класці фундамент для новага жыцця Беларусі і быць самім сабою. Калі цяпер прапусціш гэты момант, дык потым сам праклянеш сваё гаротнае жыцьцё пад чужацкай няволяй.*

*7. Калі хто з ворагаў беларускай справы звернецца да цябе з салодкімі словамі і скажа табе: «Будзь, як і быў дагэтуль, пад цёплай апекай Расіі», ці якога іншага народу, дык ня вер яму – гэта твой найгоршы вораг. Гэта адзін з тых, каторыя дагэтуль цябе трымалі ў няволі нацыянальнай, смакталі тваю крывавую, потную працу, і ты быў гноем для яго народу. Ня вер яму, бо ён хоча мець цябе за парабка і надалей. Шануй тых з чужых народаў, якія шануюць і цябе як Беларуса.*

*8. Калі хто з тваіх таварышоў пачне цябе падбухторваць, каб перайсці да варожага стану, дык твой святы абавязак справядлівага*

*чалавека, шчырага жаўнера і вернага сына Беларускай зямлі, адвярнуцца ад яго з агідай, бо ён здрайца. Здрада – гэта самая найвялікшая подласць і гідасць, каторая нішчыць краі і народы. За здраду павінна быць самая цяжкая кара.*

*9. Твой начальнік – гэта твой брат і таварыш па службе. Ён такі-жа салдат, як і ты. Толькі па сваёй адукацыі вайсковай ён, як спецыяліст, паказвае табе, што рабіць. Калі ёсць дысцыпліна, ёсць парадак. Дысцыпліна і асвядомленнасць кожнага салдата – галоўная аснова перамогі. Нашая прыказка кажа: без правадыра войска гіне.*

*10. Кожны беларускі ваяка, ад звычайнага радавога да генерала, павінен памятаць, што ён – абаронца незалежнай Беларусі, адзін з найлепшых грамадзян роднай зямлі і займае пачэснае месца ў грамадзянстве*»[4].

Каб не дапусціць у беларускія часці «ненадзейныя элементы» і звесці да мінімуму мажлівыя выпадкі здрады, Камісія збірала падрабязныя звесткі пра палітычныя перакананні кожнага прэтэндэнта, праводзіла адбор у адпаведнасці са спецыяльнымі патрабаваннямі. Улічвалася абавязковая прыналежнасць да беларускай нацыі, пэўны ўзрост, веданне афіцэрамі беларускай мовы, прыхільнасць да незалежнасці Беларусі, пацверджаная рэкамендацыямі двух вядомых дзеячаў нацыянальнага руху. Паводле звестак гісторыка Мікалая Сташкевіча, з 485 афіцэраў і вайсковых чыноўнікаў, што падалі заявы, Камісія залічыла ў рэзерв 272 чалавекі.

Беларуская вайсковая камісія спрабавала падпарадкаваць свайму кантролю некаторыя партызанскія атрады на тэрыторыі Беларусі, рабіла захады па вызваленні афіцэраў-беларусаў, прызваных у Чырвоную армію і патрапіўшых у польскі палон. На аснове дамоваў з польскімі вайсковымі ўладамі ў сакавіку 1920 г. адкрыліся 9-месячныя курсы ў Варшаве ў Школе падхарунжых і 3-месячныя ў Астрове (Ломжынскае ваяводства) для 100–120 беларусаў. Цэнтральным месцам фармавання Беларускага войска спачатку быў Слонім, а пасля – Баранавічы.

Аднак намаганні Гасана Канапацкага і Беларускай вайсковай камісіі стварыць у тых умовах беларускае войска не мелі сур'ёзных шансаў на поспех. Польскія ўлады, па праўдзе, не жадалі стварэння

ўзброеных адзінак, якія маглі б надаць беларускай дзяржаўнасці рэальную сілу. БВК мела абмежаваныя магчымасці ўплываць на фармаванне войска.

У сакавіку 1920 г. па распараджэнні вайсковага міністэрства вярбоўка і адбор добраахвотнікаў былі вылучаны з кампетэнцыі Беларускай вайсковай камісіі і перададзены мясцовым органам польскай адміністрацыі, якія байкатавалі гэту справу. Дабраахвотны прынцып набору таксама не спрыяў эфектыўнасці працы. У выніку ўдалося скамплектаваць толькі 1 беларускую пяхотную роту. У ліпені 1920 г. падчас эвакуацыі польскіх войск з Менску Беларуская вайсковая камісія фактычна распалася[5]. Яшчэ раней у траўні ў адстаўку быў адпраўлены Гасан Канапацкі, пасля чаго яго залічылі ў склад віленскага рэзерва Камісіі[6].

Пасля падзелу беларускай зямлі, паводле Рыжскай дамовы, былы гетман Беларускага войска палкоўнік Гасан Канапацкі апынуўся ў Вільні. З гэтым перыядам таксама звязаная ягоная дзейнасць у беларускім руху. Гасан Канапацкі быў намеснікам старшыні Рады старэйшых Беларускага музычна-драматычнага гуртку і сакратаром Беларускага грамадзянскага сабрання (БГС). А пасля расколу ў БГС (21 верасня 1924 г.) стаў намеснікам старшыні ва ўтворанай Часовай беларускай радзе (да красавіка 1925 г.), якая супрацоўнічала з польскімі ўладамі і супрацьстаяла Беларускаму пасольскаму клубу. Гасан Канапацкі зблізіўся з Францішкам Аляхновічам, Арсенем Паўлюкевічам, Макарам Касцевічам (Краўцовым) і з’яўляўся сябрам таварыства «Беларуская хатка» ў Вільні.

На з’езде, скліканым Часовай Беларускай Радай Заходняй Беларусі 26–28 чэрвеня 1926 г. Гасан Канапацкі прадстаўляў таварыства «Прасвета», а з 21 лістапада 1927 г. да 2 красавіка 1928 г. ён кіраваў рэдакцыяй часопіса «Беларускі радны». Пад ягоным кіраваннем выйшлі 4 нумары часопіса.

Адначова спадар Канапацкі быў старшынём бацькоўскага камітэту Беларускай гімназіі ў Вільні, дзе навучаўся ягоны сын Муса, пісаў фельетоны ў «Беларускі голас» (рэд. Францішак Аляхновіч). Супрацоўніцтва з такімі беларускімі дзеячамі, як Францішак Аляхновіч, Фабіян Ярэміч і Баляслаў Грабінскі сведчыць пра яго актыў-

ную ролю ў беларускім руху. Гасан Канапацкі належаў да кола беларускіх палітычных дзеячаў, лаяльных да польскай дзяржавы[7].

У 1946 г. падчас г. зв. «рэпатрыяцыі» сям'я Канапацкіх выехала ў Польшчу і пасялілася ў г. Быдгашчы. Там і дагэтуль стаіць дом, у якім жылі Канапацкія. Памёр Гасан Амуратавіч Канапацкі 11 мая 1953 г. і быў пахаваны далёка ад роднага Менску. На могілках у Быдгашчы на камяні выбіты паўмесяц з зоркай і мусульманскае выслоўе: «*Аллагу належым і да яго вяртаемся*».

Сын Гасана Канапацкага Мацей (Муса) працягваў справу бацькі. Да пенсіі ён працаваў у газеце «Ніва» (Беласток), з'яўляўся адным з арганізатараў пасляваеннага адраджэння татар Польшчы. Летам 1993 г. ён пабываў на радзіме бацькі ў Менску, удзельнічаў у працы Першага сусветнага кангрэса беларусаў.

Татарскія пасяленцы ў Беларусі доўгі час захоўвалі свае традыцыі, сацыяльна-племянную арганізацыю, абрады і мусульманскую веру, якія трымаюцца і цяпер. Паводле сацыяльна-прававога становішча большая частка беларускіх татар належала да «служылага люду», менавіта да шляхты, якая не плаціла пагалоўнага падатку, а з грамадствам разлічвалася крывёю. Яна неадкладна ставілася пад баявыя штандары вялікага князя і караля. Гэта было пацверджана прывілеямі Стэфана Баторыя (1576), Жыгімонта III (1608), Уладзіслава IV (1634) ды інш.

Гербы і геральдычныя знакі XVI–XIX стст. сведчаць, што ў Беларусі было больш за 50 вядомых татарскіх сямействаў. Аселая татарская арыстакратыя ператварылася ў арыстакратаў – уладальнікаў маёнткаў, фальваркаў і невялікіх вёсак. Аднак большасць пасяленцаў былі звычайнымі земляробамі. Местачковыя і гарадскія татары займаліся возніцтвам, гародніцтвам, кушнерствам, гарбарствам, кравецкай справай, выраблялі посуд. Звычайна яны засялялі ўскраіны і прадмесці. У Менску татарская слабада ўзнікла ў XVI ст. У 1599 г. тут была збудавана драўляная мячэць (раней мураваныя мячэці ўзводзіць забаранялася). У пачатку XX ст. яна была заменена мураванай.

Напярэдадні Першай сусветнай вайны на тэрыторыі Беларусі і Літвы жыло каля 14 тыс. татар-мусульман. Жывучы ў суседстве

з вернікамі іншых веравызнанняў, яны здолелі зберагчы сваю веру, звычаі і культуру. Гэтаму найперш спрыялі захаванне мусульманскай абшчыны ды існаванне мячэці. Пасля Першай сусветнай вайны частка беларускіх (літоўскіх) татар засталася на тэрыторыі Расіі, куды ў 1915 г. яны былі эвакуіраваны (пераважна ў Казанскую, Уфімскую і Таўрычаскую губ.). Большая частка татар (каля 6 тыс. чал.) апынулася ў межах Польскай дзяржавы, яшчэ частка (прыкладна 1,5 тыс. чал.) – у Літве, астатнія – у Савецкай Беларусі. У 1925 г. татары-мусульмане ў Вільні ўтварылі муфтыят і абвясцілі аўтакефалію ісламскіх джаміятаў (парафій) у Польшчы. Да гэтага моманту духоўным жыццём татар Беларусі, Літвы і Польшчы апекаваўся муфтый Таўрычаскай губ. з Сімферопалю.

У Польшчы ў міжваенны перыяд вялася вялікая праца па адраджэнні культуры татарскага народу. Былі створаныя Мусульманскае рэлігійнае задзіночанне (1925) і Культурна-асветнае задзіночанне татар Польшчы (1926). Выдаваліся «Татарскі штогоднік», часопісы «Татарскае жыццё», «Ісламскі агляд», мусульманскія календары, падручнікі для татарскіх дзяцей, асобныя суры (раздзелы) з Кур’ана на арабскай і польскай мовах. Друкаваліся шматлікія артыкулы пра татар у польскіх навуковых і навукова-папулярных выданнях.

Вялікай падзеяй у жыцці татар стаў выхад у свет «Гербоўніка татарскіх сямей у Польшчы», складзенага ў 1929 г. Станіславам Дзедулевічам. У месцах кампактнага пражывання татар-мусульман іх дзеці вывучалі іслам у школах, дзеля чаго ў раскладзе агульнаадукацыйных школ былі прадугледжаны адмысловыя заняткі. Найбольш старанныя і здольныя татарскія юнакі пасылаліся на вучобу ў мусульманскія краіны (Боснію, Егіпет).

Нацыянальна-культурнае адраджэнне татар у Польшчы падтрымлівалася дзяржаўнымі і навуковымі ўстановамі гэтай краіны.

Адраджэнне мусульманскай веры і татарскай культуры ў Польшчы было перапынена Другой сусветнай вайной. Шмат татар загінула на франтах, а пасля замірэння многія з іх былі адпраўлены таталітарным рэжымам у Сібір. Татарам, якія жылі ў Савецкай Беларусі, забаранялася перапісвацца з родзічамі ў Польшчы ці Літве. Пераследаваліся імамы (мулы), настаўнікі мусульманскай

рэлігіі, усе, хто збярог свяшчэнныя кнігі – Кур'аны, Хамаілы, аль-Кітабы. Дзеці вернікаў, асабліва імамаў, не маглі займаць хоць якую значную пасаду, нават калі выдатна вучыліся і мелі добрую адукацыю. Рускамоўнае насельніцтва падазрона глядзела на татар, што на людзях размаўлялі на беларускай мове, якая стала іх роднай мовай.

Многія татары-мусульмане, баючыся, што іх можа спасцігнуць лёс крымскіх татар, каб не трапіць у Сібір, самі пакінулі родныя мясціны. Як былыя грамадзяне Польшчы, яны атрымалі магчымасць выехаць на захад, а ўжо адтуль некаторыя перасяліліся ў ЗША (там яшчэ да Першай сусветнай вайны атабарыліся беларускія татары), Аўстралію ды іншыя краіны.

### *Заўвагі*

1 Гришин Я. Польско-литовские татары (Наследники Золотой Орды): Научно-популярные очерки. Казань, 1995. С. 80.

2 Падарунак беларускаму жаўнеру. Выданьне Беларускай Вайсковай Камісіі. Менск, 1920. С. 2.

3 Тамсама. С. 3; Беларускае жыццё. 1919. 7 лістапада.

4 Падарунак беларускаму жаўнеру... С. 4–5.

5 Рудовіч С. Беларуская Вайсковая Камісія // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Менск, 1993, Т. 1. С. 369–370; Казберук У. М. Светлай волі зычны звон: Алесь Гарун. Менск, 1991. С. 16–23.

6 Łatyszonek O. Białoruskie formację wojskowe. 1917–1923. Białystok, 1995. S. 137.

7 Głogowska H. Hassan Konopacki – tatarski dowódca białoruskiego wojska // Białoruskie zeszyty historyczne. 1994. Zeszyt. 1. S. 168.

# ВУСНАГІСТАРЫЧНАЕ ДАСЛЕДАВАННЕ: ТЭОРЫЯ І ПРАКТЫКА

## Інтэрв'ю як метад: скрыжаванне сацыялогіі і вуснай гісторыі

*Аляксей Ластоўскі,*
*канд. сацыял. навук (Менск)*

Стан вуснай гісторыі ў Беларусі я б назваў «крызісным». Але ў гэтую характарыстыку я не ўкладаю негатыўных значэнняў. Гаворка не ідзе пра заняпад і дэградацыю. «Крызіс» навукі ў дадзеным кантэксце адсылае да канцэпцыі навуковых рэвалюцый Томаса Куна, калі на акрэсленым этапе абмежаванні ўсталяванай парадыгмы навуковых ведаў не дазваляюць вырашаць новыя навуковыя праблемы. У выпадку вуснай гісторыі ў беларускім кантэксце быў паспяхова пераадолены першы этап станаўлення вобласці даследаванняў (пакуль цяжка вызначаць яе ў дысцыплінарных рамках), менавіта прачытаны класічныя працы, запазычана метадалогія, разгорнуты маштабныя палявыя даследаванні, падчас якіх сабрана вялікая колькасць матэрыялу. Нават больш таго, якасна новым крокам трэба лічыць стварэнне «Беларускага архіва вуснай гісторыі» з распрацаванай вэб-платформай, які не толькі архівуе і ўпарадкоўвае сабраныя матэрыялы, але і служыць пляцоўкай, што гуртуе вакол сябе даследчыкаў і дазваляе ім наладжваць эфектыўную навуковую камунікацыю. Даследчая актыўнасць ёсць, і цяжка наракаць на яе слабы ўзровень.

Чаму ж я кажу пра крызіс? Менавіта першы этап усталявання даследчай вобласці, калі дасягнуты неабходныя навыкі здабыцця ведаў, дазваляе ставіць больш нязручныя і складаныя пытанні. Што мы робім, як мы робім і навошта мы гэта робім? Тады ад чытання класікаў пераходзяць да сумневу ў іх словах, а часам і да аспрэчвання.

Адмыслова створаны фокус дадзенай канферэнцыі на міждыс-

цыплінарнасць, прыцягванне сацыёлагаў – гэта таксама сведчыць пра паўставанне новых патрэбаў у пераасэнсаванні падстаў уласнай дзейнасці, калі звычайныя канструкты і падыходы пачынаюць усведамляцца як выпрацаваныя, і патрэбны нейкія знешнія імпульсы, якія б дазволілі выйсці па-за існуючыя абмежаванні.

Менавіта таму наступленне крызіснай стадыі вуснай гісторыі ў Беларусі можна толькі вітаць. Галоўнае, каб яе пераадоленне было звязана з падвышэннем узроўню рэфлексіўнасці даследчыкаў, іх тэарэтычнай і метадалагічнай абазнанасці.

Са свайго боку сацыёлага, які не мае асаблівага дачынення да вуснагістарычных даследаванняў, я хацеў бы паставіць тут некалькі пытанняў. Яны якраз варочаюцца вакол трох асноўных каранёвых тэмаў вуснай гісторыі: прызначэнне (ці сацыяльная задача), метадалогія інтэрв'ю і асаблівасці інтэрпрэтацыі інтэрв'ю.

Чаму ўласна крытыка з пазіцыі сацыёлага можа быць рэлевантнай у гэтым выпадку? Справа не ў ідэалістычным уяўленні пра пазітыўны патэнцыял міждысцыплінарнасці. Сацыялогію і вусную гісторыі шмат што аб'ядноўвае па арыентацыях і метадалогіі, і ўласна існыя супадзенні і размежаванні дазваляюць спадзявацца на нейкую карысць ад гэтых непрафесійных заўвагаў.

Безумоўна, сэрца і стрыжань вуснай гісторыі – гэта інтэрв'ю. Вакол гэтага метаду вусная гісторыя жыве, і менавіта ў апірышчы на інтэрв'ю яна адстойвае сваё права на існаванне. Але ў сацыялогіі сярод пераліку якасных метадаў таксама можна знайсці глыбіннае (*indepth interview*) ці якаснае інтэрв'ю (*qualitative interview*), толькі гэты метад мае для сацыялогіі зусім іншую значнасць. Гэта толькі адзін метад з шэрагу даследчых тэхнік, ён заўжды мусіць дапаўняцца іншымі прыёмамі здабывання веды пра сацыяльную рэчаіснасць. Уласна ў гэтым адрозным стаўленні да інтэрв'ю і можна знайсці нейкую патрэбную для нас магчымасць абгрунтаванай крытыкі. Калі для вуснай гісторыі заўжды існуе небяспека абсалютызацыі і сакралізацыі інтэрв'ю, пераўтварэння яго ў бескрытычны аргумент (хоць я кажу пра небяспеку, а не пра ўстойлівую тэндэнцыю), то ў сацыялогіі заўжды пераважала спакойнае і разважлівае стаўленне да свайго метадалагічнага інструментарыя.

Тут таксама важна адзначыць, што інтэрв'ю значна раней пачало выкарыстоўвацца ў сацыялогіі, і стала рэспектабельным метадам з пашырэннем якасных даследаванняў, пачынаючы з вывучэння гарадскіх супольнасцяў Чыкагскай школай у 1930–40-я гг. Сам па сабе ўзрост вуснай гісторыі карацейшы, бо яна стала масавай практыкай недзе з 1960-х гг. Якраз таму напачатку менавіта распрацаваная сацыялогіяй метадалогія магла выступаць у якасці першаўзора.

Заўважна, што менавіта з сацыялогіяй у вуснай гісторыі ў заходніх краінах былі найбольш моцныя інстытуцыйныя сувязі, што не назіралася ў постсавецкай прасторы. Паказальна, што асноўны асяродак вуснай гісторыі, звязаны з імем Пола Томпсана, быў створаны ва Універсітэце Эсэкса у межах факультэта сацыялогіі[1]. Гэтая блізкасць сацыялогіі і вуснай гісторыі па задачам і метадам якраз і дазваляе рабіць вылазкі на поле суседзяў, і магчыма ў гэтым будзе нейкая карысць.

Калі ж казаць, якія пытанні з боку сацыёлага паўстаюць да вобласці вуснай гісторыі, то варта пачаць з найбольш грунтоўнага – **вызначэння місіі**. Гаворка пра ўключанасць у сацыяльны кантэкст, калі практыка пэўных даследаванняў убудоўваецца ў мэтанакіраваную дзейнасць па змяненню сацыяльна-палітычнага ладу. Фактычна, сацыялогія з самага пачатку займала актыўную пазіцыю ў дачыненні да грамадства, хоць стаўленне сацыёлагаў да існага ладу вагалася між сацыяльнай крытыкай і безумоўнай легітымацыяй. Тым не менш, фактычна ўжо сваім існаваннем сацыялогія ставіла пад сумнеў класічную мадэль аб'ектыўнасці для гуманітарных навук, якая была вельмі істотнай для абгрунтавання навуковасці гістарыяграфіі. Дыстанцыя і перспектыва заўжды лічыліся неабходнай перадумовай для гістарычнай інтэрпрэтацыі, адсюль вынікала аддаленасць ад аб'екта даследаванняў.

Сама магчымасць аб'ектыўнасці гістарычнай веды была моцна падарванай постмадэрнісцкай крытыкай, ідэал «рэспублікі вучоных» быў зрынуты. У сучасным разуменні «аб'ектыўнасць – гэта супрацьпастаўленне любому ідэалагічнаму гвалту ці пераконванню, накіраванаму на рэалізацыю мэтаў толькі адной сацыяльнай групы ці адной нацыі коштам іншых. Аб'ектыўнасць – гэта раз-

уменне «іншых» і адначасова салідарнасць, якая ахоплівае як мага шырэйшыя групы людзей»[2].

Трэба зазначыць, што вусная гісторыя ад пачатку будавалася па некласічнай эпістэмалагічнай мадэлі. Фактычна, адразу ж вусная гісторыя заявіла пра сябе як пра інтэлектуальную практыку эмансіпацыі, накіраваную на дэмакратызацыю грамадства, пра што сведчылі і асноўныя лозунгі: «*uncovering unknown stories*» і «*giving voice to the unheard*». Рыторыка вуснай гісторыі звязвала гістарычную справядлівасць, аднаўленне паўнаты гістарычнага наратыву праз вяртанне выключэнняў з аднаўленнем сацыяльнай справядлівасці. Агучванне голасу пакрыўджаных – гэта таксама і вяртанне поўніцы чалавечых правоў і натуральнай годнасці. Нездарма, з самага пачатку актыўнасць вусных гісторыкаў была цесна звязанай з посткаланіяльнымі штудыямі, а таксама з дзейнасцю эмансіпацыйных рухаў рознага кшталту. У гэтым плане актыўнасць вуснай гісторыі стала часткай паўставання новай гуманітарыстыкі. Прывілеяваны пазнавальны статус ахвяраў «вялікай» гісторыі стаў асноўным трэндам для новай гуманітарыстыкі (не толькі гісторыі, але і філасофіі, антрапалогіі, літаратуразнаўства): «*Мэтай гуманітарыстыкі стала забеспячэнне прысутнасці ці надаванне голасу тым, каго паноўны дыскурс (гісторыя пераможцаў) пазбавіў голасу*»[3].

Такім чынам, традыцыйнае паняцце аб'ектыўнасці адразу ж было адрынутае ў праекце вуснай гісторыі на карысць дзейнай і актыўнай пазіцыі даследчыка, які імкнецца да паляпшэння грамадства. Гэты падыход быў вельмі падобным да сацыялагічнага, але рэзка супярэчыў каштоўнасцям класічнай гістарыяграфіі, што фактычна адразу ж вяло да маргіналізацыі вуснай гісторыі ў акадэмічнай сферы. Крыжовы паход за прызнанне вуснай гісторыі працягваецца з пераменным поспехам, прынамсі частковая легітымнасць здабытая.

Але абавязкова трэба сказаць, што ва Усходнюю Еўропу вусная гісторыя прыйшла разам са зрынаннем камунізму, і наклалася на агульнаеўрапейскі бум памяці і ідэнтычнасці. У гэты час выбудоўваецца агульнаеўрапейская памяць, якая фундаментам

лучнасці абірае траўматычны досвед Халакосту. Узвышэнне ахвярнага досведу досыць лёгка пераймаецца ўсходнееўрапейскімі краінамі як магчымасць легітымнага вяртання «скрадзенага сэрца Еўропы» ў цёплыя абдымкі заходнееўрапейскіх братоў. Аднак, калі заходнееўрапейская памяць выбудоўвалася як супольнасць тых, хто памятае пра жудасную трагедыю Халакосту, то на посткамуністычных тэрыторыях узнікла новая супольнасць ахвяраў, пакрыўджаных гісторыяй і геаграфіяй, распятых паміж двума таталітарнымі рэжымамі.

Фактычна, вусная гісторыя патрапіла адразу ў цэнтр разгортвання новай гістарычнай палітыкі. Яна якраз мусіла даць голас тым, хто пакутаваў, быў пазбаўлены правоў і не мог прамовіць. Гуманістычны падыход супаў з рацыяналістычнымі меркаваннямі міжнароднай палітыкі. Гістарычныя траўмы сталі ўлюбёнай тэмай для дэпутатаў Еўрапарламента з усходняга ўскрайку Еўрасаюза. Вусная гісторыя сталася палітычна запатрабаванай і рэспектабельнай.

Натуральна, не абышлося і без некаторых дэфармацый, паколькі намінальны акцэнт на двух рэжымах яўна меў галоўнай мэтай усходняга таталітарнага монстра – Расію (Савецкі Саюз). Дастаткова параўнаць практыкі мемарыялізацыі ў розных музеях новага тыпу – Дом тэрору ў Будапешце, Музей акупацый у Рызе і г.д. Відавочна, асноўная ўвага надаецца ахвярам камуністычнага тэрору. І вусная гісторыя мусіла даць ім голас, запісаць яго іператварыць у падмурак новай нацыянальнай ідэнтычнасці, якая адпрэчвае камуністычны досвед за кошт нармальнай еўрапейскасці.

Менавіта таму нас не мусіць дзівіць, што сярод найбольш папулярных тэмаў вуснай гісторыі на постсавецкай прасторы вылучаюцца трагедыя Халакосту, «забытыя ахвяры» і «невядомая» гісторыя Другой сусветнай вайны, калектывізацыя і голад пачатку 1930-х гг., рэпрэсіі, масавыя прымусовыя міграцыі і перасяленні, эміграцыя і гісторыя дыяспары, палітычныя, рэлігійныя і іншыя віды пераследавання з боку камуністычнага рэжыму[4].

Сам суб'ект, каму вяртаюць голас, набывае досыць ясныя абрысы. Але гэта ўжо іншыя «пакрыўджаныя» і іншая місія вуснай гісторыі ў параўнанні з лозунгамі, сфармуляванымі Полам Томпсанам.

Але тады паўстае пытанне, якія ж грамадска-палітычныя мэты ставіць перад сабою супольнасць тых, хто займаецца вуснай гісторыяй у Беларусі? За каго і супраць каго яны змагаюцца?

Можна папікнуць, што такая пастаноўка пытання сама па сабе не вельмі карэктная і нават правакацыйная. Але лічу, што пытанне мусіць быць пастаўленае менавіта так, «у лоб». Калі з саміх сваіх падстаў вусная гісторыя змагалася за тых, хто рэпрэсаваны існым парадкам, то немагчыма вуснай гісторыяй ў Беларусі займацца інакш.

Аднак, калі ў праекце вуснай гісторыі заходняй акадэміі яе місія была празрыстай і артыкуляванай, то ў беларускім выпадку місія вуснай гісторыі не агучваецца і не абмяркоўваецца. Магчыма таму, што пытанне місіі адразу ж цягне за сабою некалькі нязручных іншых пытанняў. Напрыклад, ці існуе супольнасць вусных гісторыкаў, якія былі б аб'яднаныя не толькі выкарыстаннем аднолькавага метаду? Якія дачыненні звязваюць вусную гісторыю ў Беларусі з нацыянальным гістарычным наратывам? Ці мусіць яна змагацца з яго абмежаваннямі (як змагаецца вусная гісторыя шмат у якіх краінах), ці павінна служыць яго падмацаванню (як гэта часцяком адбываецца ва ўсходнееўрапейскіх краінах)? Нарэшце, якія дачыненні мае вусная гісторыя да афіцыйнай версіі гісторыі? Ці патрапляюць аўтаматычна ў лік пакрыўджаных тыя, хто па розным прычынам быў выціснуты з кіроўнага наратыва ў Беларусі? Зноў жа, усе гэтыя пытанні на дадзены момант хутчэй пазбягаюцца, чым абдумваюцца і абмяркоўваюцца.

Другое пытанне, якое мне хацелася б паставіць у гэтым дакладзе – праблема метаду. Калі казаць дакладна, наколькі разумеюць вусныя гісторыкі сваю ролю ў стварэнні інтэрв'ю?

Найперш хацеў бы прадэманстраваць нейкую тэарэтычную лучнасць паміж задачамі, якія ставяцца перад выкарыстаннем глыбіннага інтэрв'ю ў сацыялогіі і вуснай гісторыі. У сацыялогіі прымяненне якаснага (глыбіннага) інтэрв'ю накіравана на схопліванне перспектывы суб'екта, менавіта разуменне яго ментальных катэгорый, яго пачуццяў і ўспрыняццяў, матываў, якімі суб'ект кіруецца ў сваіх дзеяннях. Мэта якаснага інтэрв'ю – зразумець, якім чынам

даследаваныя суб'екты бачаць свет, вывучыць іх тэрміналогію і меркаванні, ухапіць складанасць іх індывідуальных успрыняццяў і досведаў. Адпаведна, фундаментальны прынцып якаснага інтэрв'ю – забяспечыць «рамку», унутры якой рэспандэнты могуць выяўляць свае ўласныя інтэрпрэтацыі ў сваіх тэрмінах[5].

Але пры гэтым інтэрв'ю з самага пачатку разумелася як працэс дыялога, дзе цэнтрам увагі безумоўна з'яўляецца рэспандэнт, але само інтэрв'ю – гэта заўжды вынік размовы двух людзей, іх супольная праца. Роля інтэрв'юера ў ажыццяўленні якаснага інтэрв'ю з'яўляецца ключавой, паколькі ён вызначае вынік размовы. *«З гледзішча інтэрпрэтатыўнай парадыгмы інтэрв'ю – гэта не проста сродак «збору дадзеных» ці просты запіс меркаванняў інфармантаў; хутчэй, яно разглядаецца як дынамічныя адносіны, у якіх інтэрв'ю «будуецца» разам інтэрв'юерам і рэспандэнтам, і яго вынік у значнай ступені залежыць ад эмпатычнай сувязі, якая ўсталёўваецца паміж суразмоўцамі»*[6].

У той жа час у вуснай гісторыі з самага пачатку была ўзята арыентацыя на маналагічнае бачанне інтэрв'ю. Як адмыслова падкрэсліваў Пол Томпсан: *«Інтэрв'ю – гэта не дыялог і не размова. Уся яго сутнасць заключаецца ў тым, каб даць магчымасць гаварыць інфарманту. Вашая роля – гэта перадусім слухаць»*[7].

Відавочна, што такая розніца ў разуменні інтэрв'ю («дыялог» ці «маналог»?) з'яўляецца прынцыповай. У любым выпадку, інтэрв'ю можа адбыцца, калі ў ім як мінімум задзейнічаныя два акторы. Успаміны ў форме расповеду не існуюць самі па сабе, іх стварэнне і афармленне заўсёды «запускае» інтэрв'юер, а значыць, мы заўжды маем справу з дыялогам. Стваральная роля таго, хто задае пытанні, мусіць быць дакладна адрэфлексаванай, інакш гэта можа весці да істотных метадалагічных скажэнняў.

І апошняе пытанне, якое мне хацелася б вылучыць у якасці парадыгмальнага, што разумеецца пад інтэрпрэтацыяй вуснагістарычнага матэрыялу? Няма сумневу, што вусная гісторыя заўжды дзейнічае як акт інтэрпрэтацыі, яна ніколі не можа быць звычайнай рэтрансляцыяй падслуханага.

І сацыёлагі, і вусныя гісторыкі пытаюцца датычна нядаўніх па-

дзей, але для вуснай гісторыі заўжды прыярытэтам з'яўляецца змест, менавіта тое, што людзі памятаюць. Для сацыёлагаў, пачынаючы з Марыса Хальбвакса, не менш істотным было і тое, якім чынам людзі памятаюць. З гэтага гледзішча сацыяльныя рамкі памяці з'яўляюцца вызначальнымі для зместу памяці.

Шмат у чым засяроджанасць вуснай гісторыі на змесце вынікае са згаданай вышэй сакралізацыі прамоўленага тым, каго раней не чулі, бо толькі ў такім статусе ён можа прэтэндаваць на аднаўленне сацыяльнай справядлівасці. Калі падыходзіць да інтэрв'ю як да сацыяльнага канструкта (што па сутнасці вынікае з дыялагічнага падыходу), то гэта вядзе да размывання арэолу «праўды» рэпрэсаванага чалавека, супрацьпастаўленай штучна збудаванаму культурнаму канону. Між тым, даследаванні камунікатыўнай памяці сведчаць, што няма асобнай памяці чалавека, што яна заўжды фармуецца ў сацыяльным кантэксце. Напрыклад, калі мы ў вуснагістарычных даследаваннях фіксуем ідэалізацыю побыту міжваеннай польскай дзяржавы, то ці задумваемся аб тым, колькі тут уласных успамінаў, а колькі залежнасці ад сістэмы польскай адукацыі і афіцыйнай прапаганды Другой Рэчы Паспалітай? А колькі ў гэтым звычайнай настальгіі па маладосці, якая прыхарошвае мінулае? Відавочна, што да аповеду трэба таксама ставіцца як да складанага гіпертэксту, дзе існуюць крыніцы, адсылкі, цытаванні, гульня словаў, рэпрэсіўнае ўздзеянне мовы і культуры. І, урэшце, варта памятаць, што *«панаванне пісьмовых формаў разбурае і фактычна знішчае вусныя формы існавання ўспамінаў»*[8].

Успаміны – гэта не празрысты голас ісціны (хай сабе і суб'ектыўнай). Па сутнасці, гэта індывідуальны досвед, які моцна скажоны пісьмовай культурай і культурным канонам. Каб дабрацца да крыніцаў, трэба расчышчаць завалы.

Але пакуль што асноўнай лініяй праверкі вуснагістарычных матэрыялаў з'яўляецца іх суаднясенне з пісьмовымі крыніцамі, без дэканструкцыі вусных наратываў, разумення логікі іх пабудовы і сацыяльнай абумоўленасці.

Варта таксама згадаць, што ў заходніх падыходах да вуснай гісторыі зараз сапраўды назіраецца метадалагічны зрух ад выву-

чэння таго, што людзі памятаюць, да таго, чаму яны памятаюць альбо значэння ўспамінаў. Як пісаў Майкл Фрыш, вусная гісторыя – гэта магутны сродак для раскрыцця, даследавання і ацэнкі працэсуальнасці гістарычнай памяці. З яго дапамогай мы можам адказаць на пытанні, як людзі ствараюць сэнс свайго мінулага, як яны звязваюць свой індывідуальны досвед і яго сацыяльны кантэкст, як мінулае становіцца часткай сучаснасці, і як людзі яго выкарыстоўваюць, каб патлумачыць сваё жыццё і навакольны свет[9].

Відавочна, што тады паўстаюць вялікія метадалагічныя складанасці, менавіта, як выйсці па-за факты і апісанні, і дасягнуць ўзроўню значэнняў і сэнсаў? Адным з магчымых шляхоў з'яўляецца канцэнтрацыя на выяўленых памылках, замоўчваннях і міфалагемах, але не для таго, каб «вычысціць» ад іх успаміны, а каб зразумець логіку іх паўставання, тое значэнне, якое яны маюць для агульнай пабудовы наратываў. У любым выпадку, менавіта сацыяльная прырода памяці – гэта якраз тая пляцоўка, дзе маглі б плённа працаваць поруч вусныя гісторыкі і сацыёлагі. Будзем спадзявацца, што калісьці гэта адбудзецца і ў Беларусі.

## *Заўвагі*

1 Лоскутова М. Введение // Хрестоматия по устной истории. Санкт-Петербург, 2003. С. 13.
2 Топольский Є. Як ми пишемо і розуміємо історію. Київ, 2012. С. 367.
3 Доманьска Е. Історія та сучасна гуманітаристика. Київ, 2012. С. 141.
4 Грынчанка Г., Раброва І., Раманава І. Вусная гісторыя ў постсавецкіх даследчыцкіх практыках Беларусі, Расіі і Украіны // Беларускі гістарычны часопіс. 2012, № 7. С. 39–47.
5 Corbetta P. Social Research. Theory, Methods and Techniques. London, 2003. P. 264.
6 Corbetta P. Social Research. P. 279.
7 Томпсон П. Голос прошлого. Устная история. Москва, 2003. С. 238.
8 Принс Г. Усна історія // Нові підходи до історіописання. За ред. П. Берка. Київ, 2010. С. 165.
9 Фриш М. Устная история и «тяжелые времена» // Хрестоматия по устной истории. Санкт-Петербург, 2003. С. 62.

# Біяграфічны наратыў як гістарычная крыніца: да пытання магчымасцяў і перспектываў выкарыстання

*Ірына Махоўская,*
*канд. гіст. навук (Менск)*

Артыкул прысвечаны асаблівасцям падыходаў да аналізу гістарычных сюжэтаў, упісанных у біяграфічны наратыў. Наколькі ўвогуле біяграфічнае інтэрв'ю можа з'яўляцца крыніцай для вывучэння пэўнай гістарычнай падзеі? І на якую «гістарычную праўду» можа разлічваць вусная гісторыя?

Успаміны пра асобную гістарычную падзею заўсёды ёсць сінтэзам некалькіх працэсаў. Па-першае, трансляцыі калектыўнай памяці, дзе чалавек выступае як частка групы і падтрымлівае наратыў, канструяваны і актуалізаваны ў залежнасці ад групавых патрэбаў і інтарэсаў. На гэты феномен уплываюць сацыяльныя рамкі, грамадская думка, камемаратыўныя практыкі, сродкі масавай інфармацыі і г. д. Па-другое, на ўспаміны ўплывае працэс вербалізацыі вопыта, неабходнасць упісвання падзеі ў логіку асабістага жыцця. Па-трэцяе, вербалізацыя памяці знаходзіцца пад пэўным уплывам абставін, у т. л. камунікатыўных, правядзення інтэрв'ю.

Што больш уплывае на такую памяць? Калектыўныя ўяўленні, неабходнасць прэзентаваць гістарычную падзею як частку свайго жыцця ці сам працэс ўзаемадзеяння рэспандэнта і інтэрв'юера? Які падыход да інтэрв'ю дасць найбольш адэкватны вынік?

Збіранне і вывучэнне ўспамінаў пра гістарычныя падзеі зручна (для збіральніка) праводзіць праз структураванае і тэматызаванае інтэрв'ю. Такі падыход забяспечвае канцэнтрацыю ўспамінаў чалавека ў пазначаных рамках і, магчыма, больш падрабязны аповед. Але гэтыя рамкі небяспечныя ў плане ціску на рэспандэн-

та. Верагодны варыянт таго, што мы можам атрымаць аповед пра тыя падзеі, важнасць і вылучанасць якіх абумоўлена групавым, інстытуцыянальным ці культурным прызнаннем. Выбар важнага ў жыцці не будзе з'яўляцца выбарам рэспандэнта, а яго ўяўленнем аб тым, што важна для грамадства, «вялікага знешняга свету», які зараз прадстаўляе інтэрв'юер.

Біяграфічны наратыў мае перавагі як сродак вывучэння памяці пра перажытыя гістарычныя падзеі. Тут падзеі ўбудоўваюцца ў жыццёвы сцэнарый чалавека, і вербалізацыя ўспрыняцця іх носіць больш асабісты характар. Пачуцці, адносіны, адаптыўныя тактыкі прыводзяцца ў лагічныя сюжэтныя суадносіны з падзеямі і ўстаноўкамі асабістага жыцця. Але ў біяграфічным інтэрв'ю чалавек прадстаўляе сваё жыццё як сюжэт, дзе ўмовы і ўчынкі знаходзяцца ў лагічнай паслядоўнасці. Прычым сюжэт гэты будуецца з улікам ведання таго, што будзе далей. Іншымі словамі, адбываецца працэс наратывізацыі, калі праз уладкаваны расказ з завязкай, кульмінацыяй і развязкай канструюецца асабістая ідэнтычнасць[1]. Тут важна зразумець, чыя гэта памяць, чые пачуцці, і чаму менавіта такая трактоўка была выбраная рэспандэнтам?

Сёння большасць даследчыкаў схіляецца да высновы, што вуснай гісторыі не ўдалося знайсці ніякай «сапраўднай памяці» як альтэрнатывы афіцыйнай версіі, бо відавочна, што афіцыйны дыскурс значна ўплывае на індывідуальную памяць, змяшчаючы ў асабісты наратыў агульнапрынятыя штампы, афіцыйна ўхваленыя версіі, нават калі яны супярэчаць фактам з асабістага жыцця. Можна паспрабаваць «зламаць наратыў», паказаўшы рэспандэнту на гэтыя супярэчнасці, але тут паўстае праблема этычнага характару. Наколькі інтэрв'юер, перад якім рэспандэнт раскрывае душу, мае права паводзіць сябе як следчы, выкрываючы і падлоўліваючы.

Больш таго, гэтыя супярэчнасці памяці з'яўляюцца цікавай крыніцай для разумення стратэгіі выбудовы рэспандэнтам біяграфічнага наратыву на фоне гістарычных падзей. Але такія моманты патрабуюць спецыяльных тэхнік рэпрэзентацыі. Тэматычны ці структурны аналіз недастатковыя ў дадзеным выпадку. Тут вуснай гісторыі недастаткова сацыялагічных ці антрапалагічных метадаў.

Патрабуюцца іншыя падыходы для выкрыцця механізма пераламлення сацыяльных рамак праз індывідуальны ўнутраны свет. Якой бы калектыўнай ні была памяць, носьбітамі яе з’яўляюцца індывідуумы, якія выбудоўваюць свой наратыў.

У гэтым сэнсе цікавыя вынікі дае выкарыстанне сюжэтнага ці наратыўнага аналізу, які разглядае біяграфічныя аповеды праз супрацьпастаўленне фабулы як асновы і сюжэта як аранжыроўкі[2]. Наратыўны аналіз заснаваны на ідэі інтэртэкстуальнасці і неадарванасці тэксту ад кантэксту[3]. Такі падыход дазваляе ператварыць суб’ектыўнасць, супярэчнасці і недакладнасці ў біяграфічным наратыве з вадаў у дадатковыя інструменты больш глыбокага аналізу.

Р. Чарапанава ў сваіх даследаваннях, прысвечаных праблемам індывідуальнай і калектыўнай памяці і магчымасці прымянення ў вуснай гісторыі псіхалагічных прыёмаў і тэхнік, адзначыла розныя тыпы будовы наратываў у залежнасці ад фабулы, сюжэта і жанру, выбраных рэспандэнтам у якасці спосабу самарэпрэзентацыі[4]. Скарыстаўшыся тэрмінамі В. Нурковай, былі вылучаны ўспаміны рэспандэнтаў з самаадчуваннем, умоўна кажучы, «пераможцаў» ці «паляўнічых» і «ўцекачоў»[5]. Калі першыя разглядаюць знешнія ўмовы як магчымасць і бачаць больш пазітыўнага ў гістарычных падзеях ці абставінах, то «ўцекачы» прэзентуюць сябе ў розных адценнях нешчаслівасці, ахвярнасці і г. д.

Спроба прымяніць сюжэтны аналіз была зроблена ў вуснагістарычным даследаванні, прысвечаным вывучэнню памяці пра Перабудову і стратэгій адаптацыі ў транзітным грамадстве[6].

Умоўна нашых інфармантаў можна падзяліць на дзве групы. Першая, якая ўтварае большасць – гэта тыя, хто прытрымліваўся пасіўных практык адаптацыі да радыкальных сацыяльных зменаў. У першую чаргу яны былі арыентаваныя на актывізацыю ўнутраных рэсурсаў: эканомія, назапашванне, максімальнае выкарыстанне хатняй гаспадаркі і г. д. Другая група – гэта тыя, хто актыўна выкарыстоўваў новыя магчымасці, змяніўшы сферу дзейнасці ці знаходзячы дадатковыя вонкавыя актыўнасці, якія значна палепшылі эканамічнае становішча і, увогуле, змянілі якасць жыцця. Ва

ўмовах правінцыі гэта перш за ўсё прадпрымальніцтва: дробная вытворчасць і гандаль.

Наратыў першай групы адносна Перабудовы вылучаецца значным падабенствам, гэта ў цэлым расказ пра практыкі выжывання, як шмат перажылі і нацярпеліся. Тут пераважае пафас ахвярнасці, непераадольнасці знешніх умоў, дэманстрацыя тактык зыходу, калі чалавек арыентуецца на свае ўнутраныя рэсурсы, уменне эканоміць, абмяжоўваць свае патрэбы, самаахвярна пакутаваць у чэргах. У наратыве гэтай групы, умоўна («уцекачоў») у большасці выпадкаў сустракаюцца абсалютна ідэнтычныя па будове і лексіцы падсюжэты «*разваліліі вялікую краіну*», «*можна было паехаць куды хочаш*», «*вырубілі вінаграднікі*» і г. д.

Як правіла, гэтыя сцверджанні супярэчаць рэальным фактам жыцця нашых суразмоўцаў. У адказах на прамыя пытанні рэспандэнты не хацелі вяртання «вялікай краіны», бо гэта сёння яны і іх дзеці «*едуць, куды хочаш*». Але такія міфалагізаваныя сюжэтныя лініі неабходныя для пабудовы выбранага жанру[7] рэпрэзентацыі свайго жыцця.

Наратыў другой групы будуецца вакол тэмы «*Перабудова – пачатак новага жыцця, новых магчымасцяў, шанцаў на асабістую рэалізацыю*» :

Анатолій Т.: «*Я вам скажу одну вещь такую. Перестройка как бы не сломала меня, но у меня появился шанс стать человеком*»

Надзея Р.: «*Когда пришла перестройка и от нас потребовался труд больший, чем требовался на работах, мы все, у меня 4 сестры. Мы никто не пропал*».

Валянціна М-ч.: «*Мы на свет народились после перестройки. Даже при нынешних временах, когда нас жмут с налогами, и нас ущемляют где-то в правах, мы все равно радуемся, что существует эта система*».

Прадстаўнікі гэтай групы дэманструюць наратыў умоўна «паляўнічых», якія прыпісваюць змены ў сваім жыцці ў першую чаргу сабе, сваёй актыўнасці, смеласці, прадпрымальнасці і разглядаюць Перабудову, як стварэнне ўмоваў свабоды дзейнасці. Тут Перабудова асобна, крызіс, які яны не вельмі заўважылі за працай, – асобна.

Падчас працы над праектам мы сутыкнуліся з масавымі памылкамі ў датаванні Перабудовы, хоць на момант запісу інтэрв'ю ад гэтай гістарычнай падзеі нас аддзяляла толькі 24 гады. Пачатак Перабудовы ў шматлікіх (вельмі шматлікіх, каб аднесці гэта да выпадковых памылак у памяці асобных людзей) расказах быў аднесены да пачатку 1990-х г.

Успамінае Таццяна Г.: *«В это время еще нормально было. Тогда было полтора года декрета, в 1988-м я вышла на работу. [...] А потом пошла перестройка, ой, что там творилось тогда!»;*

Валянціна М.: «*Просто, когда уже пошла перестройка, цех закрыли (в 1990 г.), потому что он стал ненужным. Я 20 лет проработала. Перестройка началась – и все»;*

Фаіна М.: «*В 1990-м году, когда умер мой муж Саша, всё и пошло, всё и началось. Перестройка в стране и у меня в семье*».

Галіна Д.: «*Вот такое было время, я так жалею, почему, вот бедный Бондарчук умер (у 1994 г. – І. М.), когда началась эта перестройка, как он поставил фильм «Война и мир» ну никто ж так не ставил, ни американцы, никто*».

Валянціна М.: «*Нам еще повезло. Перед самой перестройкой в 1989 г. получили квартиру. Почти она уже начиналась. А потом бы уже не получили. Вообще*».

Галіна В.: «*Конечно, было трудно. Я сама осталась без работы. Наде было лет 10. В каком это году была перестройка, в 1993?*»

Анатолій Л.: *«В 89-м году здесь организовали новый колхоз, и я пошел заместителем председателя колхоза. Это 1989, 1990-й год. Было. Это перед самой перестройкой, перед самым кризисом*».

Алясандра Партэлі, вывучаючы падобныя зрухі ў памяці, прыводзіць наступнае тлумачэнне. «*Прычыну калектыўнай памылкі трэба шукаць хутчэй не ў самой падзеі, а ў тым значэнні, якое тады надавалі ёй удзельнікі падзей, у іх адносінах да наступных гістарычных падзей і ў актыўнасці іх памяці і ўяўлення*»[8]. Такое тлумачэнне цалкам верагоднае. Перабудова была ўспрынятая як маштабная і важная падзея. Але ў практыках камемарацыі моцнае ўражанне, якое пакінула Перабудова, патрабавала прывязкі да суразмерных па маштабу сацыяльных трансфармацый. Тое, што адбы-

лося некалькімі гадамі пазней, запатрабавала не толькі адмаўлення ад звычайных патэрнаў паводзінаў, але і значных зменаў патэрнаў мыслення. Перабудова, як сімвал глабальнага пераўтварэння жыцця і як увасабленне ўсяго наступнага вопыту была прывязаная не палітычных свабод, якія мала паўплывалі на асабістае жыццё, а да эканамічных пераменаў, што істотна змянялі асяроддзе.

Цікава, што памылкі ў датаванні перабудовы адносяцца выключна да першай групы і зусім не сустракаюцца ва ўспамінах «пераможцаў» ці «паляўнічых». Відавочна, што гэта пацвярджае тэзіс В. Нурковай аб тым, што сама біяграфічная памяць у розных групах існуе як бы ў дзвюх, часткова аб'яднаных сістэмах семантычных каардынатаў. Для «ўцекачоў» гэта сэнсавая сістэма фіксацыі падзеі, адчуванне прыемнага / непрыемнага. «Паляўнічых» цікавіць у большай ступені кагнітыўны аспект падзеяў, звязаны з фактала-гічным, інфармацыйным бокам, сістэма ведаў[9]. Перабудова, звязаная ў памяці з вялікімі чаканнямі была аб'яднаная з перыядам вялікага расчаравання, і гэта наслаенне ляжыць цалкам у эмацыйнай плоскасці. Такое зліццё стварыла завершаны наратыўны сюжэт, характэрны для стылістыкі «ўцекачоў», менавіта гісторыю пра вялікі падман ці пра вялікае расчараванне.

У выніку мы атрымалі два розныя наратывы, прывязаныя да адной гістарычнай падзеі: наратыў рэалізаваных магчымасцяў і наратыў падманутых чаканняў. Гэта паказвае, з аднаго боку, магчымасці біяграфічнага наратыву як крыніцы вывучэння гістарычных падзей, абмежаванай полем пачуццяў, адносінаў, уражанняў ды інш. Гістарычныя факты лёгка становяцца аб'ектам маніпуляцый на патрэбу сюжэтабудаўніцтва. З іншага боку, адыход ад вузкага тэматычнага аналізу адкрывае іншыя далягляды, дазваляе зразумець логіку ўпісвання фону «вялікіх падзей» у галоўны сюжэт – гісторыю свайго жыцця.

### *Заўвагі*

1 Labov W., Waletzky J. Narrative Analysis: Oral Versions of Personal Experience http://www.ling.upenn.edu/~rnoyer/courses/103/narrative.pdf

[2] Тамсама.

[3] Тэрмін «інтэртэкстуальнасць» уведзены ў 1967 г. французскай даследчыцай Юліяй Крысцевай у артыкуле, прысвечаным праблеме дыялагічнага разумення ў працах Міхаіла Бахціна. Тлумачыцца. як прысутнасць ў любым тэксце сэнсаў папярэдніх тэкстаў.

[4] Черепанова Р. С. «Маленький человек» в «большой истории»: опыт интерпретации устных биографических рассказов // Вестник Челябинского университета. История. Вып. 29. 2009. № 4 (142). С. 148–158.; Черепанова Р. С. О некоторых проблемах и приемах работы с текстами устной истории // Вестник ЮУрГУ. Серия «Социально-гуманитарные науки» 2013, т. 13, № 1. С. 80–85.

[5] Падрабязней гл.: Нуркова В. В. Свершенное продолжается: Психология автобиографической памяти личности. Москва: Изд-во УРАО, 2000. С. 154-168.

[6] Міжнародны вуснагістарычны праект «Трансфармацыя штодзённых адаптыўных практык: савецкі/постсавецкі перыяд (Украіна, Беларусь)», выкананы пры грантавай падтрымцы CASE 2008–2010. У сааўтарстве з Ірынай Раманавай і Наталляй Сярэбрэнікавай.

[7] Bruner J. Life as Narrative // Social Research. 2004. № 71 (3). P. 696–697. http://ewasteschools.pbworks.com/f/Bruner_J_LifeAsNarrative.pdf

[8] Портелли А. Смерть Луиджи Трастулли. Память и событие / Хрестоматия по устной истории / Пер., сост., введение, общ. ред. М. В. Лоскутовой. СПб.: Изд-во Европ. ун-та в С.-Петербурге, 2003. С. 216–218.

[9] Нуркова В. В. Свершенное продолжается... С. 168.

# Аб пачатках царквы эвангельскіх хрысьціян-баптыстаў у Дуніловіцкім павеце: вуснагістарычны мэтад у дасьледаваньні канфэсійнай гісторыі

*Юрась Бачышча,*
*канд. гіст. навук (Вільня)*

У 1920-я гг. заходнебеларускія землі перажывалі ў сваім грамадзкім жыцьці пэўны духоўны рэнесанс. Адной з яго праяваў стаў імклівы распаўсюд пратэстанцкіх цэркваў розных накірункаў. Калі ў XVI ст. да эвангельскага руху далучаліся ў асноўным магнаты, шляхта і мяшчане, то бок тагачасная палітычная і эканамічная эліта грамадзтва, то ў пачатку XX ст. працэс навяртаньня да эвангельскай веры закрануў беларускае сялянства. Часам амаль цэлыя вёскі станавіліся вернікамі. На жаль, гэты цікавы і важны працэс застаўся па-за межамі гістарычных дасьледаваньняў, бо ў савецкія часы дасьледаваньні рэлігійнасьці вяліся толькі ў мэтах атэістычнай прапаганды.

У незалежнай Беларусі цікавасьць да працэсаў духоўных трансфармацый значна павялічылася. Але можна сказаць, што і па сёньняшні дзень перад гісторыкамі стаіць задача не толькі асэнсаваньня гэтых працэсаў з гледзішча філасофска-гістарычнага, але найперш першаснага наратыўнага асьвятленьня гісторыі эвангельскай царквы[1]. У сувязі з гэтым асобную значнасьць займае дасьледаваньне вытокаў першых цэркваў, асобаў першых сьвятароў і місіянэраў, геаграфія іх дзейнасьці і колькасная дынаміка вернікаў унутры такіх супольнасьцяў, характар уплываў на навакольнае насельніцтва.

У якасьці крыніц тут могуць выкарыстоўвацца архіўныя матэрыялы, якія яшчэ маладасьледаваны. Пры гэтым важна карыстацца не толькі матэрыяламі савецкіх спецслужбаў і адміністрацыі, якія

звычайна падавалі ўсе працэсы, зьвязаныя з рэлігійнай дзейнасьцю ў нэгатыўным сьвятле, ствараючы пэўныя ідэалагічныя штампы, якія потым распаўсюджваліся афіцыйнымі СМІ, але важна ўлічыць і архіўныя матэрыялы цэркваў, прыватныя архівы і ўспаміны сучасьнікаў. Жывыя сьведкі тых падзеяў амаль адыйшлі, але часам яшчэ можна знайсьці адзінкавых сьведкаў для жывога вуснага ўспаміну. І тут набывае пэўную актуальнасьць вусная гісторыя, якая дазваляе суаднесьці сухія дакумэнтальныя зьвесткі архіваў з рэальным жыцьцём, якім яно ўспамінаецца пэўнай асобай. Індывідуальная памяць дапаўняе паведамленьні іншых першакрыніц, прымушае глыбей задумацца над некаторымі падзеямі мінулага і сучаснасьці.

Сярод найбольш значных дасьледаваньняў пашырэньня пратэстантызму на беларускіх землях у першай палове XX ст. варта згадаць працы пратэстанцкіх дасьледчыкаў з блізкага замежжа Сяргея Савінскага[2], Уладзіміра Франчука[3], Кшыштафа Беднарчыка[4] і Генрыка Тамашэўскага[5]. Але гісторыя асобных памесных цэркваў яшчэ падлягае вывучэньню.

Уласная зацікаўленасьць гісторыяй паходжаньня царквы эвангельскіх-хрысьціян-баптыстаў у вёсцы Новыя Габы ўзьнікла пасьля знаходжаньня некалькіх дакумэнтаў у Дзяржаўным архіве Літвы ў Вільні. Дакумэнты апавядалі пра нейкага Рыгора Дразда, на той час для мяне яшчэ невядомай асобы. У перапісцы з кіраўніцтвам наконт наяўнасьці ў павеце вернікаў мэтадыстаў Дуніловіцкі стараста М. Станішэўскі адказаў адмоўна, але пры гэтым адзначыў, што «*ў вёсцы Новыя Габы Жосьнянскай гміны пражывае баптысцкі*[6] *прапаведнік, неякі Рыгор Дрозд (Grzegorz Drozd), які з 1921 г. праводзіць прапаганду ў духу гэтай рэлігійнай сэкты*»[7].

Далей паведамлялася, што Дрозд праводзіць сваю дзейнасьць цалкам прыватна, пазьбягае палітычных выступаў, а набажэнствы адбываюцца па хатах вернікаў. Супольнасьць налічвала 29 вернікаў, з улікам самога прапаведніка і 8 дзяцей узростам да 12 год. За дзейнасьцю сьвятара і супольнасьці вёўся паліцыйны нагляд. Стараста, які назіраў за Драздом і вернікамі ад самага пачатку, лічыў, што яны паводзяць сябе досыць прыймальна з гледжаньня палітычнага і маральнага[8].

Сам Дрозд мусіў скласьці ў старостве абяцаньне, што да часу прызнаньня сэкты, будзе адпраўляць набажэнствы ў замкнутым памяшканьні, прадстаўляць уладам мэтрычныя зьвесткі і не будзе праводзіць публічнай прапаганды свайго веравызнаньня[9].

Да рапарту старасты прыкладаўся пратакол допыту Рыгора Дразда ад 21 красавіка 1925 г., складзены рэферэнтам бясьпекі Дуніловіцкага староства Казімерам Сіповічам:

«*Я, рэферэнт Бясьпекі Староства Дуніловіцкага Казімер Сіповіч, сёньня дапытаў жыхара вёскі Новыя-Габы Жосьнянскай гміны Рыгора Дразда сына Яна, каторы апавёў, што мае 45 год, вызнаньня «Эвангеліста-Баптыста», жанаты, польскай нацыянальнасьці, народжаны ў вёсцы Новыя-Габы, ахрышчаны быў паводле праваслаўнага абраду, у той час як матка была праваслаўная, а бацька каталік, судова не караны, ні да якой партыі не належыць і палітыкай не цікавіцца.*

*Выехаў да Злучаных Штатаў у 1913 г. і па прыбыцьці да Амэрыкі ў тым самым годзе далучыўся да вызнаўцаў Эвангелістаў-Баптыстаў. У Польшчы вярнуўся ў 1921 г. і з тых часоў з даручэньня Амэрыканскага Аб'яднаньня (Stowarzyszenia) Эвангелістаў-Баптыстаў заняўся навяртаньнем да сваёй веры жыхароў сваёй вёскі Новыя-Габы і вакольных жыхароў. Веравызнаўчую навуку атрымаў на курсах у м. Гардвуд-Канедык (Hardwod-Kanedyk) у штаце Нью-Ёрк і мае духоўную ступень дыякана*»[10].

Далей Дрозд апавядаў: «*У той час у Дуніловецкім павеце нашых вернікаў не было, і я распачаў гэтае веравызнаньне пераважна сярод люду праваслаўнага, але ў апошні час далучыліся і некалькі асобаў з каталікаў, але яны яшчэ не прыняты, паколькі не цалкам яшчэ азнаёміліся з палажэньнямі нашай веры, таму прыняцьцё наступіць толькі па сьв. хросьце, які адбудзецца згодна з рэлігійным рытуалам. Да нашай рэлігійнай Супольнасьці, якая ўтварае Эвангеліцка-Баптысцкую парафію, належыць разам з дзецьмі 29 асобаў. Пазначаная лічба вернікаў не належыць і не ўтварае цэлых сем'яў, але асобныя людзі з праваслаўных сем'яў. З гэтай прычыны ўжо 4-ты год трывае непаразуменьне з мясцовым настаяцелем праваслаўнага прыходу ў Маставым Жосьнянскай гміны Сьвіцічам Калінілем*[11].

*Прычынай гэтых непаразуменьняў стала тое, што я знаходжу прыхільнікаў нашай веры сярод яго прыхаджан і не бяру ніякай платы за выкананьне абрадаў рэлігійных. Кнігаў мэтрычных да гэтага часу не вяду, але абяцана мне, што дашлюць з Варшавы, дзе на Празе знаходзіцца вышэйшае Кіраўніцтва веравызнаньня, але вуліцы і дому не памятаю. Вызнаньне нашае не мае нічога супольнага з Эвангельскай Царквой Мэтадыстаў. Ніякай дапамогі матэрыяльнай ні з Варшавы, ні з Амэрыкі не атрымліваю. Непасрэднай пастаўленай уладай зьяўляецца пробашч нашай царквы Уладзімер Собалеў, які жыве ў Вільні на Зьверынцу, вуліца Манюшкі 27-3, а цэнтральнай уладай на ўсю Польшчу зьяўляецца Старэйшы Зьвязу п. Шэндэроўскі, пражываючы ў Варшаве. На месцы ў гміне Жосьнянскай дому малітвы яшчэ не маем, але маю намер будаваць паводле пляну, які параіў мне адмысловец, згодна з патрабаваньнямі, якія існуюць у гэтай галіне.*

*Вызнаньне наша адрозьніваецца ад Царквы эвангельскай Мэтадыстаў тым, што Мэтадысты хрысьцяць вернікаў у маленстве па нараджэньні, а мы прызнаем хрост толькі пасьля знаёмства з асновамі веры. З штундыстамі таксама нічога супольнага ня маем і, хаця не ведаю іх дагматаў, але ведаю, што штундысты вылучыліся з вызнаньня лютэранскага і належаць пераважна да нацыянальнасьці нямецкай. Пры навяртаньні людзей да сваёй веры ніякіх забароненых сродкаў прапаганды не ўжываю, а карыстаюся толькі словамі сьв. Эвангельля. Характарыстыку маёй дзейнасьці можа акрэсьліць зямянін і цяперашні ўрадоўца павятовага Сэйміка п. Мечыслаў Снарскі. Спіс вернікаў абавязваюся прадастаўляць Старостwу з гэтага часу. Мае вернікі ў ліку 29 асобаў жывуць у Новых-Габах, у Крывым гміны Норыцкай, а таксама ў вёсках Няверы і Асюкове Вілейскага павету Крывіцкай гміны*»[12].

Да справы дадаваўся яшчэ і рапарт «*Кіраўніка Бюро Аддзелу Павятовага Дуніловіцкага Сэйміка Мечыслава сына Людвіка Снарскага, які жывучы ў Дуніловічах паведаміў, што ведае Рыгора Дразда яшчэ з часоў яго знаходжаньня ў Жосьнянскай гміне да выезду ў Амэрыку. Пасля вяртаньня з Амэрыкі Дрозд пачаў пашыраць веру баптыстаў і мушу давесьці, што людзі якія трапляюць пад яго*

*уплыў ёсьць вельмі маральныя, выказваюць больш прыхільнасьці да польскай дзяржаўнасьці, чым раней, словам, дзейнасьць Дразда ўплывае дадатна на праваслаўны люд, сярод якога пераважна Дрозд пашырае свае рэлігійныя перакананьні. Дрозд да выезду ў Амэрыку быў значна менш маральным, чым пасьля таго як вярнуўся баптыстам. Словам, станоўча сцьвярджаю, што дзейнасьць Дразда не толькі ня ёсьць шкоднай, але аказвае добрыя ўплывы на атачэньне мясцовых сялян як у значэньні маральным, так і палітычным*»[13].

Як бачым польскія мясцовыя ўрадоўцы даволі добра адгукаліся аб Рыгоры Драздзе і ня бачылі праблемы ў яго дзейнасьці. За перыяд ад пачатку пропаведзі ў 1921 г. да 1925 г. колькасьць вернікаў вырасла з нуля амаль да трох дзясяткаў. Хаця вернікі не мелі ўласнага Дома малітвы, але прадпрымаліся захады дзеля яго будаўніцтва. Гэты прыклад вельмі добра ілюструе адзін са шляхоў пранікненьня хрысьціянскай веры з Амэрыкі і пашырэньня яе на беларускіх землях.

Акрамя Рыгора Дразда на прыгаданых тэрыторыях Мядзельшчыны і Маладзечыншчыны прапаведаваў яшчэ адзін пачынальнік многіх пратэстанцкіх цэркваў пяцідзесятніцкага накірунку Станіслаў Нядзьвецкі. Яго прыклад навяртаньня вельмі падобны. Таксама навярнуўшыся на эміграцыі ў Амэрыцы, ён вярнуўся на Бацькаўшчыну, каб прапаведаваць Эвангельле сваім суайчыньнікам.

Новыя Габы, у ваколіцах каторых прапаведаваў Рыгор Дрозд, з 1922 г. уваходзілі ў Віленскае ваяводзтва ў складзе Дуніловецкага павету, а з 1925 г. – Пастаўскага павету (сёньня – вёска Старагабскага сельсавета Мядзельскага раёна Мінскай вобл.). У 1921 г. у вёсцы пражывалі 707 жыхароў і мелася 120 двароў, вятрак і кузьня. Колькасьць жыхароў да вайны павялічылася да 739, а двароў – да 138[14].

У справаздачы Віленскага ваяводзкага ўраду за 1927 г. паведамлялася, што колькасьць вернікаў у Новых Габах павялічылася да 38 асобаў[15]. А з крыніцаў пазьнейшага часу даведваемся, што ў вернікаў Новых Габаў атрымалася збудаваць свой Дом малітвы. У прыватнасьці, у статыстыцы веравызнаньняў Віленскага ваяводзтва за 1929 г.[16], адзначалася, што вернікі вёскі Новыя Габы маюць уласны Дом малітвы (у іншым месцы – «Уласную сьвятыню»). Да-

рэчы, гэта адзіны выпадак з усіх іншых прыгаданых супольнасьцяў, бо тыя звычайна зьбіраліся ці ў прыватных дамах, ці ў найманым памяшканьні (як мэтадысты ў Вільні на вул. Троцкай 9–7)[17].

Статыстычныя дакуманты за 1929 г. называюць пасьлядоўнікаў Рыгора Дразда то «баптыстамі», то «эвангельскімі хрысьціянамі». Згадка, што цэнтральная сядзіба на чале з Людвікам Шэндэроўскім знаходзіцца ў Варшаве ўказвае на іх прыналежнасьць да эвангельскіх хрысьціян[18]. Колькасьць эвангельскіх хрысьціян на 1929 г. складала 60 вернікаў у Пастаўскім павеце (вёска Новыя Габы) і 91 вернік у Вілейскім павеце (13 з іх былі з Крывіцкай гміны і 25 з Далгінаўскай гміны, дзе таксама прапаведаваў Рыгор Дрозд у вёсках Асюкова і Няверы)[19].

Цікава, што паколькі прапаведніцкая дзейнасьць Рыгора Дразда распаўсюджвалася на два паветы, то ў польскіх ваяводзкіх дакумэнтах фігуруюць два Рыгора Дразда пад нумарамі I і II у розных паветах. Але факты сьведчаць, што гэта адзін і той жа чалавек. Сам Дрозд у 1925 г. на дазнаньні апавядаў, што прапаведуе ў вёсках як Пастаўскага, так і Вілейскага паветаў[20].

Як паказвае прыведзеная статыстыка, уплыў Рыгора Дразда з 1925 па 1929 год пашырыўся з 29 чалавек амаль да сотні вернікаў. Цікава, што ў цэлай Вільні ў гэты ж час налічвалася толькі 50 баптысцкіх вернікаў і каля 50 сымпатыкаў[21]. То бок, на правінцыі справа пашырэньня эвангельскай веры была пастаўлена ня горш за сталіцу.

Працяг дасьледаваньня гэтай тэмы атрымаўся нечаканы. У 2010 г. мы працавалі ў Пастаўскім раёне ў складзе экспедыцыі па вуснай гісторыі, якой кіраваў прафесар Аляксандр Смалянчук. Паколькі дарога з Пастаўскага раёна ў Мядзельскі праходзіла недалёка мы разам з Андрэем Мастыкам завіталі ў вёску Новыя Габы. Перад візытам мы мелі пэўную інфармацыю, здабытую з архіва, і імкнуліся пашырыць і ўдакладніць ужо вядомыя зьвесткі пра дзейнасьць Рыгора Дразда і пачаткі эвангельскай царквы ў вёсцы Новыя Габы. То бок, мэтад вуснай гісторыі выступаў тут не як першасны ці асноўны спосаб здабыцьця інфармацыі, а больш выконваў ролю ўздапаможную.

Жыхары в. Новыя Габы накіравалі нас да Вольгі Ціханаўны Ганчар, 1925 г. нар.[22] Пры ўваходзе ў хату адразу кінуліся ў вочы словы з Эвангельля, якія віселі ў некалькіх месцах на сьценах «*Господь – Пастырь мой, Я ни в чём не буду нуждаться*» (Пс. 22:1) і «*Придите ко Мне все труждающиеся и обременённые, и Я успокою вас*» (Мц. 11:28). Аднак на пытаньне да бабулі, якой яна веры, мы атрымалі нечаканы адказ, што – праваслаўная. У іншым выпадку такі адказ і быў бы запісаны ў анкету, але паколькі выгляд дома сьведчыў аб іншым (ніякіх абразоў і чырвонага кута, а замест іх эвангельскія цытаты па сьценах), то я перапытаў, паказваючы на сцены. Тады бабуля прызналася, што «*былі праваслаўныя, а тады перайшлі [...] у 1930–31 гг.*»

Далей яна выдавала сябе за баптыстку і толькі пазней мы выведалі, што яна належала да царквы пяцідзесятнікаў. Высветлілася, што ў Новых Габах былі як эвангельскія хрысьціяне-баптысты, так і пяцідзесятнікі. Першымі зьявіліся баптысты на пачатку 1920-х гг, а пяцідзесятнікі, паводле рэспандэнткі, зьявіліся недзе на пачатку 1930-х у выніку пропаведзяў Станіслава Нядзьвецкага.

Апытаньне дапамагло вызначыць мову, на якой спявалі, а таксама адбываліся пропаведзі і набажэнствы ў царкве. Знойдзеныя ў архіве дакумэнты былі напісаны па-польску, і там не згадвалася мова, на якой Дрозд праводзіў службы. Пры апытаньні жыхаркі в. Новыя Габы, высьветлілася, што прэсьбітэры мясцовых пратэстанцкіх абшчынаў – Рыгор Дрозд (баптысцкай) і Станіслаў Нядзьвецкі (пяцідзесятніцкай) – прамаўлялі па-беларуску, са словаў рэспандэнткі «простай мовай», як і яна размаўляе. На маё пытаньне, на якой мове прапаведаваў Нядзьвецкі, адказала: «Ну, па-беларуску, гэтак як і мы, гаварыў проста». Аналагічным быў адказ на пытанне наконт мовы пропаведзяў Р. Дразда: «Гэтак проста гаварылі, як і мы гаворым».

Рэспандэнтка пацьвердзіла, што ў баптыстаў быў свой Малітоўны дом, які яны купілі, у той час як пяцідзесятнікі зьбіраліся па дамах. Колькасьць вернікаў дасягала каля 40 чалавек у кожнай супольнасьці, як да вайны, так і пасьля. Пяцідзесятнікі ня мелі нядзельнай школы для дзяцей, а ў баптыстаў яна была «за польскім часам». Біблії мелі

на расейскай і на польскай мовах, беларускіх перакладаў ня бачылі.

Таксама высьветлілася, што Рыгор Дрозд жыў увесь час у Новых Габах і пахаваны на мясцовых могілках разам з жонкай. На магіле мы знайшлі цікавы надпіс «*евангельский крестьянин*». Чаму менавіта так? Альбо звычайная малаадукаванасьць тых, хто хаваў, альбо імкненьне прыхаваць інфармацыю ад савецкіх уладаў. Сышоў з жыцьця Рыгор Дрозд у 1944 г. ва ўзросьце 66 гадоў, паводле запісу на надмагільлі. У гэтым жа годзе памерла і яго супруга Юлья, пахаваная побач, на яе надмагільлі той самы надпіс – «евангельская крестьянка». Побач таксама знаходзяцца магілы Веры Г. Дрозд (1932–1952) і Рыгора Рыгоравіча Дразда (19.03.1909–19.01.1986), якія верагодна былі іх дзецьмі ці магчыма Вера – унучка. Пасьля Рыгора Дразда прэсьбітэрам у баптыстаў стаў Захарка Мацкевіч.

Рэспандэнтка з Габаў апавядала таксама, што ў Польшчы яны перашкод ня мелі, а вось пасьля вайны пяцідзесятнікі перасьледаваліся савецкай уладай: «Усё гразіліся, што дзяцей пазабіраюць». Нягледзячы на тое, што іх супольнасьць далучылася да створанага ў жніўні 1945 г. аб’яднанага Усесаюзнага Саюза Эвангельскіх Хрысьціян Баптыстаў, прэсьбітэр пяцідзесятніцкай царквы вёскі Новыя Габы Уладзімір Іванавіч Мацюшонак быў рэпрэсаваны і патрапіў у турму. Як адзначыла рэспандэнтка, пяцідзесятнікі не выконвалі патрабаваньне не прыводзіць дзяцей на набажэнствы. За гэта давалі штрафы. Баптысты былі больш паслухмяныя ўладам у гэтым. Пазьней мясцовыя пяцідзесятнікі адлучыліся ад УСЕХБ. Служэньні пяцідзесятнікаў у вёсцы, паводле інфармацыі рэспандэнткі, працягваліся дзесьці да канца 1990-х гг.

Сёньня ў вёсцы не засталося ані супольнасьці баптыстаў, ані пяцідзесятнікаў. Толькі двое старых верніцаў. Са словаў бабулі: «*Маладыя выехалі ў горад, а старыя паўміралі*». Але брат рэспандэнткі, які жыве ў Маладэчна, застаўся вернікам, як і яго шасцёра дзяцей і каля 20 унукаў.

Цікавым быў таксама аповед рэспандэнткі пра асаблівасьці свайго жыцьця як верніцы. Яна працавала паляводам, а на ферму не пайшла, каб не працаваць у нядзелю. У царкве не дазвалялася глядзець тэлевізар і слухаць радыё, жанчыны мусілі насіць хусткі на

галовах і мецъ доўгія рукавы. Заахвочваліся штодзённае чытаньне Бібліі і малітва. На пытаньне, што іх адрозьнівала ад праваслаўных, яна адказала, што «тутака лепш – бо нельга ні піць, ні курыць, ні ругацца, а ў іх усё, што захочаш».

Згаданая гісторыя пачаткаў эвангельскай царквы ў в. Новыя Габы паказвае, што вялікую ролю ў пашырэньні эвангельскага вучэньня мелі асобныя місіянэры, у нашым выпадку Рыгор Дрозд. Дзякуючы яго навяртаньню на эміграцыі і вяртаньню да дому на місію, пропаведзям і служэньню ўтварылася суполка эвангельскіх хрысьціян-баптыстаў у вёсцы Новыя Габы, якая налічвала некалькі дзясяткаў вернікаў. У вёсцы быў збудаваны ці набыты ўласны Дом малітвы. Місіянерская дзейнасьць Дразда распаўсюджвалася і на навакольныя вёскі, закранаючы, як праваслаўнае, так і каталіцкае насельніцтва. Прытрымліваньне вернікамі нормаў хрысьціянскай маралі паляпшала маральнае аблічча беларускай вёскі.

### *Заўвагі*

[1] Тэрмін «эвангельская царква» ў дадзеным выпадку выкарыстоўваецца аўтарам, як аб'ядноўваючая назва для розных суполак, груп, памесных цэркваў і аб'яднаньняў эвангельскіх хрысьціян розных накірункаў, якія падзялялі агульнапрыняты хрысьціянскі апостальскі сымбаль веры (Нікейскі) і вялі сваю місіянэрскую і душпастарскую дзейнасьць на беларускіх землях.

[2] Савинский С. Н. История евангельских христиан-баптистов Украины, России, Белоруссии (1867–1917). Т. 2. 1917–1967. Санкт-Петербург: Библия для всех, 2001.

[3] Франчук В. Просила Россия дождя у Господа. Т. 1. Киев, 2001.

[4] Bednarczyk K. Historia Zborów Baptystów w Polsce do 1939 roku. Warszawa, 1997.

[5] Tomaszewski H. Baptyści w Polsce w latach 1918–1958. Warszawa, 2008.

[6] Верагодна, Рыгор Дрозд належаў да супольнасьці эвангельскіх хрысьціян, якая была блізкай да баптыстаў, але лічылася асобным адгалінаваньнем пратэстанцкай царквы. Эвангельскія хрысьціяне бяруць пачатак ад пропаведзяў Івана Праханава. На Віленшчыне супольнасьці эвангельскіх

хрысьціян уваходзілі ў склад саюза, якім кіраваў Людвік Шэндэроўскі. Пэўны час эвангельскія хрысьціяне і баптысты ўтваралі адзін саюз.

[7] Lietuvos Centrinis Valstybės Archyvas (Летувіскі Цэнтральны Дзяржаўны Архіў) (LCVA). Ф. 51, воп. 1, адз. з. 2. Арк. 6.

[8] Тамсама

[9] LCVA. Ф. 51, воп. 1, адз. з. 2. Арк. 6–6 адв.

[10] LCVA. Ф. 51, воп. 1, адз. з. 2. Арк. 7.

[11] З улікам успамінаў рэспандэнткі Вольгі Ганчар з Новых Габаў, сапраўднае прозьвішча сьвятара верагодна было – Калінік.

[12] LCVA. Ф. 51, воп. 1. адз. з. 2. Арк. 7–7 адв.

[13] LCVA. Ф. 51, воп.. 1. адз. з. 2. Арк. 7 адв.

[14] Новые Габы [Электронный ресурс] // Информационно-исторический портал Мядельского района. Рэжым доступу: http://www.myadel.info/novyie-gabyi. Дата доступу: 24.09.2014

[15] LCVA. Ф. 51, воп. 4, адз. з. 43. Арк. 8 адв.

[16] Дата ў тэксьце дакумента адсутнічае, але дакумент ляжыць у тэчцы статыстыкі за 1929 г., таму і мной датуецца гэтым годам. На гэтую дату паказваюць і некаторыя іншыя ўскосныя зьвесткі.

[17] LCVA. Ф. 51, воп. 4, адз. з. 253. Арк. 1.

[18] LCVA. Ф. 51, воп. 4, адз. з. 253. Арк. 22, 40.

[19] LCVA. Ф. 51, воп. 4, адз. з. 253. Арк. 11, 22.

[20] LCVA. Ф. 51, воп. 1, адз. з. 2. Арк. 7 адв.

[21] LCVA. Ф. 51, воп. 4, адз. з. 253. Арк. 26.

[22] Аўдыёзапіс інтэрвью захоўваецца ў асабістым архіве аўтара, а таксама ў фондах Беларускага архіва вуснай гісторыі. Створаны ў жніўні 2010 г. у час экспедыцыі па вуснай гісторыі «XX ст. у памяці беларусаў». Інтэрвьюверы – Ю. Бачышча і А. Мастыка.

# Вусная гісторыя ў даследаванні евангельскіх хрысціян-баптыстаў у БССР

*Таццяна Касатая,*
*мгр (Варшава)*

Выкарыстанне вусных успамінаў у даследаванні гісторыі царквы евангельскіх хрысціян-баптыстаў (далей ЕХБ) у БССР абумоўлена абмежаванасцю крыніцаў. Дакументы архіўных фондаў Упаўнаважанага Савета па справах рэлігійных культаў (з 1965 г. Упанаважанага Савета па справах рэлігій) характарызуюцца фармалізаванасцю і тэндэнцыйнасцю. Сведчанні вернікаў дапамагаюць больш поўна рэканструяваць мінулае. Але апроч дадатковай інфармацыі, падчас збору і аналізу вусных успамінаў паўстае таксама праблема памяці. Ніжэй разгледзім механізмы фарміравання, функцыі і асаблівасці калектыўнай памяці ЕХБ.

Прыналежнасць рэспандэнтаў да аднаго сацыяльнага інстытута і дамінаванне ідэнтыфікацыі з вернікамі (хрысціянамі) абумовіла выкарыстанне паняцця «рэлігійная памяць». Згодна Морысу Хальбваксу, рэлігійная памяць, нягледзячы на пазачасавасць і пастаянства рэлігійных уяўленняў, падпарадкоўваецца тым жа законам, што і любая калектыўная памяць. Яна не (толькі) захоўвае, але і рэканструюе мінулае з дапамогай абрадаў, тэкстаў, традыцый, а таксама сацыяльна-псіхалагічных дадзеных таго, што адбылося нядаўна, гэта значыць з дапамогай сучаснага[1].

Адным з паказальнікаў калектыўнай памяці з'яўляецца ўключэнне чалавека ў сацыяльны інстытут. У сістэме самаідэнтыфікацыі ЕХБ дамінуючае становішча займае атаясамленне сябе з вернікамі. Пры гэтым самакатэгарызацыя можа быць рознай – евангельскія хрысціяне-баптысты, евангелісты, хрысціяне, вернікі («верующие»), баптысты. Найбольш распаўсюджанымі найменнямі з'яўляюцца «хрысціяне» або «вернікі».

● *По веравызнанню? Ну, як сказаць, хрысціяне*[2].

● *Т.К.: Юлія Андрэеўна, а па веры Вы хто? Па веры?*

*Ю.Ц.: Я хрысціянка*[3].

● *Ну, он [бацька] принял так в сердце. И пришёл до мамы […] и говорит: «Ну, Катя, ушёл я от тебя язычником, а пришёл христианином». И с того времени он был аж пока умер*[4].

● *Родители у меня, конечно, верующие были. И с детства я верующий. […] Я поверил уже, позже принял крещение. А […] моё детство было у верующих родителей, вот, так*[5].

Можна меркаваць, што рэдкае выкарыстанне азначэння «баптыст» абумоўлена негатыўнай канатацыяй гэтага слова, якая існавала ў савецкі перыяд. Вернік з г. Гародні ўспамінаў: «*Мне говорили: «Ты баптист!», чтобы меня унизить*»[6]. Але ў сваім наратыве рэспандэнты даволі часта выкарыстоўваюць тэрмін «баптыст» у значэнні «яны», а не «мы».

Далучэнне да царквы ЕХБ адбываецца пасля пакаяння і прыняцця хрышчэння. Гэтыя акты ў памяці вернікаў адлюстраваны як пераломны момант у іх жыцці. ЕХБ прымаюць хрышчэнне ў свядомым узросце, таму ўспаміны пра яго даволі падрабязныя і дакладныя.

● *Именно в этот период произошёл переворот в моей душе. Я обрёл внутренний мир. Я был уверен, что Бог простил меня за грехи. Покаяние – это перемена действий, мысли. 6 августа 1978 г. в 5 часов утра я принял крещение через погружение на р. Рось недалеко от Волковыска. Утро было прохладное, как и вода… Никогда это не забуду!*[7]

● *Никогда не жалею об этом, что в 17 лет принимал крещение. Никогда не жалею об этом*[8].

● *Крестил меня тот брат, которого уже судили за крещение. И поэтому мы выбрали время летом. Договорились поздно-поздно вечером. Когда вся деревня уснула. Выбрали место такое, чтобы даже луна не освящала. И пошли на канал возле нашей деревни. И в такую безлунную ночь, когда вся деревня спала […] встали на песочке на колени, помолилися [...] И стали членами церкви*[9].

● *Я помню, это было 31-го июля 1979 года. Это было здесь ки-*

*лометров, наверно, 20 за городом речка. Это уже был такой поздний-поздний вечер, что буквально после крещения ещё через полчаса и стемнело. Хотя нужно, ну, не просто крещение, ведь, куда собрались съехались верующие. Это может было всего там до сотни человек присутствующих. Там и пели, и молились. Кто-то из проповедующих слово читал. Конечно, детали какие-то трудно сейчас вспомнить. Хотя конкретно знаю, кто меня крестил. Вильчинский Владимир Александрович, один из просвитеров на Брестчине*[10].

Успаміны пра пакаянне:

● *А стал верующим человеком. [...] А он говорит, я только стал возле дверей об ушак облокотился и так стоял. Но когда вышел проповедник и стал говорить, и стал доказывать, что такое Бог и, что он отдал сына единственного на смерть, чтоб спасти людей, чтоб спасти нас, грешников, которые так грешим[…] И когда он сказал: «А теперь преклоним колено и будем молиться». То я, говорит, это так отец рассказывал, я, говорит, не приклонил, а я упал на колени. И так плакал, так просил Бога прощения, что я такой грешник, что Исуса Христа распяли, гвоздями прибивали руки. Ну, он принял так в сердце*[11].

Падчас пакаяння і хрышчэння вернік адасабляецца ад гэтага свету. Ён засяроджваецца на тым, што адбываецца ўнутры яго. Для яго важна поўнае зліццё з трансцэндэнтным. Але, нягледзячы на *асабісты* характар перажыванняў, яны ўключаны ў корпус царкоўнай гісторыі, з'яўляюцца часткай паняццяў, якія стварыў не вернік і, якія адкрыліся не аднаму яму, а захоўваюцца царквой. Яна навучыла яго[12].

Індывідуальная памяць пра хрышчэнне змяшчаецца ў калектыўную памяць. Менавіта гэтая падзея ўключыла верніка ў гістарычны і сацыяльны парадак, які дапамагае чалавеку асэнсаваць сваё жыццё і ўплывае на канструяванне сваёй біяграфіі. У наратыве ЕХБ хрышчэнне займае ключавое месца. Жыццё дзеліцца на перыяд да хрышчэння і пасля яго. Памяць пра гэту падзею садзейнічае стварэнню непарыўнай і цэласнай жыццёвай гісторыі.

Рэлігія і далучэнне верніка да царквы фарміруе групавую самасвядомасць. Ва ўспамінах адкрыта ці схавана, але пастаянна

прысутнічаюць два вобразы «мы» і «яны», якія маюць пэўны набор характарыстык.

● *Ну, мы ж с надеждой на Бога живём. Вы знаете, как говорится, слава Богу, стремимся так жить, как нас учит Евангелье. Вот так и мы живём. И так живём*[13].

● *А его называли святым. Ну, потому что он не пил, не курил, никогда слова плохого от него никто не слышал. Ну, и святой. Ну, как же, они ж там в деревне и пили, и крепко пили*[14].

● *Я не испытал тых курений. Я не курил. И этых матов, ничего не испытал их [смяецца], потому что мы воспитывались в такой семье, где у нас нихто этим не занимался*[15].

У гэтых урыўках з успамінаў вернікаў прадстаўлены не толькі ўяўленні пра «сябе» і «іншых», але і механізмы фарміравання калектыўнай рэлігійнай памяці – Біблія і выхаванне. Праз чытанне Бібліі калектыўная памяць паглыбляецца. Для вернікаў ЕХБ важна не проста прысутнічаць на службе, чытаць кожны дзень малітвы, прытрымлівацца пастоў, але таксама думаць пра тыя падзеі мінулага, што апісваюцца ў Бібліі і перажываць іх. Прычашчэнне з'яўляецца адным са спосабаў аднаўлення ў памяці падзей гісторыі хрысціянства.

● *Четыре служения, которые раннехристианская церковь совершала: учение Апостолов, Библия, общение, преломление хлеба и молитвы. Все эти служения во всех евангельских церквях совершается. Они совершались, совершаются и будут совершаться. А разница, может быть. Мы сейчас живём в новое время, больше музыкальных групп, декламации, постановок рождественных, пасхальных, больше общения. Но суть служения остаётся та же*[16].

● *Ну, в основном молиться они [бацькі] направляли нас, чтоб мы молилися. Главное то, чтоб вот это было [паказвае на Біблію] основание наше – Библия или Евангелья. Евангелья – это Новый Завет. А Библия – это Старый Завет, к еврейскому народу относиться. А Евангелья это уже приход Иисуса Христа на землю. Вот то, что там описывается, мы там соблюдали, нас так учили в этом направлении, вот. И я так и вырос. Вот осознал свои, что грешник человек, что я должен принять крещение. Я принял крещение*[17].

Як бачым, фарміраванню рэлігійнай памяці садзейнічала падтрыманне традыцыі праз рэлігійнае выхаванне. Вернікі ў сваіх успамінах надаюць вялікае значэнне прыкладу бацькоў, узаемаадносінам у сям'і, сямейным каштоўнасцям.

● *Ну, и родители, в принципе, они показывали вот эту духоную сторону, потому что если есть в Библии, если говорить о Библии, то одна из заповедей – не клянись. […] Клятва, обещание, ну, оно всё равно имеет духовную сторону. Понимает ребёнок или не понимает. Ну, допустим, сегодня мы прекрасно понимаем, понимает ребёнок, или не понимает, вот завели его, или занесли где-то к какой-то бабке или к экстрасенсу. Ну, всё равно, как-то отпечаток на жизнь на судьбе отставляет. Поэтому принцип у родителей был такой – воспитание. Ну, и они пример показывали жизни. Потому что не было в семье ни сквернословия, ни каких-то […] пьянок и скандалов, ну, не было, не было. Поэтому они не ставили это в свою заслугу. Они ставили, что это их отношение с Богом. То есть, учили вот всему этому. И это вот принималось нами как детьми, как истина. И тем более, что уже будучи подростком приходилось, ну, встречаться, быть на каких-то встречах общениях, они были нелегальные*[18].

Яшчэ адным механізмам падтрымання калектыўнай памяці з'яўляецца малітва. Яна паўстае як шлях да вырашэння праблемаў і сувязі з Богам. Пры гэтым цэнтральнае месца займае вера, праз якую вернік атрымоўвае выратаванне.

● *Но мама его, звать её было Агрипина Кирилловна, была глубоко верующий человек. Она говорила с Богом, вот как мы с Вами разговариваем. Если ей надо было что-то, она поднимала руки: Боже дай мне то, и то, и то. И Бог слышал, отвечал на её молитвы*[19].

● *Ну, отец был такой, во-первых, верующий. А там в деревне, он такой, как Вам сказать? Специальности у него там особой не было, бо у отца, у моего деда было 10 детей. Кто там учил их. Но он был такой расположен к торговле. И он занимался торговлей. Мама там делала творог, сметану, возил в Гродно, продавал. И с этого мы жили там. Так он уже там себе, это и молился, просил Бога, чтоб Бог ему открыл, чем ему заниматься. И видно ему так было предназначено*[20].

Расповеды пра «цуды», якія адбыліся дзякуючы малітвам і веры, з'яўляюцца адным з частых сюжэтаў рэлігійнай памяці. Не менш актуалізаванымі былі і гісторыі пакарання за пераслед вернікаў.

● *«Ты знаешь мойго Володьку?» – «Ну, конечно, знаю». [...] Вот он начал терять зрение. И говорит, где я его только не возил, даже в клинике космонавтов был. И бесполезно. Ещё там где-то попал. И уже вроде бы там […] какого-то специалиста нашёл. И вроде бы начало налаживаться зрение. Потом, говорит, в командировке был. И мне жена пишет, сообщает, телеграмму прислала: с Вовкой опять плохо. […] Ну, что делать? Там был, там был. Ну, что к Богу? Разве Бог... А потом, а какой Бог? А какой Бог? Я же в никакого Бога не верю. Какой Бог? Ну, короче говоря, всё-таки ему лучше стало. Востановилось его зрение, всё. И говорю, вот может быть... Я вот говорю, вот может эта одна мысль, что только к Богу, она возымела это действие, что Ваш мальчик стал хороший, здоровый. И вот […] говорю, не забывайте Бога. Вам, конечно, сейчас Бог не нужен. Вы полковник. Вам все честь отдают. Перед Вами по стойке, ну, строевым шагом проходят, всё. А получатся, вот, такие условия, и всё-таки к Богу. Не надо Вам спорить с Богом*[21].

Што датычыцца адлюстравання савецкага перыяду ў рэлігійнай памяці ЕХБ, то ён уключаны ў агульную гісторыю ганенняў на хрысціянаў.

● *[…] мы должны правильно оценивать историю. То есть, если просто, ну, ругать, вот такой был советский строй. Это не очень верно по-библейски. Даже самый лучший демократический строй […] в себе не несёт Библейскую основу. Бог допустил это здесь для Советского Союза*[22].

Цэнтральнымі сюжэтамі ўспамінаў пра савецкі час былі пераслед вернікаў. Пры гэтым не ўсе рэспандэнты асабіста перажылі ганенні, але праз камунікацыю з рэпрэсаванымі ЕХБ, ці праз расповеды вернікаў, яны ўключылі гэтыя падзеі ў сваю памяць.

● *Чтоб так нас притесняли и преследовали, то не было так. Но отношение было немножно такое настроеное, как-то Вам сказать. А чтоб там притесняли, или там не давали учиться или что, то у меня такого не было. Ну, не знаю, может где-то у других местах*

*что там более притесняли. […] Ну, позже уже, вот, такие времена как настали немножко верующих притесняли, знаете. [...] Это уже в [19]80-х, 70-х годах, в 60-х годах. Вот это к верующим уже было тогда отношение плохое. Презирали их, как говориться, презирали*[23].

● *Ну, и вот их сидит пять человек, и я один. Этот уже поменял тон, полковник. «Значит, наверное, мы будем всё-таки закругляться. Ты, – говорит, – брестских знаешь кого-нибудь?» Я говорю: «Знаю». А уже в Брест сюда подъезджал, уже тут с молодёжью. Кажу: «Конечно, знаю». «Шепетунко ты знаешь?» Я говорю: «Знаю». «Котовича тоже знаешь?» Я говорю: «И Котовича знаю». И добавляю, и говорю: «И Федорчука знаю, и Матвеюка знаю». Был как раз судебный процесс и получили сроки, хто пять, хто три. Вот. И он говорит: «И ты пойдёшь туда же». […] «А знаешь где они?» Я говорю: «Знаю». «И ты пойдёшь туда же». Ну, я сидел, поднялся. Я говорю: «Извините, а за что? За нарушение устава, нарушение правил уличного движения, нарушение эксплуатации машины, или шо? Ну, за что?» – «За тоже». – «За что?» – «За веру в Бога». Прямо так и говорит: «За то, что я не завербован». Ну, я улыбнулся [усміхаецца]. «Чего ты улыбаешься?» – там один из этих. Я говорю: «Я не улыбаюсь. Потому что вы не понимаете внутреннее состояние христианина». А написано в Послании. Апостол Пётр пишет, что кто из вас не пострадал, как посягающий на чужое, как... Ну, там, за всякие, за беззаконие, а если за Христа, за имя Божье, радуйтесь, и веселитесь, ибо велика ваша награда на Небесах. Я говорю: «Вы не понимаете это»*[24].

Такія гістарычныя тэмы як стварэнне Саюза ЕХБ, далучэнне да Саюза пяцідзесятнікаў, выхад часткі вернікаў з Саюза ЕХБ і стварэнне свайго незарэгістраванага незалежнага рэлігійнага цэнтра – Савета цэркваў ЕХБ зафіксаваны ў калектыўнай памяці вельмі павярхоўна. Толькі падзеі 1960-х гг. – узнікненне Савета цэркваў ЕХБ – уключаны ва ўспаміны саміх адэптаў гэтай рэлігійнай арганізацыі. Тут мы сутыкаемся з пераўтварэннем непажаданых гістарычных сюжэтаў у нязначныя, якія можна забыць. Для кожнай групы і кожнага перыяду існуюць свае «табу». У дадзенай сітуацыі да

іх можна аднесці стварэнне Саюза ЕХБ, «уваход» пяцідзесятнікаў у яго, унутрырэлігійныя канфлікты – тое, што было ініцыявана дзяржавай, якой вернікі павінны былі падпарадкавацца. Гэтыя падзеі былі шмат у чым трагічнымі для ЕХБ, але не гераічнымі, каб надоўга зафікасаваць іх у калектыўнай памяці. Сама царква не была зацікаўлена ў актуалізацыі гэтых сюжэтаў.

● *М.А.: А потом, значыць, это после войны, помню, шо нашые ўжэ, тут запрэцілі сабірацца. А мол, як хочыце, ходзіце ў Юркевічы. То нашы*

*В.Ц.: [перабіваючы] А хто запрэціў?*

*М.А.: Ну, власць запрэціла, шо то не зарэгістрыровано було, чы шо, не знаю, чого так.*

*Т.К.: А чаму вы не рэгістрыраваліся?*

*М.А.: Ну, наверно, не разрэшалі, чы шо, я не помню. Да ходзілі нашые в Юркевічы, вот*[25].

Успаміны пра падзеі 1960-х гг. адрозніваюцца ў вернікаў, якія ўваходзілі ў склад нелегальнага Савета цэркваў ЕХБ, і тых, што засталіся ў зарэгістраваных абшчынах Саюза ЕХБ.

● *Ну, он, что, мол, незарегистрированны, что власти баптисты не должы быть подчинённые. […] Вот он придумал. И этот, всё этот Синкевич, он там мудрил, бо он где-то в деревне, где-то возле Скиделя. […] Ну, вобщем, в какой-то деревне он там сначала. А потом уже он в Гродно перешёл. А в Гродно тут всё зарегистрировано, всё. И он был против, что, мол, мы христиане, мы должны быть свободные. Ну, а отец мой с ним не соглашался. Что всякая власть от Бога – написано. И написано, что мы должны подчиняться власти. Вот. Не нарушать никакие там. Так почему мы должны противоречить, когда написано*[26].

● *Я не участвовал в инициативной группе. И не знал какие цели они преследуют. Я знал Илью Яковлевича Синкевича, он был членом общины, когда я приехал в Гродно. Но какую он цель преследовал, я не знаю. Из общины он ушёл в конце 1962 – начале 1963 г. Они [инициативники] ездили в сторону Волковыска. Более конкретно я ничего не могу сказать*[27].

● *Ну, это ж не могли терпеть люди, поэтому инициативниками*

*и назывались. Была создана так называемая инициативная группа по созыву съезда, шоб все... Потому что съезды не проводилися. Просто ставились там... […] Почти у каждом городе были и «за», и «протиу». Ну, а раз такое тут, ну, хочешь, не хочешь. «Ну, я не хочу, как ты, я не хочу воевать с милицией». Ну, не хочешь, то не воюй, что ты. А сказал, что я буду более Богу служить, а не милиции, вот. Поэтому и пошло разделение такое. Мы тоже были, ну, в Совете церквей, наша церковь. А тут было собрание у нас, выступал такой Храпау. […] Он приехал и рассказывал, как там братство живёт. И спросил, или брестская церковь, вот наша церковь, которая не за речкой, которая тут по участкам, согласна сотрудничать с Советом церквей. Уже Совет церквей был. «Да, говори, брат, что церковь с Советом церквей»[28].*

Рэспандэнты з зарэгістраваных абшчын, гаворачы пра г. зв. «ініцыятыўнікаў»[29] выбіралі дзве стратэгіі – няведанне ці тлумачэнне, чаму гэтыя падзеі адбыліся, і чаму ён не ўвайшоў у «ініцыятыўную групу» ці выйшаў з яе. Поўнасцю забыць гэтыя падзеі вернікі не могуць, бо яны адбываліся адносна нядаўна. Але аднаўляць іх у памяці для рэлігійнай супольнасці Царквы ЕХБ няма патрэбы. Выхад вернікаў з афіцыйнага Саюза сведчыў пра парушэнне агульнай цэласнай, пабудаванай на хрысціянскіх прынцыпах гісторыі царквы.

Такім чынам, рэлігійная памяць ЕХБ уплывае на канструяванне ідэнтычнасці вернікаў і стварэнне неразрыўнай жыццёвай гісторыі. Усведамленне сябе часткай царквы напаўняе сэнсам біяграфію ЕХБ. Праз чытанне Бібліі, удзел у службах, евангелізацыю, рэлігійнае выхаванне, традыцыі і абрады рэлігійная памяць падтрымліваецца і паглыбляецца. Можна меркаваць, што рэлігійная памяць ЕХБ самая глыбокая. Тыя падзеі, што апісваюцца ў Бібліі, не проста ўспрымаюцца як гістарычныя факты, а перажываюцца вернікам. На кожнай службе і прычашчэнні адбываецца «мемарыялізацыя» біблійных сюжэтаў. А пасля хрышчэння вернік не проста атаясамлівае сябе з хрысціянамі, але і далучаецца да спадкаемцаў раннехрысціянскай царквы. Адпаведна праз рэлігію ЕХБ не толькі прэзентуюць сваё жыццё, але і тлумачаць шматлікія падзеі.

Пры гэтым для царквы ёсць неактуальныя тэмы і абавязко-

выя сюжэты, на якія звяртае ўвагу кожны рэспандэнт, нават калі ў яго асабістым вопыце яны займаюць другараднае месца, ці зусім не былі перажыты. Так, савецкі перыяд ва ўспамінах вернікаў прадстаўлены тэмамі ганенняў на царкву, стратэгіі захавання сваёй прыналежнасці да ЕХБ, «цудамі» і пакараннямі, пакаяннем няверуючых. Што тычыцца стратэгій захавання, то згодна з веравучэннем ЕХБ, чалавек выратоўваецца праз веру. Менавіта таму частым сюжэтам ва ўспамінах з'яўляецца вырашэнне праблемаў праз зварот да Бога ў малітве.

### *Заўвагі*

1 Хальбвакс М. Социальные рамки памяти. М, 2007. С. 264
2 Транскрыпцыя інтэрв'ю Дзямко Васілія Кузьміча, 1931 г. н. 04.08.2012. Вялікае Малешава, Столінскі р-н // БАГВ. 20(1) – 438 – 1168, #00:00:00-0#
3 Транскрыпцыя інтэрв'ю Цырыбко Юліі Андрэеўны, 1929 г. н. 06.08.2012. Града, Жыткавіцкі р-н // БАВГ. 20(1) – 447 – 1214, #00:38:00-3#
4 Успаміны Несцярэнка Клаўдзіі Міхайлаўны, 1926 г. н., Гродна // Асабістая калекцыя аўтара.
5 Успаміны Мікалая М., 1932 г. н., Брэст // Асабістая калекцыя аўтара.
6 Успаміны Паўла Р., Гродна // Асабістая калекцыя аўтара.
7 Тамсама.
8 Успаміны Віктара З., Брэст // Асабістая калекцыя аўтара.
9 Успаміны Аляксандра Ф. 1936 г. н. Мінск // Асабістая калекцыя аўтара.
10 Успаміны Віктара З., Брэст.
11 Успаміны Несцярэнка Клаўдзіі Міхайлаўны, 1926 г. н., Гродна.
12 Хальбвакс М. Социальные рамки памяти. С. 248
13 Успаміны Мікалая М., 1932 г. н. Брэст.
14 Успаміны Несцярэнка Клаўдзіі Міхайлаўны, 1926 г. н., Гродна.
15 Успаміны Мікалая М., 1932 г. н. Брэст.
16 Успаміны Аляксандра Ф., Мінск.
17 Успаміны Мікалая М., 1932 г. н. Брэст.
18 Успаміны Аляксандра Ш., 1956 г. н., Ваўкавыск, Гродзенская вобл. // Асабістая калекцыя аўтара
19 Успаміны Віталя Х., 1938 г. н., Брэст // Асабістая калекцыя аўтара
20 Успаміны Несцярэнка Клаўдзіі Міхайлаўны, 1926 г. н., Гродна.
21 Успаміны Віктара Х., 1938 г. н. Брэст.

[22] Успаміны Віктара З. 1962 г. н. Брэст.

[23] Успаміны Мікалая М., 1932 г. н. Брэст.

[24] Успаміны Віталя Х., 1938 г. н. Брэст.

[25] Транскрпыцыя інтэрв'ю Ахоценка Мікалая Аляксандравіча, 1928 г. н. 06.08.2012. Града, Жыткавіцкі р-н // БАВГ. 20(1) – 449 – 1219, #01:08:01-1#

[26] Успаміны Несцярэнка Клаўдзіі Міхайлаўны, 1926 г. н., Гродна.

[27] Успаміны Мікалая Т., 1937 г. н. Гродна // Асабістая калекцыя аўтара.

[28] Успаміны Віктара Х., 1938 г. н. Брэст.

[29] Ініцыятыўнікі – група вернікаў, якая летам 1960 г. выступіла з ініцыятывай склікання Усесаюзнага з'езду прадстаўнікоў абшчын ЕХБ. На ім планавалася абмеркаваць прынятыя новы Статут Саюза ЕХБ і Інструктыўны ліст старшым прасвітарам, якія б абмяжоўвалі дзейнасць абшчын. З 1965 г. «ініцыятыўная група» стварыла сваю рэлігійную арганізацыю – Савет цэркваў ЕХБ.

# Голад у БССР 1946–1947 гг.
# ва ўспамінах сведкаў часу

*Ірына Кашталян,*
*мгр (Менск)*

М. М.: Трудны, сынок, быў год […] Рвалі на бярозах шышачкі этые, картошку этую гнілую собіралі, да такія ляпёшкі пяклі да елі. Ногі, во так, во попухнуць [паказвае], і шо есці ж хочацца. […] І помэрла дзяцей багато ў 47-м году. У нас багато памэрло. Я вам зарэ посчытаю сколько это. То это воднэ памэрло, это двое, тры, чатыры – семэра дзецей. Сядзіць, гуляе вопухшы, уродзе бы спаць захочэт, ляжэ ды ўжэ і помрэ[1].

*(З успамінаў сведкі часу)*

Голад у БССР пасля вайны застаецца маладаследаванай тэмай беларускай гісторыі. У манаграфіях, якія прысвечаны перыяду пасляваеннага аднаўлення, гэтае пытанне звычайна не ўздымаецца. Ведаючы пра ўвагу да гэтай праблематыкі ў суседняй Украіне, беларускім навукоўцам варта было б асэнсаваць нашую складовую тэмы ў кантэксце савецкай і сусветнай гісторыі. Комплекснаму разгляду можа паспрыяць аналіз стаўлення простага чалавека, а не толькі чыноўнікаў, якія фармулявалі дадзеную праблему як «наяўнасьць цяжкасцяў у сувязі з засухай і неўраджаем», не згадвалі пра голад, хавалі пра яго інфармацыю. Менавіта таму важна выкарыстоўваць вуснагістарычныя крыніцы. Гэта пацвярджаецца і тым, што значная частка архіўных матэрыялаў па тэме, калі і дайшла да нашых дзён, то з’яўляецца зачыненай[2].

Голад 1946–1947 гг. у Беларусі, выкліканы засухай і неўраджаем, у адрозненне ад РСФСР, Украіны і Малдовы, закрануў пераважна паўднёвыя раёны рэспублікі[3]. Асабліва складанае становішча склалася ў вёсцы, дзе ў 1946 г. вельмі мала калгасаў праводзілі

натуральную і грашовую аплату калгаснікам[4]. Цяжкасць сітуацыі пацвярджаюць звесткі пра выпадкі дыстрафіі, смерцяў ад голаду, выпадкі канібалізму[5]. Падлік галадаючых праводзіць цяжка з прычыны недахопу дакументаў, аднак некаторыя тэндэнцыі можна адзначыць.

Больш за ўсё маецца звестак па Палескай вобласці. Паводле іх, на 1 лютага 1947 г. у рэгіёне было больш 7 тыс. галадаючых сем'яў калгаснікаў, на 22 сакавіка такіх сем'яў налічвалі ўжо больш за 20 тыс. ці да 70 тыс. чал.[6], а на 11 ліпеня ўжо 230 тыс. чал. не мелі хлеба і харчаваліся сурагатамі[7]. Дадзеная геаметрычная прагрэсія паказвае, што такім самым чынам лічбы маглі павялічвацца і па іншых пацярпелых рэгіёнах. Напрыклад, можна ўявіць такую сітуацыю ў Гомельскай вобл., дзе на 4 красавіка налічылі 25 тыс. галадаючых[8]. Трэба мець на ўвазе, што згаданыя дадзеныя хутчэй за ўсё няпоўныя, бо падлік вёўся ў першую чаргу ў пунктах, блізкіх да ўстаноў адказных за іх збор[9].

Можна сцвярджаць, што ў ліпені 1947 г. не менш 300 тыс. чал. пакутавалі ў БССР ад голаду. Дажыць да новага ўраджаю было для іх надзвычай складанай задачай. Колькасць памерлых невядома і патрабуе дадатковага даследавання.

Наступствы неўраджаю 1946 г. маглі быць іншымі, калі б перад дзяржаўнымі органамі ўзнікла задача дапамогі людзям. Аднак выкананне планаў у СССР заўсёды ставілася вышэй за інтарэсы грамадзян. СМІ працягвалі друкаваць лісты Сталіну ад калгаснікаў з абавязацельствам датэрмінова выканаць дзяржаўны план хлебанарыхтовак да 30-й гадавіны Вялікага Кастрычніка. Дзеля геапалітычных інтарэсаў вышэйшае кіраўніцтва СССР, хаваючы цяжкае ўнутранае становішча, адмаўлялася ад міжнароднай дапамогі і нават адпраўляла зерне ў краіны сацыялістычнага лагеру. У рэгіёнах, дзе панаваў голад, працягвалі збіраць на пазыку дзяржаве грошы, якія не вярталіся, што яшчэ больш пагаршала становішча насельніцтва.

Уся дапамога галадаючым у БССР звялася да пазыкі з працэнтамі – ільготнай у 2 цэнтнеры ці звычайнай у 10 цэнтнераў налічэння на кожныя выдадзеныя 100 цэнтнераў пры вяртанні з чарговага ўраджаю. Рэдкім выключэннем была растэрміноўка вяртання на

два гады[10]. Намаганні дзяржавы сабраць хлеб шляхам павялічэння колькасці рэпрэсіўных законаў пры недастатковым надзяленні галадаючых прадуктамі штучна павялічылі колькасць злачынцаў.

У той жа час дзейнасць прадстаўнікоў мясцовых органаў улады знаходзілася пад моцным ўплывам настрояў і чаканняў насельніцтва. Некаторыя з іх стараліся дапамагчы галадаючым нават пад пагрозай рэпрэсій. Так, у некаторых калгасах узімку 1946–1947 г. раздавалі зерне з насеннага фонду як плату за працадні[11].

Псіхалагічныя асаблівасці чалавека былі вызначальнымі пры выбары формы паводзін. Голад дыферэнцыраваў людзей. Той, хто прыстасоўваўся і быў больш мабільным, меў болей шансаў на выжыванне. Хтосьці ўжываў у ежу крапіву і лебяду, аддаваў дзяцей у дзетдом, хтосьці зыходзіў працаваць у горад, хтосьці рабаваў і забіваў за кавалак хлеба. У пошуках прадуктаў людзі накіроўваліся ў тыя рэгіёны СССР, дзе неўраджаю не было[12].

У архіўных дакументах супраціўленне часцей за ўсё адзначаецца ў выказваннях. Улады канстатавалі ў БССР наяўнасць адмоўных палітычных настрояў, звязаных з засухай 1946–1947 гг. Як пазначалася, гэта рабілі асобныя «палітычна адсталыя» людзі, што не верылі ў часовасць і магчымасць пераадолення голаду[13].

У межах Інтэрнэт-праекта «Беларускі архіў вуснай гісторыі» тэме голаду былі прысвечаныя дзве экспедыцыі. Яны адбыліся на поўдні Беларусі, як у найбольш пацярпелым рэгіёне.

Падчас экспедыцый ставіліся наступныя задачы:

– выявіць памяць пра голад і яго асэнсаванне сведкамі;

– прааналізаваць стратэгію паводзінаў людзей дзеля выжывання;

– высвятліць, як траўматычны вопыт паўплываў на далейшыя паводзіны і лёс сведкаў.

Інтэрв'ю збіраліся ў пачатку мая 2013 і 2014 гг. на тэрыторыі Ельскага, Мазырскага, Нараўлянскага, Рэчыцкага і Лоеўскага раёнаў. Гэта тэрыторыі былой Палескай і Гомельскай абл. Было наведана каля 50 населеных пунктаў. Пэўныя складанасці выклікала блізкасць тэрыторыяў да мяжы з Украінай і Чарнобыльскай зоны. Усяго было запісана 138 інтэрв'ю са сведкамі часу 1912–1942 гадоў нараджэння. Сярод рэспандэнтаў дамінавалі старэйшыя за 80 год.

Большасць рэспандэнтаў з'яўляліся беларусамі, якія пражывалі па месцы свайго нараджэння ўсё жыццё ці пераязджалі толькі ў межах раёна. Сабраныя ўспаміны ўжо размешчаныя на партале, дзе можна іх праслухаць, а таксама пазнаёміцца з іх апісаннямі[14]. Гэта стала магчымым дзякуючы працы валанцёраў, якія прынялі актыўны ўдзел у зборы і апрацоўцы матэрыялу.

Асноўнай была напаўадкрытая форма біяграфічнага інтэрв'ю, калі рэспандэнту давалася магчымасць распавесці пра свой жыццёвы шлях і адказаць на ўдакладняючыя пытанні. Толькі пасля гэтага задаваліся тэматычныя пытанні паводле спецыялізаванага апытальніка. Сабраны матэрыял дазваляе прэзентаваць тэму голаду з пункту гледжання вусных сведчанняў непасрэдных сведкаў і ўдзельнікаў падзеі, дапаўняе гістарычную карціну, створаную дасяжнымі архіўнымі дакументамі. Выкарыстоўваючы рэканструктыўны метад аналізу, можна хаця б часткова аднавіць трагедыю голаду.

Усе сведкі пацвярджаюць факт пасляваеннага голаду. Найбольш важнай гэтая тэма была для тых, хто ў той час знаходзіўся ў падлеткавым узросце ці толькі стварыў сям'ю, працаваў у калгасе, пражываў у населеным пункце, моцна пацярпелым ад вайны. Вопыт голаду для іх быў траўматычным, успаміны пра яго часта выклікалі ў рэспандэнтаў моцныя эмоцыі, у першую чаргу, з-за пакутаў блізкіх людзей.

У Гомельскай вобл. былі зафіксаваныя больш страшныя праявы голаду ў параўнанні з тэрыторыяй былой Палескай вобл. Амаль усе сведкі казалі пра смерці ад голаду, як сваіх аднавяскоўцаў, так і перасяленцаў з іншых галадаючых рэгіёнаў СССР. Найбольш пераканаўчым і знакавым стала знаходжанне сведкі, які паказаў магілу бацькі, памерлага ад голаду ў 1947 г.

Усе рэспандэнты дакладна запомнілі дату голаду – 1947 г. Сведкі старэйшага ўзросту рабілі акцэнт на параўнанне двух голадаў, якія перанёс рэгіён – 1932–1933 гг. і 1946–1947 гг. Паводле ўспамінаў, першы быў асабліва страшны, бо ад яго ў некаторых населеных пунктах памерла да паловы насельніцтва. Ратавацца ад яго было цяжэй, бо пасля вайны ўжо з'явілася магчымасць выезду з вёскі. Напрыклад,

па вярбоўцы або ў далучаную ў 1939 г. Заходнюю Беларусь (працаваць, жабраваць, набываць прадукты).

Пасляваенны голад таксама згадваўся як надзвычай цяжкі. Людзі цярпелі ад хваробаў, звязаных з ім, ад недахопу ежы, былі выпадкі смерці. Сведкі шмат распавядалі пра індывідуальныя стратэгіі выжывання ў такіх няпростых умовах. Яны дзяліліся інфармацыяй пра тое, якія стравы былі асноўнымі на стале, дзе і як здабываліся прадукты, якія абавязкі мелі калгаснікі ў адносінах да дзяржавы, і ці дапамагала яна ім.

Рэспандэнты адзначалі недастатковую падтрымку з боку дзяржавы пры вялікіх патрабаваннях па грашовых і прадуктовых пастаўках, нявыплаце заробкаў у калгасе[15]. Менавіта таму больш цанілі людскую дапамогу. Таксама прызнаваліся, што чалавек быў вымушаны абіраць не заўсёды законныя з афіцыйнага пункту гледжання шляхі для выжывання. Напрыклад, прыгадваліся крадзяжы калгаснай маёмасці, а таксама паездкі ў Заходнюю Беларусь, дзе людзі жабравалі або наймаліся на працу ў прыватныя гаспадаркі.

Асабліва цяжка было тым, хто падчас вайны страціў жыллё, свойскую жывёлу, кармільца. Людзі елі вожыкаў, буслоў і іх яйкі, спажывалі ракушкі, рабілі ляпёшкі з гнілой бульбы, адходаў ад дзейнасці мясцовых крухмальных заводаў, пяклі хлеб з канюшыны, верасу і г. д. Усё гэта не магло не паўплываць на стан здароўя. Цікавым аказалася параўнанне ўспамінаў галадаючых жыхароў горада і вёскі. Часта сведкі казалі, што ўзгадваючы той час у параўнанні з цяперашнім яны лічаць, што тады яны не жылі. Голад і нястача самага неабходнага былі падставай для такога меркавання.

Такім чынам, можна адзначыць, што ўспаміны сведак часу істотна дапоўнілі інфармацыю друкаваных і традыцыйных крыніц пра голад 1946–1947 гг. Яны дэманструюць чалавечае вымярэнне гэтай трагедыі, паказваюць, як людзі пераадольвалі яе, спадзеючыся толькі на ўласныя сілы.

Відавочна, што тэма патрабуе дадатковай ўвагі і больш дэталёвага вывучэння даследчыкамі. У бліжэйшыя гады будзе зроблена транскрыбацыя матэрыялаў экспедыцый па дадзенай тэме, што

дасць магчымасць больш глыбокага асэнсавання гэтай трагедыі насельніцтва БССР.

## *Заўвагі*

[1] Відэаінтэрв'ю Мельнік Марыі Міхайлаўны, 1933 г. н., 10.05.2013, в. Мядведнае Ельскага раёна, Гомельскай вобл. // БАВГ. 32(1) – 550 – 1584. 0:39:08 – 0:41:55.

[2] Напрыклад, Пастанова Савета Міністра БССР № 289сс ад 7.4.1947 «Аб аказанні дапамогі насельніцтву, хвораму на аліментарную дыстрафію ў раёнах, найбольш пацярпелых ад нямецкай акупацыі і засухі ў 1946 г.». Дакумент ёсць у пераліку адпаведнай справы Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь (НАРБ. Ф. 7, воп. 3, адз. з. 196), аднак адсутнічае на месцы. Існаванне гэтага дакумента паказвае інфармаванасць кіраўніцтва рэспублікі пра сітуацыю з голадам, хаця, магчыма, не ў поўным маштабе.

[3] Ёсць звесткі пра голад у Віцебскай вобл., дзе на 14 красавіка 1947 г. налічвалі каля 5 тыс. знясіленых і хворых ад голаду (НАРБ. Ф. 4, воп. 29, адз. з. 566. Арк. 155–156).

[4] НАРБ. Ф. 4п, воп. 20, адз. з. 238. Арк. 73; воп. 29, адз. з. 549. Арк. 31–32. Белязо А. Беларуская вёска ў пасляваенныя гады (1945–1950 гг.). Мінск: БДУ, 1974. С. 91.

[5] НАРБ. Ф. 4п, воп. 29, адз. з. 551. Арк. 18.

[6] НАРБ. Ф. 4п, воп. 29, адз. з. 566. Арк. 115–116.

[7] НАРБ. Ф. 4п, воп. 29, адз. з. 551. Арк. 19.

[8] НАРБ. Ф. 4п, воп. 29, адз. з. 566. Арк. 143–145.

[9] НАРБ. Ф. 4п, воп. 29, адз. з. 551. Арк. 19.

[10] Зима В. Голод в России 1946–1947 годов // Отечественная история, 1993, № 1. С. 44.

[11] НАРБ. Ф. 4п, воп. 29, адз. з. 601. Арк. 221.

[12] НАРБ. Ф. 4п, воп. 29, адз. з. 601. Арк. 111–112, адз. з. 602. Арк. 62.

[13] НАРБ. Ф. 4п, воп. 29, адз. з. 598. Арк. 63–68.

[14] Гл.: Беларускі архіў вуснай гісторыі: Ельск, 2013; Гомельшчына, 2014, URL (доступ 14.11.2014): http://www.nashapamiac.org/archive/archivetree.html.

[15] Таксама прыгадвалі, што некаторыя атрымалі дапамогу ЮНРРА.

# Асаблівасці правядзення інтэрв’ю з гарадскімі рэспандэнтамі сярэдняга веку на прыкладзе гісторыі калектыўнага звароту студэнтаў-філосафаў 1981 г.

*Уладзімір Валодзін,*
*мгр (Менск)*

Значны пласт грамадска-палітычнага жыцця Беларусі часоў «адлігі» і «застою» застаецца малавядомым і маладаследаваным. Мова вядзецца пра нізавую, несанкцыянаваную камуністычнай партыяй ды іншымі ўладнымі інстытуцыямі грамадскую і палітычную актыўнасць, як напрыклад, выступы працоўных за свае правы (забастоўкі), барацьба за правы вернікаў (вялася пераважна пратэстантамі), несанкцыянаванае жыллёвае будаўніцтва (болей характэрна для познесталінскіх часоў), разнастайныя нефармальныя гурткі самаадукацыі і творчасці (часта абмяркоўваліся «несавецкія» ідэі і панавала далёкая ад сацрэалізму эстэтыка).

На падобныя з’явы звяртаў увагу ў сваіх публікацыях па гісторыі Беларусі нямецкі даследчык Томас Бон. Некаторыя з падобных з’яваў згадваліся ў публікацыях менскага Архіву найноўшае гісторыі, які спыніў сваё існаванне.

Поруч з іншымі відамі гэтай дзейнасці выразна вылучаецца студэнцкі нонканфармізм. Моладзь, якая яшчэ не да канца засвоіла прынятыя ў грамадстве канвенцыі, часцей за іншых робіць «няслушныя» ўчынкі. Студэнты ж, як найбольш адукаваны пласт моладзі, заўсёды маюць вялікую схільнасць да інтэлектуальных (у т. л. палітычных) «адхіленняў». Хаця ва ўмовах БССР вальнадумства рэдка пераходзіла ў актыўную палітычную дзейнасць, але ў многіх выпадках яно праяўлялася ў рознага кшталту неартадаксальных учынках (напрыклад, напісанні петыцый ці памнажэнні самвыдату). Гэтае вальнадумства складала неад’емную частку пасясталінскай эпохі.

Існуе даволі распаўсюджаны жанр сучаснага фальклору – гарадскія легенды. Нездарма яны называюцца легендамі, а не міфамі. Такія гісторыі не проста «праўдападобныя». Часта ў іх аснове ляжаць рэальныя падзеі. На жаль, айчынныя гісторыкі мала звяртаюць увагу на гэты культурны пласт, дарма што частка гарадскіх легендаў бытуе менавіта ў асяроддзі прафесійных гісторыкаў і прысвечаная ім.

Яшчэ ў час навучання на гістарычным факультэце Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (БДУ) ад адной з выкладчыц падчас семінару разам з іншымі студэнтамі сваёй групы я даведаўся пра «бунт філосафаў» пачатку 1980-х гг. Легенда пра філосафаў з'яўляецца часткай фальклору гісторыкаў з той прычыны, што да 1989 г. асобнага факультэта для першых не існавала, а існавала аддзяленне філасофіі гістарычнага факультэта БДУ.

Пошукі літаратуры па гэтым пытанні амаль нічога не давалі. Адзінай публікацыяй працяглы час заставалася нататка Ігара Бабкова ў даведніку «Дэмакратычная апазыцыя Беларусі: 1956–1991»[1]. Значна пазней я натрапіў на публікацыю дзённіка Міхала Дубянецкага, урывак з якога прысвечаны згаданым падзеям[2].

Натуральным было жаданне звярнуцца да архіўных крыніцаў. Аднак на стадыі падрыхтоўкі даследавання небеспадстаўна здавалася, што архіўныя крыніцы могуць быць ці малакольcaptasнымі і аднабокімі, ці нават недаступнымі (як у выпадку з архівам КДБ). Менавіта таму ў план даследавання было закладзена правядзенне інтэрв'ю з удзельнікамі ці сведкамі падзеяў.

Да пачатку даследавання было вядома, што да гэтых падзеяў меў нейкае дачыненне Алесь Камоцкі, які ў той час вучыўся на філасофскім аддзяленні БДУ. Выхад на іншых рэспандэнтаў адбываўся ад чалавека да чалавека. Другі кантакт (Віктар Ламака) быў атрыманы праз Алеся Камоцкага, трэці (Ірына Нікіціна) – праз Віктара Ламаку і г. д.

З аднаго боку, улічваючы невялікую колькасць удзельнікаў падзеі (некалькі дзясяткаў), значную часавую адлегласць (больш за 30 год), масавую эміграцыю з Беларусі за апошнія 25 год, знайсці ўдзельнікаў-рэспандэнтаў было даволі нялёгка. З іншага боку, вы-

пускнікі філасофскага аддзялення найбольш запатрабаваныя менавіта ў сталіцы. Тут размешчаны Інстытут філасофіі Нацыянальнай Акадэміі Навук, налічваецца найбольшая колькасць універсітэтаў.

У выніку было апытана дзесяць чалавек, у т. л. сем выпускнікоў філасофскага аддзялення БДУ (тры тагачасныя студэнты II курса, адзін – III курса, тры – IV курса), двое выпускнікоў аддзялення гісторыі (на красавік 1981 г. абодва вучыліся на I курсе) і адзін выкладчык. Адно інтэрв'ю было праведзена валанцёркай Настассяй Булак. Сустрэча з адным з рэспандэнтаў прайшла не ў форме інтэрв'ю, а падчас яго выступу на «круглым стале», прысвечаным калектыўнаму звароту 1981 г.

Інтэрв'ю праводзіліся па загадзя складзеным апытальніку, які быў дапрацаваны па выніках першых двух гутарак. Першапачаткова планавалася выкарыстоўваць таксама пашпарт інфарманта (за аснову быў узяты ўзор, распрацаваны Беларускім Архівам вуснай гісторыі), але ў большасці выпадкаў ён заставаўся запоўненым толькі часткова. Прычынамі гэтаму былі як недахоп часу, так і псіхалагічныя складанасці, якія выклікала б паслядоўнае запаўненне пашпарта. Як даследчык, я не прадстаўляў ніякай інстытуцыі, і хаця запэўніваў рэспандэнтаў у тым, што буду захоўваць таямніцу іх асабістага жыцця, але ніякіх гарантый яны не адчувалі. Бачылі мяне яны, як правіла, упершыню ў жыцці. Таму, каб захаваць атмасферу даверу, было вырашана адмовіцца ад паўнавартаснага запаўнення пашпарта інфарманта. Супакойвала мяне як даследчыка тое, што любому з суразмоўцаў у любы дзень можна патэлефанаваць, каб удакладніць тую ці іншую фармальную дэталь. Да таго ж, пашпарт інфарманта выявіўся празмерна доўгім. Рэспандэнты – людзі яшчэ працаздольнага веку, занятыя працай, разнастайнымі сямейнымі і грамадскімі справамі; ім цяжэй знайсці час для інтэрв'ю, таму інтэрв'ю часта атрымліваюцца карацейшымі, чым хацелася б даследчыку. Інтэрв'ю патрабавалі дынамізму, а запаўненне апытальніка ўспрымалася як таптанне на месцы, і ў апошніх інтэрв'ю я задаваў толькі пытанне пра дату нараджэння рэспандэнта (прозвішча, імя ды імя па бацьку мне было вядома загадзя). Некаторыя звесткі з апытальніка

ўдакладняліся ў працэсе інтэрв'ю (напрыклад, звесткі пра бацькоў) ці напрыканцы інтэрв'ю (напрыклад, стаўленне да рэлігіі).

Інтэрв'ю з людзьмі сталага веку звычайна праводзяцца ў рэспандэнта дома. У выпадку з маладзейшымі і больш актыўнымі людзьмі гэта рэдка атрымліваецца. Дадому папросту не запрашаюць, а фраза «я магу пад'ехаць да Вас дадому» або прапускаецца міма вушэй, або на яе даецца адмоўны адказ.

У межах гэтага даследавання толькі 1 рэспандэнт з 10 прыняў мяне дома. Адно інтэрв'ю было праведзенае ў двары на лавачцы, адно – у салоне аўтамабіля, два – у кавярні, тры – на працы ў рэспандэнтаў (двое з іх працуюць на кіруючых пасадах і маюць асобныя кабінеты). Адно інтэрв'ю было праведзенае дома ў даследчыка. Нарэшце, «круглы стол», падчас якога былі запісаны ўспаміны аднаго з удзельнікаў падзеяў, праводзіўся на офісе грамадскай арганізацыі. Большасць пералічаных месцаў аказалася прыдатнай для правядзення інтэрв'ю. На маё здзіўленне, добрымі атрымаліся інтэрв'ю нават на лавачцы ў двары і ў салоне аўтамабіля. Але зусім непрымальнай давялося прызнаць практыку правядзення інтэрв'ю ў кавярнях. Узровень шуму, які не перашкаджаў самой размове, моцна замінаў стварэнню транскрыпту.

Інтэрв'ю планаваліся тэматычнымі, гэта значыць, яны не прадугледжвалі фазы, у якой рэспандэнт распавядаў бы гісторыю свайго жыцця. Але, калі некаторыя суразмоўцы, якія назіралі падзеі з пэўнай адлегласці, толькі больш ці менш разгорнута адказвалі на пытанні, то, напрыклад, Леанід Свярдлоў распавёў цэласную гісторыю, якую я амаль не перарываў пытаннямі (Л. Свярдлоў апынуўся ў эпіцэнтры падзеяў). Розніца з прынятым БАВГ фарматам інтэрв'ю была ў тым, што гэтая гісторыя была не гісторыяй усяго жыцця, а гісторыяй удзелу ў падзеях 1981 г. на філасофскім аддзяленні.

Правядзенне інтэрв'ю суправаджалася ўсталяваннем або ўмацаваннем эмацыйных і дзелавых кантактаў. Даследчык тут выступаў не толькі як слухач, бо знаёмства з архіўнымі дакументамі і гутаркі з іншымі ўдзельнікамі падзеяў стваралі магчымасць напрыканцы размовы або пры наступных сустрэчах дзяліцца сваімі ведамі і меркаваннямі.

Даследчык тут не мог быць бесстароннім назіральнікам. Хаця я тлумачыў суразмоўцам, што імкнуся па магчымасці неперадузята ўзнавіць храналогію і логіку падзеяў, але пры гэтым дазваляў сабе больш ці менш эмацыйныя рэмаркі ў дачыненні некаторых дзейных асобаў гэтай гісторыі.

Найбольш драматычным для мяне стала інтэрв'ю з колішнім прафесарам БДУ, загадчыкам кафедры марксісцка-ленінскай філасофіі гуманітарных факультэтаў Вячаславам Сцёпіным, які з 1987 г. жыве і працуе ў Маскве. Падчас сустрэчы ў Маскве ён адразу сказаў, што не памятае ніякага калектыўнага звароту студэнтаў-філосафаў, але пагадзіўся пагутарыць на іншыя тэмы. На жаль, інтэрв'ю давялося перарваць на 44-й хвіліне, бо ў вядомага філосафа, які працуе адначасова ў Расійскай акадэміі навук і Маскоўскім дзяржаўным універсітэце, вельмі шчыльны працоўны графік. У прыватнасці, не запісанымі засталіся ўспаміны пра стыляг у Менску.

У нашым выпадку немагчыма (або цяжка) атрымаць згоду рэспандэнта на далейшае безумоўнае выкарыстанне ўспамінаў для публікацый са згадваннем ці без згадвання імя. Тым больш размова не вядзецца пра публікацыю інтэрв'ю ў сеціве. Пасля першай няўдалай спробы скласці дамову аб далейшым выкарыстанні інтэрв'ю, больш такія спробы не рабіліся.

Аднак магчыма дамовіцца (гэта атрымалася ва ўсіх выпадках) на выкарыстанне ў публікацыях цытатаў з успамінаў са згадваннем поўнага імя рэспандэнта пры папярэднім узгадненні.

Вядома, такое ўзгадненне прыводзіць да літаратурнага рэдагавання фрагментаў вусных ўспамінаў як з боку публікатара, так і з боку саміх рэспандэнтаў. Гэта часам непазнавальна змяняе вусную мову на кніжную. Тым не менш, у такіх цытатах захоўваюцца як згаданыя ва ўспамінах факты, так і погляды рэспандэнта.

Важнай была камунікацыя па-за інтэрв'ю. Паколькі большасць інтэрв'ю праходзіла не дома ў рэспандэнтаў, то, напрыклад, пошукі фотаздымкаў студэнцкіх часоў праходзілі пазней. Даводзілася дадаткова сустракацца з суразмоўцамі. У двух выпадках рэспандэнты самі адсканавалі здымкі і даслалі па электроннай пошце.

Быў цікавым і змест далейшых гутарак, не запісаных на дык-

тафон. Так, адзін з апытаных мной удзельнікаў падзеяў пры пазнейшай сустрэчы падказаў, што былы сакратар камітэта камсамола гістарычнага факультэта БДУ Пётр Аксючыц, які актыўна ўдзельнічаў у цкаванні аўтараў і падпісантаў калектыўнага звароту, у далейшым зрабіў кар'еру ў КДБ. Палкоўнік Аксючыц дaслужыўся да пасады начальніка Упраўлення КДБ па Берасцейскай вобл., якую займаў з 2000 па 2005 гг. Праславіўся ён як фігурант крымінальных спраў па Берасцейскай мытні, якія вяла Святлана Байкова. Пётр Аксючыц уцёк ад крымінальнага пераследу за мяжу і некалькі гадоў быў у спісе тых, каго расшуквае Інтэрпол[3].

Леанід Свярдлоў падчас некалькіх сустрэч пасля інтэрв'ю перадаў копіі дакументаў з уласнага архіва, вельмі каштоўных для даследавання.

Для лепшага разумення прычын звароту да вуснагістарычных крыніц у межах дадзенага даследавання, варта даць характарыстыку архіўных крыніц па тэме. Праца вялася ў чытальных залах Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь (НАРБ) і Дзяржаўнага архіва Менскай вобласці (ДАМВ). Знойдзеныя архіўныя крыніцы належаць да фондаў былых партыйных архіваў. Паколькі ў 1981 г. амаль усе студэнты пагалоўна належалі да камсамола, то дакументы аб камсамольскіх спагнаннях засталіся ў фондах камсамольскіх арганізацый (пратаколы паседжанняў бюро). Аналагічна, захаваліся дакументы аб партыйных спагнаннях з тых студэнтаў, якія былі сябрамі КПСС. Захаваліся пратаколы камсамольскіх і партыйных сходаў, на якіх шальмавалася ініцыятыва студэнтаў у цэлым і канкрэтныя студэнты ў прыватнасці.

Даследаванне выявіла прамыя маніпуляцыі з пісьмовымі крыніцамі з боку камсамольскіх і партыйных функцыянераў. Нават калі пакінуць у баку прамое фальшаванне папяровых крыніц з боку іх стваральнікаў, трэба адзначыць, што амаль усе архіўныя дакументы па дадзенай тэме былі створаныя кіраўнікамі і для кіраўнікоў. Яны адлюстроўваюць пункт гледжання адміністрацыі і кіраўніцтва. Пункт гледжання студэнтаў тут калі і прадстаўлены, то ў моцна скрыўленым выглядзе, у небесстаронніх пераказах. Прыемным выняткам тут з'яўляецца пратакол камсамольскага сходу IV курса ад-

дзялення філасофіі ад 14 траўня 1981 г.[4], які пісалі самі студэнты, прычым тыя з іх, хто не паддаўся запалохванню з боку партыйнага, камсамольскага і факультэцкага начальства. У выніку ў дакуменце дастаткова поўна адлюстраваны пазіцыі ўсіх, хто прымаў удзел у сходзе – студэнтаў, выкладчыкаў, камсамольскіх функцыянераў.

Такім чынам, неабходнасць атрымаць аднекуль (не з дзяржаўных архіваў) крыніцы «нізавога» паходжання відавочная. Гэта і дазволіў зрабіць вуснагістарычны падыход. Як было не раз паказана на іншым матэрыяле найноўшай гісторыі, *«на самай справе вусная спадчына [...] бліжэй да першакрыніцы»*[5].

Спынюся на тым, што атрымалася даведацца з вуснагістарычных і архіўных крыніц.

Гісторыя пачалася ў красавіку 1981 г. Узгадвае Віктар Ламака, тады студэнт II курса: *«Аднойчы Анатоль Агапеевіч Круглоў вёў семінар па навуковым атэізме, і я ў яго нешта спытаў. Але замест адказу пачуў: «Ламака, ты дурак или притворяешься?» Мы выйшлі на калідор на перапынак. І нашы дзяўчаты пачалі абурацца: «Што гэта ён сабе дазваляе?!» Ну, і пайшло, сталі ўзгадваць хто з выкладчыкаў мае якія хібы»*[6].

Так, неўзабаве ўтварылася група па напісанні калектыўнага звароту, у якім збіраліся пералічыць усе крыўды і пажаданні студэнтаў. Да складання ліста далучыліся муж Іны Войцкай, студэнт IV курса Валеры Залатар ды яго сябры. Узгадвае колішняя студэнтка II курса Ірына Нікіціна: *«Подготовительные мероприятия проходили в Крыжовке, там, где жили Валера и Инна. Там была я, была моя однокурсница Галя Квасинович. И однокурсники Золотаря, я точно помню – это Косич и Шихутин. В сущности письмо было невинным»*[7].

Што ж за патрабаванні выказалі студэнты? На жаль, тэкст калектыўнага звароту страчаны, таму поўны спіс патрабаванняў немагчыма аднавіць. Архіўныя дакументы (пратаколы партыйных і камсамольскіх сходаў) адназначна кажуць пра два галоўныя патрабаванні студэнтаў: вольнае наведванне заняткаў і стварэнне камітэта студэнцкага кантролю за навучальным працэсам[8]. Але агульная колькасць пунктаў набліжалася да тузіна.

Мае суразмоўцы прыгадалі, што некаторых асабліва бяздарных выкладчыкаў або сталіністаў-прафесараў (напрыклад, Аляксандра Кляўчэню) студэнты прасілі замяніць на іншых. Прасілі развесці ў часе спецкурсы на спецыялізацыях «філасофія» і «сацыялогія», каб з'явілася магчымасць наведваць дадаткова спецкурс не свайго профілю, бо такія выкладчыкі як Вячаслаў Сцёпін і Мікалай Крукоўскі чыталі вельмі цікавыя лекцыі. Таксама былі прапановы скараціць колькасць гадзін па гісторыі КПСС і павялічыць па філасофскіх дысцыплінах. Турбавалі студэнтаў філасофіі і пабытавыя праблемы. У прыватнасці, некаторыя заняткі праходзілі ў аўдыторыі пад спартовай залай, і шум не даваў сканцэнтравацца; нязручным быў графік заняткаў у другую змену.

Пад распрацаваным дакументам былі сабраныя подпісы на II, III і IV курсах філасофскага аддзялення. Подпісы збіраліся пас-



*На аддзяленні філасофіі БДУ ідзе абмеркаванне твора Л. Брэжнева «Малая зямля». Выступае дацэнт Уладзімір Беркаў. Канец 1970-х - пачатак 1980-х гг.*



*Студэнты філасофскага аддзялення БДУ адпачываюць пасля працы ў будаўнічым атрадзе імя Францішка Скарыны. 1979 год, вёска Сціклева, Мінскі раён.*

ля арганізаваных самімі студэнтамі пазачарговых камсамольскіх сходаў. Узгадвае тагачасны чацверакурснік Леанід Свярдлоў: «*Я зашёл в аудиторию. Сидит народ. Говорят, собрание. И, по-моему, Витя Шихутин говорит, что вот тут студенты-второкурсники, предлагают такое дело. Прочитал. Я тогда впервые увидел текст этого «Обращения...». Я подписал, передал дальше. Люди подписывали, особо не заморачиваясь, поскольку не видели в этом никакой крамолы*»[9].

Гэты сход на IV курсе прайшоў 18 красавіка 1981 г. Дата захавалася ў дзённіку тагачаснага камсорга курса Таццяны Буйко, якая склікала сход па просьбе аўтараў дакумента[10]. Аналагічны сход на II курсе прайшоў раней (13 красавіка)[11], на III курсе – пазней.

Натуральна, пра збор подпісаў стала вядома ў дэканаце, у партыйных органах і ў КДБ. Але ніхто рэагаваць не спяшаўся. Набліжаўся Дзень філосафа. Карныя органы чакалі, што студэнты адколюць нешта такое, за што іх можна будзе ўзорна пакараць, а заадно і зварот узгадаць.

У 1981 г. Дзень філосафа адзначалі 23 красавіка. Усё філасофскае

аддзяленне вучылася ў другую змену, таму адкрыццё было запланавана на раніцу. Дзень адзначаўся «капуснікам», а таксама сцяной «студакратыі». На пятым паверсе галоўнага корпуса БДУ, дзе быў дэканат гістарычнага факультэта, вывешваліся вялізныя аркушы паперы, на якіх кожны студэнт тэарэтычна мог напісаць тое, што хацеў.

Узгадвае Ірына Нікіціна: «*Я помню, что это был тот год, когда в первый раз перевели на летнее время. И шутили тогда, что «по приказу партии солнце взошло на час раньше*». У той дзень здарыўся галалёд, многія студэнты не даехалі ў час, і пастаноўка сарвалася. Найбольш рызыкоўныя жарты не прагучалі.

Але затое на кафедры марксісцка-ленінскай філасофіі гуманітарных факультэтаў зніклі журналы наведвання. Адначасова ў галоўным корпусе нехта зняў расклад заняткаў філасофскага аддзялення. І ўся група ІІ курса філасофскага аддзялення не прыйшла на заняткі. Пачалі шукаць вінаватага і абвінавацілі ва ўсім вядомага жартаўніка студэнта ІІ курса Аляксандра Жаўняровіча.

6 траўня 1981 г. на пасяджэнні камітэта камсамола гістарычнага факультэта Аляксандра Жаўняровіча выключылі з камсамола за тое, што нібыта ён зняў расклад заняткаў філасофскага аддзялення і скраў журналы ўліку наведвання.

Потым яго пад пагрозай выключэння з універсітэта прымусілі напісаць дакладную на студэнта IV курса аддзялення філасофіі Леаніда Свярдлова, нібыта журналы і расклад заняткаў яны схавалі разам. За гэта выключэнне з камсамола Жаўняровічу замянілі на строгую вымову з занясеннем ва ўліковую картку. Да дакладной Жаўняровіча далучылі яшчэ пару дакладных на Свярдлова аўтарства іншых студэнтаў[12], і 13 траўня пастанавілі выключыць Свярдлова з камсамола.

Пратакол камсамольскага паседжання на гістарычным факультэце ад 6 траўня ў далейшым знікне з архіва камсамола БДУ (замест яго ўзнікне іншы пратакол ад 13 траўня, пад тым самым нумарам – 14)[13], але выпіска з яго застанецца неабачліва пакінутай у іншай справе[14].

Узгадалі і калектыўны зварот, тэкст якога студэнты перадалі надзейнай выкладчыцы. За ўдзел у яго складанні з камсамо-

ла выключылі студэнтку II курса Іну Войцкую, некалькім іншым другакурснікам далі строгія вымовы з занясеннем ва ўліковую картку[15]. Па аддзяленні філасофіі прайшоў шэраг камсамольскіх і партыйных сходаў з шальмаваннем як самой ідэі пісаць звароты, так і канкрэтных патрабаванняў студэнтаў. З многімі студэнтамі праводзілі індывідуальныя гутаркі камсамольскія кіраўнікі, выкладчыкі, прадстаўнікі дэканата і нават «людзі з органаў». Некаторых спрабавалі запалохаць з дапамогай бацькоў.

Выключэнне з камсамола аўтаматычна цягнула за сабой выключэнне з універсітэта. Таму лагічна, што як Леанід Свярдлоў, так і Іна Войцкая паспрабавалі яго абскардзіць. Сітуацыя Войцкай была абцяжарана шматлікімі прагуламі заняткаў і акадэмічнай запазычанасцю[16], а вось Л. Свярдлоў быў выдатнікам. Яго падтрымалі аднагрупнікі. Студэнт дамогся (на ўзроўні ЦК ЛКСМБ!) замены выключэння на «строгую вымову з занясеннем ва ўліковую картку члена УЛКСМ»[17] і здолеў скончыць універсітэт.

Былі выключаны з універсітэта яшчэ двое студэнтаў – другакурснік Алег Малашчук і чацверакурснік Валеры Залатар. Малашчук быў выкліканы ў КДБ. Невядома, пра што з ім там размаўлялі, але пасля гутаркі ён сам пайшоў у ваенкамат. Яго ўсё адно выключылі ўжо «задняй датай». Валерый Залатар спрабаваў перавесціся на завочнае аддзяленне, і яго нібыта перавялі, але затым адразу выключылі.

Большасць з тых, хто падпісаў ліст, была шчырымі камсамольцамі. Чым жа тлумачыцца такая рэакцыя? Успамінае Уладзімір Казлоўскі, у той час студэнт I курса аддзялення гісторыі:

«*О тех событиях говорили очень мало. Слышал, что рассматривали дело на заседании комитета комсомола по поводу какого-то письма. Написали письмо в поддержку «Солидарности». Это письмо через какого-то польского студента пытались переслать, а оно оказалось в руках КГБ. И начались преследования. Вот то, что я слышал...*»[18]

Нагадаю, гэта быў 1981 г. У Польшчы прафсаюз «Салідарнасць» і незалежныя студэнцкія саюзы дзейнічалі паўлегальна. КДБ вельмі нервова рэагаваў на любыя звесткі пра падобныя настроі ўнутры СССР. А тэкст звароту студэнты схавалі…

КДБ ужо назіраў раней за Валерыем Залатаром. Яго выклікалі ў аддзел кадраў для тлумачэнняў пра «сумнеўныя сувязі». «*Я всегда был антикоммунистом, антисоветчиком. Мы с Инной слушали западные «голоса», мы знали о Солженицыне, о Сахарове.* [...] *С моей стороны было предложение, существенно углублявшее содержание обращения. Говорю: «Инна, напиши, что мы создадим Комитет студенческого контроля – студенческую группу для наблюдения за учебным процессом с целью минимизировать вмешательство официальной идеологии в обучение*», – узгадваў Валерый Залатар[19].

Паколькі ў Польшчы ў гэты час быў папулярны лозунг «Не падпальвайце камітэты – стварайце камітэты!», патрабаванне студэнтаў стварыць камітэт магло ўспрымацца начальствам як рэвалюцыйнае.

Трагічным быў лёс Алега Малашчука. Узгадвала Ірына Нікіціна: «*Он совершенно не был приспособлен для армии. Такой мальчик из интеллигентской семьи, рафинированный, с чувством юмора. И, наверное, ему было очень тяжело*». Здарылася так, што 22 сакавіка 1982 г. Алег Малашчук быў асуджаны ваенным трыбуналам вайсковай часткі 55454 за «воінскае злачынства, прадугледжанае артыкулам 235а Крымінальнага кодэкса БССР». «*У него была неудачная попытка дезертировать, его словили в Москве и возвратили уже в дисциплинарный батальон в Масюковщине. Когда он сидел в дисбате, мы с Инной неоднократно приезжали к нему, привозили сигареты и всё остальное*», – дапоўніў Валерый Залатар.

Пасля дэмабілізацыі Алег уладкаваўся на Берасцейскі дывановы камбінат, атрымаў там станоўчую характарыстыку. Улетку 1984 г. ён паспрабаваў узнавіцца на філасофскім аддзяленні. Аднак дэкан гістарычнага факультэта Іраіда Царук, а потым прарэктар БДУ Яўген Пятраеў адмовілі хлопцу. Некалькі дзён ён думаў. А потым запрасіў сваіх сяброў прыйсці 26 ліпеня ў 16 гадзін на плошчу Леніна да галоўнага корпуса БДУ.

Сябры не змаглі прыехаць. І гэта зберагло ім нервы і, магчыма, гады жыцця. 26 ліпеня 1984 г. каля 16 гадзін Алег Малашчук выкінуўся з акна 6 паверха галоўнага корпуса БДУ. Гэтае самагубства амаль ніхто не заўважыў. Былыя аднакурснікі Малашчука ўжо

скончылі ўніверсітэт, студэнты былі на вакацыях, выкладчыкі – у адпачынках. Рэктарат пастараўся не надаваць справе розгаласу. Бацькі Алега патрабавалі завесці крымінальную справу па факту яго смерці, але ім было адмоўлена. Праверка, праведзеная пракуратурай Маскоўскага раёна, паказала, што, маўляў, ніхто яго да самагубства не даводзіў[20].

Калектыўны зварот студэнтаў-філосафаў не дасягнуў непасрэдных мэтаў. Аніводнае патрабаванне студэнтаў не было выкананае. Нават побытавыя патрабаванні былі пакінутыя без увагі. Але лічыць яго марным не выпадае. Многія студэнты атрымалі досвед адстойвання сваёй грамадзянскай пазіцыі, а таксама групавой салідарнасці. Дзякуючы групавой салідарнасці не быў выключаны з універсітэта Леанід Свярдлоў. Студэнты добра зразумелі наколькі дэмакратычнай і народнай з'яўляецца дзяржаўная ўлада і партыйная сістэма ў СССР. Усё гэта моцна паўплывала на іх далейшае станаўленне як асобаў і суб'ектаў грамадскага жыцця.

## *Заўвагі*

1 Бабкоў І. Ліст студэнтаў-філёзафаў за акадэмічныя свабоды // Дэмакратычная апазыцыя Беларусі: 1956–1991. Пэрсанажы і кантэкст. Менск, 1999. С. 122–123.

2 Дубянецкі М. «Трэба рызыкаваць». Дзёньнікавыя запісы 1985–1988 гадоў // Дзеяслоў. № 37 (6'08). С. 227–228.

3 Падрабязней пра крымінальныя справы і Пятра Аксючыца ў дачыненні да іх гл.:
Федорович В. ТОП-7 белорусов, сбежавших от КГБ [Электронны рэсурс] // Naviny.by. Белорусские новости. Минск, 17.03.2011, 10:16. Рэжым доступу: http://naviny.by/pda/material/?type=articles&id=172857. Дата апошняга доступу: 11.09.2014.
Федорович, Виктор. От громких коррупционных дел осталось только эхо [Электронны рэсурс] // Naviny.by. Белорусские новости. Минск, 17.11.2011, 14:19. Рэжым доступу: http://naviny.by/rubrics/society/2011/11/17/ic_articles_116_175862/. Дата апошняга доступу: 11.09.2014.

4 Дакумент існуе ў двух асобніках. У НАРБ захоўваецца рукапіс арыгіналу, але з-за абрэзаных аркушаў у ім страчаныя некаторыя фрагменты тэк-

сту. У ДАМВ захоўваецца рукапісная копія, зробленая з некаторымі скарачэннямі і невялікімі зменамі. Па ёй можна ўзнавіць тэкст страчаных у арыгінале месцаў.
НАРБ. Ф. 205, воп. 18, адз. з. 318. Арк. 77–100.
ДАМВ. Ф. 174п, воп. 22, адз. з. 57. Арк. 57–30 (у справе адваротная нумарацыя аркушаў).

[5] Гл.: Прынз Г. Вусная гісторыя // Беларускі гістарычны агляд. Том 7. Сшытак 2 (13). Снежань 2000. С. 440.

[6] Інтэрв'ю з Віктарам Мікалаевічам Ламакам, 1956 г. н. 30 сакавіка 2013 г.

[7] Інтэрв'ю з Ірынай Юр'еўнай Нікіцінай, 1961 г. н. 5 снежня 2013 г.

[8] НАРБ. Ф. 205, воп. 16, адз.з. 832. Арк. 64; Ф. 205, воп. 18, адз. з. 312. Арк. 9.

[9] Інтэрв'ю з Леанідам Юльевічам Свярдловым, 1960 г. н. 6 чэрвеня 2013 г.

[10] Інтэрв'ю з Таццянай Мікалаеўнай Буйко, 1959 г. н., 19 верасня 2013 г.

[11] НАРБ. Ф. 205, воп. 18, адз.з. 317. Арк. 63.

[12] НАРБ. Ф. 205, воп. 18, адз.з. 318. Арк. 73-76. ДАМВ. Ф. 174п, воп. 22, адз. з. 57. Арк. 71–66 (у справе адваротная нумарацыя аркушаў).

[13] НАРБ. Ф. 205, воп. 18, адз.з. 325. Арк. 52–54.

[14] НАРБ. Ф. 205, воп. 18, адз.з. 317. Арк. 132.

[15] НАРБ. Ф. 205, воп. 18, адз.з. 315. Арк. 171–173.

[16] ДАМВ. Ф. 527п, воп. 2, адз.з. 230.

[17] ДАМВ. Ф. 174п, воп. 22, адз.з. 57. Арк. 87.

[18] Інтэрв'ю з Уладзімірам Пятровічам Казлоўскім, 1963 г. н. 7 чэрвеня 2013 г.

[19] Выступ Валерыя Станіслававіча Залатара на круглым стале «Калектыўны зварот студэнтаў-філосафаў 1981 г.: значэнне для сённяшняй Беларусі» (29 лістапада 2013 г., Менск).

[20] Ст. пом. прокурора Московского района г. Минска М. М. Пролесковская. Постановление об отказе в возбуждении уголовного дела. 2 августа 1984 г. Копия // Асабісты архіў Леаніда Свярдлова, Менск.

# Дыскусія
# «Вусная гісторыя ў Беларусі: перспектывы міждысцыплінарнага ўзаемадзеяння»

Удзельнікі:
*Таццяна Вадалажская*, кандыдат сацыялагічных навук, каардынатар адукацыйнай праграмы «Лятучы ўніверсітэт» (мадэратар).
*Вольга Іванова*, кандыдат гістарычных навук, архівазнаўца.
*Ірына Кашталян*, каардынатар праекту «Беларускі архіў вуснай гісторыі».
*Аляксей Ластоўскі*, кандыдат сацыялагічных навук.
*Ірына Махоўская*, кандыдат гістарычных навук, антраполаг, этнограф.
*Аляксандр Смалянчук*, доктар гістарычных навук, навуковы кіраўнік праекту «Беларускі архіў вуснай гісторыі».

*<u>Таццяна Вадалажская</u>: Ад уласна гісторыі мы звяртаемся да вуснай гісторыі як метаду, што адкрывае дадатковыя магчымасці, але і стварае пэўныя праблемы, якія могуць вырашацца ў кантэксце міждысцыплінарнага ўзаемадзеяння. Пытанне аб актуальнасці і важнасці вуснай гісторыі, у т. л. і ў міждысцыплінарным аспекце, можна лічыць вырашаным, улічваючы тое, як шмат зроблена сёння для яе развіцця ў Беларусі. Можна сцвярджаць, што вусная гісторыя заняла пэўнае месца ў беларускай гістарыяграфіі.*

*Менавіта таму хачу пачаць размову з пытання да гісторыкаў, якія працуюць у яе рэчышчы. Што для вас стварае найбольшыя праблемы? Усё ж вусная гісторыя – гэта інтэрв'ю і гэта абсалютна іншая крыніца па самім прынцыпу стварэння. Ці не нараджае пэўны канфлікт спроба «ўцягнуць» яе ў гістарычнае даследаванне, суаднесці з традыцыйнымі метадамі і традыцыйнымі падыходамі?*

Алесь Смалянчук: Калі напрыканцы мінулага стагоддзя я ўпершыню сутыкнуўся з вуснай гісторыяй, для мяне гэта быў сапраўдны выклік. Як для выхаванца традыцыйнай гістарычнай школы з яе неапазітывісцкай ідэалогіяй і гларыфікацыяй пісьмовых архіўных крыніцаў, якія можна праверыць і верыфікаваць, вусная гісторыя нечакана адкрывала цалкам іншыя далягляды гістарычнага даследавання. Спачатку вусныя ўспаміны, якія запісваліся падчас інтэрв'ю, успрымаліся як пэўны экзатычны вопыт. Відавочна, што рэспандэнты ў залежнасці ад сітуацыі, кантэксту, настрою і г. д. маглі падаваць розную інфармацыю, верыфікаваць, якую даволі складана. Гэта сёння я разумею, што не існуе гістарычных крыніцаў, пра якія можна казаць, што яны цалкам аб'ектыўныя. Кожная крыніца ствараецца чалавекам, і даследчык ніколі не здолее да канца зразумець матывы, якія меў аўтар таго ці іншага дакумента. Амаль ніколі гэтыя аўтары не кіраваліся прынцыпам аб'ектыўнасці. А, калі нехта раптам і імкнуўся да аб'ектыўнага адлюстравання рэчаіснасці, то ягоныя магчымасці былі моцна абмежаваныя.

Сёння гэты выклік ужо не хвалюе мяне так моцна, як калісьці. Успаміны людзей пры ўсіх асаблівасцях памяці таксама маюць права на існаванне, а рэспандэнтаў, успаміны якіх запісваюцца, трэба прызнаць кампетэнтнымі ў галіне гісторыі і імкнуцца ўлічваць іх сведчанні ў даследаваннях.

Тут ідзе гаворка не пра гістарычны факт, а пра ацэнкі, адносіны, стаўленне людзей да тых ці іншых падзеяў. У пэўным кантэксце нейкія жыццёвыя гісторыі раптам набываюць значэнне, якое дапамагае зразумець мінулае. Не думаю, напрыклад, што ўсе тыя, хто распавядаў нам пра жонак савецкіх афіцэраў, якія ў кастрычніку 1939 г. у крамах Гародні набывалі начныя кашулі, а потым гулялі ў іх па гораду, сапраўды гэта бачылі. Гэта міф. Ці гісторыя 13-гадовага гарадзенскага хлопчыка Тадэвуша Ясінскага... Здаецца, толькі адна Гражына Ліпінская напісала пра хлопчыка, які 21 верасня ўдзельнічаў у абароне горада. Чырвонаармейцы яго нібыта злавілі, прывязалі да танка і пайшлі ў бой. Але Гародня сёння для шмат каго з нашых польскіх калегаў ужо існуе як месца памяці Тадзіка Ясінскага. Гэтая памяць мусіць быць прадметам аналізу, у т. л. гістарычнага.

У маіх даследаваннях звязаных з Раманам Скірмунтам вусная гісторыя дала ўнікальную магчымасць наблізіцца да разумення асобы. Гэта адбывалася праз размовы з людзьмі ў палескай вёсцы Парэчча пра жыццё маёнтка ў міжваенны час. Падчас гэтых інтэрв'ю з'явілася перакананне, што кожны гісторык, які займаецца XX стагоддзем, а можа нават і XIX-м, павінен таксама займацца вуснай гісторыяй. У свой час у мяне атрымалася запісаць успаміны нават пра паўстанне 1863 года ў вёсцы Новы Двор Свіслацкага раёну на Гарадзеншчыне... Памяць пра гэта яшчэ жыве.

Акрамя таго, для мяне вусная гісторыя – гэта спроба адыйсці ад пэўных ідэалагізаваных гістарычных схем (як нацыянальных, так і дзяржаўніцкіх) і ўбачыць мінулае з пазіцыі шэраговых сведкаў гісторыі.

Ірына Кашталян: Мне здаецца, што не так істотна, ці гісторык займаецца XVI стагоддзем ці XX-м. Калі ён хоча прафесійна займацца гісторыяй, то павінен прайсці курс вуснай гісторыі, зразумець, што гэта за метад, паспрабаваць наблізіцца да мінуўшчыны праз сведкаў падзей.

Зразумела, што ёсць розныя меркаванні. Некаторыя сцвярджаюць, што гісторыя пачынаецца там, дзе памяць заканчваецца, што гісторыя – гэта факты, а памяць – аб'ект маніпуляцыі і г. д. Для мяне гэты выклік паўстаў у першую чаргу пры падрыхтоўцы дысертацыі, хаця пачалі мы займацца вуснай гісторыяй разам са спадарыняй Нінай Стужынскай напрыканцы 1990-х гг. (праект «Гісторыя, якой няма ў падручніках»). Сапраўды, хацелася ведаць больш, а крыніц не хапала.

Зараз гісторыкі зноў сустракаюцца з забароненымі тэмамі, з недаступнасцю матэрыялаў некаторых архіваў. Адпаведна расце каштоўнасць успамінаў сведкаў, іх адказаў на пытанні.

У сувязі з гэтым перад беларускімі гісторыкамі і гістарычнай навукай узнікаюць праблемы верыфікацыі, а таксама працаёмістасці вуснагістарычных даследаванняў. Спачатку крыніца ствараецца, потым апрацоўваецца і толькі пасля гэтага яна становіцца аб'ектам рэфлексіі. Паралельна напрацоўваецца базіс са звычайных архіўных

дакументаў. Менавіта таму гэтае даследаванне патрабуе значна больш працы і ведаў.

З іншага боку, праблема беларускай гістарычнай навукі ў тым, што большая частка гісторыкаў карыстаецца старымі метадамі. Ім цяжка зразумець міждысцыплінарнасць гэтага накірунку, прыняць метады даследавання іншых навук. Пакуль гэты накірунак не стаў абавязковым для вывучэння ў вышэйшых навучальных установах гістарычнага профілю, і калі адбудзецца гэты пералом прагназаваць складана. Таксама адсутнічае дыскусія паміж г. зв. «традыцыйнымі» і «вуснымі» гісторыкамі.

Аляксей Ластоўскі: Трэба адзначыць, што лёс вуснай гісторыі складваецца няпроста не толькі ў Беларусі. Праблема больш сур'ёзная. Калі ўзяць, напрыклад Германію, дзе традыцыі вуснай гісторыі значна больш глыбокія, то ўбачым, што і там існуе жорсткае непрыняцце вуснай гісторыі і таксама адсутнічае дыскусія паміж «традыцыйнымі» і «вуснымі» гісторыкамі.

Ірына Кашталян: Мне здаецца, што гэтая праблема больш характэрна для постсавецкай прасторы, для былых сацыялістычных краінаў. У Германіі назіраецца ўсё ж значна большая адкрытасць да метаду вуснай гісторыі. Хаця пэўны скептыцызм акадэмічных гісторыкаў прысутны і там.

*Таццяна Вадалажская: Сцвярджэнне суб'ектыўнасці кожнага дакумента нешта змяняе ў стаўленні да традыцыйных пісьмовых дакументаў? Наколькі яно ўплывае на сітуацыю?*

Аляксандр Смалянчук: На маю думку, яно можа істотна змяніць падыход гісторыка да аналізу дакумента. Прывяду прыклад са зборнікам дакументаў пад назвай «Польское национальное движение в Белоруссии (последняя треть XIX века)», які быў падрыхтаваны да друку прафесарам з Гародні Валерыем Чарапіцам у 1996 г. Калі не памыляюся, у зборніку быў апублікаваны 101 дакумент. Прычым, 99 дакументаў паходзілі з расійскіх дзяржаўных

устаноў, адпаведна іх аўтарамі былі расійскія чыноўнікі, і толькі два дакументы належалі сябрам польскіх арганізацый. Дык вось, гэтыя 99 дакументаў сцвярджалі, што палякі ў 1880-я гг. рыхтавалі яшчэ адно паўстанне ў Беларусі і Літве. В. Чарапіца і напісаў пра гэта ў сваёй прадмове. На самой справе, пасля разгрому паўстання 1863–1864 гг. не існавала аніякіх падставаў нават для думкі пра магчымае антырасійскае паўстанне. Гарадзенскі прафесар ці то трапіў пад уплыў афіцыйных дакументаў, ці то вырашыў заняцца фальсіфікацыяй гісторыі з дапамогай архіўных крыніцаў.

У гэтай сітуацыі даследчыку варта было паставіць пытанне аб тым, чым кіраваліся расійскія чыноўнікі, паведамляючы ў Пецярбург пра «інтрыгі палякаў у Паўночна-Заходнім краі»? Верагодны адказ – імкненне пераканаць «цэнтр» у неабходнасці лепшага фінансавання ўласнай дзейнасці. І тут з'яўляецца вельмі цікавы даследчыцкі сюжэт пра менталітэт тагачасных расійскіх чыноўнікаў. Але там, дзе сапраўднае даследаванне магло распачацца, В. Чарапіца паставіў кропку.

Не існуе аб'ектыўнай гістарычнай праўды, і варта казаць пра розныя «гістарычныя праўды», пра розныя інтэрпрэтацыі. Задача гісторыка – ведаць пра іх, параўноўваць, аналізаваць.

Даследчыку, які займаецца вуснай гісторыяй, таксама трэба помніць пра тое, што крыніца, якая, напрыклад, распавядае пра падзеі восені 1939 г., ствараецца сёння, і гісторык прымае ў гэтым непасрэдны ўдзел. Тут няма дробязей. Важна, як сфармулявана пытанне, як паводзіць сябе інтэрв'юэр ды інш. Тут відавочны суб'ектывізм вусных успамінаў як гістарычнай крыніцы. Але, яшчэ раз адзначу, што і пры стварэнні пісьмовага дакумента падчас самой гістарычнай падзеі ягоны аўтар звычайна не імкнуўся да аб'ектыўнай ацэнкі таго, што адбывалася на яго вачах і часта з ягоным удзелам.

Ірына Кашталян: Праблему можна таксама праілюстраваць на прыкладзе тэмы «Голад у БССР у пасляваенны час». Архіўныя дакументы ўтрымліваюць шмат заяваў з просьбай вызваліць ад падаткаў, улічваючы цяжкія матэрыяльныя ўмовы. Але, ці можна гэтыя заявы лічыцца сведчаннем голаду? Магчыма, такім чынам

заявіцелі імкнуліся толькі вызваліцца ад падаткаў. Наогул, факты голаду пацвярджаюцца збольшага дадзенымі вуснай гісторыі, а вось у афіцыйным дыскурсе праблема адсутнічае.

Калі казаць пра стварэнне вуснагістарычнай крыніцы, то тут павінна вытрымлівацца (у праекце «Беларускі архіў вуснай гісторыі» вытрымліваецца!) методыка збору інтэрв'ю, павінны ствараццa суправаджальныя дакументы, якія даюць магчымасць аналізу інтэрв'ю тымі асобамі, якія не ўдзельнічалі ў ім. Адным з асноўных дакументаў з'яўляецца пратакол інтэрв'ю, дзе фіксуюцца ўсе яго асаблівасці і мае месца пэўная самарэфлексія інтэрв'юэра. Таксама падпісваецца згода рэспандэнта на выкарыстанне інтэрв'ю.

Ірына Махоўская: Калі вярнуцца да пытання пра становішча вуснай гісторыі ў Беларусі сярод іншых навук, то трэба адзначыць, што яно маргінальнае. Гэта не толькі праблема постсавецкай прасторы, гэта заканамерны лёс міждысцыплінарнай галіны. Вусная гісторыя фактычна карыстаецца этнаграфічнымі, сацыялагічнымі, псіхалагічнымі ды інш. метадамі. І кожная з гэтых навук бачыць пэўнае ўмяшальніцтва ў сваю сферу і ставіцца да вуснай гісторыі як да нейкай «недаэтнаграфіі», «недаэтналогіі», «недагісторыі», «недасацыялогіі» і г. д. Напрыклад, вядома, што большасць гісторыкаў глядзіць на вусную гісторыю, як на фіксаванне нейкай цікавай лухты.

Нягледзячы на тое, што вуснай гісторыі больш ста гадоў, гэтая маргінальнасць захоўваецца, і спробы заявіць аб ёй як аб самастойнай дысцыпліне не прымаюцца іншымі навукоўцамі. Беларуская вусная гісторыя мае яшчэ больш маргінальны статус, бо яна не выйшла за рамкі факталагічнага аналізу, факталагічнай апісальнасці, няма дакладна сфармуляваных мэтаў.

Наогул, гісторыя вуснай гісторыі мае пэўны налёт трагізму. Магчыма, ёй не варта даказваць сваю самастойнасць. Адзіны шанс на існаванне – гэта спалучэнне і выкарыстанне ўсіх метадаў розных навук і адыход ад апісальнасці.

*Таццяна Вадалажская: Такім чынам ствараецца пэўнае «поле», куды вусныя гісторыкі нешта прыўносяць. Напрыклад, да гісторыі*

*дадаюць іншую крыніцу і іншыя адносіны да яе і г. д. Але, ці можа вусная гісторыя быць не спалучэннем маргінальнага з розных навук, а цэласнай і самастойнай гуманітарнай дысцыплінай? Ці можа яна разглядацца як асобная дысцыпліна, якая мае сваім аб'ектам, напрыклад, чалавечую памяць?*

Ірына Махоўская: Калі лічыць аб'ектам вуснай гісторыі толькі памяць, то яна вельмі шмат страціць. Вусная гісторыя – гэта цудоўнае поле магчымасцяў высветліць пэўныя адносіны, пачуцці, тое, што немагчыма ўзяць з гістарычных дакументаў, з антрапалагічнага даследавання, а можна здабыць толькі пры спалучэнні гэтых метадаў. Такая гігантаманія будзе служыць не на карысць навукі. Не трэба ствараць нейкую «толькі нашу вобласць», дзе не будзе перасячэнняў ні з гісторыяй, ні з антрапалогіяй, ні з іншымі дысцыплінамі. Задача даследавання памяці значна абмяжоўвае вусную гісторыю. Магчыма, якраз адсутнасць выразна сфармуляванага аб'екта даследавання дазваляе ёй развівацца, шукаць новыя тэмы, новыя «палі», выкарыстоўваючы метады іншых навук.

Аляксей Ластоўскі: Варта памятаць, што маргінальнасць – гэта яшчэ і перавага, якая дае пэўную свабоду. Існаванне дысцыпліны, акадэмічнага істэблішменту абмяжоўвае даследчыка ў тэматыцы і ў іншых рэчах. Мне падаецца, што такі «звышмаргінальны статус» вуснай гісторыі ў Беларусіператварае яе ў пэўны «баявы снарад», які можа ляцець у любым накірунку.

Вольга Іванова: Вяртаючыся да пытання наконт выклікаў, якія ўзнікаюць перад вусным гісторыкам і недаверу да яго з боку акадэмічнай супольнасці... Такі недавер падаецца заканамерным і лагічным, бо пры працы з вуснагістарычным матэрыялам адразу паўстае пытанне пэўных навуковых рамак і прынцыпаў, з пункту гледжання якіх будзе праводзіцца аналіз. Выклікам для вуснага гісторыка з'яўляецца якраз неабходнасць стварэння ці знаходжання гэтых рамак, без якіх аналіз нельга лічыць навуковым. Гэтыя «рамкі» могуць быць знойдзены па-за межамі ўласна гістарычнай

навукі. Яны патрабуюць ад вуснага гісторыка дасведчанасці ў іншых, часам зусім невядомых яму галінах ведаў. Адпаведна, адразу ўзнікае пытанне, ці здольны на гэта «традыцыйны» гісторык? Выйсце бачыцца ў выкарыстанні пры зборы і аналізу вуснагістарычнага матэрыялу ўжо напрацаваных антраполагамі, лінгвістамі, сацыёлагамі, псіхолагамі «рамак» і метадаў.

Што тычыцца, сфармуляванага ў пленарным дакладзе Аляксея Ластоўскага пытання «З кім змагаецца вусная гісторыя?», то яго варта было б перафармуляваць на пытанне «За што змагаецца вусная гісторыя?» На маю думку, адказ відавочны: «За чалавека». У 90-я гг. XX ст. у Беларусі пачалі «змагацца за чалавека» ў кантэксце фарміравання нацыянальнай ідэі і нацыянальнай свядомасці. Аднак першасна – гэта чалавек, у якога раней ніхто ні аб чым не пытаўся і якому цяжка ўявіць, што той досвед і той погляд, які ён мае, можа быць вартым увагі. Якраз таму галоўным аб’ектам вуснай гісторыі мне бачыцца, у першую чаргу, чалавек, які дагэтуль не меў магчымасці застацца ў гісторыі, не меў права голасу. А вывучэнню гэтага «аб’екта» дапамогуць катэгорыі, распрацаваныя ў межах іншых гуманітарных дысцыплін.

*Таццяна Вадалажская: Патрабаванне міждысцыплінарнасці ўздымаецца часта, але ў большасці выпадкаў не зразумела, якім чынам яно можа быць рэалізаванае. Як гісторык, які не з’яўляецца спецыялістам у іншых гуманітарных дысцыплінах, абірае адпаведную «рамку» для навуковай інтэрпрэтацыі? Якая дысцыпліна будзе найбольш адпаведнай? Псіхалогія, культурная антрапалогія ці іншае? Ад чаго гэта залежыць? І якім мусіць быць набор неабходных ведаў, кампетэнцый і падыходаў для паспяховай працы ў гэтым накірунку?*

Аляксандр Смалянчук: Асабіста меў вельмі цікавы вопыт з супрацоўніцтва з Цэнтрам даследаванняў антычнай традыцыі пры Варшаўскім універсітэце ў межах навуковага праекту па вывучэнню памежжаў Беларусі (2000–2005 гг.), якім кіравала прафесар Эльжбета Смулкова. Адным з яго вынікаў стаў зборнік тэкстаў «Памежжы Беларусі ў міждысцыплінарнай перспектыве» (2006).

Падчас працы над праектам некалькі гадоў адбываўся збор успамінаў на беларуска-польскім, беларуска-украінскім і беларуска-расійскім памежжах. Працавала некалькі груп спецыялістаў у розных дысцыплінах, у т. л. этнографы, гісторыкі, лінгвісты і антраполагі. Было праведзена некалькі семінараў па праблеме міждысцыплінарнасці, але ў выдадзеным зборніку застаецца відавочнай пэўная дысцыплінарная адасобленасць. На першых этапах сумеснай працы было цяжка нават зразумець прадстаўніка іншай дысцыпліны, які ўжывае тыя самыя тэрміны, але напаўняе іх іншым зместам. І мне падалося, што мы далёка не прасунуліся насустрач адзін аднаму. Кожны застаўся ў межах сваёй дысцыпліны, хоць стаў лепш разумець спецыялістаў іншых галінаў гуманітарнай веды.

Вольга Іванова: Не магу да канца пагадзіцца з ацэнкай той працы, якая была зроблена у рамках праекта «Памежжы Беларусі...» Там прысутнічае пэўная дысцыплінарная раздробленасць, але тым не менш матэрыялы зборніка ўяўляюць сабой істотны крок на шляху да фарміравання міждысцыплінарнага падыходу. Магчыма, гэтыя вынікі не настолькі значныя, як хацелася б, але яны ствараюць добрую глебу і добры накірунак для развіцця, задаюць цэлы спектр тэарэтычных рамак для даследаванняў, а таксама адаптуюць пэўныя катэгорыі для даследаванняў у іншых галінах. Напрыклад, антрапалагічныя і лінгвістычныя – для вуснай гісторыі (катэгорыі «памежжа», «свае-чужыя» ды інш.). У сваю чаргу метад вуснай гісторыі стварае магчымасці для лінгвістычнага і антрапалагічнага аналізу. На сённяшні дзень гэта найбольш паспяховы вопыт правядзення сумежных з вуснай гісторыяй міждысцыплінарных даследаванняў.

Ірына Махоўская: З аднаго боку, міждысцыплінарнасць вуснай гісторыі абсалютна відавочная і яе нельга абмінуць і ігнараваць. Якраз таму патрэбныя хаця б мінімальныя навыкі працы ў палявых умовах, г. зн. у галіне сацыялогіі, этнаграфіі і антрапалогіі. Калі цалкам недасведчаная асоба збірае матэрыял, то магчымасці яго аналізу вельмі і вельмі абмежаваныя. Гэта будзе ўжо не памяць рэспандэн-

та, бо тэхніка збору матэрыялу, тое як задаваліся пытанні ды іншае ствараюць новую рэальнасць, якая мае мала супольнага з гістарычнай падзеяй, пра якую ідзе гаворка. Даследчык абавязаны валодаць асновамі правядзення інтэрв'ю, якія распрацаваныя ў сацыялогіі і этналогіі. Далейшая інтэрпрэтацыя цалкам залежыць ад даследчыка і ад сабранага матэрыялу, у якім з'яўляюцца важныя аспекты для аналізу пры выкарыстанні падыходаў іншых дысцыплін.

*Таццяна Вадалажская: Такім чынам для кампетэнцыі вуснага гісторыка важна прыцягненне падставовых прынцыпаў іншых дысцыплінаў. З іншага боку, на этапе інтэрпрэтацыі з'яўляюцца новыя катэгорыі. А ці магчымая сітуацыя калі вусная гісторыя будзе ствараць катэгорыі для сацыялогіі ці іншых дысцыплін? Наколькі гэты працэс зваротны? Ці ён апраўданы і патрэбны?*

Аляксей Ластоўскі: Адказ на пытанне аб магчымасці выкарыстання метаду вуснай гісторыі ці яе катэгорый у сацыялогіі будзе хутчэй адмоўным. Па-першае, рэфлексія над агульнымі з вуснай гісторыяй тэарэтычнымі катэгорыямі ў сацыялогіі пачалася значна раней і зайшла значна глыбей. Тэарэтычныя працы па вуснай гісторыі пакуль не дасягаюць таго ўзроўню, які ёсць на сённяшні дзень у сацыялогіі. Гэта справа перспектывы. Па-другое, трэба зважаць на рэальную сітуацыю і гатоўнасць беларускай сацыялогіі ўспрымаць пэўныя запазычанні. У беларускай сацыялогіі дасюль пануе колькасная парадыгма, паколькі большасць даследаванняў арыентуецца на выкарыстанне колькасных метадаў і знаходзіцца таксама ў маргінальным статусе, як і вусная гісторыя сярод гісторыі.

Рэальнай патрэбы і магчымасці ўваходзіць у міждысцыплінарнасць не існуе. Супрацоўніцтва можа адбывацца толькі як уласны выклік, індывідуальная патрэба пэўнага навукоўца, што шукае новыя метады для свайго даследавання, якое звычайна выходзіць за рамкі акрэсленай дысцыпліны.

Ірына Махоўская: Падаецца, што кожны з тут прысутных з'яўляецца такім выключэннем.

Вольга Іванова: Я разумею, што гаворка ідзе аб немагчымасці выкарыстання катэгорый вуснай гісторыі ў сацыялогіі, а не пра сабраны вуснагістарычны матэрыял.

*Таццяна Вадалажская: Пытанне датычыла і катэгорый таксама. Напрыклад, на падставе пэўнага вуснагістарычнага даследавання выяўляюцца праблемныя аспекты, якія могуць вывучацца ў межах свядомасці пэўных сацыяльных груп. Гэты матэрыял можа быць уцягнуты ў сацыялагічнае даследаванне і правераны сацыялагічнымі метадамі. Такім чынам, вуснагістарычны матэрыял можа праблематызаваць катэгорыі, з якімі працуюць беларускія сацыёлагі.*

Аляксей Ластоўскі: Калі ў 1960-я гг. пачынаўся маштабны праект вуснай гісторыі, калі аформіўся даследчы накірунак, то ён фактычна выконваў «падрыўную» функцыю супраць афіцыйнай гістарыяграфіі. Менавіта таму сапраўды магчыма выкарыстанне вуснагістарычнага матэрыялу для своеасаблівага «падрыву» і ў сучаснай беларускай сацыялогіі, а таксама ў іншых дысцыплінах. Напрыклад, у сацыялогіі зараз пануе рэдукаванае ўспрыняцце рэспандэнта як безасабовай крыніцы для адказу на пытанні.

Ірына Махоўская: Беларуская вусная гісторыя хоць і адыходзіць ад рэдукцыянізму, аднак пакуль не змагла «падарваць» афіцыйную гістарыяграфію.

Аляксандр Смалянчук: Гэты метад «падрыву» можа быць эфектыўным толькі пры пэўных умовах. Між іншым навуковая дысцыпліна павінна знаходзіцца на дастаткова высокім узроўні развіцця, самарэфлексіі, адказваць на выклікі часу. Гэтага нельга сказаць пра сучасную беларускую гістарычную навуку.

Ірына Кашталян: Ці могуць сацыёлагі выкарыстоўваць вуснагістарычны матэрыял як крыніцу?

Аляксей Ластоўскі: Як крыніцу – цалкам магчыма. Але катэгорыі, якія выкарыстоўваюцца ў вуснай гісторыі, як правіла, запазычаныя. Вусная гісторыя не мае ўласных катэгорый, якія можна было б

выкарыстоўваць. Звяртаецца ўвага на чалавека, яму надаецца голас, але гэта не з'яўляецца падставай для таго, каб перавярнуць навуковую карціну свету.

Аляксандр Смалянчук: Мяркую, што такі «пераварот» сёння не патрэбны. Галоўны «плюс» сучаснай вуснай гісторыі ў спробе актуалізацыі праблемы Чалавека, праблемы памяці. Сацыёлагі і этнолагі зрабілі ў гэтым накірунку вельмі шмат, але таксама не выйшлі за межы пэўнай дысцыпліны. Зразумелыя прэтэнзіі антраполагаў, сацыёлагаў ды інш., што вусныя гісторыкі скарысталіся іх тэарэтычнымі распрацоўкамі і катэгорыямі. Але ж гэта прывяло да дыскусіі, да праблематызацыі і ў рэшце рэшт да пэўнага руху наперад. І метад, які жыў толькі сярод этнографаў ці сацыёлагаў, пачаў дзейнічаць на карысць іншых навуковых дысцыплін. Пры гэтым таксама актуалізаваўся не толькі метад, але і пэўная праблематыка.

*Таццяна Вадалажская: Калі вярнуцца да праблемы крыніцы, то трэба адзначыць, што вельмі шмат залежыць ад таго, якім чынам яна ствараецца. Хто задае пытанні, дзеля чаго гэта робіцца, што шукае даследчык? З іншага боку, паўстае праблема аналізу. Сёння дамінуе аналіз тэматычны, але амаль адсутнічае структурны ці лінгвістычны аналіз гэтых тэкстаў. І, калі гэта не закладзена ў сам працэс стварэння крыніцы, то магчымасці для аналізу будуць значна абмежаваныя.*

Ірына Кашталян: Калі казаць пра досвед «Беларускага архіва вуснай гісторыі», то ў першую чаргу ўспаміны збіраюць гісторыкі. Аднак актыўна далучаюцца этнографы, антраполагі, журналісты, культуролагі і лінгвісты. Спрабуем глядзець на апытанне з пункту гледжання розных дысцыплін, уключаць некаторыя аспекты, якія не былі заўважаныя гісторыкамі. Магчыма таксама планаванне праектаў, якія будуць скіраваны, напрыклад, на лінгвістычныя даследаванні. Гэта можа адбывацца пры захаванні традыцыйнай метадалогіі вуснай гісторыі з далучэннем пэўных тэматычных ці тэарытычных блокаў іншых дысцыплін.

*Таццяна Вадалажская: Яшчэ адзін бок міждысцыплінарнасці – гэта супраца архівістаў і гісторыкаў. Якія праблемы ўзнікаюць пры гэтым?*

Вольга Іванова: Зноў жа можна звярнуцца да досведу «Беларускага архіва вуснай гісторыі», для якога такая праблема паўстала на этапе праектавання ў 2011 г. У той час яна заключалася ў неабходнасці фарміравання гісторыкамі канкрэтных задач для архівістаў і праграмістаў, а таксама выпрацоўкі пэўных катэгорый і тэрмінаў для магчымасці паразумення і эфектыўнай працы.

У 2011–2012 гг. вырашаліся праблемы пабудовы структуры он-лайн архіва і методыкі збору, апрацоўкі і захоўвання матэрыялу. На сённяшні дзень гаворка ідзе хутчэй аб удасканаленні гэтых працэсаў з пункту гледжання як найноўшых методык вуснай гісторыі, так і ўключэння міждысцыплінарных аспектаў. Створаная сістэма захоўвання ў большасці выпадкаў дазваляе гэта рабіць.

Калі рэальна ацэньваць вынікі праведзенай за тры гады працы, то ў большай ступені – гэта выкананне функцыі захавання і ратавання памяці. Праблема магчымасцяў аналізу, нават тэматычнага, не кажучы пра міждысцыплінарны толькі пачала вырашацца. Такая сітуацыя з’яўляецца, на мой погляд, заканамернай, бо працэс праектавання, стварэння і камплектавання архіва, а таксама апрацоўкі матэрыялу патрабуе вельмі грунтоўнай працы і падрыхтоўкі. І толькі пасля гэтага адкрываецца магчымасць для аналізу, карэктыроўкі і пастаноўкі новых праблем.

Для мяне, як для архівіста, на першым этапе было цяжка ўспрыняць г. зв. «тэматычны падыход» гісторыка, пры якім з інтэрв’ю мог знікнуць цэлы шэраг важных сюжэтаў. «Архіўны» падыход заключаецца ў максімальным атрыманні інфармацыі ад кожнага рэспандэнта. З іншага боку, гэты падыход стварае практычныя праблемы, як пры зборы (адсутнасць «рамак»), так і пры аналізе інтэрв’ю (недастатковасць матэрыялу). Менавіта таму для збору ўспамінаў у БАВГ у якасці асноўнага было абрана біяграфічнае інтэрв’ю з пэўнымі тэматычнымі блокамі.

Трэба яшчэ раз адзначыць скіраванасць сабраных матэрыялаў

у асноўным на методыку і задачы вуснай гісторыі, што, аднак, не выключае магчымасцяў для іх выкарыстання прадстаўнікамі іншых дысцыплін. Але ў гэтым выпадку патрэбна канкрэтная «замова», фармулёўка патрабаванняў з боку гэтых спецыялістаў.

Што тычыцца пытання аб магчымасці шырокага выкарыстання сабраных матэрыялаў нават вуснымі гісторыкамі, не кажучы пра прадстаўнікоў іншых галін ведаў, то яно на сённяшні дзень застаецца адкрытым, патрабуе пэўнай «зваротнай сувязі» ад карыстальніка матэрыяламі БАВГ і самарэфлексіі з боку архівіста. Задача-максімум для апошняга: зрабіць гэтыя матэрыялы карыснымі і даступнымі для прадстаўнікоў розных гуманітарных дысцыплін.

Ірына Махоўская: У вуснагістарычным біяграфічным інтэрв'ю фіксуецца як пытанне, так і адказ, а таксама ўсё, што адбываецца падчас інтэрв'ю. Гэта стварае больш шырокія магчымасці для аналізу.

Аляксей Ластоўскі: Яшчэ адно важнае пытанне, якое паўстае як у сацыялогіі, так і ў вуснай гісторыі, – гэта пытанне выбаркі. Выбарка для сацыялогіі колькаснай і якаснай адрозніваецца. Яны будуюцца на розных прынцыпах. Для колькаснай сацыялогіі – гэта масавыя апытанні. Тут важна колькасць апытаных для таго, каб яна прадстаўляла агульную сукупнасць людзей, насельніцтва краіны. У якаснай сацыялогіі не ставіцца пытанне выбаркі. Там выкарыстоўваюцца прынцыпы параўнальныя з прынцыпамі вуснай гісторыі: бярэцца пэўная супольнасць і максімальна даследуецца. Тут галоўнае знайсці і вырашыць канкрэтнае даследчае пытанне.

У Беларусі існуе адно масавае апытанне ў адносінах да 17 верасня 1939 г. У 2008 г. Інстытут сацыялогіі Акадэміі навук праводзіў апытанне сярод палякаў Беларусі, то бок сярод тых людзей, якія лічаць сябе палякамі. Гэта было колькаснае даследаванне: апытана больш за 800 чалавек па ўсёй Беларусі розных узростаў. Пытанне было адкрытым. Людзі фармулявалі сваё стаўленне ўласнымі словамі. І гэта іншае стаўленне, чым тое, якое могуць выказаць толькі людзі старэйшага пакалення. Аказалася, што меркаванне палякаў нічым не

адрознівалася ад пазітыўнай ацэнкі падзей беларусамі. Пры гэтым адсылкі да ўласнай сямейнай гісторыі амаль не прысутнічалі, ці іх колькасць была нязначнай.

Аляксандр Смалянчук: Наконт выбаркі ў даследаваннях па вуснай гісторыі можна прывесці прыклад трохгадовага збору інтэрв'ю ўздоўж былой «Рыжскай мяжы» ад палескага рэгіёну на поўдні да Дзісны на поўначы. Сабрана каля 220 успамінаў. Здаецца, гэта максімальна магчымая выбарка на сённяшні дзень, бо ў некаторых вёсках ужо не засталося сведак тых падзеяў. Звычайна ўласна вуснагістарычнаму аналізу папярэднічае апісанне выбаркі рэспандэнтаў, рэгіёна, канфесійнага складу і інш. Высновы, якія робяцца на падставе гэтага матэрыялу, звычайна не экстрапалююцца на ўсю гісторыю Беларусі, але тычацца пэўнай праблемы, пэўнага рэгіёну, пэўнай сацыяльнай групы. Застаецца пытанне, на якія сферы гэтыя высновы можна пашырыць? Ці яны застануца на ўзроўні праблематызацыі пэўных аспектаў?

***Меркаванні ўдзельнікаў канферэнцыі:***

Адам Дабраньскі* (Беласток): Мяркую, што вусная гісторыя выкарыстоўвалася здаўна, толькі што сваю назву і афармленне яна атрымала не так даўно. Яшчэ, будучы студэнтамі, мы звычайна праходзілі практыку па збору ўспамінаў, у працэсе якой атрымоўвалі пэўны досвед у гэтай галіне. Гаворка ідзе пра тое, каб сёння гэта была не проста «модная» назва, як «альтэрнатыўная гісторыя» ці «жаночая гісторыя». Мне падаецца, што для Беларусі і для Польшчы яна ёсць нечым больш важным, чым проста дапаможная дысцыпліна. Гэта мусіць быць дысцыпліна, якая думае пра будучыню і фарміруе новы комплекс крыніц – інтэрнэт-крыніцы. Думаю, што цягам часу менавіта яны стануць найважнейшымі для даследавання той эпохі, у якой мы жывём.

Вусная гісторыя стварае новыя крыніцы і новыя магчымасці, ад-

* Пераклад з польскай мовы (заўвага рэд.)

нак найбольш складаная праблема датычыць метадалогіі іх выкарыстання. Зараз яны часта бяруцца выбарачна, ілюструюць тэзісы самога даследчыка, а не з'яўляюцца пошукам гістарычнай праўды. Гэта і ёсць сапраўдны выклік.

Таксама вусная гісторыя дае нам магчымасць захаваць гісторыю штодзённасці канкрэтнай эпохі.

Сяргей Токць (Гародня): Паводле майго досведу правядзення апытанняў людзей сталага ўзросту, дастаткова востра паўстае праблема выбаркі рэспандэнтаў. Колькі патрэбна запісаць інтэрв'ю для таго, каб яны адлюстроўвалі, калі не ўсё грамадства, то нейкія яго групы? Як зрабіць так, каб атрыманыя вынікі былі сапраўды рэпрэзентатыўнымі, каб яны адлюстроўвалі стаўленне да пэўнай праблемы? Іншае істотнае пытанне, якімі павінны быць мэты канкрэтнага вуснагістарычнага даследавання, каб яно не ператваралася ў банальны набор цікавых і смешных гісторый. Думаю, з гэтымі пытаннямі сустракаецца кожны гісторык, што спрабуе ўключыць у сваё даследаванне вуснагістарычныя крыніцы, якія, сапраўды, з'яўляюцца надзвычай каштоўным матэрыялам.

Рыгор Лазько (Гомель): Мне падаецца метад вуснай гісторыі вельмі перспектыўным. Але ж тут патрэбна дакладна вызначаць аб'ект даследавання: даследуецца той мікрасоцыум, да якога належыць рэспандэнт, яго сям'я і вёска, ці тыя працэсы сведкам і ўдзельнікам, якіх ён быў?

Уладзімір Валодзін (Менск): Калі казаць пра актуальнасць вуснай гісторыі, то для мяне на дадзеным этапе – гэта новая фактура і магчымасць верыфікацыі архіўных крыніц.

*Таццяна Вадалажская: Вялікі дзякуй усім дыскутантам і выступоўцам. Спадзяюся мы ўсе разам зрабілі пэўны крок у абмеркаванні праблем вуснай гісторыі ў Беларусі і перспектываў яе міждысцыплінарнага ўзаемадзеяння.*

*Напрыканцы хачу пакінуць для прысутных тэзіс, які, на мой по-*

*гляд, варты асэнсавання. Сёння вусная гісторыя абмяркоўвалася як навуковая дысцыпліна, а таксама як міждысцыплінарны падыход, але варта падумаць пра яе як пра пэўную гуманітарную практыку, якую можна засвоіць і рэалізаваць. Такое практыкаванне можа стаць для чалавека пэўным крокам да гісторыі наогул, да выхаду з палону падручнікавай версіі мінулага.*

# Заходняя Беларусь у 1921–1939 гг. і ўз'яднанне з БССР паводле ўспамінаў жыхароў Камянеччыны

*Паліна Гурыновіч*
*(Белавежская сярэдняя школа Камянецкага раёна Брэсцкай вобл.)*

Кіраўнік працы:
*Гурыновіч Людміла Міхайлаўна*

***Уводзіны***

Тэрмін «Заходняя Беларусь» я пачула яшчэ ў дзяцінстве, але не звярнула асаблівай увагі на тое, што зямля, на якой жыву, калісьці знаходзілася ў іншай дзяржаве. Я ведала, што будынак гарадской гімназіі быў у 1930-я гг. польскай школай, а музычная школа размяшчалася ў доме аптэкара (здзіўляла толькі, як дом мог адначасова быць і самой аптэкай). Але гэтыя факты займалі мяне мала.

Але потым словы «Заходняя Беларусь» прагучалі і ў дачыненні да маёй сям'і. Так, першы муж прапрабабулі Барбары Андрэй пайшоў з-пад Іванава на ўсход на заробкі, а тут прайшла мяжа, і ён не вярнуўся (гэта было перад «Рыжскім мірам»). А другая прапрабабуля Аляксандра мела «пры паляках» зямлю, якую паспяхова апрацоўвала, хоць была ўдавой з двума дачкамі. І вельмі непрыязна ставілася да «першых Саветаў».

У 2010 г. мы с аднакласнікамі ўдзельнічалі ў зборы краязнаўчага матэрыяла па гісторыі Камянецкага раёна. На сустрэчах з жыхаркай Камянца Зубовіч Верай Іосіфаўнай мы пачулі шмат цікавага аб жыцці да 1939 г. З гэтага часу тэма Заходняй Беларусі стала больш зразумелай і блізкай.

Становішча Заходняй Беларусі ў складзе Польшчы і значэнне ўз’яднання яе з БССР у 1939 г. у гістарычнай літаратуры ацэньваецца па-рознаму. Адны і тыя ж факты і падзеі тлумачацца часам з абсалютна супрацьлеглых пунктаў гледжання. На мой погляд, уплыў на высновы даследчыка часта аказваюць яго асабістыя погляды і мэты працы. Менавіта таму вуснагістарычныя даследаванні, як мне падаецца, даюць нам магчымасць зірнуць на падзеі 1921–1939 гг. вачыма тых, хто жыў тады на нашай зямлі. Галоўнае – не дадаваць да думак рэспандэнта свае асабістыя погляды, нават калі яны супярэчаць зместу пачутага.

Аб’ект даследавання: працэс уз’яднання Заходняй Беларусі і БССР (1939 г.) вачыма сучаснікаў гэтых падзей.

Прадмет даследавання: вусныя ўспаміны сведкаў падзей.

Мэта: прадставіць вобраз міжваеннай Польшчы і працэс уз’яднання, які захаваўся ў памяці непасрэдных сведкаў гісторыі.

Метады даследавання: вусная гісторыя.

Геаграфічныя рамкі даследавання: Камянецкі і Пружанскі раёны Брэсцкай вобл.

### *Заходняя Беларусь паводле ўспамінаў Веры Несцераўны Дацкевіч, 1920 г. н. (Камянецкі раён)*

Вера Несцераўна нарадзілася на тэрыторыі Камянецкага раёна ў 1920 г. Яна ахвотна ўспамінала мінулае, аднак увагу засяроджвала на пасляваенных гадах. Вера Несцераўна вельмі гаваркі чалавек і на любое пытанне давала разгорнуты адказ, часам далёка адыходзячы ад тэмы.

Яе сям’я не зусім звычайная для беларускай вёскі. Бацька Веры Несцераўны яшчэ да яе нараджэння ездзіў у Амерыку (як мяркуецца, у ЗША) на заробкі, працаваў у шахтах. Вярнуўшыся дадому, ён купіў млын, разлічыўшы, што гэта больш выгодная справа, чым праца на зямлі. Пасля Першай сусветнай вайны бацька Веры Несцераўны адчыніў краму для наёмных рабочых у горадзе Белавеж. Сям’я жыла ў дастатку, дзякуючы яго прадпрымальнасці. Вера Несцераўна ўспамінала, што яны нават мелі магчымасць купляць цукар.

Гэты занятак быў не заўсёды бяспечным. Рэспандэнтка ўспамінала пра выпадкі разбойных нападаў на дарогах Камянеччыны. Адзначым, што ў сям'і не было сыноў. Магчыма, менавіта гэтым тлумачылася нежаданне бацькі купляць зямлю.

Жыццё ў даваеннай Польшчы Вера Несцераўна ўспамінала не вельмі ахвотна, але казала аб дастатку: «*...То земля была своя, и знал чалавек, што работал и имел хлеб, хто работал, и имел все же, и мясо, и кабана кормить, и все. [...] Хто там имел земли больше, работал, то жили, як зямля давала, а кто земли не имел работали у памещика...*»

Яна прыгадвала, што салдаты Чырвонай арміі былі здзіўлены ўзроўнем жыцця Камянеччыны: «*И те русские солдаты говорят [...] «И как тут хорошо жили без нас* (смяецца). *Што работали, што вели хозяйство [...] Мы пришли, и што мы им лучшего принесли», – такое вот говорили. Бог его знает, як эта так? [...] Не очень-то были давольны советскай властью, не очень [...] Ну, што ж яны салдаты, а голодные ничего не видели, там же ж был голод у той Расеи. Боже мой, боже мой*».

Вера Несцераўна ўспамінала, што польскія ўлады спрабавалі паменшыць колькасць праваслаўных храмаў у Заходняй Беларусі, неахвотна бралі беларусаў на «*вельмі важную*» працу, нават пры дастатковым узроўні адукацыі і кваліфікацыі.

Пра жыццё ў Савецкай Беларусі ведалі мала і не імкнуліся даведацца больш. Хоць на тэрыторыі раёна былі тыя, хто дапамагаў людзям, якія праследаваліся польскімі ўладамі, перабірацца праз мяжу на тэрыторыю БССР.

Пытанні аб падзеях верасня 1939 г. выклікалі ў Веры Несцераўны пачуццё разгубленасці. Такое ўражанне, што яна проста не памятае таго, што адбывалася: «*Да, ждали, что кто-то придет. [...] Какой был праздник не помню точно, но, наверно, там в августе–сентябре месяце [...] И ждали, и пришли, и что-то они побыли очень мало, и отступили опять. [...] А потом тут же, подожди... Кто ж тогда наступил?* (задумалася) *Или она так и осталась Польшей, или... Советы, да Советы, я знаю, что в сороковой год уже были Советы*».

Трэба сказаць, што падзеі Вялікай Айчыннай вайны рэспандэнтка раскрывала значна больш падрабязна, чым падзеі папярэдніх гадоў.

### *Заходняя Беларусь паводле ўспамінаў Пятра Мікалаевіча Селюка, 1925 г. н. (Пружанскі раён)*

Пётр Мікалаевіч нарадзіўся і вырас у вёсцы Беразніца недалёка ад мястэчка Ружаны. Гэтая вёска лічылася «камуністычнай» і рэвалюцыйнай, што знайшло сваё адлюстраванне ва ўспрыманні рэспандэнтам падзей мінулага.

Пасля Вялікай Айчыннай вайны Пётр Мікалаевіч атрымаў вышэйшую адукацыю, працаваў на кіруючай пасадзе. Яго аповед адрозніваецца ад апавяданняў іншых рэспандэнтаў выразнасцю гаворкі і зместам.

Дзядзька Пятра Мікалаевіча быў членам КПЗБ, удзельнічаў у арганізацыі вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі. У вёсцы працавалі падпольныя гурткі. У Ружанах на пошце вяскоўцы куплялі газету «Праўда» і чыталі ўслых. Такім чынам, у даваеннай Польшчы можна было купіць савецкія газеты, факт, які моцна разыходзіцца са звычайным уяўленнем аб жыцці ў Заходняй Беларусі.

Пётр Мікалаевіч успамінаў, што ў іх вёсцы жылі ў асноўным беднякі, якія пакутавалі ад малазямелля. У яго расказе бачна вылучэнне ролі камуністаў у жыцці вёскі. Менавіта яго дзядзька настойваў на тым, што дзеці сялян павінны атрымаць адукацыю, дапамагаў пляменніку з абуткам.

Верасень 1939 г. Пётр Мікалаевіч апісаў вельмі падрабязна, распавядаючы пра радасць, якая ахапіла людзей, пра народнае святкаванне гэтай падзеі. Адзначыў, што жыхары вёскі прынялі актыўны ўдзел ва ўсталяванні Савецкай улады на Пружаншчыне.

Падзеі 1939–1941 гг. (да 22 чэрвеня 1941 г.) успрымаліся рэспандэнтам толькі са станоўчага боку. Гэта тлумачыцца тым, што, паводле ягоных словаў, вясковая бедната аб’ядналася ў калгас і адчула ўпэўненасць у заўтрашнім дне. Праводзячы параўнанне жыцця да верасня 1939 г. і пасля 22 чэрвеня 1941 г., Пётр Мікалаевіч успамінаў

перыяд «першых Саветаў», як час спраўджаных надзей. На прамое пытанне аб тым, чаму некаторыя беларусы былі незадаволеныя Савецкай уладай, ён не даў адказу і перавёў размову на супрацьлеглую тэму.

У пачатку размовы рэспандэнт, як і Вера Несцераўна Дацкевіч, звяртаўся думкамі да ваенных гадоў. Яны бачацца яму больш яскрава, больш значна, чым падзеі да вайны. І далей, выбудоўваючы аповед, ён раз-пораз забягаў наперад да падзеяў 1940-х гг. Другая частка нашай размовы была звязаная менавіта з падзеямі Вялікай Айчыннай вайны.

***Заключэнне***

1939 год памятаюць тыя, хто нарадзіўся ў 1915–1930 гг. Людзі маладзейшага ўзросту на момант уз'яднання Заходняй Беларусі з БССР былі яшчэ дзецьмі, і іх памяць не захавала падзей гэтага перыяду.

Успаміны тых, каму ў 1939 г. было больш за 15 гадоў не заўсёды дакладныя ў датах, аднак здзіўляе дакладнасць ва ўспамінах некаторых бытавых дэталяў. Прычым пры паўторнай размове гэтыя дэталі паўтараюцца без змянення. Так, рэспандэнтка 1920 года нараджэння вельмі падрабязна апісала сукенку, у якой вярнулася дадому ў 1944 г.: колер, фасон, дэталі аздаблення.

Пры апісанні падзей відавочны ўплыў паходжання рэспандэнта, яго адукацыі, далейшага лёсу. Гэтыя фактары асабліва ярка праявіліся ў ацэнцы ўзроўню жыцця пры польскай і савецкай уладах. Так, Пётр Мікалаевіч Селюк даў рэзка адмоўную характарыстыку дзейнасці польскіх улад, а жыццё пры «першых Саветах» успамінаў, як час вызвалення. А вось Вера Несцераўна Дацкевіч не ўбачыла ў прыходзе Савецкай улады нічога станоўчага.

Варта адзначыць агульную рысу ўспамінаў нашых рэспандэнтаў, а менавіта тое, што падзеі 1939 г. быццам засланяюцца падзеямі года 1941-га. У некаторых выпадках цяжка было накіраваць аповед у патрэбнае рэчышча. Думаю, гэты факт тлумачыцца трагічнасцю гадоў Другой сусветнай вайны і блізкасцю двух падзей ў часе.

Па выніках аналізу вусных успамінаў відавочцаў працэсу

ўз’яднання Заходняй Беларусі і БССР у верасні 1939 г. можна зрабіць наступныя высновы:

- Падзеі 1939 г. на тэрыторыі Заходняй Беларусі да гэтага часу з’яўляюцца прадметам спрэчак гісторыкаў з нагоды іх значнасці. Даследаванні вуснай гісторыі могуць дапамагчы прыхільнікам палярных поглядаў знайсці агульныя падыходы да праблемы.
- Апытаныя відавочцы падзей успамінаюць 1939 г. не вельмі ахвотна. Прычынай гэтага факту не з’яўляецца іх негатыўнае стаўленне да самога працэсу. Лічу, што гэта тлумачыцца хуткім пачаткам Вялікай Айчыннай вайны і яе падзеямі, што сталі своеасаблівай «заслонай» для папярэдняга перыяду.
- Успаміны відавочцаў даюць магчымасць больш ясна ўявіць той час, які вывучаецца на ўроках гісторыі, убачыць гісторыю сапраўднай, а не «кніжнай».

